# Маладосць

**Штомесячны**
**літаратурна-мастацкі**
**і грамадска-палітычны**
**ілюстраваны часопіс**

**10**

**(743) КАСТРЫЧНІК, 2015**

**Выдаецца з 1953 года**



**www.maladost.lim.by**

**В ы д а в е ц — рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»**

**Дырэктар — галоўны рэдактар КАРЛЮКЕВІЧ Аляксандр Мікалаевіч**

## У НУМАРЫ:

### ПАЭЗІЯ



### ПРОЗА



### ПЕРАКЛАДЫ



### КРЫТЫКА



### ПУБЛІЦЫСТЫКА



### З БОГАМ

*Аляксандра ФАГОТ*

# ШТОХВІЛІННЫ СУМ



***Аляксандра Фагот нарадзілася 30 снежня 1996 года ў Кобрыне. Вучыцца ў Ягелонскім універсітэце ў Кракаве. Любіць жыццё, прагне змен і чагосьці невядомага. Яе паэзія — гэта рухавы свет, дзе рытм водзіць карагоды, рыфмы гуляюць у даганялкі, а строфы — у хованкі.***

* * *

Бяруць праблемы, часам, у палон:
то сэрца недарэчнае дурэе —
без візірку нясецца на гарматы,
а розум, разгарачаны, заўзята
спрабуе падмарозіць дурасліўца.
То ахалоджванне пранізвае занадта —
няма ахвоты нават утапіцца.
То палка зноў штурмуюць галаву
Начамі несвядомыя дэбошы.
То маякі не асвятляюць месцы,
і непарадак пераскоквае ў жыццё:
то курсавой вячэрае сабака,
праз выпадковасць уцякаюць грошы,
то пад дажджом ідзеш без макентоша,
ідзеш сярдзіты — вецер пхае ў спіну,
то часу не знаходзіцца для спліну...
Бяруць праблемы, часам, у палон:
з жыццёвых саштурхоўваюць арбіт.
Праблемы, безумоўна, — гэта цяжка.
але цяжэйшы
сто адсоткаў
сіні кіт.

* * *

Абдымай мяне, пакуль вецер дражніць фіранкамі
на досвітку мой неспакой дзявочы.
Абдымай мяне цёплымі і халоднымі ранкамі,
абдымай мяне: можаш днямі, а можаш ноччу.
Калі хочаш, але абдымай.
Абдымай, калі ласка, лагодна і пачуццёва,
бы сустрэў ты мяне пасля доўгай разлукі.
Абдымай. І не трэба ніякага слова.
Я цябе зразумею, ты толькі трымай мае рукі.
Калі зможаш, мяне ты трымай.

Абдымай мяне, пакуль марыцца, верыцца ў цуды,
пакуль хочацца быць для кагосьці сусветам...
Абдымай мяне на адно-адзінюткае лета,
на кароткі ўспамін, што не знікне нікуды…
Абдымай — і будзеш шчаслівым за гэта.

* * *

Ты ведаш, як гэта —
калі прачынаешся і бачыш у вокнах чужое сонца,
калі кожны новы ранак пачынаецца з адчування
адчужанасці,
нежыццёвасці,
непатрэбнасці?

Ты ведаеш, як гэта —
сумаваць па родных лясах, дарогах, людзях,
часам, нават па травінках, разумееш, травінках?
Не па кніжках
ведаю гэты
штохвілінны сум.

Ты ведаеш, як гэта —
чытаць на замежнай мове, пісаць, размаўляць,
калі-нікалі думаць, а сніць і адчуваць на іншай,
сваёй,
нячутнай ні за мяжой,
ні нават у роднай хаце?

Ты ведаеш, як гэта —
пакідаць тое, што любіш больш за ўсё,
напамінаць сабе, хто ты ёсць і навошта,
верыць у справядлівасць,
ісці не туды,
каб прыйсці, куды трэба.

…Занадта ўражлівая,
каб быць абыякавай
і не ведаць гэтага.

* * *

— Як ты?
— Глытаю
ахалолае паветра за кубачкам кавы,
маркотныя кнігі памерлых летуценнікаў.

Лунаю
ў надхмар'і, у якім вывучыла на памяць
кожны небяспечны завулак і шлях у бездань.
Кахаю
тых, каго забаронена кахаць праз рызыку
вершаванага ап'янення і самагубства.
Сцінаю
цалаваныя ўжо чужымі музамі вусны,
каб захаваць смак салодкага расчаравання.
Хаваю
несмяротную душу самотнага анёла,
які згубіўся сам і незнарок згубіў крылы.
Чакаю
чарговага выпрабавання на сумленнасць і
рыхтуюся да нечаканых кепікаў лёсу.
Трымаю,
буду трымаць да скону сваю вольную долю,
незаплямленую свядомасць, роднае неба.
І граю
на гітары пачуццёвае -не-здавайся-
ці вобразнае і шчырае -не-твоя-вайна-.
Як?.. Раю
самому абраць адпаведны для Цябе адказ
і працягнуць размову за гарбатай
ці вызначэннем дакладна недакладнага дыягназу.



*Вадзім КРУК*

# АПАВЯДАННІ



***Вадзім Крук нарадзіўся 15 снежня 1987 года ў горадзе Кохтла-Ярве ў Эстоніі. Любіць вандроўкі, гісторыю і рок-музыку. Піша кароткія апавяданні, бо лічыць цікавым малой колькасцю слоў абудзіць у чытача шмат эмоцый. Аднак марыць калі-небудзь стварыць і буйны твор.***

## АДЭЛЬКА І СОНЦА

Цёплы летні дождж скончыўся пасля світання. Ранішняе сонца прадзерлася скрозь хмары і зазірнула ў пакой, дзе на адным ложку спалі малое дзяўчо гадоў чатырох і яе матуля.

Яркія промні хутка падабраліся да тварыка дзяўчынкі і пачалі казытаць яе носік-гузік, гуляць з тонкімі ільнянымі валосікамі і грэць пухленькія шчокі да той пары, пакуль малая не зацёрла кулачкамі вочы і не расплюшчыла іх. Села на ложку, паморшчылася і пачала аглядацца, быццам не разумела, дзе знаходзіцца. Маці адным вокам глянула на малую і пяшчотна правяла рукой па яе спінцы: «Адэлечка, кладзіся, паспі трохі — яшчэ рана». Толькі ж прасцей у адзіночку спыніць статак зуброў, чым укласці малое дзіцё спаць, калі яно ўжо вырашыла прачнуцца.

Пачаўся новы Адэлін дзень.

— Мама, а тата дзе?

— Тата пайшоў на работу, — маці ўжо ўстала і апранала халат, каб пайсці зрабіць Адэльцы сняданак. — Што ты будзеш есці: кашу ці бутэрброды?

— Кашу. А я хацела тату пг’авесці. А чаму ён пайшоў на г’аботу, сёння ж выхадны?

— Тата зараз шмат працуе. Ты ж хочаш на мора паехаць праз месяц? Будзеш там сабе купацца.

— Хачу. А я буду пг’амака ў мог’ы купацца? А мяне не з’есць?

— Хто? — маці ўсміхнулася.

— Аку-у-у-ула, — Адэля расцягнула рукі і, як запраўскі рыбак, паказала памер агромністай акулы.

— Мы з татам не дамо нікому цябе з’есці. А цяпер рыхтуйся і хадзем на кухню.

Адэлька бегла наперадзе: трэба было заняць крэсла ля акна і сачыць за тым, што адбываецца на дварэ.

Адэлін свет быў не такім вялікім, як у дарослых: дзіцячы садок, двор, дзе заўсёды гуляла дзятва, ды некалькі крам, куды хадзілі з бацькамі. Аднак і ў невялікім свеце кожны дзень адбывалася тое, на што не звярталі ўвагу бацькі і што так падабалася Адэлі.

Яна магла стаць на калені і хвілінамі сачыць за мурашамі, якія шыхтаванай калонай цягнулі на сабе вусеняў ці малыя кавалкі лісця, а потым збіраць featured рознакаляровыя каменьчыкі і насіць іх маме на дэманстрацыю, каб тая абрала найпрыгажэйшы. Ці проста стаяць, задраўшы галаву, каб уявіць, на што падобныя вялікія кучкаватыя аблокі, і бачыць на небе то карункавыя палацы, то кракадзілаў, то жырафаў. Або нават некаторых суседскіх хлапчукоў у панамках.

Вось і цяпер на вуліцы было на што паглядзець. Уздоўж сцежкі бегае незнаёмы жоўты сабака — яго раней тут не было. Мабыць, шукае сяброў. На школьным плоце сядзіць шэры кот, а там, далей, невядомыя хлапчукі круцяцца на абцёртых турніках.

— Мама, глянь, што хлопчык г’обіць.

— Ага, бачу, — маці не адрывала позірку ад кашы.

Але вокны для Адэлі былі не толькі празрыстымі транслятарамі вонкавага жыцця. Яшчэ на іх, як на мальбертах, можна было ствараць сваю маляваную казку. Бацькі забаранялі дзяўчынцы пэцкаць шкло. Маўляў, кожныя выходныя яго даводзілася мыць.

А вось у дзеда з бабуляй Адэля малявала на вокнах колькі заўгодна. Дзед любіць ставіць малую на падаконнік, а тая пачынае дыхаць на шкло і маляваць маленькім пальчыкам чалавечка, хатку і сабаку. Атрымліваецца не заўсёды ўдала, і тады дзядуля абавязкова дапамагае: таксама дыхае і малюе свайго чалавечка.

Толькі ж дома лепей не злаваць маму. Дзяўчо так і не адважылася на маленькі малюнак.

Пасля сняданку была заключана штодзённая дамова, якую Адэля магла выконваць толькі першую гадзіну:

— Адэля, давай ты з цацкамі пагуляеш, а я пакуль трошкі з хатнімі справамі разбяруся, добра? Кубікі паскладваеш ці табе мульцікі ўключыць?

— Ку-у-убікі, я хатку збудую! — закрычала малая і засмяялася.

— Ну і добра.

Кубікаў, мядзведзікаў, мячыкаў, лялек і нават машынак хапіла да таго часу, пакуль дзяўчынка не ператварылася ў даследчыка. Яна была Магеланам, Калумбам і Ньютанам адначасова. Кожны такі дзень дапамагаў малой рабіць крок у невядомае і пашыраць свае веды. Яны, быццам хвалі ў акіяне, набягалі ўсё далей і далей на ўзбярэжжа дзіцячых мрояў.

— Ма-а-а, а чаму сонейка ноччу не свеціць? — малая пачала хадзіць за матуляй, як малое сланяня за сланіхай, амаль трымаючы яе за ўяўны хвост.

— Ну як? Бо ноч. А ноччу свеціць месяц, — такія пытанні заўсёды заводзілі бацькоў у тупік. Трэба было тлумачыць гэта працей, але як? — Ну ён не тое, каб свеціць. Вось Зямля — яна круглая. І круціцца вакол сябе. Як мяч, калі яго крутнуць на пальцы. І калі нашым бокам яна адварочваецца ад Сонца і паварочваецца да Месяца, то ў нас наступае ноч. А ў іншых людзей — у Аўстраліі, напрыклад, — дзень. Разумееш?

— А-а-ага, — пацягнула малая і паморшчыла лоб — успомніла нешта і зрабіла выснову: — Кенгуг’у заг’аз спяць.

— Спяць, — засмяялася маці.

— Ма-а-ам, а коцікам сны сняцца?

І тут на маці пасыпаліся пытанні, што той град у вераб’іную ноч:

— Мам, а чаму г’ыба бокам не плавае; мам, а нашто мне пуп; мам, а цмокі бываюць; мам, а чаму ў таты баг’ада, а ў цябе — не; мам, мам, мам…

— Адэля, ідзі ў акно паглядзі, што там цікавага робіцца на вуліцы? А потым мне раскажаш. Бо змучыла ты мяне сваімі пытаннямі. Трохі потым паясі — і спаць.

А ўвечары, як тата прыйдзе, пойдзем гуляць. Добра? А то круцішся пад нагамі, як кураня.

— Добг'а.

Адэля ізноў засталася сам-насам з Сусветам. Гэтым разам яе падхапіла і панесла на сваіх крылах фантазія. Таму ў горадзе цяпер вадзіліся цмокі, жылі русалкі і працаваў над падарункамі Дзед Мароз. У лесе, у збудаваных, нябачных нікому гарадах, жылі лясныя духі і прывіды, да якіх у госці хадзілі лесавікі і дамавікі, а пад мостам праз раку чакаў падарожніка вадзянік, каб схапіць і зацягнуць да сябе ў «Шуляка» з русалкамі гуляць.

Недзе там быў тата. Адэльцы ўяўлялася, што тата — рыцар, які дзесьці за даляглядам перамагае ворагаў ці ратуе людзей ад невядомых звяроў. Што кожны дзень ён здзяйсняе нешта незвычайнае, бачыць дзівосы, як той тата з казкі, які паехаў па кветку сваёй дачцэ.

Гэта мама кажа, што тата толькі «на працы». Аднак Адэля добра ведае, што, каб прыйсці адтуль, яму даводзіцца прабірацца праз лясы, лезці багнаю, а можа, і па рэках плыць. У горадзе, канешне, не было ні лясоў, ні багны, але гэта не адмяняла яе ўпэўненасці. Тата быў для яе героем. Самым мужным і адважным.

— Адэ-э-эля, ідзі есці суп.

Дзяўчынка пабегла есці суп, а пасля — гуляць з матуляй у лялькі і спаць.

— Мама, а калі я пг'ачнуся, тата будзе дома?

— Яшчэ не. Толькі пакуль ты прачнешся, паглядзіш мульцік, падрыхтуешся да паходу на арэлі, то ён і прыйдзе.

Пасля сну пытанні пра тату гучалі, здавалася, кожную хвіліну:

— Мама, а ён ужо ідзе; мама, а доўга яшчэ; мама, а стрэлка дзе будзе, калі ён пг'ыйдзе?

— А ты падрыхтавалася? Узяла, што табе трэба: цацкі, вядзерца, рыдлёвачку?

— Узяла!

Малой карцела ўбачыць тату. Здавалася, што ўнутры яе гарыць хаця і маленькі, але вельмі гарачы агеньчык. І толькі рухамі, бегам і скокамі можна ўратавацца, каб цалкам не ператварыцца ў купку попелу. Гарэза па некалькі разоў за хвіліну ўскарасквалася на стул, круцілася вакол ножкі стала, падбягала да падаконніка і неслася назад да матулі, пакуль не пачула знаёмыя гукі. То грукнуў ключ, якім не адразу патрапілі ў замок.

— Та-а-та! Татка пг'ыйшоў! — Адэля падскочыла на месцы і прызямлілася амаль на кукішкі, а потым усхапілася і панеслася ў калідор.

Толькі не да дзвярэй, а ў супрацьлеглы канец. Гэта быў штодзённы рытуал, традыцыя, у якую не ўмешвалася маці. Яна толькі стаяла і назірала за гэтым з кухні. Дзверы расчыніліся, і ў праёме з'явіўся ён. Звычайны, а не казачны мужчына гадоў трыццаці. Сінія джынсы, туфлі, кашуля, невялікая трохдзённая шчэць на твары, стомленыя вочы і ў руках — чорны пакет. Калі ён і быў супергероем удзень, то ўвечары маскіраваўся пад звычайнага чалавека.

Аднак як толькі бацька ўбачыў Адэлю, у вачах ягоных успыхнула яркая іскра. Ён усміхнуўся, паставіў пакет на падлогу, пакланіўся, быццам каралеўне, і сказаў: «Дзень добры, пані Адэль». А малая тым часам падскочыла і пабегла да яго з крыкам: «Та-а-атка!» Бацька падхапіў яе і падняў высока, пад столь, а потым, пакруціўшы ўверсе, апусціў аголеным гарбузом-жывоцікам сабе на вусны і выдзьмуў паветра ў малы дзіцячы пуп. Бацькавыя вусны і барада казыталі малую, а яна смяялася і пляскала сваімі далонямі па ягоных шчоках, вушах і патыліцы.

— Ну і як прайшоў твой дзень? — бацька ўжо паставіў малую на ногі і павёў яе ў пакой.

— Хаг'ашо. Я хацела цябе пг'аводзіць.

— Ну ты так соладка спала, што я не наважыўся цябе будзіць. Што вы тут з мамай рабілі?

— Гаспадаг’ылі!

— Хе, мая ж ты гаспадынька. І што ты тут нагаспадарыла?

— Я дапамагала маме і мы г’абілі табе есці, а потым я глядзела ў акно, а потым яшчэ гуляла ў кубікі. Не, гэта спачатку ў кубікі. А там быў во-о-лат!

— Дзе?!

— На дваг’э. Ну, не на дваг’э, а на небе. Такі-і-і во-о-лат, — яна ўстала на мыскі і выцягнула рукі ўверх.

— З аблокаў і падобны на зефір?

— Ага. Тата, а адкуль ты ведаеш?

— А ён — мой знаёмы.

— А-а? А ты г’аскажаш мне пг’а яго?

— Ну… перад сном, добра?

— Добг’а! Тата, а мама казала, што кенгуг’у спяць, калі ў нас дзень.

— Калі мама сказала, то так яно і ёсць. А яшчэ ў кенгуру ёсць торба на пузе і ў ёй яны носяць сваіх дзетак. Хочаш, я буду насіць цябе на пузе?

З гэтымі словамі ён ізноў падхапіў малую на рукі і прыхіліў спінай да свайго жывата.

Адэлька спачатку засмяялася, але адказала сур’ёзна:

— Не, гэта няз’гучна.

Бацька пагадзіўся і вярнуў малую на падлогу.

— А ведаеш, каго я сёння сустрэў?

— Каго?

— Зайку. Мы ехалі праз лес за горадам. На вялікай машыне. І тут глядзім — выходзяць заяц і вожык. І, як сапраўдныя сябры, садзяцца на лаўку, што на прыпынку, і размаўляюць. Помніш вожыка? Ён табе падарунак яшчэ некалі перадаваў.

— Ага-а.

— Дык вось, — бацька пераапрануўся ў хатняе і працягваў апавяданне: — Я і кажу вадзіцелю, каб ён спыніў машыну. Сталі мы, значыцца, і я — да гэтых сяброў. Вожыку я ад цябе перадаў прывітанне і дзякуй за яблык. Ну тое ды сёе, пагутарылі. Спытаў, як у іх там справы ў лесе. Кажуць, што добра. Грыбоў шмат. А мне ж ехаць трэба, дык зайка і кажа: «На, малой Адэльцы печыва перадай». І з кішэні (а ён быў у такім пінжачку) табе ў пакет сыпануў печыва.

Малая, адкрыўшы рот, глядзела адначасова здзіўлена і з захапленнем. Трэба ж думаць, цікавае жыццё ў таты: то яму вожык яблык перадае, то заяц — печыва. Тата, пэўна, палову лесу ведае. Шкада толькі, што калі яны па грыбы хадзілі, то нікога не сустрэлі. Тата казаў, што звяры ў выхадныя больш па хатках сядзяць, каб людзям на вочы не трапляцца.

— Ну то што, пойдзеш зайкава печыва есці з гарбатай? А потым — на арэлях гойдацца?

— Пайду.

І дзяўчынка пачала корпацца ў бацькоўскім пакеце ў пошуках печыва, якое яшчэ сёння ўдзень выпеклі ў лесе. А як знайшла, пабегла на кухню хваліцца перад маці, што ў яе поўны лес сяброў.

Сонца пачало хіліцца да долу. Промні ягоныя бегалі па Адэльчыным тварыку, пакуль тая піла гарбату з печывам. Вялікая зорка падганяла малую, быццам казала, што дзень хутка скончыцца, а тая ўсё яшчэ не выбралася на двор. Адэлька жмурылася, чмыхала носікам і штораз паглядала ў калідор, дзе ўжо быў сабраны паходны дзіцячы клунак.

# РАЗВАРОТ

Кожную нядзелю вакзал аднаго з правінцыйных беларускіх гарадоў нагадваў шумны кірмаш. Тут быў і продаж нікому не патрэбнага барахла, і жалудова-тарфяны пах салодкай таннай кавы, і хаатычны натоўп.

— Куды сунешся? Цішэй! — гаркнуў шыракаскулы бугай з цяжкім падбароддзем, што стаяў апошнім у чарзе па беляшы, і дадаў рытарычна: — Вочы ў цябе павылазілі ці што?

— Прабачце, — кінуў у адказ малады чалавек, які ішоў праз вакзал у нейкай санлівай задумлівасці, таму не заўважыў бугая і зачапіў яго плячом.

— Прабачце, — перадражніў бугай і, задаволены сваім нахабствам, адвярнуўся.

Толькі Зміцер — так звалі маладога чалавека — не звярнуў на гэта ўвагі і хутка пайшоў да цягніка. Хлопец не хацеў сварыцца з-за дробязі, тым больш, што наперадзе была яшчэ дарога дамоў — усе выхадныя Зміцер прагасцяваў у сяброў.

Яму падабалася прыязджаць да былых аднагрупнікаў, якія ажаніліся адразу пасля заканчэння ўніверсітэта і разам з’ехалі па размеркаванні са сталіцы. І ўсё ў іх атрымлівалася неяк проста і без клопату: Ваня знайшоў прыбытковую падпрацоўку, Лене далі добротны пакой у інтэрнаце для сямейных. А яшчэ ў іх было ціха, камфортна і ўтульна, быццам ты знаходзішся ў фэнтэзійным мястэчку толкіенаўскіх хобітаў. Таму Змітру, ніяк пакуль у жыцці не ўладкаванаму, вельмі падабалася мясцовая атмасфера. Ён адпачываў тут ад сталічнай мітусні і перажыванняў наконт адсутнасці планаў на будучыню. А перажыванні апошнім часам з’яўляліся ўсё часцей.

Бо кім ён, па сутнасці, быў? Усяго толькі чалавекам, якому не хапіла сілы волі, каб скончыць універсітэт, і які пасля службы ў войску вымушаны вучыцца на завочным і працаваць вадзіцелем тралейбуса. Ды і адукацыю ён атрымліваў хутчэй па інерцыі, без разумення, куды з ёй пасунецца пасля. Можа, так і застанецца вадзіцелем, і жыццё паступова зробіцца шэрым ды нецікавым. Будзе перабудоўвацца горад, змяняцца жыхары-пасажыры, і толькі ён застанецца прымацаваным да аднаго і таго ж тралейбуса на адным і тым жа маршруце, як цацачны конь да дзіцячай каруселі. А магчыма, плюне на ўсё і ператворыцца ў аднаго з сучасных інфантыльных барадатых дзецей-пераросткаў, якія ў свае сорак гадоў толькі і робяць, што ходзяць па клубах, тусуюцца на дыскатэках і харчуюцца на незразумела дзе здабытыя грошы.

Праўда, было ў Змітра яшчэ адно выйсце. На пару месяцаў завітаў да бацькоў ягоны сябра Алег, які ўжо другі год працаваў рыбаком на латышскім рыбалавецкім флоце. Як заўзята распавядаў ён Змітру пра мора! Пра хвалі, што сцяной набягаюць на карабель, пра крыкі марскіх птушак на ўзбярэжжы і пра шурпатую скуру акул, якая на першы погляд здаецца гладкай.

Ён клікаў Змітра з сабой. Туды, дзе пад вечар ад цяжкай працы ў маракоў дранцвеюць і адымаюцца рукі, і толькі бясконцае спакойнае неба, багата ўсаджанае зіхоткімі суніцамі-зорамі, дапамагае ім аднавіць страчаныя за дзень сілы. Бывае, што ўсю ноч не спыняецца лоў, а каманда злуецца і радуецца адначасова срэбным рыбным вадаспадам, што ліюцца на карабель з трала.

Гэтыя апавяданні так узбаламуцілі і зацікавілі Змітра, што ён ледзь не наважыўся стрымгалоў рынуцца ў прыгоды. Ды толькі яму раптам стала шкада кінуць свой сціплы жыццёвы багаж, на які, да ўзнікнення думак аб пераездзе, хлопец ніколі не звяртаў увагі. А калі ты такі жмінда і баязлівец, то ці варты хмельнай марской свабоды?

Вось і цяпер падобныя разважанні пераследавалі Змітра, і толькі рэзкі рыпучы голас праваднiцы здолеў перарваць ягонае самакапанне.

У цягніку чамусьці пахла гумай, гарэлым і прэлай анучай, быццам ёй толькі што памылі падлогу. На сваім месцы Зміцер убачыў амаль лысага мужчыну з чырвоным тоўстым тварам гадоў шасцідзесяці, які, відавочна, толькі-толькі прыйшоў і рассоўваў свае клункі пад ляжак.

— Добры дзень, — павітаўся Зміцер.

— Ой, добры, — азваўся мужчына і адразу спытаў: — А вы будзеце класціся? Ці тут можна сесці? Бо ў мяне верхняе месца.

— Калі ласка, — абыякава адказаў хлопец і сеў бліжэй да прахода.

Мужчына падзякаваў і, цяжка дыхаючы, плюхнуўся каля акна.

Зміцер пагардліва глядзеў, як сусед даставаў часопісы на тэму вырошчвання гародніны, газету з крыжаванкамі і асадку. Хлопец лічыў, што разгадванне крыжаванак — нейкі сумнеўны спосаб прадэманстраваць сваю эрудыцыю. Ды эрудыцыя гэтая не выходзіць за межы фантазіі аўтараў галаваломак, з'яўляецца штучнай.

Здаецца, за імгненне да таго, як праваднiца абвясціла хуткі ад'езд цягніка, над Змітром навіс яшчэ адзін пасажыр. Ён быў высокім, з непрыкметным бясколерным тварам, і нагадваў тонкі, амаль празрысты шэры аркуш газетнай паперы.

— А якое ў вас месца? — спытаў у Змітра нягеглы спадар.

Але той, што сядзеў каля акна, пазнаў у гэтым шэрым чалавеку свайго знаёмага і не даў Змітру адказаць:

— Васіль! Якім ветрам тут?

— О, Павел. Здароў. А якое ў цябе месца? Бо акуляры забыўся — ні халеры не бачу.

— Сорак сёмае.

— Тады, выходзіць, разам паедзем, — мужчына прайшоў да акна, сеў насупраць свайго знаёмага і паціснуў яму руку. — Вось так у адным горадзе год не бачышся, а тут раз — і сустрэнешся ў цягніку.

— Так заўсёды і бывае. А ты куды гэта вырашыў паехаць, мабыць, у санаторый які? — цяжка дыхаючы, спытаў чырванатвары Павел, зірнуўшы на сумку Васіля.

— Ды не! Дачка ў госці запрасіла. За ўнукам паглядзець, пакуль яны з мужам у адпачынак паедуць. На тыдзень. У Егіпет, здаецца.

Было відаць, што мужчына хацеў выхваліцца вандроўкай сваёй дачкі, бо вельмі важна вымавіў «у Егіпет», але сціпласць прымусіла спыніцца і спытаць у сябра:

— А ты чаго ў сталіцу?

— Дык гэна, з сэрцам нешта не тое ўжо з месяц. Апошнім тыднем зусім паблагела, сын у Мінску дамовіўся, каб мне ў бальніцу легчы. Можа, там дапамогуць.

— А ў нашай бальніцы ляжаў?

— Ляжаў! — мужчына эмацыйна махнуў рукой. — Што і не ляжаў — дрэнь.

Так між імі пацягнулася доўгая, нудотная, як час вячэрніх навін па тэлебачанні, размова. «Як я мог зрабіць памылку дылетанта і не ўзяць з сабой ні кнігі, ні навушнікаў? — спытаў сам у сябе Зміцер. — Цяпер тры гадзіны буду слухаць не музыку, а балбатню пра хваробы і каштоўныя думкі пра палітыку».

Да палітыкі, праўда, знаёмыя пакуль не дайшлі. Першай значнай тэмай размовы прыяцеляў было лецішча. Спадары доўга і са смакам распавядалі адно аднаму пра памеры агародаў, пра тое, які ўраджай сабралі ў мінулым годзе, пра новы плот, усталяваныя вокны, зноў пра ўраджай. Здавалася, што ўсё іх жыццё праходзіла паміж працай і дачай. А Зміцер, нявольнік гэтай гутаркі, усё ніяк не мог уцяміць: калі

мужчыны расказвалі пра цяжкую працу на агародах, пра страчаны на гэта час, — то яны жаліліся ці выхваляліся?

Ён паспрабаваў заснуць, каб хоць неяк абстрагавацца ад назойлівага патоку інфармацыі, але і гэта не атрымалася. Сон не ішоў, думкі і мроі разляталіся — палохаліся такога настойлівага сельскагаспадарчага распаведу. «Божа ты мой, няўжо двое гарадскіх жыхароў не могуць пагаварыць пра што-небудзь, апроч спосабаў угнойвання глебы і захавання цыбулі ўзімку», — падумаў Зміцер і цяжка ўздыхнуў. А потым вырашыў прайсціся па вагоне, каб хоць неяк развеяцца. І калі ён вярнуўся, то пачуў:

— Не, я не глядзеў «Вора ў законе», — казаў «шэры» Васіль. — Я цяпер гляджу «Усходні раён 4».

Прыяцелі пераключыліся на абмеркаванне адпачынку. А штодзённы адпачынак, відаць, зводзіўся да прагляду серыялаў сумніўнай якасці. Зміцер асуджана сеў на сваё месца.

«Н-да, лягчэй мне не стала, цяпер паслухаем пра бандзюкоў і міліцыю», — падумаў хлопец.

Між тым, мужчыны доўга і з асалодай абмяркоўвалі, здаецца, усе серыялы, што ішлі ўвечары па самых папулярных каналах айчыннага і «братэрскага» тэлебачання. І было відаць, што іх не цікавілі фільмы, якія грымелі сёння, што вясновыя навальніцы, і пра якія разважалі ці не ўсе жыхары глабалізаванага свету. А сіткомы, арт-хаусы, ютубы і торэнты здаваліся мужчынам, мяркуючы па ўсім, толькі словамі з сучаснай моладзевай лаянкі. Затое пасля прагляду сучасных бандыцкіх вестэрнаў кожны жыхар краіны мог смела ўладкоўвацца на працу ў міліцыю — усе злачынствы, матывы і спосабы ўтойвання доказаў ужо, безумоўна, былі прадэманстраваныя шырокай публіцы.

«Столькі вярзці пра серыялы і не сказаць ні слова хоць бы пра адну кнігу, — са скрухай уздыхнуў Зміцер. — І гэта іх называлі самай прыхільнай нацыяй у свеце да чытання».

Аднак тэлевізійныя забойствы і «нячэсныя» міліцыянты настолькі прытамілі субяседнікаў, што тыя адначасова вырашылі падсілкавацца. Так з клункаў на свет з'явіліся аднолькавыя паходныя пакункі: смажаныя куры, яйкі, гуркі і памідоры. Зміцер глядзеў на гэта са здзіўленнем. «Чатыры гадзіны ўсяго толькі ехаць! А колькі яны гэта гатавалі? — разважаў ён. — Няўжо за няшчасныя чатыры гадзіны можа так захацецца жэрці, каб цягнуць з сабой нават смажаных кур? Няўжо нельга купіць сабе кавы з печывам наўпрост у цягніку? Не, я разумею, калі чалавек быў заняты ўвесь дзень, потым заскочыў дахаты, схапіў тое, што падрыхтавала жонка, і пабег на вакзал. Хай сабе. Але ж яны прыцягнулі гэта абодва! Значыцца, замест таго, каб паесці дома, а потым, калі ўжо такія галодныя, паесці там, куды прыехалі, яны рыхтавалі свае пакункі. Амаль аднолькавыя! Ох, яшчэ гэтыя смярдзючыя вараныя яйкі…»

Пад'еўшы, мужчыны пачалі хваліцца адзін перад адным сваімі дзецьмі і іхнімі дасягненнямі, кватэрамі і рамонтамі. Потым доўга разважалі наконт таго, хто і чаму з іхніх знаёмых не варты мець тое, што мае. І толькі напрыканцы паездкі дайшлі да палітыкі. Тут ва ўсіх накірунках была не спрэчка, а поўная згода. Далей жаліліся на дрэнную якасць дарог, на бруд у пад'ездах і смяяліся з ідэі ўсталяваць бакі для асобнага збору смецця або з тых, паводле іх меркавання, дурняў, што бясплатна прыбіраюць гарадскія паркі.

А Зміцер тым часам патануў у разважаннях. Яго ўразіла, што двое дарослых людзей XXI стагоддзя сышліся разам на некалькі гадзін і не знайшлі нічога вартага для абмеркавання. Іх не цікавіла ніякае новае дасягненне чалавецтва. Ды яны, зда-

ецца, і не ўяўлялі сябе часткай вялікай чалавечай супольнасці. Не ведалі яны, што сёння за некалькі клікаў мышкі магчыма перанесціся ў сусветныя сталіцы наўпрост з уласнай кватэры. Прайсціся вуліцамі Лондана, убачыць Цэнтрал Парк Нью-Ёрка ці зазірнуць у Мірскі замак, не выпускаючы пры гэтым з рук хатняга кубка з кавай, і больш ніколі не спрачацца пра чысціню ці шырыню еўрапейскіх вуліц. Аднак уся вандроўка гэтых людзей — шлях ад кватэры да лецішча і назад. Не хвалявалі іх сучасныя мастакі ці пісьменнікі са сваімі творамі, не для іх працавалі буйныя карпарацыі і рухаўся наперад тэхнічны прагрэс. Для іхняга спажывання існавалі толькі прымітыўныя і такія ж мяшчанскія, як жыццё гледачоў, пластмасавыя сусвецікі пахабных серыялаў. Толькі дом, праца і тэлевізар. Ды яшчэ падспудны жах перад смерцю, які рос разам з павелічэннем колькасці хвароб.

Цягнік прыбываў у сталіцу, і людзі, быццам арыштанты, панура пацягнуліся да выхада. Суседзі хлопца пайшлі першымі, а Зміцер прыстроіўся ў хвост пасажырскай чаргі. Ды толькі хутка выйсці не атрымалася: людзі раптам спыніліся, а наперадзе пачуўся прыглушаны мужчынскі стогн, потым яшчэ адзін, толькі ўжо цішэйшы. Натоўп загаманіў, ззаду пачалі абурацца затрымкай. І тут на ўвесь вагон разнёсся гучны крык: «До-о-ктара! Выклічце “хуткую”!» Зміцер пазнаў голас «шэрага» Васіля. Залямантавала, заенчыла нейкая жанчына, і енк гоманам адгукнуўся ў натоўпе: «Памёр! Памёр, здаецца, ці што?» Людзі цягнулі шыі, намагаліся ўбачыць, што ж адбывалася ў тамбуры, а праз хвіліну пачалі павольна рухацца наперад, выходзіць на перон.

На платформе Зміцер убачыў сваіх нядаўніх суседзей. На зямлі, шырока раскінуўшы рукі, з прыкрытым хусткай тварам ляжаў той, што ехаў у бальніцу — Павел. Каля яго стаяў агаломшаны прыяцель і неяк ненатуральна, быццам для праформы, павойкваў. Чакалі непатрэбную ўжо «хуткую».

Змітра перасмыкнула. У хлопца пачалі падкошвацца ногі і пацямнела ў вачах. Ён не быў уразлівым чалавекам, але такая раптоўная і незразумелая смерць збянтэжыла хлопца. Гэты чалавек хоць і не выклікаў у Змітра сімпатыі, аднак паспеў стаць сваім настолькі, каб ягоная смерць не ўспрымалася абыякава.

«Няўжо ўсё так проста? — ніяк не мог асэнсаваць трагедыі Зміцер. — Жыў сабе чалавек і так нечакана перастаў. Ён жа ехаў да сына, а тут бац — і адразу гора для ўсіх блізкіх!

А што ён бачыў, чым цікавіўся? Няўжо размова пра цыбулю — гэта лепшае, пра што можна было пагутарыць перад смерцю?

Затое ён, відаць, быў шчаслівым. Меў сям’ю, хучэй за ўсё, было і каханне. Яму, бадай, хапала гэтага, і *там* ён не засумуе пра змарнаваны час. Выходзіць, што вечаровых серыялаў, агародаў ды штодзённых плётак дастаткова, каб зрабіць жыццё чалавека поўным і радасным? Ды толькі я не хачу такога шчасця!»

Зміцер імгненна ачуняў. Здалося, што ў яго трапіла нябачная маланка, якая надала яму сіл. Было відаць, што хлопец вырашыў дзейнічаць. Ён хутка патэлефанаваў:

— Здароў, Алег! — весела пачаў гутарку Зміцер. — Як добра, што ты яшчэ не з’ехаў. Твая прапанова наконт працы яшчэ ў сіле?

Па тым, як засвяціліся вочы Змітра, можна было зразумець, што Алег адказаў станоўча.

— Выдатна! Тады дай мне некалькі тыдняў, каб скончыць некаторыя справы, і я буду гатовы да пераезду.

І праз некалькі хвілін, абмеркаваўшы ўсе дэталі, звязаныя з новай працай, ён упэўнена крочыў насустрач цікавым жыццёвым пераменам.

Настасся НАРЭЙКА

# ТОЛЬКІ ВЕРАС, АЕР І ПАЛЫН…



***Настасся Нарэйка нарадзілася 28 кастрычніка 1986 года ў Маладзечне. Аўтар зборніка вершаў «Магдэбургскае права маёй душы» (2013). Марыць іграць на скрыпцы, гаварыць па-французску, мець сад з ранеткамі і грэцкімі арэхамі, сфатаграфавацца ў строі з мінуўшчыны ля сцен замка і завесці двух кацянят: белае (Сняжок) і рудое (Лістападзік).***

* * *

У маёй галаве разрываецца нешта ізноў.
Я бягу ад сябе, ад цябе, ад загадкавых сноў.
Я ляжу ля цябе і амаль незаўважна бягу.
Ты ведаеш: недзе спынілі таксі на рагу
Дзвюх вуліц. І бразнулі дзверы, і сыплецца шкло.
І рукі камечаць хусцінку. І слёзы — на зло!
Яна ад'язджае. Таксіст не пытае куды,
Бо з тварам такім ад'язджаюць адно ў «назаўжды».
Разбітае сэрца яе ля халоднай рукі
Маёй. Я бягу цераз ноч напрамкі, напрамкі!
Ты спіш. Ты не ведаеш, што прыязджала яна,
Што мы гаварылі на кухні і каву — да дна,
Што мы падышлі да цябе і глядзелі адно,
І месяц струменіў святло на цябе праз акно.
Не ведаеш ты, што яна праіграла двубой
І сэрца асколкі пакінула побач з табой.
Бягу. Я бягу за табой, да цябе — АД цябе,
Як бегла яна. А цяпер патанае ў журбе.
Бягу… І люблю. І кахаю. Палае аго…
Бачу цяпер: то асколкі ад сэрца майго.

* * *

У яе разбітае сэрца і каралі з асколкаў шкла.
Яна, нібы рэха ў гарах, смяецца і кажа: «То я прыйшла».

Яна ніколі не п'е гарбаты, проста стамілася ўшчэнт.
Здымае пальчаткі, як з вокан краты, садзіцца за інструмент.

Нервовыя рукі і шнары, шнары… Каралі з асколкаў шкла.
«Сыграю вясёлае! К чорту драмы! Я калісь іграла, магла…»

І клавішы ловяць ірваныя рухі. І рукі мне ўжо не пазнаць.
За вокнамі недзе мятуць завірухі і зорак збіраецца раць.

Яна даіграе. І сыдзе маўклівая. Толькі замрэ ля стала
На хвілю адну. Усміхнецца шчаслівая.
І бразнуць каралі са шкла.

* * *

Ты кажаш: праз цябе прайшла вайна.
А я маўчу і нават не пярэчу.
Я захіну твае худыя плечы.
Я помню ўсё. Я — Ніка Турбіна.

Ты кажаш, што навечна ты адна.
А я маўчу. Я звыклая. Не плачу.
Я для цябе нічога больш не значу.
Хай будзе так. Я — Ніка Турбіна.

Ты нешта мне гаворыш давідна,
Перабіраеш вершы асцярожна.
Дурная, спі! Табе, шчаслівай, можна.
А мне не спаць. Я — Ніка Турбіна.

Ты кажаш: вершы гэтыя — мана.
Я ведаю. Я — дзіўнае стварэнне.
Яны — бясконцай астмы абвастрэнне.
А я? Я проста Ніка Турбіна.

Ты кажаш, што не вернецца вясна,
Што праз цябе наскрозь прайшла вайна,
Што дзесьці зноў займаецца яна,
Што ў гэтым ёсць мая, МАЯ віна.
Хай будзе так. Я — Ніка Турбіна…

* * *

Ад спёкі плавіцца асфальт,
І ўдых адзін каштуе мора.
Заплача ў зале белы альт,
Як скрыпка плакала шчэ ўчора.

І душны пах збівае з ног,
І бэз салодкі, быццам мары.
Іграй яшчэ! Ты калісь мог
Склікаць адзіным гукам хмары!

Хай будзе дождж! Хай будзе дзень
Выратавальна-непякельным.
Хай каля ног прыціхне цень,
Нібыта мніх каля малельні.

Хай коўдра гэтая спадзе,
Хай плечы выпрастаю ўрэшце.
Іграй! Іграй! Хай дождж ідзе.
Мне не стрымацца, хоць зарэжце.

Твой белы альт. І бэз. І спёка.
І я сыходжу басанож
У гэты дождж, дзе дыхаць лёгка,
Дзе лёгка жыць і быць.
І ўсё ж…

Іграй для нас! Смычок застыне,
Калі апусціцца сцяна
Празрыстая. І недзе грымне.
І недзе лівень давідна.

А гэты сад патоне плаўна.
І я вярнуся на парог.
Твой белы альт. І недзе жаўна.
І недзе дождж. І недзе Бог…

* * *

Яны гаварылі: «Ідзі!
Думаць будзеш пасля».
А я пры дарозе,
Нібыта бяроза, стаяла.



А я на цябе
Пазірала нясмела, здаля.
А я пазірала
І проста цябе адпускала.

Яны гаварылі: «Хутчэй!
Ты не стой — падбяжы…»
А я прырасла да зямлі
І глядзела, глядзела.
Ты хутка ішоў,
Паварочваў ужо за крыжы.
Даруй, але я галасіць
Аніколі не ўмела.

Яны гаварылі… Іх словы
Міналі мяне,
Плылі, нібы хмары,
І неба зацягвалі ціха.
Мой боль сарамлівы
Хаваўся глыбока на дне
Душы. Ён крычаць не хацеў.
Ганарлівы, на ліха!

Яны гаварылі. Ды толькі
Не зналі яны,
Што нашыя душы
Даўно паасобку блукаюць.
Цябе сустракала калісьці
З праклятай вайны,
Цяпер на каханне чужое
Цябе адпускаю.

* * *

Пра нямую любоў не гавораць.
Нямая? — Нямая.
Толькі вецер за сэрцам паўторыць.
Я сілы не маю.

Пра нямую любоў не шапталі.
Ніколі? — Ніколі.
Вы мяне, нібы кнігу, гарталі.
Прыемна да болю.

Пра нямую любоў прамаўчалі.
І сцены? — І сцены!
Вы са мною, бы з цацкай, гулялі.
Ваш ход несумленны.

Пра нямую любоў не кажы.
А маліцца? — Маліся.
Ты пакінула ўнізе крыжы
І лунаеш увысі.

Пра нямую любоў не пішы.
Ані слова? — Ні слова.
Запытай, што яна, у душы.
І пачуеш — аснова.

Запытай у душы: пачакаць?
У адказ — ані дня.
Запытай: то ці варта кахаць?
І ў адказ — цішыня…

* * *

У мяне была свая дарога,
Ёсць і будзе. Мой адзіны шлях —
Да Радзімы, Маці, Верша, Бога —
Па балоце, рэйках, камянях.

Ціха я іду сваёй дарогай,
У руках нясу сваю душу.
І калі суджу яе, то строга,
І суда чужога не прашу.

Толькі Божы суд адзін прымаю
І баюся болей, чым яна.
Я яе мяняцца прымушаю.
Кожны крок яе — мая віна.

Часам я пужаюся бясконца,
Што яе Спрадвечны забярэ
У блакітны рай, дзе свеціць сонца,
А мяне пакіне ля дзвярэй.

Бедная душа мая малая —
Водкуп сэрца, цела, галавы.

Судзіце мяне? — Няхай. Прымаю.
А яе, прашу, пакіньце вы.

* * *

Я баюся ісці да Цябе.
Ты — люстэрка маё.
Я з Табой не адна,
Толькі Ты і ў натоўпе адзін.
Ты люструеш мяне,
І чало суравее Тваё.
Ты люструеш, і там —
Толькі верас, аер і палын.

Там сухое паветра,
І пах невыносна сухі,
І вусны сухія,
Нібыта старыя лісты.
Там у сотнях тамоў
Пазбіраны былыя грахі.
Ты гартаеш адзін
І шкадуеш маёй слепаты.

Ты — люстэрка маё.
Я баюся глядзець у Цябе,
Як глядзець у сябе, —
Толькі верас, палын і аер.
Я баюся ісці да Цябе
І цікую ў журбе,
Як глыбока ўнутры
Прачынаецца стомлены звер.

Мне не трэба ісці да Цябе.
Раздзіраюць вятры,
Аплявухі адну за адной
І надзейна — пад дых.
Мне не трэба нікуды ісці.



Ты заўсёды ўнутры.
Ты гаворыш са мной
Ледзьве чутна. О, толькі не ўслых!

Да Цябе я цяпер не пайду.
Ты — люстэрка маё.
Я суцэльна цяпер
І памылка, і поспех Твае.
Гэта восень ідзе.
Гэта спёка, і хлеб, і жніўё.
Гэта проста душа
Усё, што мае, Табе аддае.

*Малюнкі Алесі ГАЛОТА.*

Кацярына МЯДЗВЕДЗЕВА

# ЧАРАЎНІК ДЛЯ ДЭЙСІ МЭЙ



***Кацярына Мядзведзева нарадзілася 10 чэрвеня 1980 года ў Брэсце. Піша прозу. Гадуе сына Сямёна, шмат чытае, вядзе блог, майструе лялечны дом для сямейства валеных мышэй, пра якіх піша казку з фотаілюстрацыямі.***

**Частка 1**

Мая прабабуля Дэйсі была выдатнай вышывальшчыцай. І калі зірнуць уважліва на яе працы, можа падацца, што яна ўсё жыццё марыла мець свой фруктовы сад. Я доўгі час была ў гэтым упэўнена, бо вышывала прабабуля квітнеючыя абрыкосавыя дрэвы, шэзлонгі і ліхтарыкі, сакавітыя яблыкі на галінках, каменныя паілкі для птушак, гронкі гліцыній, клумбы ды палівачкі. Звычайная рукадзельная магія: вышый сваю мару — і яна здзейсніцца. І хоць насамрэч ніякай мары не было, рукадзельная магія спрацавала і вышытае спраўдзілася. Але досыць своеасабліва.

Мне было пяць гадоў, калі прабабулі не стала. З’ехалася радня, нават самыя далёкія прыбылі развітацца разам з дзеткамі ды ўнукамі — нарэшце мне было з кім пагуляць. Дзяцей бралі з сабой і на могілкі (у нашым родзе так прынята) і, каб мы не шумелі ды не ўчынялі боек, нам раз-пораз совалі што-небудзь смачнае. Не занадта ўдаючыся ў сэнс таго, што адбывалася, мы стаялі за спінамі дарослых і ціха жавалі: хто яблык, хто персік, хто абрыкос. Абгрызкі і костачкі затоптвалі ў зямлю.

Мая прабабуля памерла дваццаць пяць гадоў таму. Цяпер вакол яе магілы высяцца фруктовыя дрэвы — яблыні, грушы, персікі, слівы. Я люблю прыходзіць туды ўвесну. Сяджу на лаўцы, а вакол мяне плыве празрысты кветкавы водар і сыплюцца далікатныя пялёсткі.

Я веру ў рукадзельную магію. І спадзяюся, што мая мара спраўдзіцца. Толькі хацелася б здзейсніць яе пры жыцці. Калі б толькі я ведала, як вышыць тое, пра што мару. З бытавымі, зямнымі жаданнямі ўсё проста: патрэбна хата — вышывай дахоўку ды ліштвы, імкнешся замуж — выкарыстоўвай схемы з сэрцамі, купідонамі ды галубкамі, якія нясуць два залатыя пярсцёнкі ў дзюбах, марыш пра дзяцей — шукай узоры з немаўляткамі…

А вось як вышыць нешта нематэрыяльнае? Не пальмы і мора, не куфар з манеткамі, а тое, што не назавеш словамі, для чаго няма малюнка? Я не ведаю і не ўмею. І таму павесіла на сцяну пустую рамку. Сімвалічна, так?

І вельмі трапна адлюстроўвае галоўную праблему майго жыцця… Праўда, на наступны дзень давялося рамку зняць, бо яе ўбачыла мая цётка Аўгуста і выказалася ў тым сэнсе, што мая галоўная праблема — гэта благі густ і адсутнасць уяўлення пра прыгажосць.

Але насамрэч праблема мая ў іншым.

Я — невідзімка.

Не, не падумайце, мяне добра відаць тым, каму сумна і хочацца пачасаць языком. Малочніца Дора, згледзеўшы мяне на іншым баку вуліцы, не праміне загаласіць на ўсё горла: «Дэйсі, дзетка, стары бабулін шаль табе да твару! І зацыраваных дзюр зусім не відаць, гэтакая ты мастачка!» Суседка мадам Эклер, сустрэўшы мяне ў аптэцы, заўсёды гучна цікавіцца маім млявым страваваннем і раіць абавязкова выпіваць кубачак сыроваткі на ноч. Але вось маладыя людзі — што дзяўчаты, што юнакі — мяне не заўважаюць. Я для іх ніхто. Пустое месца. Нуль, а можа, і зусім адмоўная велічыня.

Знешнасць у мяне «нябачная». Бляклыя валасы, шэрыя вочы, амаль не заўважныя бровы ды вейкі, нават вяснушкі — і тыя нейкія няяркія. Такую знешнасць часам завуць «мышынай», але мне няёмка карыстацца гэтым параўнаннем. Бо калі ў пакоі з'яўляецца мыш, яна выклікае фурор: дамы віскочуць, падбіраюць спадніцы, могуць нават страціць прытомнасць, а джэнтльмены пагульваюць мускуламі і ператвараюцца ў адважных паляўнічых — пачынаецца шум, гам, весялосць. А калі ў пакоі з'яўляюся я, мяне не заўважаюць зусім.

Дантыст выглядае з кабінета, акідвае позіркам прыёмную і, гледзячы скрозь мяне, пытае ў сакратаркі: «На сёння больш ніхто не запісаны?» У аўтобусе кандуктар уздрыгвае ад нечаканасці, калі я спрабую купіць у яго квіток: «Прабачце, я вас не прыкмеціў». Бібліятэкар, ігнаруючы маю працягнутую руку з кнігамі, пытае чалавека, які стаіць за мной: «Што я магу вам прапанаваць?»

І я не ведаю, абсалютна не ведаю, што б магло быць намалявана на палатне з назвай «Жаданне стаць прыкметнай». Таму я не вышыла яшчэ ніводнай карціны, толькі празаічныя ручнікі, навалачкі, грэлкі на імбрычак. І наогул, я аддаю перавагу вязанню. Вязальная магія больш грубая і простая, яна грэе. А калі думаць з любоўю пра тых, для каго вяжаш шкарпэткі ці тоўсты шалік, то гэтыя людзі не будуць хварэць узімку, нават калі наядуцца ледзякоў. Шчырая праўда, я правярала.

**Частка 2**

Калі маіх сясцёр у дзяцінстве пыталі, што яны любяць, Эма адказвала, што любіць маму і тату, Аліса згадвала слівавы ўзвар і прафітролі з персікавым джэмам, а я заўсёды маўчала. Таму што я люблю быць, проста быць. Быць дома ці ў садзе. Быць ля вады. Глядзець на дрэвы і траву, адчуваць скурай, як пячэ сонца ці кусаецца мароз. Слухаць, як стукае паціху дожджык. Вязаць. Чытаць. Думаць штонебудзь прыемнае. Марыць. Калі няма ні сяброўак, ні жаніха, застаецца шмат часу на мары.

— Дэйсі, ты зноў сядзіш дома, — бурчыць бабуля. — Чаму не пайшла з сёстрамі на танцы? Чакаеш, што ў кавалераў праразжацца трэцяе вока і яны ўбачаць цябе скрозь сцены?

Бабуля старамодная. Маладых людзей называе «кавалерамі» і здзіўляецца, што Эма ды Аліса не бяруць з сабой нататнічак і алоўак — запісваць, каму абяцалі кад-



*Малюнак Алесі ГАЛОТА.*

рылю. А зараз жа ўсё прасцей. Дзяўчыны пакорліва стаяць і чакаюць, хто іх запросіць. І іх запрашаюць. Амаль усіх. Акрамя мяне. Я ж невідзімка. Не, скрозь мяне не прасвечваюцца шпалеры, наадварот, гэта я зліваюся з імі. Ведаеце выраз «wall flower» — «прысценная кветачка»? Так завуць дзяўчат на балі, незаўважных настолькі, што ўвесь вечар яны праводзяць ля сценкі. Прастаяўшы так раз і другі, я палічыла за лепшае заставацца дома — там хаця б можна прысесці.

Мае ўлюбёныя колеры — лавандавы і экру. Але ў цёткі Аўгусты свая тэорыя. «Яскравай знешнасці — спакойныя ўборы, — кажа яна, — сціплай знешнасці —

эфектную абгортку». У перакладзе на чалавечую мову гэта значыць, што страхоццю накшталт мяне варта апранаць яркую адзежу, каб мінакі яшчэ здалёку, за тры кварталы, маглі заўважыць гэткую агіднасць і своечасова збочыць з дарогі. Кожны раз, калі мы адпраўляемся ў магазін гатовай вопраткі ці па тканіны, цётка купляе бледна-ружовае Алісе, палевае — Эме, а мне дастаецца фуксія ці аранж. Пэўна, цётка крыўдзіцца, што я не нашу ўсе гэтыя пярэстыя рэчы. Нічога, калі-небудзь яны зноў увойдуць у моду і мае ўнучатыя пляменніцы вельмі ім узрадуюцца. «Наша бабуля Дэйсі ў маладосці была заўзятая модніца», — падумаюць яны, і я не стану іх пераконваць.

Наогул, цётку Аўгусту варта было б называць мамай, але я не магу, бо была ўжо занадта дарослай, калі бацька прывёў яе ў хату. У пяць гадоў я раскідвала пялёсткі руж на іх вяселлі. Не падумайце, мяне ніхто не крыўдзіць і падчаркай не кліча, у цёткі Аўгусты цудоўны характар, і мае малодшыя сёстры — таксама лёгкага нораву, дружалюбныя і гаваркія, вось-вось выпырхнуць замуж. Яны пайшлі ў маці: цёмнавалосыя, смуглыя, высокія. А я — бледная, рудаватая, праставатая. Адразу відаць, што іншай пароды.

— З цыбуліны не вырасце ружа, — кажа пра мяне бабуля. А ўжо ў ружах бабуля разбіраецца, яна заўзяты садоўнік і агароднік. Наша бручка нават перамагла аднойчы на сельскагаспадарчай выставе акругі. Я не крыўджуся на бабуліны словы, якая там з мяне ружа. Калі казаць шчыра, такіх, як я, бяруць за лядашчую шыйку і выдзіраюць прэч з градкі, каб не псавалі від.

— Мне шкада Дэйсі, цяжка будзе знайсці ёй мужа, — сказала неяк цётка Аўгуста, папіваючы з сяброўкай пасляабедзенную гарбату ў садовай альтанцы.

— Так, не пазайздросціш небарацы, з гэтымі вяснушкамі яна падобна тварам на жытнёвы блінчык. На здобны румяны блінчык, — адказала чуллівая сяброўка.

Яны не ведалі, што блінчык палівае кветкі непадалёк і ўсё чуе. Здаецца, у той дзень я ўпершыню расплакалася з-за сваёй знешнасці. Раней я разважала проста: калі маме, на якую я, пэўна, падобная, пашчасціла знайсці сабе мужа, майго добрага і прыстойнага бацьку, то і я змагу сустрэць годнага чалавека, калі прыйдзе час. Пасля ж той падслуханай гутаркі я зняверылася. Аказваецца, я непрыгожая. Калі мяне і заўважаюць, то я здольна абудзіць толькі жаль. Я стала радзей глядзець у люстэрка і часцей задумвацца. Цяпер, калі мне мінула трыццаць, я не задумваюся наогул. Проста жыву ды ўсё. Жытнёвы блінчык ці цыбуліна — ну дык што, не ўсім жа быць ружамі. Роля ўсеагульнай цётачкі-векавухі не такая ўжо і дрэнная. Буду вязаць шкарпэткі ўнучатым пляменнікам і збіраць іх усіх на Каляды ў сваёй вялікай і пустой хаце. А можа, гэта хата застанецца Алісе ці Эме, калі іх жаніхі апынуцца недастаткова багатымі, і тады я стану нахлебніцай на старасці гадоў. «Слівавы пудынг сёння атрымаўся выдатны», — скажу я за абедам, і ўсе здзіўлена павернуцца ў мой бок з тварамі: «Ой, хто гэта тут?»

Не думайце, я не жалюся на жыццё. Я з радасцю сустракаю кожны новы дзень, а калі і марнатраўлю часам разважаннямі, то выключна з нагоды шкоднасці і начытанасці, а не ад журбы. Журбой, на шчасце, ніхто ў нашай сям'і не пакутуе. Ды і навошта пакутаваць, калі ва ўсіх ёсць справы куды больш цікавыя. Я абвязваю і абшываю ўсю сям'ю, бабуля садаводнічае, цётка Аўгуста кухарыць, і Эма ёй дапамагае, а самая наша малюпасенькая, Аліса, занятая больш за ўсіх: цэлымі днямі, з раніцы да позняй ночы, яна шукае сябе ў мастацтве. То пляце кошыкі з лазы, то піша санеты, то лепіць збаны, а ў апошні час сур'ёзна захапілася маляваннем на шоўку. Сям'я назірае за яе творчымі пошукамі замілавана і

паблажліва. Так звычайна дарослыя глядзяць на маляня, якое «пячэ» кулічыкі з пяску: маўляў, няхай сабе цешыцца дзіцятка, ай-яй-яй, малайчына, як слаўна ў цябе атрымліваецца!

Я лічу, кожная сям'я можа сабе дазволіць мець на ўтрыманні адну творчую асобу. Двое, трое — гэта ўжо перабор, а адна — у самы раз. Тым больш, што ўсе займальныя справы — мыць, шыць, гатаваць ежу, выціраць пыл, — мы разабралі сабе. Што ж заставалася рабіць небарацы Алісе, як не паглыбіцца па самыя вушы ў мастацтва. Яна ўсё яшчэ не знайшла ў ім сябе, але і мастацтва яшчэ далёка не скончылася, таму ў хуткай будучыні, падазраю, нас чакаюць гукі флейты ці грук разца па камені, а можа, балет. Вядома, усё можа павярнуцца значна лепш, калі Аліса ўсёткі прыме прапанову каго-небудзь са сваіх шматлікіх прыхільнікаў і выйдзе замуж. Цётка Аўгуста спадзяецца на гэта ўсёй душой. Калі ў Алісы быў перыяд захаплення опернымі спевамі, цётка ледзь утрымалася ад звароту да паслуг свацці. Але, на шчасце, Аліса хутка пераключылася на складанне філасофскага трактата пра сутнасць быцця, а гэты занятак, як вядома, патрабуе цішыні.

Бацька, ледзь не забылася распавесці і пра яго. Бацька таксама жыве з намі, але лічыць за лепшае рабіць выгляд, што яго тут няма. Адзіны мужчына ў хаце, поўнай жанчын, ён бліскуча выконвае свае абавязкі: чытае газету за сняданкам, паліць трубку на верандзе пасля вячэры, разразае гусака за святочным сталом. Яго цёплае паліто вывешваюць улетку на сонейка праветрыцца, а шкарпэткі цыруюць з асаблівым стараннем, яго клапатліва накрываюць пледам, калі ён кладзецца адпачыць пасля абеду. Не ўпэўнена, што цётка чуе ад яго што-небудзь, акрамя «добрай раніцы», «дзякуй» і «дабранач», але гэта іх асабістая справа. Ды і не тое, каб цётка Аўгуста нудзілася па гутарках, маючы ў наяўнасці бойкую на язык свякруху, дзвюх вельмі гаманкіх дачок і адну маўклівую, але ўсё ж здатную да маўлення падчарку. Часам жа прыемна і памаўчаць.

### Частка 3

Аднойчы сястра Аліса забралася на гарышча. Вырашыла зрабіць там майстэрню ці студыю — не ведаю, як правільна называецца месца, дзе творчыя людзі творча раскідваюць і развешваюць прыгожыя дробязі і рупліва робяць выгляд, што «ствараюць». Дык вось, сястрыца разграбала скрынкі, кардонкі, бляшанкі — і знайшла прабабчыны рэчы. Аказваецца, іх як прывезлі пасля яе смерці, так яны і прастаялі дваццаць пяць гадоў у замкнёных куфрах, ужо дакладна не спадзеючыся калі-небудзь ізноў убачыць сонечнае святло. Неадкладна Аліса паведаміла пра знаходку сям'і.

Цётцы Аўгусце не было калі «перабіраць розны старажытны хлам», да таго ж прабабуля была для яе абсалютна чужым чалавекам. Бацька, у сваёй флегматычнай манеры, толькі паціснуў плячыма. А бабуля паставілася да пачутага з дзіўным халадком, але аддала нам ключы ад куфраў, і мы з Алісай і Эмай сунулі ўнутр свае цікаўныя насы.

Скарбаў знайшлося нямала. Сёстры падзялілі паміж сабой прабабчыны ўборы — такі фасон якраз вярнуўся ў моду, — і нават мне дасталася адна сукенка, пры выглядзе якой сустрэчныя не ўздрыгвалі б і не сплёўвалі ўпотай праз левае плячо. Сціплае, бледна-блакітнае з ружачкамі, яно вельмі вылучалася з чарады іншых, пярэстых і яркіх, таму і не спадабалася малодшанькім. Аліса ўзяла баа і веера, мудрагелістыя капялюшыкі і пальчаткі, шкатулку з біжутэрыяй і статуэткі. Гаспадарлівая Эма

рашуча прысунула да сябе стос прасцін, скруткі з карункамі, сталовае срэбра, аднесла на кухню кулінарныя кнігі ды прабабчын вышыты фартух. А рукадзельнае прыладдзе і гатовыя вышыўкі ў зашклёных рамках сёстры велікадушна аддалі мне.

Гэта было сапраўды вельмі прыемна — сядзець на падлозе ў сваім пакоі і перабіраць прабабчыны запасы. Ніткі мулінэ яна сплятала ў рознакаляровыя косы, канву згортвала ў акуратныя рулончыкі, захоўваючы нават самыя маленькія кавалачкі, — а што, як спатрэбіцца квадрацік, каб вышыць манаграму на насавой хустачцы ці метку на бялізне? Гаплікі для вязання ляжалі ў невялікай касцяной шкатулачцы, вязальныя пруткі — у доўгім драўляным футаральчыку з разьбой. Яшчэ я знайшла прыгожую падушачку для іголак, вышытую крыжыкам ўпрыгожаную на бакавінках яркімі пацеркамі. Праўда, у ёй не было ніводнай іголкі, але гэта неістотна, у мяне досыць сваіх. Не адшукала я і нясконачанай вышыўкі. А скончаных было роўна дзесяць, і я, крыху падумаўшы, развесіла іх на сцяне ў сваім пакоі. Усё лепш, чым пустая рамка. Цётка Аўгуста ўхваліла мой выбар.

Клубкоў мне таксама дасталася шмат. Якасная воўна самых прыдатных для зімы адценняў — жоўтыя, чырвоныя, блакітныя, зялёныя і аранжавыя тоўстыя ніткі, да якіх не дабралася моль. Адны клубочкі былі тоўстыя, іншыя — усяго на пару радкоў, але гэта добра, я таксама заўсёды захоўваю рэшткі воўны: не хопіць на цэлую панчоху, але досыць, каб пусціць палоску кантраснага колеру. Яркія паласатыя рэчы вельмі цешаць узімку, калі вакол усё чорна-белае і халоднае. Магія, старажытная магія колеру, цяпла і ўмелых рук, што з любоўю ствараюць вопратку для сваіх блізкіх. У нашай сям'і ніхто не хварэе на грып, з чаго я раблю нясціплую выснову, што магія мая працуе добра. Ці, прынамсі, добра працуюць цёплыя і ўтульныя швэдары, шалікі і каптуры, якія я вяжу.

Звязаўшы тры пары паласатых шкарпэтак, я даведалася аб прабабулі шмат цікавага. Аказваецца, яна збірала замежныя манеткі з парусьнікамі ці дубовымі лісткамі на рэверсе, заколвала капялюш смешнай шпількай з сінім папугаем, любіла чырвонае віно, італьянскія арэхі і чырвоныя мятныя цукерачкі. І вельмі не любіла змотваць ніткі ў клубок проста так, таму брала пачатак ніткі на ўсё, што траплялася ёй пад руку. Пасля шостай пары шкарпэтак у маім рукадзельным кошыку сабралася вялікая калекцыя прабабчыных прывітанняў: коркі з вінаграднымі лозамі і срэбны напарстак, шаўковая стужка і арэхі, манеткі і брошка, шпілька і стары алавяны салдацік, ледзянцы ды абгрызак чорнага алоўчака для броваў. А пасля восьмай пары шкарпэтак я высветліла нешта цікавае пра сябе, бо ў сярэдзіне чарговага клубочка хаваўся абрывак вельмі дзіўнага ліста.

Спехам выдраная чвэртачка тонкай жаўтаватай паперы была шчыльна спісана абапал.

Я бачыла не так шмат почыркаў, бо лістоў мне ніхто не піша, але мне ўсё ж ёсць з чым параўнаць. Напрыклад, мая сястра Эма цярпець не можа пісаць. Калі ёй даводзіцца складаць спісы для пакупак ці перапісваць у сшытак кулінарны рэцэпт з жаночага часопіса, узятага ў бібліятэцы, яна пыхкае і надзімаецца, выводзячы літарку за літаркай так, быццам упершыню іх бачыць. Літаркі гэтыя таксама пыхкаюць, напаўзаюць і адтоптваюць адна адной ногі, завальваюцца ў розныя бакі, нібы Эма забылася дадаць у сваё славеснае цеста змацавальнага яечнага парашку.

Почырк цёткі Аўгусты — шпаркі і рашучы, як і яна сама. Яе літаркі стаяць, як салдацікі, выцягнуўшыся па стойцы «смірна», адна любата чытаць. Прыгожы почырк і ў Алісы, хоць завітушак і крэндзеляў магло быць і менш, але з творчымі людзьмі заўсёды так — нават у самых простых рэчах яны імкнуцца намудраваць,

гэта ў іх называецца «самавыяўленне». Што да майго почырку, ён акруглы і павольны, мне падабаецца выводзіць літару за літарай, спрытна счапляючы іх хвосцікамі, быццам я не пішу, а вяжу чарговую панчоху. Зрэшты, вязанне ў мяне атрымліваецца значна лепш: у ім не наставіш кляксаў, і пяском пасыпаць звязанае таксама, на шчасце, не трэба.

А вось у чалавека, які напісаў прабабулі гэты загадкавы ліст, почырк быў ідэальны. Раўнюткі, адмысловы, вытанчаны. І хай кажуць, што графалогія — гэта лжэнавука, але почырк распавёў мне шмат пра аўтара ліста.

Чалавек гэты абвык пісаць часта і шмат, ён заўсёды быў упэўнены ў сваіх словах, нікуды не спяшаўся, але і не спазняўся; абдумваў сказанае, нічога не выпраўляў і не пэцкаў, почырк яго быў лёгкачытэльны і прыемны. Любоўныя прызнанні, напісаныя гэтай рукой, мелі б поспех. Праўда, у выпадку з маёй прабабуляй ліст быў сяброўскі. І, хутчэй за ўсё, жаночы, бо з аднаго боку гаворка ішла пра засолку агуркоў. А вось на адвароце загадкавая незнаёмка пісала пра мяне. Таму прабабуля і захавала гэты абрывак, і, мяркуючы па абтрапаных краях, доўга насіла з сабой. А потым гэтая паперка трапілася ёй у рукі, калі трэба было зматаць чарговы клубочак, і яна схавала маю таямніцу на доўгія гады… Можа, яна жадала распавесці мне пра гэта, калі я падрасту, але не паспела? Хто ведае… Зрэшты, у маім апавяданні занадта шмат шматкроп'яў, таму ад бяздзейных разважанняў дазвольце перайсці да фактаў і працытаваць тое, што так нечакана звалілася да мяне на калені, абвязанае чырвонай ваўнянай ніткай…

Усяго пара радкоў: «…чакаю з нецярпеннем твайго прыезду. А што да тваёй праўнучкі Дэйсі, на жаль, дарагая сяброўка, мая магія тут бяссільная, на дзяўчынку накладзены чары значна мацнейшыя за мае. Чары гэтыя — …»

Ці трэба казаць, што я разабрала па шарсцінцы ўсе астатнія клубкі ў пошуках працягу? На жаль, сам ліст, хутчэй за ўсё, быў спалены ў печцы ці выкінуты прэч, таму што прабабуля не адрознівалася сентыментальнасцю і не захоўвала лісты, дзённікі, запісачкі ды іншыя папяровыя сведчанні жыцця. Прынамсі, у яе рэчах мы не сустрэлі ні звязкі любоўных пасланняў, ні штодзённіка, ні нават малітоўніка. Нішто не магло праліць святло на гэтую заўвагу пра чараўніцтва.

І вось што дзіўна. Даведаўшыся пра чары, я не спалохалася і не заплакала, не. Я адчула неймавернае палягчэнне. Зачараваная! Вось чаму мяне не заўважаюць на танцах, а суседкі глядзяць спагадліва, і цётка ў краме, выбіраючы «элегантнае» для Алісы і «спакойнае» для Эмы, заўсёды просіць «што-небудзь пяскравей для старэйшай дачкі». Гэтулькі гадоў я вінаваціла сябе ў тым, што бязглузда і сумна распараджаюся падараваным мне жыццём, а цяпер высветлілася, што я невінаватая, што ўсё было б зусім інакш, не давядзіся камусьці накласці на мяне моцныя чары. Я ўздыхнула з палёгкай, быццам нейкі нябачны суддзя грукнуў малаточкам і нарэшце, праз трыццаць гадоў чакання, вынес мне апраўдальны прысуд.

**Частка 4**

Некалькі дзён я старанна разважала над таямніцай, што так раптоўна адкрылася мне. Тое, што прабабуля знаходзілася ў сяброўскай перапісцы з вядзьмаркай ці чараўніцай, мяне, прызнацца, зусім не здзівіла, — гэта было вельмі ў яе духу. Куды больш займала мой розум асоба іншага чараўніка — таго, наймацнейшага, чые чары сапсавалі мне жыццё. Калі я падумала пра тое, што адпраўлюся на яго пошукі, у мяне мурашы пабеглі па спіне. А калі я падумала пра тое, што знайду яго, мне зра-

білася зусім блага. Толькі ўявіце сабе — жытнёвы блінчык і магутны злы чараўнік! Не трэба быць празорцам, каб прадказаць зыход гэтай сустрэчы. «Ах, нябачнасці табе мала? — прагрукоча ён. — Так ператварайся ў жабу!»

Незразумела, дарэчы, чаму ў казках так рупліва культывуецца выява жабы як самай брыдкай і агіднай істоты. Падумаеш, жаба. Яны, калі задумацца, вельмі годныя стварэнні. Мая бабуля іх любіць, бо яны ядуць смаўжоў, гусеніц, жукоў, мнаганожак і іншых заклятых ворагаў. У нашым садзе я ведаю, сама меней, тры жабіны дамкі — пад парогам садоўніцкай адрынкі, у цёмнай вільготнай гушчы кветніка і пад камянямі, якімі абкладзены кветнік з мнагалетнікамі. Можа, лепш было і мне ператварыцца ў жабу, а не блукаць па белым свеце нябачным чалавекам.

Калі я сустракаю жабу, якая важна скача па сцяжынцы, мне так і хочацца раскланяцца. Раптам яна такая ж зачараваная, як я? Калі б ведаць напэўна. «Не журыся, сяброўка, — сказала б я ёй. — Жаба — гэта яшчэ не самы дрэнны варыянт. Значна горш быць ператворанай у дурня. Ці ў скнару. Ці ў векавуху, накшталт мяне». Але я ніколі не скажу гэта, бо раптам яна не зачараваная, а самая сапраўдная прыстойная жаба? Што яна падумае пра мяне?

Паразважала я пра жаб, паразважала — і адправілася ў сад. Не, не па жабіну параду. Я пайшла шукаць бабулю: магчыма, яна здолее ўспомніць сяброўку сваёй маці, жанчыну з такім прыгожым почыркам. Трэба ж мне было ад чагосьці адштурхоўвацца ў сваіх пошуках.

Наш сад не тое каб велізарны, але ў дзяцінстве мы з сёстрамі пару разоў у ім губляліся. Там ёсць сажалка і лаўкі, градкі з морквай і спаржай, альпійская горка і невялікая цяпліца. У цяпліцы я і знайшла бабулю. «Папрацуйце, дзеткі», — прыгаворвала яна дзелавіта і выпускала з пачка ад запалак тоўстых і незадаволеных чмялёў. Згледзеўшы іх, я куляй выскачыла вонкі. Да ўсіх сваіх недахопаў я яшчэ і палахліўка, калі справа датычыцца малых касматых стварэнняў. Адвага, на жаль, не перайшла да мяне ў спадчыну ад маёй бясстрашнай бабулі, якая галаруч здымае гусеніц з капусты, блукае ўночы па садзе з ліхтаром і збірае смаўжоў. Аднойчы злавіла самую сапраўдную мядзведку і не толькі не страціла прытомнасць ад жаху, як абавязкова зрабіла б я, але яшчэ і ўмудрылася прадаць яе нашаму аптэкару за добрыя грошы.

Растлумачыўшы чмялям, як правільна апыляць агуркі з дынямі, бабуля выйшла да мяне.

— Што здарылася?

Я працягнула ёй сваю знаходку і ў двух словах растлумачыла. Дакладней, не зусім растлумачыла. Мая бабуля, ведаеце, верыць у перакрыжаванае апыленне, у селекцыю і натуральны адбор, яна прыручае вожыкаў і будуе шпакоўні, але вось чараўніцтва зусім не прызнае. Зусім-зусім. Таму я сказала ёй, што жадала б даведацца, як звалі даму, якая напісала гэты ліст маёй прабабулі, таму што мне вельмі спадабаўся почырк. Недарэчнае тлумачэнне, пазбаўленае логікі, не спрачаюся, але ўсё ж лепш, чым гісторыя з нябачнымі чарамі.

Бабуля ўзяла паперку двума пальцамі, як быццам гэта быў сушоны трытон ці сцябло атрутнага плюшчу, угледзелася, нахмурылася.

— Хадзем.

У бабуліным пакоі на падаконніку спелі ў вазоне памідоркі чэры. Стол быў завалены каталогамі насення. Бабуля дастала бляшанку, дзе ў яе захоўваліся парашкі ад пякоткі, старыя кірмашовыя квіточкі і квітанцыі з пральні, кавуновыя семечкі і рэцэпты марынавання патысонаў. Пасля нядоўгіх пошукаў яна працягнула мне складзены ўдвая жоўты лісток, з выгляду — сапраўды такой жа паперы, якую знайшла я ў клубку.

— Сэр Лемюэль Грымсвотн, — сказала бабуля злосна. — Не ведаю, на чорта табе спатрэбіўся гэты шарлатан, але ўпэўнена, што яго даўно ўжо няма ў жывых. Гады, ведаеш, не літуюць нікога. А ён быў аднаго ўзросту з маёй маці.

І яна размашыстым крокам выйшла з пакоя. А я стаяла з дзвюма паперкамі ў руцэ і спрабавала ўсвядоміць новую інфармацыю, што звалілася на мяне. Ліст прабабулі напісаў мужчына. Той мужчына, паводле слоў бабулі, шарлатан — гэта значыць, мае здагадкі дакладныя. Бо бабуля не верыць у чараўніцтва, усе чараўнікі для яе — шарлатаны і ашуканцы, турма па іх плача. Што ж датычыцца яе апошняй здагадкі, то я вельмі моцна спадзявалася на адваротнае. Чараўнікі ж ведаюць разнастайныя замовы і сакрэты, умеюць падаўжаць сабе жыццё? Па бабуліным тоне было відавочна, што сэр Лемюэль Грымсвотн чымсьці моцна насаліў ёй, і яна была б рада станцаваць на яго магіле. Але я вельмі спадзявалася, што ён яшчэ жывы.

Адрас сэра Лемюэля быў да смешнага просты: Зарэчная акруга, мястэчка Млынавы Раўчук, вуліца Самшытавая, дом нумар адзін. Да Млынавага Раўчука ад нашага горада гадзіна язды. Ніякіх неадкладных спраў у мяне не было, надвор'е стаяла яснае — адным словам, усё спрыяла падарожжу. І я вырашыла збірацца.

Як чалавек надумлівы і няўпэўнены ні ў чым, я лічу за лепшае, выходзячы з хаты, быць у поўным узбраенні. Не ўцямлю, як многія дзяўчаты абыходзяцца прыгожымі малюсенькімі сумачкамі? Туды ж нічога не змяшчаецца, акрамя ключоў і пудраніцы. А як жа іголка з ніткай на выпадак, калі раптам адарвецца гузік? А як жа парашкі ад галаўнога болю і невялікі нататнічак з алоўкам, калі хто-небудзь падзеліцца мудрай думкай ці хітрым рэцэптам пірага? А запасныя пальчаткі, а губка для чысткі туфлікаў ад дарожнага пылу? Так, усё гэта ёсць у маім дарожным саквояжы. Але, збіраючыся ў Млынавы Раўчук, я дадала яшчэ сёе-тое. Лаўравішнёвыя кроплі на выпадак, калі вельмі расхвалююся, і тузін насовак — раптам расплачуся, цёплы шаль на выпадак непагадзі і шаўковы парасонік — калі будзе яркае сонца. Яшчэ я ўзяла два чырванабокія яблыкі і пакет з аўсяным печывам — раптам мяне не запросяць да абеду. Хто ведае, як прынята ў чараўнікоў. Ды калі нават запросяць — раптам чараўнікі ядуць на абед жабіныя пячонкі пад палыновым соусам і запіваюць моцнай ядлаўцовай гарэлкай з кропелькай змяінага яду для вастрыні? Майму страўніку не ўправіцца з такімі вытанчанымі пачастункамі.

У падарунак для сэра Лемюэля Грымсвотна я падрыхтавала кашнэ і пару тоўстых ваўняных гетраў. Хай ён і чараўнік, але ўсё ж стары, а старыя любяць цяпло. І яшчэ, спадзеючыся на яго добрую памяць, я апранула тую бледна-блакітную сукенку ў ружачкі. Можа, яна нагадае Грымсвотну маю прабабулю і ён будзе добры да мяне.

Ледзь закрыўшы саквояж, я адправілася на аўтобусны прыпынак. А як жа сям'я, спытаеце вы? У гэтым адзін з нешматлікіх плюсаў нябачнага жыцця: нікому няма да цябе справы. Бабуля здагадвалася, куды я сабралася, і моўчкі праводзіла мяне вачыма. Цётцы Аўгусце я сказала, што адпраўляюся ў Млынавы Раўчук па воўну і мулінэ. Усе ведаюць, што ў нашым мястэчку не адшукаць прыстойных нітак. Цётка Аўгуста ніколькі не здзівілася і папрасіла мяне купіць трохі лёну для кухонных ручнікоў, паўфунта кавы і скрыначку англійскіх шпілек. Эма, што тут жа на кухні рэзала салеру і моркву для супу, дадала ў мой спіс імбір, цынамон, чарнасліў і свечкі. Не абышлося і без Алісы. Давядзецца мне цяпер пытаць у сэра Лемюэля Грымсвотна, дзе ў Млынавым Раўчуку прадаюцца вавёркавыя пэндзлікі і рысавая кітайская папера для самаробных ліхтарыкаў.

Наогул, цётка магла б і задумацца, чаму я раптам вырашыла адправіцца ў суседні горад так нечакана, у будны дзень ды яшчэ без суправаджэння. Звычайна я ездзіла

туды з бабуляй ці Эмай. Мне было трохі страшна, я ўпершыню адпраўлялася падарожнічаць адна, але ўсе астатнія ўспрынялі гэта як нешта само сабою зразумелае. Так, мне ж не пяць гадоў, каб кагосьці магло ўсхваляваць, што я адна сяду ў аўтобус і адпраўлюся ў мястэчка, дзе ў нас няма ні знаёмых, ні родных. Мне не пяць, мне трыццаць. Магчыма, цётка толькі і чакае, каб я нарэшце адправілася куды-небудзь, з квітком у адзін канец, і сёстры наўрад ці моцна засмуцяцца, калі я вазьму і не вярнуся. Нават бабуля, хоць яна выгадавала мяне і па-свойму любіць, не нудзілася б доўга, і заняла б мой пакой пад вырошчванне расады.

**Частка 5**

Сонца ззяла высока ў небе, калі аўтобус прывёз мяне ў Млынавы Раўчук. Я некаторы час вагалася: зрабіць пакупкі зараз ці пасля візіту да чараўніка. Крамы маглі закрыцца. Але і паўстаць перад сэрам Лемюэлем нагружанай, як ослік, з парасонікам, саквояжам і шматлікімі скруткамі ў руках, мне не хацелася. Што ён падумае пра мяне? Яшчэ прыме раптам за вандроўную гандлярку. Таму крамы я вырашыла пакінуць на потым.

Самшытавая вуліца адшукалася досыць хутка, і я сама не заўважыла, як дайшла да самага яе пачатку, дзе і стаяў у тупіку неабходны мне дом нумар адзін. Трэба сказаць, ён зусім не быў падобны да жылля чараўніка. Не тое каб я чакала ўбачыць цмока на газоне ці зграйку фей, што водзяць карагод вакол флюгера, але ўсё-ткі хацелася сустрэць нейкі знак. Я разумею, магія была пад ганеннем ва ўсе часы, і ніякі разважлівы чалавек не стане вывешваць над ганкам шыльду: «Яды, зеллі, вядзьмарства», але, будзь я чараўніцай, я б неяк намякнула на гэта, каб добрапрыстойным жыхарам навакольных мястэчкаў было лягчэй адшукаць маю хату. А вось дом сэра Лемюэля Грымсвотна намякаў, здаецца, на адно: «Тут і ў паміне няма ніякага чараўніцтва, вы памыліліся, ідзіце прочкі».

Я павольна прайшла ўздоўж жывой агароджы, зазірнула ў сад, праверыла брамку. Не замкнёна. Дарожка акуратна пасыпана пяском, у каменнай паілцы для птушак — вада, лужок перад домам пастрыжаны не так даўно, а каля кветніка з ружамі стаіць сіняя палівачка. Ці сэр Лемюэль даўно прадаў дом якому-небудзь аматару пакапацца на градках, накшталт маёй бабулі, ці ж у вольны ад вядзьмарства час ён любіць займацца садоўніцтвам. Ведаеце, у мяне ўзнікла дзіўнае пачуццё. Мне здалося, што я тут ужо была. Што я бачыла ўжо гэту сінюю палівачку, паілку для птушак, брамку з прымацаванай да яе паштовай скрыняй, кульгавы зэдлічак, укапаны ў зямлю пад грушавым дрэвам і стары ліхтар на верандзе. Дом, прысадзісты і традыцыйны, з зялёнымі стаўнямі і чырвонай дахоўкай, з флюгерам у выглядзе ўзброенага амурчыка — усё было цьмяна знаёма. Але ж я ніколі тут не была!

Фіранкі ва ўсіх вокнах былі захінуты, дымок з коміну не ішоў, і, мяркуючы па ўсім, гаспадара не было дома. Сад маўчаў, толькі паціху шамацела лісцем старая груша. Раптам штосьці шэрае — жаба ці мыш — шаснула ў траве, і я ўскрыкнула ад нечаканасці.

— Не палохайцеся, прашу вас, — раздаўся прыемны мужчынскі голас аднекуль зверху, і я здрыганулася зноў. Затым раздаўся такі гук, быццам хтосьці саскочыў з дрэва. Вы будзеце смяяцца, але першая мая думка была пра тое, што чараўнік толькі што прашамацеў перада мной у звярыным аблічы, а зараз абярнуўся зноў у чалавека і спяшаецца мяне супакоіць.

— Напэўна, мыш, — прамармытала я разгублена.

— Не, гэта не мыш, — запярэчыў мой суразмоўца, застаючыся нябачным.

Я разгублена аглядала зарасці маліны, кветнікі з рудбекіямі, высокія бэзавыя кусты. Так, здаецца, менавіта за бэзам мільгала белая кашуля. А то я ўжо спалохалася, што вяду гутарку з сапраўдным невідзімкам …

— Не мыш? — механічна паўтарыла я, і ён падхапіў, ці то спрабуючы пажартаваць, ці то проста гуляючы словамі:

— Так, так, менавіта, нямыш звычайны, у садзе пражывае цэлае сямейства. Яны не кусаюцца, не бойцеся! Нямышы сілкуюцца толькі кветкавымі пялёсткамі ды абрыўкамі нашых сноў. Добрых салодкіх сноў, — паспешна ўдакладніў ён, быццам я збіралася адкрыць сакваяж і прапанаваць нямышу звычайнаму чэрствы кавалачак свайго заўчарашняга начнога кашмару.

Я не знайшлася, што адказаць. У нейкі момант амаль паверыла ў існаванне гэтых нямышаў. Я ж прыйшла ва ўладанні чараўніка, так чаго ж дзіўлюся нябачным істотам? Здаецца, я больш падобна да сваёй бабулі, чым падазравала.

— Прашу прабачэння, я зусім страціў навыкі пачцівасці, — прагаварыў незнаёмец і выйшаў, нарэшце, на свет. — Жыву як пустэльнік. Здзічэў. Хутка ўжо сам, як нямыш, буду шарахацца ад людзей. Вы з’явіліся надзвычай своечасова, — ён пачціва пакланіўся, — магчыма, заўтра я ўжо і не ўспомніў бы чалавечую гаворку…

Я ва ўсе вочы глядзела на яго. Першы чараўнік, якога я бачыла жыўцом, а не ў кнізе казак! Ды і, шчыра кажучы, гэта быў першы мужчына, з якім я вось так проста гутарыла сам-насам. І гэта быў вельмі прывабны мужчына. Мабыць, ён сабаку з’еў у амаладжальных загаворах, таму што, не ведай я сапраўднага яго ўзросту, вырашыла б, што ён маладзейшы за мяне.

Як вядома, найвялікі давер у людзей выклікае знешнасць паважнага дагледжанага мужчыны злёгку за пяцьдзясят. Сівізна, акуратная бародка, залатыя дужкі акуляраў, кішэнны гадзіннік на ланцужку, чыстая і дарагая адзежа. Вядома, чараўнікі — асаблівыя людзі. Можа, ім зручней апранацца ў спічасты каўпак і мантыю, не прычэсваць бараду і вусы ды насіць у нагруднай кішэні некалькі скарпіёнаў. Але той, хто стаяў перада мной, не выглядаў ні рэспектабельным прафесарам, ні экстравагантным ведзьмаком. Больш за ўсё ён нагадваў студэнта, які прыехаў дахаты на вакацыі. Манжэты выпацканы чарніламі, віхоры тырчаць ва ўсе бакі, бакенбарды густыя і доўгія, відавочна, адпушчаныя для самавітасці. Можа, гэта наогул не той, хто мне патрэбны?!

Нібы прачытаўшы мае думкі, ён страсянуў ускалмачанай шавялюрай:

— Дазвольце прадставіцца. Сэр Лемюэль Грымсвотн. Прашу прабачэння за мой жаласны выгляд! Запрацаваўся, ды і не чакаў гасцей.

Ён правёў рукой па шчацэ, мабыць, узгадваючы, як даўно не галіўся. Потым зірнуў на мяне. У яго поглядзе я прачытала цікаўнасць і лёгкае здзіўленне. Вой-вой, зараз жа, па правілах прыстойнасці, павінна была прадставіцца я, а сама маўчу і гляджу на яго, як на дзіўнага звера ў заасадзе.

— Дэйсі Мэй, да вашых паслуг, — і я пачціва ўсміхнулася, чакаючы якой-небудзь рэакцыі на знаёмае імя. Але рэакцыі не было. Ён ветліва глядзеў на мяне, чакаючы працягу. Як жа так? Ён не памятае маю прабабулю? Ці ён не зразумеў, што я яе праўнучка? Так і ёсць. Выглядае молада, а звычкі дзядоўскія. Памяць — гэта не зморшчыны, яе так проста не паправіш.

— Чым магу быць карысны? — спытаў ён.

— Я шмат чула пра вас, — сказала я. Гэта было няпраўдай, але ж усе так кажуць, калі хочуць зрабіць прыемнае суразмоўцу. — Сэр Лемюэль, вы выдатна выглядаеце. Для вашых гадоў вы трымаецеся малайчынай!

Здзіўленне ў яго вачах узмацнілася.

— Не думаў, што ўсё так дрэнна, — і ён ізноў правёў рукой па шчоках. — Бяссонныя ночы за працай, зразумела, не вельмі карысныя для колеру твару…

— Так, так, — нібы кітайскі балванчык, заківала я. — Асабліва, калі гаворка ідзе пра такую тонкую і карпатлівую працу, як ваша!

Ён слухаў мяне моўчкі. А я марудзіла, не ведаючы, як прыступіць да галоўнага. Калі ён забыўся пра маю прабабулю, бестактоўна нагадваць, бо гэта намякне на яго дзіравую памяць. Дый ліст, выходзіць, я прачытала чужы ліст, хай і незнарок, але паспрабуй прызнайся ў падобным…

Мабыць, мае думкі адлюстраваліся на твары. Калі я нервуюся, заўсёды чырванею.

Сэр Лемюэль раптам падышоў да мяне зусім блізка і ўзяў маю руку ў свае далоні.

— Дэйсі, мілая, што з вамі здарылася?

Ад дабрыні ды спагады я заўсёды размякаю. Слёзы тут жа набеглі на вочы, і дрыготкім голасам, ледзь стрымліваючы рыданні, я прагаварыла:

— Сэр Лемюэль, вы адзіны можаце мне дапамагчы…

Да таго моманту я і не падазравала, як моцна абрыдла мне маё жыццё. Шматлікія людзі гадамі і дзесяцігоддзямі жывуць, прыкідваючыся перад іншымі і перад сабой, што ў іх усё добра, што гэта іх уласны выбар, што не так ужо і дрэнна быць адзінокім і нябачным ці тоўстым і непрыгожым, ці бедным і хворым. У кожнага свой праклён, але не ў кожнага ёсць свой чараўнік, таму цяпер, атрымаўшы шанс на выратаванне, я трэслася як асінавы лісток.

Сэр Лемюэль ахвотна кіўнуў.

— Вядома, я дапамагу вам і зраблю ўсё, што ў маіх сілах, толькі скажыце, нарэшце, у якой дапамозе вы маеце патрэбу?

— Мая прабабуля… яна пісала вам пра мяне…

— Ваша прабабуля? Пісала? Верагодна, ліст згубіўся па дарозе, я яго не атрымліваў, — развёў рукамі ён. Небарака, зусім памяць адбіла.

— Не-не, — ласкава сказала я, імкнучыся не закрануць яго пачуцці, — ліст быў атрыманы вамі… але не цяпер… а шмат гадоў таму… Прыкладна трыццаць… ці дваццаць пяць… і вы напісалі прабабулі адказ…

— Трыццаць? Ці дваццаць пяць? — ён наморшчыў лоб.

— Мая прабабуля памерла дваццаць пяць гадоў таму, — кіўнула я.

— Спачуваю вам ад шчырае душы. Але, верагодна, тут нейкая памылка. Я ніяк не мог перапісвацца з вашай прабабуляй дваццаць пяць гадоў таму. Справа ў тым…

— Не, вы проста забыліся! Так бывае ў старасці, — бестактоўна перабіла яго я, ліхаманкава намацваючы ў саквояжы абрывак ліста, але натыкалася то на лаўравішнёвую пляшачку, то на яблыкі. — Чакайце, адну хвіліначку…

— Справа ў тым, — паўтарыў ён тонам, якім дарослыя звычайна размаўляюць з дзецьмі, — што дваццаць пяць гадоў таму мне было два гады, і я яшчэ не ўмеў пісаць.

Вось калі б вам сказалі, што ўсё ваша астатняе жыццё на дварэ будзе ліць дождж і вы ніколі больш не ўбачыце сонца… Калі б вам сказалі, што ўсё астатняе жыццё вы не атрымаеце ніводнага кавалачка шакаладу, а сілкавацца будзеце выключна варанымі цыбулінамі… Калі б паабяцалі вам тое, пра што вы марылі шмат гадоў, а потым паказалі б — і адразу аднялі… Напэўна, тады б вы таксама, як і я, без сіл апусціліся б на першае, што патрапілася (у маім выпадку гэта быў нейкі дэкаратыўны валун, паросłы мохам), ледзь стрымліваючы слёзы. Якое гора, якое няшчасце, я знайшла адрас, прыехала, заспела яго дома — а ён мала таго, што страціў памяць, дык яшчэ і зусім выжыў з розуму!

Але ўсё аказалася яшчэ горш.

Сэр Лемюэль Грымсвотн быў мёртвы.

— Мне здаецца, я здагадваюся, што ўвяло вас у зман, — сказаў ён разгублена. — Маё імя. Ведаеце, я не той, каго вы шукаеце. Я не сэр Лемюэль Грымсвотн. Дакладней, я сэр Лемюэль Грымсвотн, але не той. Я яго праўнук. Мяне і назвалі ў яго гонар гэтым недарэчным старадаўнім імем. А прадзед памёр вельмі даўно…

Я сядзела, агаломшаная гэтай весткай, а мой суразмоўца ўсё распавядаў і распавядаў пра тое, што прадзед адпісаў яму дом, што ён жыве тут адзін, імкнецца дагледаць за садам, а вось прыбіраць не хапае часу, і таму ён пакінуў сабе два пакоі, а астатнія замкнуў, і там ужо, напэўна, пылу па калена…

Сэр Лемюэль Грымсвотн-малодшы, дазвольце мне называць яго так, аказаўся вельмі прыязным і чулым маладым чалавекам. Ён не здолеў суцешыць мяне (ды і хто б здолеў?), але цярпліва дачакаўся, пакуль я апрытомнею, пасля чаго запрасіў у дом, напаіў гарбатай, забаўляў гутаркамі пра надвор'е ды садоўніцтва і старанна прыкідваўся, што не заўважае майго забітага выгляду. А мне так хацелася плакаць!

Мая сястра Аліса, захлынаючыся слязьмі, толькі прыгажэе: скура свеціцца, становіцца ружовай, вочы робяцца з шэрых ярка-блакітнымі і блішчаць — залюбуешся. Я ж, паплакаўшы, больш за ўсё нагадваю вараны бурак. Звычайна мяне гэта мала турбавала, бо, нават калі б мой твар стаў фіялетавым у жоўты гарошак, усё адно б ніхто не заўважыў. Але цяпер сэр Лемюэль Грымсвотн-малодшы глядзеў на мяне так, быццам яму і праўда са мной цікава, і мне, як ніколі, хацелася быць калі не прыгожай, то хоць бы не агіднай. І я гераічна стрымала слёзы.

— Якое ў вас лёгкае вясновае імя, — сказаў ён, мабыць, спадзеючыся зрабіць мне прыемнае.

Ды ўжо ж, прыемней няма куды. Не ведаю, пра што думаў мой бацька, калі называў мяне Дэйсі Мэй. Майская кветачка. Стакротачка. Ведаю толькі, што палову вартавых сабак, як і дойных коз, у нашай акрузе клічуць роўна гэтак жа. Ідзеш па дарозе, а на абочыне твае цёзкі пасвяцца. І калі шпацыруеш па прадмесцях не ў адзіночку, а з сёстрамі ды іх кавалерамі, то абавязкова якая-небудзь цётка зычна раўне на ўсю вуліцу: «Фані, ты падаіла Дэйсі Мэй?» ці з чужога двара данясецца зласлівае гырканне і вокрык: «Дэйсі Мэй, годзе ганяць курей, а то зноў на ланцуг пасаджу!» Самыя выхаваныя і прыстойныя кавалеры Эмы, і тыя ў падобных выпадках не маглі стрымаць смяшок, скоса пазіраючы на мяне.

— Ваша імя таксама не са звычайных, — ветліва адказала я.

Ён чмыхнуў.

— Так, мае продкі верылі ў значнасць імёнаў. Славесная магія, ну, вы разумееце, — і ён зрабіў магічныя рухі рукамі. — Маё імя — гэта волаты, генералы і нават адзін вулкан.

Калі гарбата была дапіта, а твар мой вярнуўся ад надзвычайнай бледнасці да звыклага адцення жытнёвага блінчыка, сэр Лемюэль праводзіў мяне на гандлёвую вуліцу, а потым на станцыю, і я паспяхова прывезла дахаты пэндзлі з вавёрчынага хваста, адрэз ільнянога палатна, спецыі, прысмакі… і велізарны цяжкі камень на душы.

Калі не можаш змяніць сваё жыццё — прымі яго такім, якое яно ёсць. Трыццаць гадоў я жыла спакойна, зміры́ўшыся са сваёй доляй, разумеючы, што нічога не змяніць. У мяне добры характар, я заўсёды імкнуся вывернуць любую сітуацыю на добры бок. Але цяпер у майго жыцця з'явіліся два левыя бакі. Як ні круці — усе вузлы наверх…

**Частка 6**

Прайшоў тыдзень ці два. Я старанна цягала на душы свой каменьчык — ён не станавіўся лягчэй, але паступова я прывыкла да яго. Сям'я нічога не заўважыла, бо я не дазваляла сабе рыдаць на людзях ці скардзіцца. Я раскладвала сукенкі для Эмы, давязвала апошнюю пару шкарпэтак з прабабуліных клубочкаў, дапамагала бабулі палоць градкі з морквай і сушыць на зіму кроп.

Яшчэ я пазіравала Алісе, якая раптам пастанавіла стаць выбітным партрэтыстам. Не ведаю, як твары, а жытнёвыя блінцы атрымліваліся ў яе нядрэнна, гэта стала зразумела пасля першага ж майго партрэта, а ўсяго яна напісала іх пяць. Так, напісала, ніколі не кажыце мастаку, што ён «малюе», вы рызыкуеце нанесці яму смяротную крыўду. Мастакі пішуць. Нават калі іх творы больш за ўсё нагадваюць пярэсты дыван, на які хтосьці перакуліў паднос з кавай, джэмам і яечняй, лепш памаўчыце і паківайце з глыбакадумным выглядам, і тады вы застанецеся ў добрых адносінах. Вам жа ўсё роўна, а чалавеку прыемна.

Неяк за сняданкам цётка Аўгуста праглядала пошту. Штодня яна атрымлівала мноства лістоў ад сяброvak. Гэта былі запрашэнні на каву, паштоўкі з паездак на воды, шматстаронкавыя апісанні нечых вяселляў і хрэсьбін, выкрайкі модных блузак, рэцэпты страў. Нікому, акрамя яе, лісты не прыходзілі, таму яна машынальна разразала адзін канверт за другім, нават не гледзячы на адрасата. І раптам дзесьці паміж аўсянкай і булачкай з маслам цётка Аўгуста сказала: «Вой!» — і мы ўсе паднялі галовы ад талерак.

— Дэйсі, ты не казала мне, што чакаеш ліст, — сказала цётка Аўгуста абвінавачвальным тонам і працягнула мне адкрыты канверт. Не ведаю, паспела яна прачытаць увесь ліст цалкам ці толькі першыя радкі, але да канца сняданку яна раз-пораз паглядала на мяне з сумессю здзіўлення і дакору. Нават не ведаю, чым яна была незадаволена больш: тым, што трапіла ў няёмкае становішча, прачытаўшы чужы ліст, тым, што яе падчарцы піша нейкі падазроны ананім, ці тым, што змест ліста быў загадкавым і незразумелым, а выхаванне не дазваляла цётцы накінуцца на мяне з пытаннямі. У такія моманты я выразна адчуваю, што я ёй не родная. З Алісы ці Эмы яна б усю душу вытрасла, не чакаючы канца сняданку.

«Мілая Дэйсі, — пісаў сэр Лемюэль Грымсвотн-малодшы, — прайшло ўжо шмат часу з моманту нашай сустрэчы, а я бесперастанку думаю пра вас. Учора я перабіраў сямейны архіў і знайшоў адну надзвычай цікавую паперку. Буду рады, калі вы наведаеце мяне ў любы зручны для вас час і азнаёміцеся з гэтым дакументам. Магчыма, у ім змяшчаецца менавіта тое, што вы шукаеце. Нямышы перадаюць прывітанне і махаюць лапкамі. Ваш пакорлівы слуга Л.».

Я перачытала ліст тройчы, потым успомніла пра астылую гарбату. Усё сямейства глядзела на мяне. Вось так, дзякуючы сэру Лемюэлю-малодшаму, я стала крышачку бачнай.

Вядома, мне было да смерці цікава, што ж такое адшукаў у прадзедавых паперах сэр Лемюэль. Адрас злога чараўніка, які заваражыў мяне? Рэцэпт здабыцця бачнасці? Карту, на якой крыжыкам пазначана сакрэтнае месца, дзе закапана бутэлечка з патрэбным мне зеллем? А можа, фатаграфію прабабулі і прадзеда, дзе яны дружна паказваюць языкі і дражняцца?

Я ўзяла сябе ў рукі. Хопіць! Я больш не дазволю сабе адчуць надзею, каб потым ізноў не парэзаць рукі, збіраючы аскепкі пабітай мары. Гэтак па-мастацку разважаючы, я прыбрала ліст у скрыню з рукадзеллем і стала жыць далей. І толькі праз два тыдні, калі цётка Аўгуста з дочкамі паехала на нечы дзень нараджэння, я апавясціла

бабулю, што адпраўляюся ў Млынавы Раўчук за пакупкамі. Я і праўда збіралася набыць трохі тасьмы і чарніл, так што зусім не хлусіла. Можа быць, і бабулі купіць чаго-небудзь? Шкіпінару, дзёгцевага мыла ці, магчыма, піва для смоўжавых пастак?

Бабуля пакруціла галавой.

— Я б не раіла табе звязвацца з гэтымі Грымсвотнамі, — сказала яна пахмурна. — Нічога добрага ты ад іх не дачакаешся.

Я прамаўчала. Тое, што бабуля не любіць Грымсвотна-старэйшага, я ўжо зразумела. Цяпер выявілася, што яе нелюбоў распаўсюджваецца на ўсё сямейства. Сямейства ведзьмака. Цікава, можа, і праўнук зарабляе тым жа, проста мне не прызнаўся? Ды я ж і не пыталася…

**Частка 7**

У гэты раз я спачатку справіла пакупкі і на Самшытавай вуліцы з'явілася ўжо з пакункамі. І чым бліжэй падыходзіла да дому, тым больш гэта месца зноў здавалася мне знаёмым. Быццам я бывала тут шмат разоў.

Дзіўна, але сэр Лемюэль-малодшы сапраўды чакаў майго візіту. Чыста паголены, прычасаны, у свежай кашулі, ён сустрэў мяне ля брамкі і паведаміў, што ўбачыў маё набліжэнне ў падзорную трубу.

— Ледзь паспеў спусціцца з грушы! — сказаў ён радасна.

— З грушы? — перапытала я. У нашай сям'і ніхто не лазіць па дрэвах, і я крыху разгубілася, не разумеючы, жартуе ён ці гаворыць сур'ёзна.

— Ну так, — ён паказаў рукой у сад, — калі ўзлезці на верхнія галінкі, можна ўбачыць усю Самшытавую вуліцу і кавалачак Галоўнага праспекта. Наогул, я правяраў гняздо мазгаклюя, ці не вылупіліся яшчэ птушаняты. А заадно і прасторы акінуў вокам, прадзедаву трубу трэба час ад часу выводзіць пагуляць. Вы ішлі павольна. Напэўна, у вас цяжкія пакупкі ці каменьчык нацёр нагу?

Пакупкі былі няцяжкія, але не распавядаць жа яму пра мой каменьчык? Таму я прамаўчала і загадкава ўсміхнулася. Гэты ўрок я засвоіла з ранняга дзяцінства, калі дарослыя невыразна ўсміхаліся ў адказ на мае няёмкія пытанні.

— Я так рады, што вы знайшлі час і выбраліся ў дарогу, — казаў сэр Лемюэль-малодшы, адчыняючы перада мной парадныя дзверы. — Ведаеце, наша гутарка не выходзіла ў мяне з галавы. Каюся, я нават распавёў пра вас маёй матухне. Не, не хвалюйцеся, — выклікнуў ён, заўважыўшы маё хваляванне, — я распавёў усё самае лепшае пра вас! І мая матухна сказала, што калі вы шукалі прадзеда, то, відавочна, вам і праўда вельмі патрэбна дапамога. Я быў зусім немаўлём, калі прадзед памёр, і, на жаль, дрэнна яго памятаю. Але мама распавяла мне шмат чаго. Ён дапамог стольkім людзям! Пагалоска пра яго чароўныя зеллі разышлася далёка па краіне, і амаль кожны дзень да яго прыязджалі людзі ды казалі гэтак жа, як і вы: «Сэр Лемюэль, толькі вы можаце мне дапамагчы!» І ён дапамагаў! Мама нават паказала мне кнігу з падзякамі.

Яго вочы гарэлі.

— Хацеў бы я прыносіць гэтулькі дабра, колькі мой прадзед, — сказаў ён з пачуццём.

— Вы казалі пра нейкую важную паперу, — нагадала я. Мне не цярпелася стаць адной з тых, каму дапамог сэр Грымсвотн-старэйшы. Я нават ведала, якую падзяку пакінула б у той кнізе. «Рабіць дабро нават пасля сваёй смерці — ці не гэта сапраўднае чараўніцтва?!»

— Так! — Лемюэль пляснуў сябе па лбе. — Прабачце, Дэйсі, я жудасна рассеяны. Вось учора я выліў малако ў цукарніцу, размяшаў і выпіў палову, перш чым адчуў, што ў маёй ранішняй кавы нейкі дзіўны смак…

— Чым жа вы былі так захоплены ў гэты момант? — не стрымалася я.

— Ды быў заняты сім-тым, — унікліва адказаў ён і, быццам не жадаючы працягваць гутарку, выйшаў з пакоя, але неўзабаве вярнуўся, трымаючы ў руках канверт.

— Вось ліст, пра які я вам паведаміў. Я не чытаў яго. Думаю, гэта было адрасавана вашай прабабулі, але не адпраўлена па нейкіх прычынах…

На канверце ўжо знаёмым мне вытанчаным дробным почыркам было выведзена: «Дэйсі Мэй». Так, мяне назвалі ў гонар прабабулі. Спадзяюся, ёй гэта было прыемна. Лягчэй змірыцца з дурасцю ўласнага імя, калі ведаеш, што яно пацешыла кагосьці.

«Мілая Дэйсі, — пісаў сэр Лемюэль-старэйшы, — у мяне з галавы не выходзіць твая маленькая праўнучка. Мне здаецца, ты залішне драматызуеш, тысячы людзей жывуць з падобнай «праблемай» (бачыш, я нават узяў гэта слова ў двукоссі), і жывуць шчасліва, прымаючы сваю асаблівасць не як пакаранне, а як цудоўны дар, які адрознівае іх ад іншых. Канешне, любым дарам трэба ўмець распарадзіцца. І калі ты лічыш, што для тваёй праўнучкі будзе лепш стаць звычайнай, як усе, — я паспрабую ёй дапамагчы. Няўпэўнены, праўда, што яна сама папрасіла б у мяне дапамогі, але яна яшчэ занадта малая, каб зразумець штосьці сур'ёзнае пра сябе, сваю знешнасць і сваё жыццё. Дык вось, Дэйсі, я перакапаў свае старыя кнігі і ў «Самых дзейсных сродках» знайшоў тое, што трэба, на старонцы 87. Рэцэпт пісаць табе не буду, бо, як ты ведаеш, ніколі не дзялюся сакрэтамі свайго майстэрства, асцерагаючыся паштовых шпіёнаў. Да таго ж ты сама ў хатніх умовах не зробіш гэтае зелле. Да твайго наступнага візіту яно будзе гатова, і я прыхаваю яго ў тую патаемную шуфляду сакрэтніка, якую паказваў табе ў мінулы раз. Калі цяпер хтосьці іншы чытае гэты ліст, ён будзе вельмі азадачаны. Таму што знайсці патаемную шуфляду ў сакрэтніку — гэта проста, а вось знайсці сакрэтнік у маім доме — значна складаней. Магчыма, усе гэтыя засцярогі залішнія, але я менш за ўсё хачу, каб мае кнігі і сшыткі з рэцэптурай, таямніцамі і хітрасцямі майго рамяства патрапілі ў чужыя рукі. Я люблю сваю справу, гэта сапраўднае мастацтва. Іншыя ж проста спрабуюць нажыцца, усяляючы ў людзей надзею і абяцаючы ім цуды да нябёсаў і чароўныя ператварэнні за адну ноч. Зрэшты, усё гэта старэчае бурчанне ты чула тысячу разоў, не буду цябе стамляць. Прывітанне ад завяртушак, яны нудзяцца, бо даўно ніхто іх не чухаў за вушкам. Твой пакорлівы слуга Л.».

Праўнук і прадзед заканчвалі свае лісты аднолькава, і гэта выклікала ў мяне ўсмешку, хоць у астатнім усміхацца не было падстаў.

Стары чараўнік збольшага меў рацыю: любую ўласцівасць свайго характару можна, умеючы, зрабіць як страшэннай заганай, так і адметнай асаблівасцю, разыначкай, рыскай, што па-майстэрску завяршае партрэт. Мая цётка Аўгуста ніколі не магла адрозніць вяз ад ясеня, ляўконію ад петуніі, і не саромелася, наадварот, заяўляла пагардліва, што яна не садоўнік, каб разбірацца ва ўсёй гэтай пятрушцы. Пры бабулі яна, вядома, не выказвалася, пакідаючы свае разважанні для сяброўак. Бабуля, у сваю чаргу, ганарылася тым, што ніколі не насіла туфлі на абцасах і за ўсё жыццё ні разу не нафарбавала вусны ці вейкі, бо лічыла гэта дурасцю і распушчанасцю. Вядома, яна пазбягала казаць так пры цётцы Аўгусце і яе гасцях, якія з захапленнем абмяркоўвалі модныя навінкі, туш без камячкоў ці памаду, якая не пакідае слядоў. Кожнаму сваё. Эма выхвалялася тым, што ледзь-ледзь прачытала тры кнігі са школьнай праграмы. Аліса пры кожным выпадку распавядала, як спаліла патэльню з яечняй і сапсавала вараную бульбу, ператварыўшы яе ў смажаную.

Магчыма, і мне варта было б знайсці нешта выдатнае ці, прынамсі, смешнае ў сваім жыцці. Але я кручу так і гэтак маю нябачнасць, углядаюся дапытліва — і не магу заўважыць нічога добрага. І калі б сэр Лемюэль Грымсвотн-старэйшы спытаў мяне, ці хачу я стаць такой, як усе, я запляскала б у ладкі і закрычала насуперак усім добрым манерам: «Так, ТАК!!!»

— Усё ў парадку? — асцярожна спытаў сэр Лемюэль-малодшы, калі я адарвала погляд ад ліста і прынялася недалікатна азірацца па баках, разглядаючы мэблю ў гасцінай. Вядома, чароўнаму эліксіру ўжо шмат гадоў, але калі корак прыкруцілі шчыльна, то чараўніцтва магло і не вытхнуцца...

— Сэр Лемюэль, — прагаварыла я бездапаможна, — вы выпадкова не бачылі ў гэтым доме сакрэтнік?

Наступныя тры гадзіны мы патрацілі на пошукі. Дом Грымсвотна-старэйшага быў быццам бы і невялікім, але вельмі змястоўным. Мы прачасалі абодва паверхі, гарышча і вінны склеп, прастукалі сцены, але патаемнага пакоя не знайшлося. Мы адшукалі вазоны з засохлымі фікусамі, пастку з зацвілым сырам, нядрэнныя запасы тытуню і калекцыю курыльных трубак. Выявілі на падлозе ў бібліятэцы сляды невядомых звяроў, можа, нават тых самых завяртушак, пра якіх згадвалася ў лісце. Мы запэцкаліся ў пыле і разачхаліся як чэрці, ледзь не праваліліся ў падмосце, неяк неўзаметку перайшлі на ты, і я перастала зваць Лемюэля сэрам, а ён замест «мілая Дэйсі» стаў казаць «Дэйсі, мілая», што чамусьці гучала зусім па-іншаму. І ўсё было б добра, вось толькі сакрэтнік мы так і не знайшлі.

Лемюэль быў цудоўна выхаваны. Ён не пытаў мяне, што я шукаю. Ён не чытаў ліст, адрасаваны маёй прабабулі, і не дазнаваўся, пра што там гаворка. Ён проста спрабаваў дапамагчы мне, як мог, хоць іншы на яго месцы даўно палічыў бы мяне вар'яткай і выставіў прэч з дому. Але толькі не Лемюэль. Прызнаюся вам, часам ён так жаласліва глядзеў на мяне, што мне бачылася ў яго поглядзе нешта большае, чым спачуванне да непрыгожай і немаладой дзяўчыны, якая шукае незразумела што. З іншага боку, можа, ён проста меркаваў, ці будзе прыстойным парэкамендаваць мне талковага псіхіятра ці талковы псіхіятр мне, бесталковай, нічым не дапаможа? Якое шчасце, што я не ўмею чытаць думкі, бо, баюся, я не прачытала б пра сябе нічога добрага.

### Частка 8

Я паехала дахаты засмучаная. А праз два дні зноў атрымала ліст. Гэтым разам цётка ўручыла мне яго яшчэ да сняданку, і ён не быў разрэзаны.

«Дэйсі, спяшаюся падзяліцца з табой радаснымі навінамі! — пісаў мой пакорлівы слуга Л. паспешным почыркам, так не падобным на акуратны почырк яго прадзеда. — Я распытаў матухну, і яна ўзгадала, што сакрэтнік у прадзедавым доме быў, і, ты ўяўляеш сабе, быў нават патаемны пакой. Мы з табой прашляпілі яго, хоць пра яго ведалі ўсе родныя, туды ўпотай хадзілі паліць мае дзядзькі і бацька, калі былі ў юным узросце, а мая цётачка Генрыета, хто б мог падумаць, нават цалавалася там з адным кавалерам, калі яшчэ вучылася ў школе. Менавіта там на гнутых ножках стаяў сакрэтнік з чырвонага дрэва ў стылі барока, прадзед часта пісаў за ім лісты. Дык вось, пасля яго смерці дом адышоў мне, як самаму многаабяцальнаму спадкаемцу па мужчынскай лініі, а астатнім сваякам было дазволена ўзяць любую рэч на памяць. І яны не разменьваліся на дробязі! Сакрэтнік павезла да сябе цётачка Мод. Ні пра якую патаемную шуфляду матухна мне не сказала, а яна абавязкова распавяла

б, калі б ведала, з чаго я раблю выснову: шуфляда ўсё яшчэ захоўвае сваю таямніцу. Цётачка Мод жыве ў Млынавым Раўчуку, і я ўваходжу ў лік яе любімчыкаў, таму мы зможам нанесці ёй візіт у любы зручны для цябе дзень без папярэдняй дамоўленасці, цётачка цяжкая на нагу і не ездзіць па гасцях, а прымае іх у сябе. Прыязджай, мне не церпіцца вытрыбушыць сакрэтнік і даведацца нарэшце пра тваю страшную таямніцу».

Чытаючы ліст, з гэтымі доўгімі таропкімі фразамі і незлічонымі коскамі, я нібы чула паспешлівы голас Лема. Спадкаемцы, цётачкі, таямніцы, — з якой цікаўнасцю ён разведваў уласную сямейную гісторыю, і якімі пацешнымі падрабязнасцямі была яна поўная. Я не стрымала ўсмешкі. І гэта ўсмешка, напэўна, дала нагоду маёй цётцы і сёстрам пляткарыць пра мне. «Мая падчарка атрымлівае лісты ад невядомага нам мужчыны з іншага горада», — выдатная тэма для плётак, калі б не кідала цень на ўсё сямейства. Я была ўжо занадта дарослай для выхаваўчых гутарак, таму цётка з маўклівым неўхваленнем назірала, як я збягаю ўніз па сходах і, не лічачы патрэбным больш прыкідвацца, паведамляю ўсім, што еду ў Млынавы Раўчук па важных справах. Прызнаюся шчыра, я цешылася не толькі таму, што таямнічае зелле вось-вось зробіць мяне бачнай і прыкметнай, але і таму, што зноў убачу Лемюэля. І слова гонару, ён таксама быў рады мяне бачыць, ён сустрэў мяне на аўтобуснай станцыі і мы адразу адправіліся да цётачкі Мод.

Цётачка Мод аказалася ветлівай карпулентнай дамай нявызначанага ўзросту. Вы заўважалі, што худыя жанчыны ў старасці пакрываюцца сетачкай маршчын, як старадаўнія кітайскія вазы, а поўныя застаюцца пры гладкай скуры, як туга набітыя пухам падушачкі? Цётачка Мод уся складалася з падушачак, вобразна кажучы. І ўвесь у падушачках быў яе дом. Калі б існавалі вымяральнікі ўтульнасці, што ацэньвалі б інтэр'ер па ступені напоўненасці котачкамі, ружачкамі, рушачкамі, то ў доме цётачкі Мод такой утульнамер ашалеў бы, зашкаліў і назаўжды сапсаваўся. Але, увогуле, кароткачасовы візіт да гэтай дамы не мог нанесці сур'ёзнай шкоды чалавеку са здаровай псіхікай.

Цётачка сустрэла нас гарачымі абдымкамі. Пахла ад яе таксама, як ад утульнай і старадаўняй канапавай падушачкі — трохі кававым зернем, трохі зляжалай тканінай, трохі кніжным пылам, і да ўсяго гэтага прымешваўся цяжкаваты і салодкі пах прагорклых ад часу духоў. Нас правялі ў гасціную, пасадзілі на мяккую пульхную канапку, абклалі падушачкамі, сунулі пад ногі зручныя пуфы і прыняліся разглядаць. Для бессямейных пажылых людзей візіт маладога пляменніка з'яўляецца вялікай падзеяй, а ўжо калі гэты пляменнік прыводзіць з сабой незнаёмую дзяўчыну…

— Якія вы лапачкі, успомнілі пра старую цётачку Мод, — ціўкала яна, разліваючы гарбату па ўзорыстых кубачках і прысоўваючы да нас бліжэй цукерніцы і бісквітніцы, поўныя разнастайных страў. — Ах, Лем, дзетка, я ж памятаю цябе зусім малюсенькім, вось такусенькім, — і яна паказала вялікім і ўказальным пальцамі нешта, што памерамі нагадвала багоўку.

— Аднойчы ён запоўз пад стол, каб дастаць мячык, а потым падняўся на ногі і выцяўся галавой аб стальніцу, — звярнулася яна да мяне. — Як ён рыдаў, небарака! Мне давялося падарыць яму свой скураны футляр для акуляраў, ён любіў гуляцца з ім, ты памятаеш, Лемюэль? — зарагатала цётачка, як сава. — Ён трымаў у маім футляры жукоў-ванючак!

Лемюэль усміхаўся, чакаючы зручнага моманту, каб завесці гаворку пра сакрэтнік.

— Дэйсі, у вас ёсць браты ці сёстры? — тым часам дапытвалася цётачка. — Сёстры? Гэта цудоўна. Калі ў сям'і шмат дзяўчынак, яны вырастаюць умелымі

гаспадынямі, і старэйшыя могуць навучаць малодшых розным жыццёвым прамудрасцям, пакуль маці занята.

Бачыла б яна Алісу, падумалася мне.

— Вы ведаеце, Дэйсі, няма большага шчасця на зямлі, чым сям'я, — працягвала вухкаць цётачка Мод. — Я так рада, што дажыла да вяселля Лема. Ён мой любімчык, але такі педантычны і пераборлівы. Я ўжо думала, што ён ніколі не ажэніцца!

— Вяселле? — перапытала я здзіўлена і зірнула на Лемюэля, а ён (якая прыкрасць!) адвёў вочы, нібы яму было няёмка, што ўтаіў такі важны факт ад мяне.

— Спачатку я памкнулася была да краўца, — працягвала цётачка, — падумала замовіць новую сукенку. Але з іншага боку, тую глазетавую, з палярынкай, я апранала толькі два разы. Ах, Дэйсі, я люблю вяселлі, а вы?

Мне давялося прамямліць, што і я люблю іх таксама. Хоць насамрэч я цярпець не магу вяселлі. Можа, таму, што пышнае святкаванне ператвараецца потым у аднастайныя будні, і, гледзячы на сямейныя пары розных узростаў, што часта бываюць у нашым доме, я ніяк не магу зразумець: куды знік той бляск вачэй, тая святочная прыўзнятасць, чаму нядаўна ён насіў яе на руках і ўхутваў сваім шалікам, а сёння строга вымаўляе праз лішнюю лыжку цукру ці мізэрную пераплату за ваду, а яна глядзіць на яго з нянавісцю, калі ён павучальным тонам пачынае напышліва распавядаць прысутным, як трэба правільна выхоўваць дзяцей… Можа, я разважаю пастарэчы, але мне і сапраўды здаецца, што вяселле — наскрозь фальшывая падзея, дзе сталыя госці, што ўжо ведаюць праўду, прыкідваюцца, як могуць, каб не засмуціць наіўных маладых, якія лічаць, што менавіта ў іх усё абавязкова складзецца інакш… А можа, уся справа ў тым, што да нас — у дом цёткі Аўгусты — не прыходзяць па-сапраўднаму шчаслівыя пары?

— Нявесты заўсёды такія прыгожыя, — цётачка Мод уздыхнула. Мабыць, яна таксама падумала пра тое, што сама ніколі не была нявестай, што ўся гэта прыгожая частка жыцця мінула яе. А магчыма, скеміла, што бестактоўна размаўляць пра вяселле ў прысутнасці векавухі. — У мяне ўжо гатовы падарунак, — перавяла яна гутарку на іншае. — Выдатны дарожны несэсар, старадаўні, яму кошту няма.

Потым яна пагаварыла яшчэ пра падарункі, пра вясельныя торты, пра сяброўак нявесты, якія не павінны быць ні прыгажэйшымі, ні вышэйшымі за маладую, і ў момант, калі цётачка ўспамінала пра маску для твару, якая надае ззянне нават праблемнай скуры (яна кінула на мяне поўны спачування позірк), Лемюэль не вытрымаў і ўставіў зусім не да месца:

— Дарэчы, пра маскі для твару, цётачка Мод, гэта ж вы забралі сабе той стары прадзедавы сакрэтнік з чырвонага дрэва? Я абяцаў Дэйсі паказаць яго, там вельмі цікавы ўзор на шкле.

— Так, так, — заківала цётачка, — ён у кабінеце. Я нічога там не чапала, нават у шуфляды не зазірала, толькі час ад часу выціраю пыл.

Мы з Лемюэлем падняліся і прайшлі ў кабінет. Прызнаюся, у мяне было цяжка на сэрцы. Я паспела прывязацца да гэтага сімпатычнага маладога чалавека і цяпер адчувала сябе ашуканай. Вяселле! Якое шчасце, што я не паспела закахацца.

— Не ведала, што ты збіраешся ажаніцца, — сказала я яму, калі дзверы кабінета адгарадзілі нас ад цётачкі Мод.

— Не паспеў табе сказаць, усё неяк выпадак не трапляўся, — вінавата адказаў ён. — Прабач.

Ёсць людзі, на якіх немагчыма сердаваць. Яны робяць розныя непрыемныя рэчы, а потым па-анёльску пакорліва прызнаюць свае памылкі, складваюць бровы домікам, трапечуць крылцамі і напускаюць на сябе журботны выгляд, так што табе

даводзіцца яшчэ і суцяшаць іх, хоць пацярпеў менавіта ты. Не, Лемюэль не зрабіў нічога заганнага, ён і не абавязаны быў паведамляць пра свае матрыманіяльныя намеры практычна незнаёмай дзяўчыне, якую бачыць трэці раз за жыццё. Але ўсё адно я адчувала сябе кепска.

— Прымі мае самыя шчырыя віншаванні, — прагаварыла я. — Спадзяюся, вы будзеце шчаслівыя.

— Я ў гэтым цалкам упэўнены, — усміхнуўся ён сваёй самай шырокай усмешкай. — А цяпер давай пяройдзем ад цырымоній да справы і возьмемся за пошукі? Прынята лічыць, што маладым людзям, не злучаным вузамі шлюбу, нельга знаходзіцца без нагляду старэйшых. Цётачка Мод і пяці хвілін не высядзіць у гасцінай.

Ён меў рацыю. І тактоўна нагадаў, навошта наогул прывёў мяне, чалавека з вуліцы, у дом сваёй блізкай сваячкі, навошта марнаваў свой час, дапамагаючы шукаць, як у казцы — «тое, не ведаю, што». І мы сталі пастукваць і прашчупваць, рыпець і шамацець у пошуках патаемнай шуфлядачкі.

І мы яе знайшлі.

Лемюэль дастаў з кішэні прыгатаваны загадзя сцізорык, і праз імгненне тайнік быў раскрыты.

Вось толькі ніякай бутэлечкі з чароўным зеллем там не аказалася. Шуфлядачка была пустой.

Мы засмучана глядзелі на гэту пустэчу, не ведаючы, што сказаць адно аднаму, і тут у кабінет уплыла цётачка Мод.

— А, вы знайшлі схованачку, — сказала яна, і стала зразумела, што цётачка Мод усё ж не так абыякава ставілася да атрыманай спадчыны, як хацела нам паказаць. — Магу вас расчараваць, тайнік быў пустым. Ну, практычна.

— А што там было?! — выклікнулі мы з Лемам у адзін голас.

— Нейкі старажытны ржавы ключ, — паціснула плячыма яна.

— І ты, зразумела, выкінула яго, цётачка Мод? — ненатуральна абыякавым галасам спытаў пляменнік.

— Здаецца, не, — гэтак жа знарок абыякава адказала цётачка.

— А маглі б мы на яго зірнуць? — не вытрымала я. І цётачка не адмовіла госці.

Кожная жанчына — і маладая, і пажылая — абавязкова з'яўляецца ўладальніцай «куфэрка са скарбамі». Гэта можа быць і круглая кардонка ад капелюша, і бляшаная банбаньерка з пашараваным малюнкам на вечку, і ёмістая скрыначка для рукадзелля, і нават плецены кошык для пікнікоў. Усярэдзіне звычайна захоўваецца тое, што, з пункта гледжання іншых, павінна быць неадкладна адпраўлена на сметнік: кіпа старых лістоў, вееры і тэатральныя праграмкі, крыштальныя флакончыкі ад духоў і засушаныя букецікі, перавязаныя стужачкамі, гузікі ад неіснуючых сукенак, пальчаткі без пары, зламаныя брошкі, закамянеласці, якія былі ў мінулым жыцці шакаладнымі і мятнымі дражэ, паштоўкі з пачатым і сапсаваным віншаваннем, парваныя каралі, а таксама ключы, для якіх наўрад ці атрымаецца адшукаць замок.

Пакапаўшыся ў сваім куфэрку, цётачка Мод нарэшце знайшла тое, дзеля чаго мы, уласна, і прыйшлі да яе ў госці. Гэта быў цяжкі старамодны ключ, цяпер такіх ужо не робяць. Тоўстая шырокая бародка, таямнічыя пісьмёны, выгравіраваныя ўздоўж стрыжня, і галоўка ў выглядзе дракона, які кусае сябе за хвост.

— Прыгожы, — прамовіў Лем. — Цікава, якія дзверы ён адмыкае.

— Ён не падыходзіць ні да адных дзвярэй у доме твайго прадзеда, — сказала цётачка Мод, — і ў доме тваіх бацькоў таксама.

Мы здзіўлена ўтаропіліся ў яе. Хто б мог падумаць! У цяжкай на нагу даме, аказваецца, не згас дух авантурызму!

— Мне проста было цікава, што ж такога каштоўнага ўтойваў бацька, калі ён так схаваў гэту жалязяку, — нібы апраўдваючыся, сказала цётачка. — Але ўсё дарэмна. Гэты ключ ні ад чаго. Можа, з нас проста пакпілі, і ніякіх дзверцаў няма ўвогуле…

Цётачка на здзіўленне хутка пагадзілася аддаць ключ нам. Не ведаю, як у Лема, а ў мяне не выходзіла з галавы карціна: вось цётачка прыходзіць у госці да сваякоў і, спаслаўшыся на мігрэнь ці стомленасць («прылягу ў гасцявым пакоі ненадоўга», «вазьму на кухні шклянку вады; не, што ты, я ведаю дарогу», «пайду папудру носік»), цішком абшуквае дом, спрабуючы адкрыць камоды, шыфаньеры, пісьмовыя сталы, шкатулкі з цыгарамі, дарожныя куфры ў каморы… Я насілу змагла ўявіць яе за гэтым заняткам. Да чаго ж дзіўныя і загадкавыя істоты — людзі. Думаеш, што ведаеш чалавека як аблупленага, а ён такія каленцы выкідвае.

— Так і ўяўляю сабе, як яна блукае па закінутым прадзедавым доме і калупаецца ў замках, — прагаварыў Лем, калі праводзіў мяне на аўтобусную станцыю. — Хто б мог чакаць такое ад Падушачкі Мод!

Мабыць, на маім твары штосьці прамільгнула, таму што ён паспяшаўся апраўдацца:

— Я не казаў табе, «Падушачка» — гэта сямейная мянушка цёткі з самага дзяцінства. Яна сама яе ведае і не крыўдуе. Гэта прадзед так празваў яе. Яна была самая кругленькая з усіх дзяцей і засталася такой дагэтуль.

— Ты шмат чаго мне не казаў, — сказала я ціха.

— Дэйсі, — ён узяў мяне за руку, — хопіць крыўдзіцца на мяне. Падумаеш, я не згадваў пра вяселле. Што добрага ў гэтых вяселлях? Цярпець іх не магу!

— Я таксама, — сказала я і забрала ў яго сваю руку. Не хапала яшчэ, каб пайшлі чуткі. Мала таго, што я векавуха, дык яшчэ пачнуць казаць, што жаніха з-пад вянца звесці жадаю. Як добра ўсё-ткі, што я даведалася пра яго хуткае вяселле цяпер, пакуль яшчэ магу справіцца са сваімі пачуццямі і не даць сімпатыі перарасці ў нешта большае.

Здаецца, яшчэ магу.

**Частка 9**

Мае дамашнія праводзілі мяне вачыма, калі я вярнулася і без адзінага гуку прайшла ў свой пакой, дзе і правяла вечар, не спусціўшыся на вячэру. Наступныя некалькі дзён я была яшчэ больш маўклівай, чым звычайна. Мяне не чапалі, не распытвалі, але я адчувала трывожную і цікаўную ўвагу. Хвалявалася бабуля. Яна, якніяк, гадавала мяне з самага маленства, і, нягледзячы на сваю штучную суровасць, вельмі мяне любіла, а строга ставілася таму, што хацела з дзяцінства загартаваць і прызвычаіць да няпростага жыцця. Што ж, бабуля, мабыць, я з тых персон, хто вучыцца выключна на сваіх памылках…

Цётка Аўгуста і сёстры не перажывалі за мяне, але ім было вельмі цікава, куды ж я ездзіла і што за мужчына піша мне ліст за лістом. Так, я атрымала яшчэ некалькі лістоў ад Лемюэля. Прачытала іх усе: спадзявалася, што ён знайшоў дзверцы з драконамі, за якімі хаваецца самы дзейсны сродак са старонкі 87. Але не, Лем нават не згадваў пра ключ. Пісаў усялякае глупства пра нямышаў, у якіх нарадзіліся нашчадкі, пра мазгаклюя, што выседжваў птушанят на старой грушы, пра завяртушак, якія зноў пакінулі сляды ў пыле, — пэўна, намякаюць, што нядрэнна б прыбрацца. Усе гэтыя выдумкі перамяжоўваліся ўспамінамі пра нашы сустрэчы, але таксама нейкім дзіўным чынам. «Ты вельмі спадабалася цётачцы Мод, — пісаў ён, напрыклад. —

Яна кліча цябе ў госці і хоча падарыць сваё футравае манто, пакуль яго яшчэ не з’ела моль. Я цалкам яе падтрымліваю. Упэўнены, ты разбярэшся з падарункам значна лепш за моль. Зрэшты, калі ты вырашыш усё ж з’есці гэта футра, мы з цётачкай не будзем перашкаджаць, у кожнага свае дзівацтвы, і трэба ставіцца да іх паважліва». Яшчэ ён згадваў пра сваё хуткае вяселле: «Я абую цёмна-фіялетавыя туфлі з вострымі мысамі, а ў пятліцу ўстаўлю ранункулюс. Як ты думаеш, вясельны букет з ружовых ранункулюсаў — гэта не занадта задзірліва? Мая нявеста вельмі строгіх правіл, і як бы мне не атрымаць гэтым букетам па галаве».

Не ведаючы, што пісаць у адказ на такія лісты, я не пісала зусім. І не хацела болей прыязджаць у Млынавы Раўчук, тым больш не збіралася бачыцца з Лемюэлем ды яго цётачкамі і прымаць ад іх падарункі. А абмяркоўваць з ім вяселле зусім не ўваходзіла ў мае планы. Мае планы… Яны былі простымі: сядзець у пакоі, вязаць шаль ці плед — штосьці простае і доўгае, што не патрабуе пільнай увагі — і сумаваць. Мала таго, што я невідзімка, дык яшчэ і няўдачніца. За што ні вазьмуся — нічога не атрымліваецца. Пошукі зайшлі ў тупік, не паспеўшы пачацца, а варта мне было сустрэць сімпатычнага маладога чалавека, як высветлілася, што ён вось-вось ажэніцца. З дзяўчынай вельмі строгіх правіл. Так, Лемюэлю з яго нямышамі ды завяртушкамі, толькі такую дзяўчыну і трэба. Бываюць жа сем’і, дзе ўсім запраўляе жонка, а муж толькі выходзіць на сняданак, абед і вячэру ды займаецца рознымі глупствамі. Сядзіць, напрыклад, на старой грушы ды глядзіць у падзорную трубу…

Стары дом чараўніка не выходзіў у мяне з галавы. Ды і цяжка было забыцца, маючы паўсюль яго выявы. Толькі цяпер, знаходзячыся ў добраахвотным пустэльніцтве ў сваім пакоі, я зразумела, чаму жыллё Лемюэля здавалася мне такім знаёмым. Таму што ўсе дзесяць прабабчыных вышывак у рамках, што віселі ў мяне на сцяне, выяўлялі адное і тое ж месца — дом нумар адзін па Самшытавай вуліцы. Чырвоная дахоўка, сіняя аблупленая палівачка — божа мой, дваццаць пяць гадоў таму яна ўжо была аблупленай! І гэтак жа квітнелі мальвы, і стракацелі клумбы, і драмаў у цені ўкапаны пад грушай кульгавы зэдлічак, і чакала лістоў паштовая скрыня… Сумна і спакойна глядзела на мяне са сцен прабабчына мінулае, прыгожае, ціхамірнае, захаванае на памяць, любоўна вышытае крыжыкам.

Ведаеце гульню «Знайдзі дзесяць адрозненняў»? Я любіла яе ў дзяцінстве — і захапілася цяпер. Я шукала адрозненні на прабабчыных карцінах — і знаходзіла іх. На некаторых вышыўках дом быў не такім, якім бачыла яго я. Кармушка для птушак, дзе выяўляліся сінегаловыя сініцы, гілі ды попаўзні, была занесена снегам, а гэта азначала, што прабабуля бывала на Самшытавай вуліцы і ўзімку. Старая груша была ўся ў кветках — значыцца, прабабуля бывала там увесну. Ганак з крэслам і пледам быў засыпаны жоўтым лісцем, чырванелі ягады рабіны ў вазе — прабабуля бывала там і ўвосень. Я спрабавала ўявіць яе і сэра Лемюэля Грымсвотна-старэйшага, маладых і прыгожых, якія гуляюць па садзе, смяюцца… можа, нават цалуюцца. Няўжо ў іх быў раман? Але ў чараўніка ж была вялікая сям’я, і ў прабабулі — дачка… Як жа так? Няўжо яны сустракаліся таемна?

Я мучылася здагадкамі больш за два тыдні. Мне трэба было ведаць праўду. Як ні круці, прабабуля і сэр Лемюэль-старэйшы — гэта частка маёй сямейнай гісторыі, і так абдзеленай падрабязнасцямі. Я не ведала нічога пра сваю маці, я не ведала нічога пра сваю прабабулю, а пра сваю бабулю — толькі тое, што яна дазваляла мне ведаць. Яна любіць каву, не карыстаецца парфумай, з раніцы да ночы поркаецца з раслінамі ў садзе. Але пра што яна думае дні напралёт, пра што яна марыць, чаго баіцца? І чаму яна так ненавідзіць Грымсвотна? У мяне назапасілася столькі пытанняў! І я не вытрымала.

Бабулю я знайшла ў садзе, яна збірала венгерку ў вялікі кошык. Сёлета было багата сліў і абрыкосаў. Узімку не давядзецца купляць сухафрукты для каляднага кекса. А марынаваныя слівы, о, калі б вы толькі пакаштавалі! Мы падаём іх да мяса, і яшчэ не было выпадку, каб хтосьці з гасцей застаўся незадаволены і не спытаў дабаўкі. Незадаволены ўсе толькі тым, што бабуля адмаўляецца раскрыць рэцэпт. Здавалася б, прасцей простага: воцат, цукар, карыца, гваздзіка, але ў бабулі выходзіць дзівосны соус, у меру востры, у меру кісла-салодкі, тонкі і далікатны, а ў сяброўкі цёткі Аўгусты атрымліваецца то сіроп, то ўзвар, то неядомая кісляціна. Колькі разоў цётка і Эма прапаноўвалі бабулі дапамогу, каб выведаць рэцэпт, але бабуля непахісная. Фамільны сакрэт марынаваных сліў яна згодна перадаць толькі мне. Бачыце, усё-ткі мне ёсць чым ганарыцца.

Згледзеўшы мяне, бабуля нахмурылася. Сарвала яшчэ некалькі сліў і рушыла насустрач. Моўчкі мы прайшлі на кухню. Сталі перабіраць і мыць слівы: якія цвярдзейшыя, тыя марынаваць, самыя сакавітыя — сушыць, а самыя клёклыя ды пераспелыя — на слівавы мармелад. Некаторыя людзі называюць мармеладам мяккія жэлейныя цукеркі, абсыпаныя цукрам. Але ў нашым доме мармелад — гэта густое варэнне, яго можна намазваць на хлеб ці рэзаць пласцінамі і есці з сырам. Слоічак бабулінага мармеладу — жаданы падарунак. Але мы, бессаромныя абжоры, амаль усе бабуліны саленні ды варэнні з’ядаем самі.

— Я разглядала прабабчыны вышыўкі, — сказала я, выцягваючы костачкі са сліў.

— Угу, — кіўнула бабуля рассеяна, адмяраючы цукар для марынаду.

— На прабабчыных вышыўках — сад Грымсвотна, — працягвала я.

— Угу, — кіўнула бабуля зноў.

— Прабабуля часта бывала там, так?

— Не так ужо і часта, — адказала бабуля, адкаркоўваючы новую бутэльку воцату.

— Напэўна, прабабуля і сэр Лемюэль былі добрымі сябрамі?

Бабуля праліла воцат, грукнула бутэлькай аб стол і павярнулася да мяне, упёршы рукі ў бакі.

— Палюбоўнікамі яны былі, дзетачка, палюбоўнікамі! — голас яе быў такі ж кіслы, як і водар воцату, што плыў па кухні. Бабуля відавочна не ўхваляла адзюльтэр. Я, увогуле, таксама, толькі калі адзюльтэр не адбываўся сто тысяч гадоў таму і не быў афарбаваны за даўнасцю ў рамантычныя і крапальныя адценні.

— Прадзядуля ведаў пра гэта? — спытала я. І тут бабуля мяне здзівіла.

— Які яшчэ прадзядуля? — буркнула яна. — Ніякага прадзядулі ў цябе не было.

Ведаеце, як бывае, калі занадта моцна надзімаеш паветраны шар? Ён пашыраецца, расце, раздзімаецца, поўны пачуцця ўласнай годнасці, а потым — бабах! — і лопаецца. Так і бабуліна маўчанне лопнула раптам. На кухню ніхто не зазіраў, бабуля метадычна тыкала зубачысткай у слівы і расказвала. Я старалася не перабіваць яе дурнымі пытаннямі. І так, злосна падціскаючы вусны і наколваючы цвёрдыя слівы адну за адной, каб потым скласці іх у слоікі і заліць кіпенем, бабуля паведаміла мне тую частку сямейнай гісторыі, якую не прынята распавядаць гасцям ці дзецям, гартаючы стары альбом з фатаграфіямі.

Мая прабабуля і сэр Лемюэль Грымсвотн-старэйшы пазнаёміліся пры пікантных акалічнасцях. Дэйсі прыехала ў Млынавы Раўчук з вельмі празаічнай мэтай — набыць «самы дзейсны сродак». Ёй трэба было пазбавіцца ад наступстваў бурнага і хуткаплыннага рамана. Як менавіта развіваліся падзеі тых дзён, дакладна не вядома, але сэр Лемюэль прыняў самы жывы ўдзел у лёсе сваёй наведвальніцы, паабяцаў ёй падтрымку і адгаварыў ад неабдуманых крокаў. «Як гэта ні сумна, — сказала бабуля

незадаволеным тонам, — але жыццём сваім я абавязана яму, а не маці, я нарадзілася насуперак яе волі». Грымсвотн зняў для прабабулі жыллё ў Млынавым Раўчуку, дапамагаў грашыма, і яна жыла без клапот, пакуль яе маленькая дачка выхоўвалася ў чужых людзей у пансіёне.

Сэр Лемюэль Грымсвотн-старэйшы быў доўга і шчасліва жанаты. Прыгажуняжонка, сын і дзве дачкі — Мод і Генрыета — прывыклі, што галава сямейства часта ад'язджае па сакрэтныя інгрэдыенты для сваіх зелляў ці на зборышчы такіх жа алхімікаў, як ён сам, у паездкі па манастырах і замкавых бібліятэках ці на пошукі рэдкіх кніг… А часам яны з'язджалі і самі, у госці да радні ці на воды, і тады прабабуля ў чорнай сукенцы і густым вэлюме з'яўлялася на Самшытавай вуліцы. Яна не баялася прыцягнуць увагу, да сэра Лемюэля штодня хто-небудзь прыходзіў.

— Напэўна, прабабуля марыла выйсці замуж за сэра Грымсвотна, — сказала я нясмела. — Але не хацела разбіваць сям'ю…

— Лухта! — запярэчыла бабуля. — У яе галаву не маглі прыйсці такія высакародныя думкі. Яна проста любіла волю. Ёй хапала рэдкіх сустрэч. І яна не хацела сапернічаць з рамяством Грымсвотна. Казала, што ён захоплены сваёй справай, а яна не хоча іграць другую скрыпку і ніколі не марыла ператварыцца ў хатнюю гаспадыню. Падаваць мужу гарбату ў кабінет, прымаць яго наведвальнікаў, баяцца з ім загаварыць, каб не збіць, калі ён падлічвае кроплі ды ўнцыі ці ўзважвае і шпурляе інгрэдыенты ў кацёл… Яна і ад мяне хацела пазбавіцца, бо я таксама замінала яе вольнасці і прыгажосці… І рэчамі сябе не абкружала, і дом з садам не хацела мець — усё гэта непатрэбныя клопаты; яна жыла ў мэбляваных пакоях і не трымала ў іх нічога лішняга, акрамя ўбораў і пары вышывак, зробленых ад нуды… Хіба толькі ў старасці яна захапілася кулінарыяй, і то бавілася, бо ёй не трэба было карміць сям'ю… Так, засаліць агурочкаў па адмысловым рэцэпце ці спячы небывалы пірог, каб усіх здзівіць… Табе падабаліся яе пірагі…

— Я не памятаю, — я і праўда зусім не памятала ранняе дзяцінства.

— Яна толькі ў апошнія гады жыцця зразумела, чаго каштуе яе бясцэнная незалежнасць. У старасці воля ператвараецца ў адзіноту… Яна раптам успомніла, што ў яе ёсць дачка, унук, праўнучка… Стала прыязджаць да нас на Каляды і Вялікдзень — і заўсёды прывозіла саленні і выпечку. Яшчэ і вязаць навучылася, быццам без яе не было каму звязаць для цябе шкарпэткі ці капялюшык, — бабуля казала з дакорам, і цяпер я зразумела, чаму яна не брала ў рукі ні іголкі, ні вязальных пруткоў — не хацела ні ў чым быць падобнай да сваёй маці.

Бабуля паглядзела на мяне. Памаўчала.

— Як толькі я ўвайшла ва ўзрост, адразу з'ехала з Млынавага Раўчука. Чуць не хацела нічога пра маці і Грымсвотна. Знайшла працу, потым сустрэла твайго дзеда і выйшла замуж. Я спадзявалася ніколі больш не ўспамінаць мінулае. І падбіў жа вас чорт забрацца на гарышча.

Цяпер я зразумела, чаму прабабчыны рэчы дзесяцігоддзямі стаялі там неразабраныя, зразумела і бабуліну нелюбоў да бяздзейнасці, да лайдакоў і шарлатанаў, што вырабляюць дзейсныя зеллі для вытраўлення «непатрэбных наступстваў»…

— Гэты Грымсвотн табе не пара, — казала яна. — Ён распешчаны хлапчук, яму ўсё ў жыцці дастаецца лёгка, а тое, што дастаецца лёгка, зусім не шануюць. Не будзе ён шанаваць і цябе. Не звязвайся з ім!

І я не звязвалася. Ды і Лемюэль, не атрымаўшы адказу на свае пасланні, перастаў мне пісаць. Ключ з драконавай галавой я павесіла на шнурок і насіла на шыі, як напамін пра маю несусветную дурасць. Ды і наогул, у нас з гэтым ключом было шмат агульнага. Адзінота. Старамоднасць. Непатрэбнасць. Ён не ведае, дзе той

замочак, да якога ён ішоў парай, і я не ведаю, дзе мая так званая палавінка. На зыходзе лета стараму ржаваму ключу я давярала свае душэўныя пакуты. Смешна, ці не праўда? Ключ спакойна выслухваў мяне. Нават яму не было да мяне справы.

## Частка 10

Наступіла восень. Бабуля ездзіла ў Млынавы Раўчук на кірмашы ўраджаю, я ўпарта заставалася дома, але потым адбылася выстава гарбузоў. Бабулін гарбуз урадзіўся неверагодна велізарны — сапраўдная карэта для дамарослай Папялушкі, — і ёй было не ўправіцца з гэткай аграмадзінай самастойна. Мы нанялі воз і адправіліся ў шлях. Каб апраўдаць расходы, бабуля везла зімовыя грушы і турнэпс, а я захапіла скрутак з вязаннем. Калі журуся ці нервуюся, я вяжу. Вязанне супакойвае. І гэтага заспакаяльнага навязалася так многа, што хоць у аптэку здавай.

Паездка ўдалася. Бабулін гарбуз заняў на выставе ганаровае другое месца і атрымаў медаль, і разам з медалём адразу ж быў набыты нейкім крамнікам для ўпрыгожвання вітрыны. Гандаль таксама ішоў паспяхова. У бабулі раскупілі ўсе грушы, я прадала некалькі шалікаў і каптуроў, і хтосьці прыцэньваўся да пальчатак, калі раптам бабуля пхнула мяне локцем убок.

— З'явіўся твой Грымсвотн, — буркнула яна, але, насуперак маім чаканням, у голасе яе не чулася злосці, а, хутчэй, цікаўнасць і лагодныя кепікі. Я падняла вочы — і праўда, Лемюэль прабіраўся праз натоўп, ад прылаўка да прылаўка, вышукваючы кагосьці. Няўжо мяне?

— Адзін твар з прадзедам… — прабурчала бабуля.

— Нарэшце я адшукаў вас! — звярнуўся Лемюэль да мяне чужым вытанчаным тонам, а потым павярнуўся да бабулі. — Летась на восеньскім кірмашы я купіў у міс Дэйсі гэтыя дзівосныя гамашы, — тут ён бесцырымонна закатаў калашыны і прадэманстраваў пярэстыя паласатыя гетры, якія я калісьці ўзяла з сабой для падарунка дзядку Грымсвотну і потым, павагаўшыся, уручыла Лему.

— Дзівосныя, цёплыя, яны так саграваюць мяне вечарамі! — працягваў ён. — Я распытваў усіх, але ніхто не ведаў, што гэта за майстрыха, адкуль яна. Цуд, што я знайшоў вас!

Твар бабулі выяўляў не больш эмоцый, чым турнэпс, што ляжаў перад ёй на прылаўку. Яна і брывом не павяла.

— Наперадзе зіма, і я хацеў бы, калі магчыма, замовіць у міс Дэйсі некалькі цёплых рэчаў, — замямліў нерашуча Лемюэль, прыкідваючыся гэтакім старым халасцяком, не ўпэўненым, што правільна кажа і паводзіць сябе ў прысутнасці дам.

— Ну, чаму б і не, — сказала бабуля суха.

— Тут непадалёк прадаецца выдатны кашамір, — Лемюэль махнуў рукой у нявызначаным кірунку. — Можа, мы пойдзем і адразу купім ніткі? Я хацеў бы рэчы ў карычневых тонах, але ведаеце, не з тых карычневых адценняў, якія характэрны для апалага лісця і лушпіння бульбы — не, я падумваў пра тоны кавы, шакаладу, магчыма, і кавы з вяршкамі, калі гэтыя колеры спалучаліся б у шырокай і вузкай палосцы, — мармытаў ён з прыдыханнем, як экзальтаваная паненка. Я з жахам чакала, што бабуля не вытрымае і выкажа Грымсвотну ўсё, што яна думае пра яго і яго продка.

— Ідзі, Дэйсі, — сказала бабуля, мякка ўсміхнуўшыся Лему. — Вы ўжо пасачыце за маёй унучкай, сэр. На кірмашы ўсялякі народ сустракаецца, а яна дзяўчына далікатная.

— О, не турбуйцеся, — акрыяў Лемюэль, — са мной ваша ўнучка ў поўнай бяспецы, — і ён узяў мяне пад руку і пацягнуў прочкі, у кірмашовую мітусню. Я са здзіўленнем азірнулася на бабулю, а яна ўсміхалася і нават міла памахала нам услед.

— Я ўбачыў вас у падзорную трубу і не змог уседзець дома, ведаючы, што вы прыехалі, — нібы апраўдваючыся, сказаў Лем, калі мы пакінулі рады агародніны. — Дэйсі, ты не атрымлівала маіх лістоў?

— Атрымлівала, — адказала я роўна.

— Чаму ж не пісала ў адказ? — шчыра здзівіўся ён.

Я загадкава ўсміхнулася, потым спытала атрутным голасам:

— Так якое адценне карычневага вы жадаеце, сэр? І няўжо ваша нявеста не ўмее вязаць, сэр? Які жаль!

— Дэйсі, не будзь такой злосніцай, — усміхнуўся Лем. — Вядома ж, мая нявеста ўмее вязаць, але я ёй забараніў. Яна ж такая прыгожая. А ў тых, хто пастаянна вяжа, пальцы з часам становяцца крывымі і нягнуткімі, псуецца зрок, а кончык носа наліваецца крывёй, як у п'яніцы, таму што майстрыха дзень і ноч сядзіць, схіліўшыся над вязаннем, — ён абурана пакруціў галавой, як прынц са старой казкі, якую ён мне цяпер распавядаў. — Не, мая нявеста ніколі не возьме ў рукі кручок ці пруткі! Я ёй не дазволю!

— Глядзі, як бы твая нявеста не ўкалолася верацяном і не заснула на сто гадоў, — не вытрымала я.

— Падумаеш! Я тады таксама ўкалюся і засну разам з ёй. А праз сто гадоў, калі мы прачнёмся, у свеце не застанецца ні кручка, ні верацяна, а ўсю адзежу будуць вязаць машыны. Вось паглядзіш, так і будзе!

Лемюэль быў майстар казаць дурасці з вельмі сур'ёзным выразам твару. Ён дасягнуў сваёй мэты: я ўсё-ткі засмяялася.

— Дэйсі, я думаў, што ты не атрымліваеш маіх лістоў, — сказаў ён. — А то б даўно паведаміў табе…

— Паведаміў што? — спытала я, з усяе сілы імкнучыся заставацца абыякавай. — Дату твайго вяселля?

— Паведаміў бы тое, — перадражніў ён мой тон, — што знайшоў драконавы куфар! Спадзяюся, ключ па-ранейшаму ў цябе?

Я паглядзела на яго з прыкрасцю. Толькі-толькі маё сэрца супакоілася, я выкінула з галавы ўсе надзеі і глупствы, стала жыць па-ранейшаму, ціха і непрыкметна, хвалюючыся толькі пра тое, як паспець звязаць больш зімовых панчох да Каляд. А тут ізноў ён, ізноў пачынаюцца сакрэты, ключы, куфры, схованкі, чароўныя зеллі, у існаванне якіх я ўжо амаль перастала верыць…

— Ключ у мяне, — сказала я, — але ведаеш, Лем, я больш нічога не шукаю.

Лемюэль паглядзеў на мяне задуменна і ўзяў маю руку ў свае цёплыя далоні, як тады, пры нашай самай першай сустрэчы.

— Дэйсі, я не ведаю мэты тваіх пошукаў, але, мне здаецца, гэта не ў тваім характары — спыняцца на паўдарозе.

— А калі там ізноў не будзе таго, што мне трэба? — прамармытала я, як маленькая дзяўчынка, якая марыць пакатацца на поні, але вельмі баіцца зваліцца, і хоча, каб яе ўгаварылі, паабяцалі, што ўсё будзе добра.

Але Лем нямоцна разбіраўся ў псіхалогіі маленькіх дзяўчынак.

— Ну добра, — сказаў ён. — Тады аддай мне ключ і я сам гляну, што там у куфры.

Я інстыктыўна схапілася за ключ, што вісеў у мяне на шыі пад адзежай.

— Аддаць? Не, я не магу…

— Не дуры, Дэйсі. Гэта прадзедаў ключ, ён належыць сямейству Грымсвотнаў. Я даў яго табе, бо думаў, што ты шукаеш штосьці жыццёва важнае, я хацеў табе дапамагчы… Але, здаецца, памыляўся, і цяпер прашу вярнуць мне маю маёмасць, інакш, буду вымушаны звярнуцца да палісмена. Дэйсі Мэй, вы ж не зладзейка?

Толькі пасля гэтых слоў я зразумела, што ён строіць дурня. Гэта і быў яго спосаб угаворвання маленькай дзяўчынкі. Лем зарагатаў, назіраючы, як з майго твару сыходзіць абураны выраз.

— Куфар знаходзіцца ў маёй састарэлай цёткі. Не, не ў Падушачкі, у іншай. Мы маглі б наведаць яе сёння, — ён памаўчаў. — Дэйсі, ведаеш, гэтыя твае пошукі заразілі і мяне. Цяпер я таксама страшэнна хачу знайсці «тое, не ведаю, што». Для цябе.

— Ну… Не ведаю… Калі бабуля адпусціць… — прамармытала я.

Бабуля адпусціла. Мне здаецца, яна наогул не чакала ўбачыць мяне сёння зноў, і калі мы падышлі да прылаўка, дзе высілася апошняя самотная купка турнэпсу, бабуля працадзіла, падлічваючы дробязь у вязаным кашальку:

— Ідзі ўжо. Вырашыла рабіць штосьці — дык рабі, а не дрыжы…

**Частка 11**

Узяўшы пад руку Лемюэля, я паважна пайшла з ім да выхада з кірмашовых радоў. На яго твары расцвіла ўсмешка, і ён раз-пораз паварочваўся да мяне, нібы хацеў яшчэ раз пераканацца, што я побач і нікуды не падзелася. А я падумала: калі ён не трывожыцца пра ўласную рэпутацыю і спакой сваёй нявесты, чаму пра гэта павінна клапаціцца я?

Не ведаю, ці зразумеў Лем, чаму я зноў стала з ім мілай і ласкавай, але калі ён заўважыў гэту змену, то стаў у тры ці чатыры разы больш усміхацца і распавядаць усялякія глупствы. А мне было добра і трохі горка, бо я аказалася недастаткова строгіх правіл для яго…

Па дарозе Лемюэль распавёў мне яшчэ крыху сваёй сямейнай гісторыі. Я мімаволі параўноўвала яго сям'ю і нашу. Рэчы маёй прабабулі звалілі на гарышча і забыліся пра іх. Са спадчынай старога Грымсвотна было інакш — сваякі ледзь не біліся за тое, каб узяць сабе штосьці на памяць. І дом трымалі ў парадку, пакуль маленькі Лемюэль не вырас і не ўступіў у правы.

— Некаторыя былі незадаволены, што дом адышоў мне, але аспрэчваць ніхто не стаў. Ды і сваю долю атрымаў кожны. Уся наша сям'я выдатна забяспечана, а з дому прадзед дазволіў кожнаму ўзяць памятны сувенір. Мая матухна ўзяла частку кніг, цётка Мод — сакрэтнік, а вось іншая цётка, Генрыета, як высветлілася, паспела раней за ўсіх і адхапіла куфар з драконамі. Так, так, той самы, да якога падыходзіць таямнічы драконавы ключ. Нядаўна мы з маці і сястрой наведвалі цётку Генрыету, і яна папрасіла мяне штосьці адшукаць у кладоўцы. І я натыкнуўся там на гэты куфар. Цётка стаяла побач і трымала лямпу, таму я не змог праверыць, адкрыты замок ці замкнёны. І наогул, не стаў дэманстраваць сваю цікаўнасць, інакш цётка перахавала б куфэрак у новае месца. Б'юся аб заклад: яна была ўпэўнена, што там усярэдзіне скарбы. Мне не цярпіцца даведацца, ці мела яна рацыю.

— Чаму ж ты адразу не спытаўся ў яе?

Лемюэль скрывіўся.

— Я спадзяюся на тваё абаянне. Мяне яна недалюблівае. У дзяцінстве я разбіў

яе крыштальную вазу — і не дараваны дагэтуль. Упэўнены, цётка да гэтай пары выношвае план помсты. Баюся, як бы не атрымаць аскепкі гэтай вазы ў якасці вясельнага падарунка.

Калі мы падышлі да невялікага дамка, схаванага за разгалістымі старымі вербамі, Лемюэль зрабіў страшныя вочы і сказаў:

— Дэйсі, пакляніся, што не станеш каштаваць каменных кексаў.

— Чаму? — мне наогул падабаўся гэты гатунак выпечкі.

— Таму што ў цётачкі Генрыеты кексы і праўда каменныя. Мясцовы дантыст ужо багацце нажыў на яе гасцях. Не, праўда, пакляніся! Я абяцаў прыглядваць за табой! Мне будзе няёмка, калі ты вернешся да бабулі, як стары грабянец, з паламанымі зубамі. Ты чуеш мяне, непаслухмяная дзяўчынка?

Цётка Генрыета аказалася сухарлявай і зласлівай бабулькай. Дзіўна, як парой у адных і тых жа бацькі і маці могуць нарадзіцца такія розныя дочкі: адна пульхная, мяккая і лагодная, другая — падобная да прышчэпкі для бялізны. Як быццам нехта ўсемагутны, замешваючы сям'ю і размяркоўваючы інгрэдыенты для будучых дзяцей, адвярнуўся на момант — ці то птушка ў акне праляцела, ці то пагрукалі ў дзверы — і потым пераблытаў, усыпаў у адну міску зашмат соды ці цынамону, а ў іншую чагосьці не даклаў…

Пасля традыцыйнага абмену ветлівымі словамі цётка Генрыета таксама завяла гутарку пра вяселле пляменніка.

— Я ўжо думала, ты ніколі не ажэнішся, — прарыпела яна, разліваючы гарбату чамусьці ў кававыя кубачкі. — Вяселлі — задавальненне не з танных.

— А што рабіць, цётачка, — з усмешкай развёў рукамі Лемюэль. — Род Грымсвотнаў павінен быць працягнуты, і гэта нялёгкая місія ўскладзена на мае плечы.

— Небяспечны гэта занятак — працяг роду, — кіўнула цётка. — Добра хоць, што твая нявеста не з тых шчэпак з вузкімі сцёгнамі, якія няздольны ні зачаць, ні вынасіць. Жанчына павінна быць як пясочны гадзіннік: шырокая і зверху, і знізу, а пасярэдзіне — талія.

Яна прамаўляла гэтыя банальныя ісціны, не задумваючыся, што сама падобна зусім не на пясочны гадзіннік, а хутчэй на сонечны.

— Піце гарбату, выдатная чорная гарбата, — падбадзёрыла цётка. — І бярыце кекс, Дэйсі, мілачка, трохі здобы вам не пашкодзіць. Дзяўчатам трэба есці салодкае, каб быць добрымі і вясёлымі.

Я сербанула з кубачка і паспешна, баюся, нават занадта паспешна, паставіла яго назад на сподак. Гарбата цёткі Генрыеты, мяркуючы па гусце і колеры, пражыла доўгае і поўнае прыгод жыццё, і, відавочна, не ўпершыню аказалася ў імбрычку. Я чула, вядома, пра людзей, якія збіраюць скарыстаную гарбату, высушваюць яе і выкарыстоўваюць паўторна, але ўпершыню давялося мне паспрабаваць гэты экзатычны напой.

— Для твайго вяселля ў мяне ўжо ёсць убор, — паведаміла цётка Лемюэлю. — Тая самая парчовая сукенка з зялёнай ніткай, якую я апранала на вяселле тваіх бацькоў. Хоць наўрад ці ты яго памятаеш, цябе тады яшчэ не было.

— Наўрад ці наогул хто-небудзь успомніць вашу сукенку, цётачка, — са свецкай усмешкай адказаў Лемюэль, — усе вырашаць, што вы толькі-толькі ад краўца.

— Краўцы! — чмыхнула цётка. — Дзяруць утрая даражэй, а потым усё адно там моршчыць, тут цягне. І ніколі не могуць параіць правільную даўжыню. Дэйсі, мілачка, а ваша сукенка ўжо гатова?

Я разгубілася. Ці да месца будзе прызнацца, што на вяселле Лемюэля я, на шчасце, не запрошана?

— Дэйсі надзене сукенку сваёй прабабулі, — выратаваў мяне Лемюэль. — Яна пышная, лёгкая і з ружачкамі.

Я здзіўлена паглядзела на яго. Трэба ж, запомніў, у чым я была ў яго ўпершыню.

— Эканомная дзяўчынка, — станоўча кіўнула цётка. — У цяперашнім жыцці без эканоміі — нікуды. Дарэчы, Лемюэль, я ўжо падрыхтавала для цябе вясельны падарунак — выдатны сталовы сервіз, там бракуе ўсяго пяці прадметаў і носік у імбрычка склееены, але гэта амаль неўзаметку, асабліва калі не глядзець у профіль. Усё адно твае будучыя дзеці яго разаб'юць. Дзеці заўсёды ўсё разбіваюць, — і яна засмучана падціснула вусны.

— Так, дзеці — гэта маленькія ўраганы, — ціхамірна пагадзіўся Лем і падміргнуў мне. — Малюсенькія драконы, што сеюць паўсюль разбурэнне ды хаос. Дарэчы пра драконаў, цётачка, я выпадкова заўважыў адну вельмі цікавую рэч у тваёй кладоўцы. Куфар з драконамі, адкуль ён у цябе?

— Бач ты, вастравокі, — прабурчала цётка. — Сам ведаеш, гэта твайго прадзеда. Я ўзяла яго на памяць… даўно…

— Я хацеў бы паказаць яго Дэйсі, калі ты не супраць, — і Лемюэль усміхнуўся так ліслiва, як толькі ўмеў, падштурхоўваючы мяне локцем, каб і я закінула слоўца.

— Ты ведаеш, дзе ён стаіць, — сказала цётка хмурна.

Мы дабраліся да кладоўкі і дрыготкімі рукамі выцягнулі куфар. На жаль, ён быў адкрыты (замок зламаны, як сказаў Лемюэль) і пусты… Я не ўтрымала гаротнага ўздыху. Калі так пойдзе далей і я не знайду спосаб зняць закляцце, то змагу зарабляць на жыццё, адкрыўшы школу трагічных уздыхаў і прыбітых горам поглядаў. Так, і чытаць лекцыі на тэму: «Як сапсаваць сабе жыццё»…

— Здаецца, тут і праўда былі скарбы, — засмучана сказаў Лемюэль.

— Скарбы, як жа, падстаўляй кішэнь, — аказалася, цётка Генрыета стаіць у нас за спінай. — Там не было нічагуткі каштоўнага, толькі купка трухлявых старых кніг, спісаных нечытэльным дробным почыркам.

Мы страпянуліся. Перазірнуліся.

— І дзе ж цяпер гэтыя кнігі? — спытаў Лем.

Цётка пажавала вуснамі.

— Дзе-дзе. Дзе ім і месца — на памыйніцы.

Лем схапіўся за галаву.

— Там бы яны і апынуліся, калі б твая маці не забрала іх, — працягвала цётка. — У яе нездаровая прыхільнасць да ўсяго, дзе напісаны ці надрукаваны літары.

Так, цётка Генрыета паважала толькі адзін від паперы — той, на якім надрукаваны грошы. Уся іншая папера была патрэбна ёй для таго, каб загортваць селядзец ці высцілаць дно смеццевага кошыка. Якое шчасце, што яна не падпаліла камін запіснымі кніжкамі свайго бацькі.

— Няўжо яна не ведала, чым займаўся сэр Грымсвотн, не разумела ўсёй каштоўнасці яго запісаў? — не магла супакоіцца я, пакуль мы хуткім крокам ішлі да дому бацькоў Лемюэля.

— Ведала, чаму ж не, — адказаў Лем. — Але ж ты разумееш, падобныя ёй людзі лічаць, што кнігі — гэта смецце, а ўсе прыбыткі стары Грымсвотн атрымліваў проста таму, што з поспехам пудрыў людзям мазгі. Пачуй яна, якія сумы прапаноўвалі канкурэнты прадзеда за гэтыя запісныя кніжкі, яна б з інфарктам звалілася.

— Твая маці таксама ведала гэта?

— Усе ведалі. Але маці і бацька шануюць сямейную спадчыну. Фамільныя архівы значна даражэйшыя за грошы. Ах, Дэйсі, як я рады, што прадзедавы кнігі ў руках

маёй матухны! Яна з кніг парушынкі здзімае. Хутка, зусім хутка ты атрымаеш у рукі разгадку сваёй таямніцы. «Самыя дзейсныя сродкі», старонка 87. Можа, па дарозе купім шампанскага? Каб адсвяткаваць поспех?

Але я, з маімі забабонамі, лічыла за лепшае спачатку злавіць мядзведзя, а ўжо потым паліваць яго шампанскім. Я баялася спудзіць удачу. Баялася, што «Самых дзейсных сродкаў» чамусьці не будзе ў бібліятэцы матухны Лема, што кніга заплеснела ці загінула пры прарыве водаправода, а можа, маленькі Лем зрэзаў яе ўсю, майструючы ўсярэдзіне тайнік…

**Частка 12**

Матухна Лемюэля аказалася маладжавай дамай з дробнымі зморшчынкамі ў кутках вачэй. «Гусіныя лапкі» — цётка Аўгуста іх вельмі баіцца і кажа, што яны з'яўляюцца ў тых, хто несур'ёзны і залішне многа смяецца, а вось маркотных асоб, накшталт мяне, чакае ў старасці «грымаса пахмурнага». Я не лічыла сябе пахмурнай, але з цёткай не спрачалася, бо і чалавекам, задаволеным жыццём, мяне назваць нельга, і таму цяжка судзіць, што пакажа мне люстэрка праз дваццаць гадоў.

Матухна Лемюэля з люстэркам была, відавочна, у ладах. Яе скура свяцілася матавым роўным ззяннем, як у юнай дзяўчыны, валасы і вочы блішчалі. Чамусьці ў мяне мільганула думка пра тое, што гэтая жанчына не проста так узяла на памяць Грымсвотнавы кнігі, што яна прачытала іх і паспяхова выкарыстоўвае некаторыя замовы. Яна выглядала неверагодна маладой і прывабнай.

— Дазвольце прадставіць вас адну адной: гэта мая матухна, а гэта Дэйсі Мэй. Матухна, тая самая Дэйсі.

— Мілая Дэйсі, мой сын увесь час гаворыць пра цябе, але я бачу, што ён моцна прыменшыў тваё хараство, — яна расцалавала мяне і за руку правяла ў пакоі, дзе неадкладна прынялася накрываць стол для чаяпіцця. — Лем, твой фрак мы аддалі ў чыстку, праз два дні будзе гатовы.

— Ах мама, ну хто ў нашы дні жэніцца ў фраку? — узмахнуў рукамі Лемюэль.

— У нашы дні, у нашы дні, — засмяялася місіс Грымсвотн, — ты кажаш так, быццам я выхоўвалася тысячагоддзі таму і ўпершыню бачу электрычную лямпачку. Жаніся хоць у піжаме, сябар мой, абы твая нявеста была не супраць, — і яна падміргнула мне, як саўдзельніцы.

— Нявеста Лемюэля — дзяўчына строгіх правіл, так што піжаму яна наўрад ці ўхваліць, — сказала я, каб падтрымаць гутарку, і маці адразу ж павярнулася да Лема:

— Ну вось, ты чуў? Фрака табе не пазбегнуць!

Калі Лем паведаміў маці, што нам патрэбны «Самыя дзейсныя сродкі», яна без лішніх слоў правяла нас у бібліятэку, да зашклёнай невялікай шафы, што стаяла ў міжаконні.

— Усе кнігі сэра Грымсвотна тут. І тыя, што з драконавага куфра, таксама, — сказала яна з усмешкай. — Калі б цётка Генрыета даведалася, колькі за іх прапаноўвалі на чорным рынку, яна б з'ела ад злосці свае каменныя кексы разам з падносам.

— Мы толькі ад яе, — уставіў Лем.

— О, тады вам трэба не проста гарбата, — з разуменнем кіўнула яна, — я прынясу мясны пірог і сыр з варэннем. А вы пакуль шукайце, шукайце, дзеці мае.

Яна падбадзёрыла іх сваёй усмешкай і выйшла. А я глядзела ёй услед і з сумам думала пра тое, што як усё-ткі выдатна, калі ў цябе ёсць любячая маці, якая аддае ў

чыстку твой фрак, спяшаецца на кухню, каб прынесці табе паесці, маці, з якой ты можаш разам нязлосна кпіць з дзівацтваў састарэлых сваякоў. Сям'я. Я быццам бы таксама не ў пячоры пустэльніка вырасла, і бабуля любіць мяне па-свойму, і цётка з сёстрамі ніколі не крыўдзілі. Але ў нашым доме неяк прахалодна, нібы хтосьці забыўся зачыніць акно і скразнячком выцягвае прочкі ўсю цеплыню сямейных адносін… Ах, як я зайздросціла Лему і яго сястры.

— Дэйсі, ты толькі паглядзі, якія тут скарбы, — мармытаў тым часам Лемюэль. — Я так удзячны табе! Калі б не ты, я б не зацікавіўся сур'ёзна прадзедам і яго працамі… Я быў нейкім перакаці-полем, а цяпер пачуваю сябе хай і маладзенькім дрэўцам, але з вельмі доўгімі каранямі…

Ён даставаў кнігі адну за адной, чытаў назвы і ставіў назад, асцярожна пагладжваючы іх па вокладках, быццам гэта былі не кнігі, а завяртушкі з іх пыльнымі мяккімі лапкамі ці бяспёры — толькі што вылупіўся — мазгаклюй… О, здаецца, я пачынаю думаць катэгорыямі Лемюэля. Таго і глядзі, маленькія нямышы перастануць мяне дзічыцца і вылезуць з норкі, каб я пачасала ім за вушкам.

— «Мастацтва варэння зелляў», «Яды і кіслоты», «Гаючыя ўласцівасці балотных раслін», «Тынктуры, адвары, слізі» — паслухай, тут адны назвы чаго каштуюць. — «Пра карысць пеўневага каменя і пра шкоду яго», «Як прыгатаваць амаладжальны эліксір у хатніх умовах»…

Матухна Лемюэля ўжо двойчы зазірала ў бібліятэку і нагадвала, што гарбата пададзена, а мы ўсё гарталі і шамацелі, але нічога падобнага на «Самыя дзейсныя сродкі» не адшукалі. Частка кніг была без загалоўкаў, яшчэ частка — з непранумараванымі старонкамі, і мы гарталі да 87, але нічога падобнага на замову ці рэцэпт там не знаходзілася. У іншых кнігах было значна менш старонак. Мы перакапалі ўсю шафу. Тоўстыя фаліянты і худасочныя запісныя кніжкі, сшыткі і расходныя кнігі, дзённікі, соннікі і спісы пакупак — у сэра Грымсвотна ўлічана было ўсё, ажно да колькасці груш, сабраных за пэўны год, і бутэлек віна, выпітых у Духаў дзень.

Асабліва мне спадабаўся разлінееены сшытак з пералікам усіх падарункаў на дзень нараджэння і Каляды ад прадзеда Лема радні кожны год. Мабыць, ён запісваў іх, каб не паўтарацца, там жа былі пазнакі — спадабаўся падарунак ці не. Так, напрыклад, «Падушачцы» вельмі спадабаліся каралавыя пацеркі, а «зборнік лірычнай паэзіі» пакінуў яе «ў разгубленасці». А вось насупраць цёткі Генрыеты кожны раз было напісана адно і тое ж — «грашыма», і кожны раз адна і тая ж іранічная пазнака — «рыдала ад шчасця». І вельмі кранальна было знайсці ў гэтым спісе «маляўку Лема», які атрымаў ад прадзеда кніжку з малюначкамі («згрыз»), піраскаф («разбіў») і нейкі загадкавы «ветраўлоўнік». Насупраць апошняга падарунка сэр Грымсвотн не зрабіў ніякай пазнакі, і мне стала раптам вельмі сумна.

Лем зірнуў праз маё плячо.

— Геніяльна, — прысвіснуў ён. — Вось адкуль у матухны яе Запамінальнік! Яна ўдасканаліла прадзедаву ідэю: запісвае яшчэ кветкі і ўлюбёныя ласункі ўсіх сваіх знаёмых — адным словам, здолее дагадзіць чалавеку, калі захоча, — тут ён падняў указальны палец, намякаючы, што яго матухна дагаджае далёка не ўсім.

— Тваю нявесту яна ўжо занесла ў свой Запамінальнік?

— Вядома, — кіўнуў Лемюэль. — Мая нявеста любіць ранункулюсы, ванільныя вафлі і ружовы колер. І цярпець не можа гузікі. Уяві сабе, у яе ўся адзежа на гапліках і шнурочках. А яшчэ яна баіцца цотных лікаў, таму я ніколі не дару ёй ні завушніц, ні пальчатак — яна лічыць гэта благімі прыметамі, уяві. Напачатку нашага знаёмства я не ведаў пра гэта і прынёс ёй тузін піражных. Яна пералічыла іх і кінула ў камін, яны згарэлі ў мяне на вачах, небаракі.

Калі не хочаш адказваць на пытанне, можна прамаўчаць і шматзначна ўсміхнуцца. Можна спрытна змяніць тэму гутаркі ці адказаць пытаннем на пытанне. Але Лем, калі не хацеў адказваць на пытанне, пачынаў дурэць, прычым з сур'ёзным тварам і штодзённым тонам — так, што я далёка не адразу гэта заўважала.

— Матухна, а кнігі нідзе няма! — паскардзіўся Лем, калі мы скончылі пошукі і выйшлі ў гасціную да астылай гарбаты. Лемюэль схапіў лустачку сыра і праглынуў, здаецца, не жуючы. Я таксама жудасна прагаладалася, але выхаванне не дазваляла накідвацца на ежу вось так па-варварску, без запрашэння, не чакаючы іншых. Я ж была не ў сябе дома.

— Не можа быць, — сказала місіс Грымсвотн здзіўлена. — Я выдатна памятаю, як яна выглядае: пульхная карычневая кніжачка, там яшчэ на сёмай старонцы тоўсты адбітак пальца…

Лемюэль развёў рукамі, і тады яго матухна раптам пляснула сябе па лбе і усклікнула нібы злосна:

— А! Я, здаецца, здагадваюся, дзе яна! Сёй-той узяў яе і, у сваім рэпертуары, не палічыў патрэбным пакласці на месца. Молі! — закрычала яна.

Мая цётка Аўгуста лічыць, што крычыць з пакоя ў пакой толькі бедната (балазе, іх цеснае ўбогае жыллё гэтаму спрыяе). А добра выхаваныя арыстакраты пасылаюць за патрэбным чалавекам прыслугу ці, на крайні выпадак, кагосьці з малодшых сваякоў. Але матухна Лемюэля была, верагодна, процілеглага меркавання, і яе дзеці таксама, таму што з глыбінь дому данеслася звонкае:

— Чаго-о?

З хвіліну яны перакрыкваліся, а потым у гасціную ўляцела юная дзяўчына з вяснушкаватым мілавідным тварам. Штосьці адразу выклікала ў мяне прыязнасць да яе: ці то вяснушкі, якімі і я, як вядома, была багатая, ці то яе адкрыты погляд і ўсмешка, адрасаваная мне.

— Лем, ты калі прыйшоў? — загаласіла яна, кінуўшыся да брата ў абдымкі. — Я думала, ты сёння страшэнна заняты.

— Я раптам стаў страшэнна вольны, — важна адказаў Лем, абдымаючы дзяўчынку з перабольшана сур'ёзным выглядам. — Дэйсі, дазволь прадставіць табе, гэта мілае стварэнне — мая малодшая сястра Молі. Яна страшэнна хоча з табой пасябраваць, але я, — тут ён мне падміргнуў, — сказаў ёй, што ты вельмі строгіх правіл і не заводзіш сяброўства з усялякімі маляўкамі, я ж маю рацыю?

Не паспела я прыдумаць жарт у адказ (я тугадум, калі казаць адкрыта, геній «лесвічнага розуму»), як Молі ўжо горача абдымала мяне і цалавала спачатку ў адну шчаку, потым у другую.

— Лем так многа расказваў пра цябе! — паведаміла яна. — Я страшэнна рада!

— Молі, разявака, ты куды падзела прадзедаў карычневы нататнік? — строга спытала яе маці, але вачыма яна нібы абдымала і гладзіла сваю малодшанькую, добрую і прыгожую дзяўчынку, і зноўку мне стала крыху сумна, бо ніколі ніхто не глядзеў так на мяне.

— «Дзейсныя сродкі»? — Молі роўна такім жа, як маці, жэстам пляснула сябе па лбе і праз хвіліну вярнулася з карычневай патрапанай кніжкай. Пры гэтым выгляд у Молі быў трохі дзіўны. Дакладна гэтак жа выглядаў наш кот, калі яму ўдавалася выкрасці на кухні рыбку і ён быў вельмі задаволены сабой, але ў той жа час перажываў ды чакаў, калі злачынства выкрыецца і ён будзе адлуплены газетай па тоўстым азадку.

— Ну вось усё і вырашылася, — матухна Лема з ласкавай усмешкай працягнула мне кнігу. — Спадзяюся, ты знойдзеш там тое, што шукаеш, Дэйсі.

У гэта імгненне маё выхаванне часова кудысьці адлучылася. Драпежна і крыважэрна ўхапілася я за пульхны томік, дрыжачымі пальцамі прынялася яго гартаць. Старонкі там былі прастаўлены прыгожым акуратным почыркам. 81, 83, 85, 89, 91… Але дазвольце? 83, 85, 89? А дзе ж 87?

Я казала ўжо, што мне не шанцуе. Патрэбная старонка была выдрана. Дакладней, акуратна выразана лязом ці нажніцамі.

— О не, — праенчыла я.

— Што такое? — ускрыкнуў Лем, а маці, убачыўшы гэта варварства, прагрымела:

— Молі!

— Ну а што, ты ж забараніла выносіць гэтыя кнігі з дому, а мне было трэба да зарэзу! — і дзяўчына правяла далонькай па горле. — Я б перапісала ад рукі, але ў прадзядулі такі старамодны почырк, там нейкія зусім незнаёмыя мне літары… Можа, увогуле на лацінскай…

— Табе было трэба да зарэзу, — паўтарыла місіс Грымсвотн. — Але вось Дэйсі, — яна паказала на мяне, — трэба яшчэ больш!

Молі вінавата зірнула на мяне.

— Так, я бачу, — прагаварыла яна ціха.

— Куды ты дзела выдраную старонку? — спытала маці.

— Аднесла містару Свіфту, — шморгнула носам Молі. Здаецца, яна была сур'ёзна засмучана наступствамі сваёй выхадкі. І матухна Лема выглядала засмучанай. Адзін Лем пераводзіў погляд з маці на сястру, потым на мяне, потым ізноў на іх. Нездарма кажуць, што мужчыны зроблены інакш. Калі жанчыны хвалююцца з-за нейкай праблемы, мужчыны шукаюць спосаб гэту праблему вырашыць.

— Не разумею, з якой нагоды сусветная скруха, — прагаварыў ён нарэшце. — Старонка ў містара Свіфта? Ну так хадзем да містара Свіфта і закажам дадатковую порцыю «самага дзейснага сродку» — для Дэйсі.

Тут жа ажывілася Молі, і матухна стала глядзець на сына захатлівымі вачамі, у якіх чыталася: «Гляньце, якое разумнае дзіця я нарадзіла!» Канчаткова забыўшыся пра зверскі голад і астылую гарбату, мы трое — Молі, Лем і я — адправіліся да гэтага загадкавага містара Свіфта, а матухна грозна паабяцала да нашага вяртання прыгатаваць вячэру і не выпускаць нас з-за стала, пакуль мы не з'ямо ЎСЁ.

Па дарозе я зноў пачала трывожыцца.

— А ты ўпэўнена, што гэты містар Свіфт правільна разбярэ почырк твайго прадзеда?

— Вядома. Ён, ведаеш, які разумны, у яго нават мікраскоп ёсць. Ён кожную літарку там разгледзіць і кожны завіток, — пераканана адказала Молі.

— Усё будзе добра, Дэйсі, — упэўнена прамовіў Лем. — Не хвалюйся, а лепш падумай пра тое, што зусім хутка твая праблема будзе вырашана!

Я ўздыхнула, а Молі ўзяла мяне за руку. Лем ціхамірна ўсміхаўся, гледзячы на нас абедзвюх.

— Ніяк не магу вырашыць, што лепш: быць сяброўкай нявесты ці дзяўчынкай, якая нясе букет? — прагаварыла Молі задуменна. — У сяброўак нявесты такія прыгожыя дарослыя сукенкі, але ўсе аднолькавыя, а ў дзяўчынкі з букетам сукенка зусім іншая, дзіцячая, затое яна ідзе наперадзе ўсіх, і ўсе на яе глядзяць і думаюць: «Якая ж яна прыгожанькая!»

— А можна яшчэ быць хлопчыкам, які нясе пярсцёнкі, — з усёй сур'ёзнасцю адказаў ёй Лем. — Падумай пра гэта!

— Ну і ёлупень жа ты, — абурылася сястра. — Цябе зусім не турбуе хуткае вяселле? Ты хоць ведаеш, якія словы павінен будзеш прамовіць?

— Вядома, — сказаў Лем. — На вяселлі жаніх і нявеста кажуць:«Так, так, так!» — і ўвесь час цалуюцца. І гэта самы прыемны момант. Не лічачы, вядома, тортаў і падарункаў. Дарэчы, ты можаш яшчэ быць дзяўчынкай, якая ўпершыню ў гісторыі з'ела цалкам вясельны торт і не лопнула, га?

**Частка 13**

Яны перакідваліся жартачкамі ўсю дарогу, а я безуважліва слухала. Не верылася, што хутка буду вызвалена ад чараў. Я аказалася негатовай да таго, што ўжо не трэба перажываць і цяжка ўздыхаць, а можна цешыцца і пачынаць новае, яркае, цікавае, бачнае жыццё. Шчыра кажучы, у гэтай чахардзе з пошукамі схованак, ключоў, куфраў і чароўных кніг я зусім забылася пра тое, што я невідзімка. Лемюэль і яго сямейства не давалі мне часу на гаротныя разважанні, і як жа тужліва мне было пры думцы, што цяпер скончыцца ўся гэта мітуслівая прыгода, я забяру сваю порцыю «самага дзейснага сродку», памахаю рукой і адпраўлюся дахаты. Мне так не хацелася развітвацца з гэтымі мілымі людзьмі, якіх я ўжо паспела палюбіць! Нават дзіўныя цётачкі сталі мне як родныя, а ўжо вяснушкаватая смешная Молі, і яе прыгожая добрая матухна, а ўжо Лемюэль, пра жаніцьбу якога ўсе толькі і размаўлялі! Як шкада, што мы пазнаёміліся з ім толькі цяпер, калі яго вясельны фрак ужо аддалі ў чыстку…

Думкі мае ішлі сваім парадкам, а ногі — сваім, і вось мы спыніліся ля прысадзістага двухпавярховага будынка. Гарэзліва мне падміргнуўшы, Молі схавалася за цяжкімі дзвярамі. На іх было напісана… напісана… чакайце, на іх напісана «Фармацыя»? Аптэка?!

— Як аптэка? Чаму? — разгубілася я.

— Бо містар Свіфт — аптэкар, — растлумачыў Лем. — Не ў булачнай жа нам яго шукаць?

— Аптэкар? Я думала, ён… ён… — я пасаромелася прамовіць слова «чараўнік», каб не паказацца смешнай. Так, у нашы дні чараўніцтва выйшла з моды. Вось і містар Свіфт асцярожнічае. Хто ведае, магчыма, чараўнікам даводзіцца плаціць у тры разы больш падаткаў ці афармляць зашмат дакументаў, вось і хаваюцца яны за аптэчнымі шыльдамі…

Лемюэль з чаканнем глядзеў на мяне, і мне раптам здалося, што ўсе мае думкі адлюстроўваюцца ў мяне на лбе, а ён чытае іх, ледзь стрымліваючы смех.

Тут дзверы аптэкі ляснулі і на вуліцу выскачыла Молі з невялікай бутэлечкай у руках. Дзяўчынка велікадушна працягнула яе мне са словамі:

— Трымай. Матухна мае рацыю, табе патрэбней. А я пачакаю наступнай порцыі, містар Свіфт сказаў, што сродак вельмі складаны і гатуецца амаль месяц…

Падзякаваўшы, я ўзяла бутэлечку ў рукі і пачала круціць яе, вышукваючы этыкетку, паперку з хоць якімі парадамі да ўжывання — тое, што звычайна пішуць на выробленых хімічным шляхам рэчывах. Бо я не ведала, як трэба піць гэта зелле: удзень па чайнай лыжцы нашча ці залпам у поўню, стоячы на скрыжаванні сямі дарог?

— Што ты шукаеш? — спытала Молі. — Містар Свіфт не стаў налепліваць ярлычок, ён перадаў мне ўсё вусна. Змазваць трэба пяць разоў на дзень, з інтэрвалам у тры гадзіны, пасля стараннага ўмывання.

— Змазваць? Пасля ўмывання? — паўтарыла я. — Змазваць што?!

— Як што? — цяпер ужо здзівілася Молі. — Вяснушкі.

— А прычым тут вяснушкі? — я здзіўлена глядзела на яе.

— Як гэта прычым? — яна кінула хуткі погляд на Лема, але брат толькі паціснуў плячыма, таму што сам не разумеў, што ж мяне гэтым разам не задавольвае.

— Што ты мне прынесла? — з раптоўным жахам спытала я, гледзячы на бутэлечку.

— Тое, што ты і шукала, — пакрыўджана прагаварыла Молі, — самы дзейсны сродак ад вяснушак, рэцэпт з 87 старонкі, што ж яшчэ? Калі я цябе ўпершыню ўбачыла, то адразу зразумела, што менавіта ты хочаш знайсці ў прадзедавай кніжцы. Я цябе вельмі добра разумею! — цяпер Молі казала з жарам і запалам. — Я таксама цярпець не магу гэтыя рудыя плямы на твары, і абавязкова пазбаўлюся ад іх, і мая скура стане прыгожай і чыстай, і…

— Але прычым жа тут вяснушкі? — прагаварыла я. — Молі, Лем, вы ўпэўнены, што містар Свіфт правільна расшыфраваў запісы вашага прадзеда? На 87 старонцы павінна было быць нешта зусім іншае! Быць можа, у простага аптэкара не хапіла адукацыі і ведаў, каб правільна растлумачыць рэцэпт?

— Упэўнены, што містар Свіфт усё зрабіў правільна, — адказаў Лем сур’ёзна. — Сама памяркуй, Дэйсі, хто лепш прачытае запісы аптэкара, чым іншы аптэкар?

— Аптэкара? Што? Ты хочаш сказаць, што сэр Лемюэль Грымсвотн быў аптэкарам?

— Ну так, маг фармацэўтыкі, уладар глаўберавай солі і рыцыны, дрэсіроўшчык п’явак, а пры згасаючым месяцы ён яшчэ і зубы вырываў ахвотнікам…

Мяне нібы аглушыла, і ўсе словы Лема даносіліся здалёк, праз тоўстую заслону ашаламлення і смутку. Аптэкар. Сродак ад вяснушак. Змазваць пасля ўмывання. А як жа чараўніцтва? Як жа спосаб стаць бачнай і нарэшце зрабіць штосьці са сваім сумным жыццём? І чаму, чаму ж я за ўвесь гэты час ні разу не пацікавілася прафесіяй сэра Грымсвотна, а толькі чула тое, што хацела пачуць?

Зразумеўшы, што слёзы кіпяць на вачах, я аддала Лемюэлю злашчасную бутэлечку і кінулася прочкі.

— Дэйсі, куды ж ты? — закрычала Молі разгублена.

А я і сама не ведала, куды. Мне хацелася скрозь зямлю праваліцца, абы толькі не стаяць цяпер побач з гэтымі цудоўнымі людзьмі, дабрыню і спагадлівасць якіх я так бессаромна выкарыстоўвала, распавядаючы пра «пытанне жыцця і смерці». А ў выніку аказалася, што я шукала ўсяго толькі рэцэпт ад вяснушак? О, якая насмешка лёсу. Якая пстрычка па носе. І па заслугах мне, па заслугах! Нудная, маркотная, няздольная падтрымліваць гутарку і жартаваць, нязграбная, непрыгожая і немаладая, я раптам уявіла пра сябе немаведама што. Зачараваная… Ды каму я патрэбна! Не, зачароўваюць шкодных і наравістых прыгажунь, а такую, як я, ніводны нармальны чараўнік і не заўважыць…

Я забегла ў нейкую цёмную падваротню і дала волю слёзам. Ох, як я кляла сябе, прыдуркаватую, за тое, што дазволіла разгуляцца фантазіям, за тое, што вышукала ў старадаўніх лістах словы, якіх там не было, а потым увяла ў зман незнаёмых мне людзей, блукала па іх дамах, выслухвала чужыя сямейныя гісторыі, ледзь не па шафах і кладоўках шнарыла. Божа, які сорам, якая ганьба! Аптэкар! А я напрыдумляла сабе невядома што! Маг і чарнакніжнік, стваральнік гамункулусаў, заклінальнік чарцей, ратавальнік дурных жытнёвых блінчыкаў... Не, з цыбуліны не вырасце ружа, бабуля правільна кажа.

Я рыдала, захінуўшы твар рукамі, як раптам хтосьці абхапіў мае плечы, асцярожна і моцна, і разгарнуў мяне да сябе. Я ўткнулася тварам у мяккую тканіну Лемавага сурдута і расплакалася яшчэ больш.

Калі вы жадаеце суняць нечыя слёзы, размаўляйце, смейцеся, іранізуйце, заводзьце гутарку пра надвор'е ці крычыце, толькі не абдымайце і не шкадуйце. Ад жалю да самога сябе ды атрымаўшы шчодрую порцыю спагады, чалавек рыдае яшчэ саладзей…

— Дэйсі, Дэйсі, што здарылася? — разгублена паўтараў Лемюэль і гладзіў мяне па валасах, а я плакала плачма, таму што ён так імкнуўся мне дапамагчы, а я…

— Чаму ты не сказаў мне адразу, што твой прадзед быў аптэкарам? — прагаварыла я скрозь рыданні. — Чаму?

— Дык ты ж не пытала, — сказаў ён, працягваючы мне насоўку, бо маяператварылася ў мокрую, вартую жалю анучку. — Ты прыйшла тады на Самшытавую вуліцу і паводзіла сябе роўна гэтак жа, як шматлікія дзяўчыны і жанчыны, што прыходзілі сюды. Усе яны паўтаралі адно: «Пытанне жыцця і смерці!» — і заклінаалі мяне паказаць ім рэцэпт сродку ад бародавак ці для росту валасоў… Прадзед быў неперавзыдзеным майстрам па частцы жаночых сродкаў для прыгажосці, ты хіба не ведала? У мяне і думкі не было цябе падманваць, я шчыра хацеў дапамагчы…

Я рыдала.

— Дэйсі, Дэйсі, але што ж ты шукала? Што павінна было аказацца на 87 старонцы? — занепакоена спытаў ён.

— Сродак… ад нябачнасці… — скрозь сорам і слёзы вымавіла я. — Мая прабабуля… у лісце… Я думала, сэр Грымсвотн чараўнік… дапаможа мне… стаць бачнай… каб мяне нарэшце заўважылі…. Жыву ўсё жыццё, быццам мяне няма… і ўсе глядзяць скрозь мяне…

Тут Лемюэль выдаў нейкі дзіўны гук і сілай адвёў мае рукі ад заплаканага твару.

— Дэйсі, ну што ты! Што ты такое кажаш! Ты прыкметная! І нават вельмі прыкметная, — сказаў ён і прыняўся пальцамі выціраць слёзы, што каціліся па маіх шчоках. — Ты такая мілая і клапатлівая, тактоўная і выдатна выхаваная! І вяснушкі табе вельмі пасуюць. А калі ты стаіш спінай да сонца, яно прасвечвае праз твае валасы, яны залоцяцца і ззяюць, як смешны непрычасаны німб. І ты так кранальна запраўляеш валасы за вушы… А на ўказальным пальцы правай рукі ў цябе мазоль ад вязання. А калі ты ўважліва слухаеш, то схіляеш галаву набок, як маленькая разумная птушачка… А калі задумваешся ці нервуешся, пачынаеш выстукваць нейкі матыў пальцамі левай рукі… Я ўсё спрабаваў зразумець, што гэта, але так і не здолеў… Ты адварочваешся ад люстэркаў. І ніколі не грукочаш дзвярыма. І не зрываеш кветкі, якія табе падабаюцца, а толькі пагладжваеш пальцам пялёсткі. Ты мілая, слаўная, і проста немагчыма прайсці міма, не заўважыўшы цябе… трэба быць дурнем… ці сляпым…

Я слухала яго як у сне. Мне хацелася, каб гэты сон ніколі не заканчваўся, але дзесьці там, знадворку, у жорсткай рэальнасці ўжо звінеў званок будзільніка, і гэты будзільнік быў самых строгіх правіл.

— Але ж у цябе ёсць нявеста, — сказала я горка. — Навошта ты ўсё гэта кажаш мне, калі ёсць яна?

Ён нахмурыўся.

— Прабач. Ты маеш рацыю, гэта бязглуздая сітуацыя, недарэчная і брыдкая. Я павінен быў адразу табе сказаць, — мямліў ён, а я адчувала, што цёплая асалода ад яго слоў хутка згасае, і на змену ёй прыходзіць горкае, цягучае адчуванне пакінутасці і адзіноты…

— Мая нявеста, Дэйсі, ці разумееш, яна з тых дзяўчат, з якімі не ўсё так проста. Ты толькі не кажы маёй матухне, бо я нават яшчэ не зрабіў афіцыйную прапанову.

Я збіраўся зрабіць надоечы, але ўсё адкладваў… Ведаеш, я страшэнна баюся, што мне адмовяць…

«Я б не адмовіла», — сумна падумала я. І мне зноў стала так шкада сябе! І на нейкае імгненне Лем зрабіўся мне непрыемны. Якое права мае ён стаяць тут і жаліцца на сваю строгую нявесту, якой ён баіцца? Мяне ж ён не баіцца, бо чаго мяне баяцца? Мне можна паплакацца ў камізэльку, я пашкадую, падбадзёру і дам добрую параду, а ён, як той міфічны мазгаклюй, расправіць крылцы і паляціць да сваёй нявесты з букетам ранункулюсаў у дзюбе…

— Я б табе адмовіла, — сказала я злосна. — Ты легкадумны і бессардэчны, ты іграеш на пачуццях людзей.

— Вось вы дзе! — разнёсся раптам па падваротні звонкі голас, а запыханая Молі наляцела на нас і абняла абодвух адразу. — Я ў іншы бок звярнула, думала, вы дадому пайшлі… А вы тут!

Молі пазбавіла нас з Лемам цяжкай гутаркі. Яна ўсяляк рабіла выгляд, што не заўважае майго заплаканага твару, і імкнулася не нагадваць пра злашчасны «дзейсны сродак», але я заўважыла, як яна ўпотай выцягнула бутэлечку з кішэні Лема і сунула ў свой рыдыкюльчык. Ах, Молі, Молі, мне б тваю наіўнасць і ўпэўненасць, што ўсе праблемы — у вяснушках…

Я катэгарычна адмовілася заставацца на вячэру, спаслаўшыся на тое, што бабуля будзе хвалявацца, калі я не прыеду сёння. Лемюэль праводзіў мяне на аўтобусную станцыю. Усю дарогу мы маўчалі, ён быў нейкі паніклы, ды і я не іскрылася весялосцю.

— Значыць, ты лічыш мяне нядобрым чалавекам, Дэйсі? — усё ж парушыў цішыню Лем.

— Несур'ёзным, — адказала я. Я не злавалася больш на яго, была абыякавай і маўклівай. Ды і не адказаць было б няветліва.

— І ты лічыш, што годная разумная дзяўчына не захоча са мной звязвацца? — дапытваўся ён.

— А ты правер, — не вытрымала я. — Прызнайся ў сваіх пачуццях, раптам яна кахае цябе і адразу пагодзіцца стаць тваёй жонкай.

— Справа не ў гэтым, — адказаў ён. — Цяпер я не адмовы баюся. Як ты не разумееш. Я баюся сапсаваць ёй жыццё.

Я падняла на яго здзіўленыя вочы.

— Я заўсёды быў улюбёнцам сям'і і сяброў, прывык лічыць сябе цудоўным чалавекам. Мае недахопы здаваліся мне ўсяго толькі мілымі асаблівасцямі характару. Я ніколі не думаў пра тое, што магу сур'ёзна засмуціць кагосьці… Магчыма, я сапраўды нявартны чалавек, няздольны зрабіць нікога шчаслівым. Цяжка глядзець на сябе і бачыць не тое, што ты хочаш убачыць. Таму і пытаю цябе, Дэйсі. Ты незацікаўленая асоба. Мне патрэбен праўдзівы погляд збоку. Будзь маёй суддзёй.

Я чмыхнула.

— Лем, што ты гародзіш? Хто я такая, каб судзіць цябе?

— Ты… — ён замоўк і паглядзеў мне ў вочы. Я чакала працягу, але пад'ехаў аўтобус, і мы развіталіся.



**Частка 14**

Як я і думала, дома нікога не ўстрывожыла мая адсутнасць. Цётка Аўгуста ў гасцінай абмяркоўвала з майстрам па абіўцы мэблі модныя колеры гэтага сезона. Яна вырашыла перацягнуць арэхавы гарнітур — усё-ткі трэба быць у поўным узбраенні, калі ў доме дзве дзяўчыны на выданне (мяне яна не палічыла). Эма і Аліса

сышлі гуляць, бацька быў у сваім кабінеце, а бабуля — на кухні. Яна моўчкі нагрузіла мне поўную талерку тушанай гародніны: турнэпс сёлета ўрадзіў багата, і мы елі яго часцей, чым звычайна.

— Спадзяюся, ты ведаеш, што робіш, Дэйсі, — прагаварыла бабуля, назіраючы, як я цягнуся за сальніцай і перачніцай, каб надаць смак саладкаватаму рагу. Не, яна не мела на ўвазе маю схільнасць да вострай ежы. Яна мела на ўвазе зусім іншае.

— А я больш нічога не раблю, бабуля, — адказала я ціха. І, ведаючы, што ёй будзе прыемна пачуць наступныя словы, дадала:

— Ты мела рацыю.

І хай бабуля сама дадумвае, у чым менавіта яна мела рацыю. Усё скончана. Цыбулька зразумела, што на клумбе ёй не месца, і вярнулася на градку.

Жыццё на нашай градцы ішло сваім парадкам. Восеньскія клопаты, першы снег, падрыхтоўка да Каляд. Мы сталі менш гуляць і больш піць гарачай гарбаты, часцей пячы пірагі і хутацца ў шалі. Перабіраючы летнія рэчы, я вытрасла дарожны саквояж, і ў рукі мне зваліўся жоўты лісток з адрасам сэра Лемюэля Грымсвотна-старэйшага. Калі б я не спяшалася так на пошукі чараўніка, калі б мне хапіла розуму ці цярпення прабегчы вачыма ўвесь лісток, а не толькі радок з адрасам, маё лета атрымалася б сумным, але гэта пазбавіла б мяне ад шматлікіх перажыванняў і турбот. Бо я трымала ў руцэ пажоўклы рэцэпт, дзе вытанчаным дробным почыркам быў напісаны склад агурочнага бальзаму ад юнацкіх вугроў. Цікава, ці не маёй юнай бабулі сэр Лемюэль выпісаў калісьці гэты дзейсны сродак?

За акном паціху кружыліся сняжынкі, я вязала панчохі, нудзілася і праглядала мясцовыя газеты ў пошуках аб’явы пра шлюб сэра Лемюэля Грымсвотна… Аб’явы не было, і гэта пакідала маленечкую надзею. Раптам ён так і не зрабіў прапанову сваёй нявесце? Ці зрабіў і атрымаў адмову? А можа, ён перадумаў? Можа, зразумеў, што кахае зусім іншага чалавека? Я ўздыхала, адкладала вязанне, а потым доўга лавіла вочкі, якія ўцяклі… Нават вязанне перастала ўдавацца, хоць ты садзіся і вышывай…

Сярод рукадзелля маёй прабабкі была падушачка для іголак, вельмі вытанчаная, аздобленая пацеркамі. У яе не было ўваткнута ніводнай іголкі. Неяк увечары, пад завыванне снежаньскай завірухі за акном, я разабрала гэту ігольніцу на часткі, каб пачысціць яе і нанова напхаць. Мяне чакала чарговая неспадзеўка ад прабабкі. Напэўна, ніхто не разбіраў гэту ігольніцу раней, бо я знайшла больш за сотню іголак усярэдзіне!

Часам я адчуваю сябе, як гэта ігольніца. Думкі, вобразы, пачуцці, сумневы і мары перапаўняюць мяне, але ніхто пра гэта нават не падазрае. Усе бачаць толькі бляклую абалонку — нічога асаблівага, воку затрымацца няма на чым. Нікога не цікавіць мой унутраны свет. Зрэшты, мне варта быць больш сціплай. Чамусьці ўсе замкнёныя і сарамлівыя людзі накшталт мяне ўпэўнены, што ў іх багаты ўнутраны свет. А можа, насамрэч усе мы проста змрочныя мізантропы і палохаемся любых зносін менавіта таму, што нам няма чаго сказаць...

Набліжаліся Каляды. Мы спраўна паілі каньяком калядны кекс, пяклі імбірныя пернікі, і ўсе разам — Эма, Аліса і я — выбіралі на кірмашы высокую пышную ёлку. Як і заўсёды, я ўручыла ўсім у падарунак цёплыя шкарпэткі і іншыя вязаныя рэчы. І, у сваю чаргу, атрымала падарункі. Тузін насовак ад Эмы, ярка-ліловы шалік ад цёткі і мой партрэт ад Алісы. Гэты партрэт у яе атрымаўся лепшым за папярэднія, прынамсі, вы без падказак змаглі б вызначыць, дзе на гэтым партрэце рот і дзе вочы.

І я атрымала яшчэ адзін партрэт — ад бабулі. Разгарнуўшы пакавальную паперу, я доўга не магла зразумець, хто і калі мог намаляваць мяне, бо гэтую блакітную, у

ружачкі, сукенку я апранала толькі аднойчы, калі ездзіла ўлетку ў Млынавы Раўчук. Мастак дакладна прыкмеціў вяснушкі, што багата абсыпалі мой твар, нядбайна заколатыя тонкія валасы, невыразны носік, бледныя бровы ды вейкі. Бясспрэчна, гэта быў мастак-рэаліст, ён не любіў перабольшваць. Але сёе-тое ён усё-ткі прыдумаў. Мой позірк, маю паставу, мой велічны выгляд. Я глядзела з гэтага партрэта, быццам каралева на сваіх падданых, ледзь іранічна, ледзь пагардліва, у маіх вачах свяцілася пачуццё ўласнай годнасці і нават перавагі.

— Ты вельмі падобна да прабабкі, — сказала бабуля. — Таму я падумала, што яе партрэт павінен захоўвацца ў цябе…

— Прабабка? — толькі цяпер я зразумела, хто намаляваны на партрэце.

— Ёй было гэтульні ж, колькі табе цяпер, калі адзін мастак намаляваў яе, — сказала бабуля. — Ён быў закаханы, як хлапчук. У яе многа хто быў закаханы.

— Чаму? — спытала я. — Яна ж была самая звычайная, як і я…

— Таму што яна любіла сябе, — адказала бабуля, памаўчаўшы. — Яна была ўпэўнена, што заслугоўвае кахання. А ў нашым свеце, Дэйсі, чаго чакаеш, тое і атрымаеш.

**Частка 15**

Калядныя святы прынеслі яшчэ адну неспадзеўку. Я атрымала ліст з віншаваннямі ад сястры Лемюэля. Прызнаюся, калі б не зварот «Дарагая Дэйсі», я вырашыла б, што Молі напісала сваёй самай блізкай сяброўцы, а потым памылкова адправіла мне. На чатырох лістах разляпіста і неахайна, пераскокваючы з аднаго на другое, дзяўчына пісала мне пра ўсё запар. Пра тое, што я забыла ў іх доме скрутак з вязаннем і гэта цудоўная нагода вярнуцца, раз ужо дагэтуль я не знайшла больш прыстойнай падставы. Пра Лемюэля, які пасылае прывітанні і найлепшыя пажаданні ды просіць паведаміць, што мой шалік грэе лепш, чым дзесяць жывых і цёплых котак, шчыльна абгорнутых вакол шыі. Пра цётачку Генрыету, якая набыла на распродажы старадаўнюю камоду, што на другі дзень развалілася на трэскі, і яна ў выніку прагадала з грашыма, але выйграла на дровах. Пра цётачку Мод, якая падарыла на Каляды гэтульні шакаладу і ласункаў, што хопіць да Вялікадня. Молі, верная сваёй адкрытай натуры, пісала і пра тое, што нудзіцца па мне: нягледзячы на кароткае знаёмства, яна паспела да мяне прывязацца і вельмі хацела б сустрэцца зноў. А яшчэ былі ў яе лісце дзіўныя словы: «Я вельмі шкадую, што вашы адносіны з Лемюэлем так раптоўна і сумна перарваліся».

У сваім зваротным лісце я паслала прывітанні ўсяму сямейству, распавяла пра нашы Каляды, ёлку і падарункі, а потым з гумарам і самаіроніяй (о, як я ганарылася тым, што навучылася смяяцца над сабой) распавяла Молі пра тое, як і чаму апынулася ў Млынавым Раўчуку ды сустрэлася з Лемюэлем. Пра свае дурныя пошукі і камічную сітуацыю, пра сваё незайздроснае становішча невідзімкі, з якога мне, мабыць, не наканавана выкараскацца ніколі.

Другі ліст Молі пачынаўся са здзіўленага пытання («Каму ўдалося ўбіць у тваю галаву дурную і несправядлівую думку пра нябачнасць?!»), а завяршаўся нечаканымі словамі: «Як шкада, што ты раздумала выходзіць замуж за Лемюэля. Бо ўсе мы ўжо бачылі цябе нашай сваячкай, і я так цешылася, што займею сабе сястру».

Над гэтым яе лістом я праседзела тры дні. Я не магла яе зразумець. Урэшце, я склала кароткі і ветлівы адказ, дзе згаджалася з тым, што стаць членам іх цудоўнай сям'і — шчасце для любой дзяўчыны (і я не хітравала), і што Молі не

павінна так перажываць, бо хутка здабудзе сястру, бо ў Лемюэля ўжо ёсць нявеста і падрыхтоўка да вяселля ідзе поўным ходам. Калі менавіта павінен адбыцца шлюб, я ўсё ж сцярпела і не спытала, чым вельмі ганарылася першыя некалькі дзён пасля адпраўкі ліста. А потым пачала шкадаваць, што не спытала. Бо вядома: хочаш атрымаць адказ — задай у лісце хоць бы адно пытанне. Людзі часам не лічаць патрэбным тлумачыць тое, што ты ім распавядаеш, але з задавальненнем адкажуць на самыя недарэчныя пытанні, асабліва, калі пытанні датычацца іх саміх.

Так і не атрымаўшы адказ, я доўга дакарала сябе за празмерную шчырасць. Напэўна, Молі змарылі мае выказванні пачуццяў. Дый каму не надакучыць перапіска з векавухай, яшчэ і безнадзейна закаханай. У юнай вясёлай дзяўчыны знойдуцца больш цікавыя заняткі — выводзіць вяснушкі, выразаць лісты са старых прадзедавых кніг, быць сяброўкай нявесты на вяселлі старэйшага брата...

## Частка 16

Ціха і мірна перазімаваўшы, мы дачакаліся цёплых дзянькоў. Я ведаю, у большасці людзей вясна асацыюецца з чымсьці паветраным і бязважкім, з першай лістотай на дрэвах, далікатнымі бутонамі кветак, яркім сонейкам, новымі закаханасцямі, нарэшце. Але ў мяне прыход вясны выклікае дзве ўстойлівыя асацыяцыі — водар угнаенняў у бабуліным садзе і вялікая вясновая ўборка. Эма была заручана: улетку, калі ўсё пойдзе шчасліва, чакалася вяселле, таму мы асабліва старанна драілі дом. Выставілі зімовыя рамы, вымылі вокны, нацёрлі да бляску люстэркі, былі запрошаны палацёры і наладчык раяля, а цётка Аўгуста ўласнаручна перамыла ўсе дзвесце ці трыста крыштальных падвесак велізарнай жырандолі, якая вісела ў гасцінай. Прыбыў новы кававы сервіз на дванаццаць персон, мэбля стракацела свежай абіўкай, куфры Эмы ламаліся ад пасагу, а цётка ўсё не магла супакоіцца, і раз-пораз яны з Эмай вярталіся з горада, нагружаныя пакупкамі. «Цудоўныя абрусы, як было не ўзяць», «сталовае срэбра — гэта так высакародна», «з гэтага батысту выйдзе не менш за сотню насовак».

Бабуля мала ўвагі звяртала на гэтыя справы, яна цалкам сышла ў агародныя будні. Узброеная лапатай і месяцовым календаром, яна ўскопвала, сеяла, палівала. Чым цяплей станавілася, тым больш сіл і ўвагі патрабаваў гарод, затое мы ўжо елі свежую зяляніну і радыску з уласных градак. А я вязала белыя карункавыя накідкі для крэслаў будучага мэблевага гарнітура ў будучым доме Эмы. О, я была толькі рада працы, якую цётка і сёстры падкідвалі мне. Думаючы пра тое, як бы не наблытаць з узорам, я не разважала пра больш сур'ёзныя рэчы.

Калі ж вязанне заканчвалася, я дапамагала бабулі ва ўсіх яе садовых працах: бяліць вапнай ствалы фруктовых дрэў, адкрываць ружы пасля зімы, саджаць моркву. Я нават трохі пакапалася ў зямлі і перастала баяцца кузурак.

Наогул, страх лечыцца вельмі проста — малымі дозамі, але ў частым паўторы. Калі вам на руку зваліўся павук, вы спалохаліся і страцілі прытомнасць, так? А калі вам на руку зваліўся адзін павук, праз хвіліну яшчэ адзін, а потым яшчэ і яшчэ, то ад пятага павука вы проста здрыганецеся, дзясятага абыякава страсяце, а пятнаццатага і наогул заўважыце, толькі калі ён забярэцца на ваш саламяны капялюшык і спусціцца на павуцінцы перад вашым носам.

І вось калі я стрэсвала з капелюша чарговага павучка, у сад прымчалася ўсхваляваная Эма. На абед яна збіралася прыгатаваць смажаніну з трусяціны ў чыгунках,

і я падумала, што ў яе прыгарэў смятанны соус ці раптам скончыліся салодкія цыбуліны, і яна хоча паслаць мяне на рынак. Але не. Гледзячы на мяне ва ўсе вочы, Эма ўрачыстым голасам абвясціла, што ў наш дом завіталі госці.

— Добра, я прабяруся праз заднія дзверы і пераапрануся ў чыстае, перш чым спушчуся да стала, — сказала я жартаўліва. — І нават вычышчу бруд з-пад пазногцяў.

— Сярод іх малады чалавек, — паведаміла Эма, па-ранейшаму гледзячы на мяне так, нібы не адзін, а дзесяць павукоў шпацыруюць па палях майго старога капелюша.

— О, тады яшчэ і лісце з валасоў павымаю, — усміхнулася я. Узрушанасць Эмы мяне забаўляла. Калі гаворка ідзе пра маладых людзей, мая сястра заўсёды такая ўсхваляваная. Дзіва што, гэта ж кірмаш жаніхоў і трэба быць напагатове, нават калі праз тры месяцы тваё вяселле.

— Мама прасіла перадаць, каб ты прыпудрыла нос і шчокі. Ты так загарэла, капаючыся на градках, і яшчэ гэтыя твае вяснушкі, — дадала Эма з асуджэннем. — Здаецца, мама хоча пазнаёміць цябе з гэтым госцем. Паслухайся маёй парады, Дэйсі, апраніся ярчэй. А я за абедам абавязкова згадаю, што ты выдатна вяжаш. Ён вельмі мілы малады чалавек, хай і небагаты. Магчыма, ён зробіць цябе шчаслівай.

Старая песня. Ужо некалькі разоў цётка Аўгуста спрабавала знайсці мне жаніха і запрашала сваіх сябровак з вялікаўзроставымі сынамі. Гэтых сыноў я наўрад ці забудуся. Адзін з іх насіў устаўную сківіцу і зачэсваў валасы наўскасяк праз лысіну, другі перабраў з апярытывам і размалаціў шкло ў серванце, трэці ж, наадварот, быў вельмі акуратны і паслухмяны, пытаў дазволу ў сваёй маці кожны раз, калі яму хацелася дабаўкі бульбы ці трэба было адлучыцца з пакоя. Цікава, якая загана ў сённяшняга прэтэндэнта.

— Не турбуйся, Дэйсі, мама займае гасцей свецкай гутаркай у гасцінай, і ты можаш спакойна прайсці да сябе і пачысціць пёркі, — сказала Эма. Яе вочы пабліскваліі ад хвалявання. Звычайна Эма пачынае драпежна ззяць толькі пры выглядзе сталовага срэбра, адрэзаў шоўку і іншых матэрыяльных скарбаў, якія можна згрэбці ў ахапак і панесці ў свой бяздонны шыфаньер. Але зараз быў асаблівы выпадак. І чаму сватаўства так займае розумы жанчын самага рознага ўзросту?

— Так-так, — сказала бабуля хмурна. — Калі хочаш, ты можаш назвацца хворай. Ты не абавязана выходзіць да гасцей, Дэйсі.

Вы чуеце? Бабуля, найсумленнейшы чалавек, прапануе мне зманіць, так пячэцца пра маё разбітае сэрца. А можа, баіцца, як бы я з гора не пагадзілася выйсці замуж за якога-небудзь дзіўнага суб'екта з комплексам Эдыпа і вялікай калекцыяй зубачыстак.

Асвяжыўшыся і надзеўшы ўлюбёную сукенку (чытач, табе яшчэ не надакучылі мае блакітныя ружачкі?), у гасціную я спускалася з выразам найдасканалейшай абыякавасці на твары. І спатыкнулася на апошняй прыступцы, ледзь не зваліўшыся са сходаў, калі ўбачыла гасцей.

Сэр Лемюэль Грымсвотн-малодшы ўласнай персонай сядзеў у крэсле насупраць Эмы і штосьці ёй распавядаў. Спадзяюся, не пра нямышаў і мазгаклюяў — мая сястра не аматар выдуманай фаўны. Молі сядзела на канапе побач з Алісай — яны разглядалі альбом з рэпрадукцыямі, і сястра штосьці аўтарытэтна тлумачыла, тыкаючы тоненькім пальчыкам у старонкі. Цётка Аўгуста, у сваім не самым вытанчаным, але затое самым дарагім уборы, стаяла ля акна побач са стройнай, элегантна апранутай дамай, у якой я без вялікіх намаганняў пазнала матухну Лемюэля.

— А вось і Дэйсі! Прашу знаёміцца, мая старэйшая дачка! — выклікнула цётка адным са сваіх «гасцявых» галасоў. Яна мае некалькі такіх галасоў: адзін заступніцкі — для нясмелых юнакоў, векавух і бедных сваякоў, другі «багемны» — для сяброўак-каваманак і іх франтаватых мужоў, трэці — голас вялікапакутніцы, шматдзетнай маці, якая аддае ўсю сябе сям'і і дому. Але для сённяшніх гасцей цётка прызапасіла самы ўрачысты тон. «А вось і Дэйсі!» яна абвясціла з такім пафасам і весялосцю, нібы толькі ўчора асабіста выляпіла мяне з гліны і цяпер запрашала ўсіх палюбавацца на рук сваіх тварэнне. На рынку зазывалы такімі галасамі запрашаюць усіх паспытаць журавінавага збітня ці купіць рэдкіх заморскіх караляў. Што ж, не спрачаюся, я тавар ляжалы, незаморскі, і без хітрыкаў мяне з рук не збыць, вось цётка і намагаецца — трэба аддаць ёй належнае. Мне стала трохі сорамна: яна ж не падазрае, што Лемюэль ужо (ну ці амаль) жанаты…

Згледзеўшы мяне, Лем ускочыў, прадставіўся і адвесіў глыбокі паклон. Разгубіўшыся ад гэтай цырымоннасці (бо калісьці ж мы былі з ім на ты), я прысела ў рэверансе. Цётка Аўгуста глядзела на мяне і на яго па чарзе, пакутліва разважаючы, ці спадабаемся мы адно аднаму, ці даставаць ёй парадны сталовы сервіз альбо можна абысціся звычайнымі талеркамі і супніцай, у якой акуратна склеена трэснутая ручка.

— Вельмі рады пазнаёміцца з вамі, — паведаміў Лемюэль урачыста, даючы мне зразумець, што наша «тыканне» засталося ў мінулым (значыць, усё-ткі жаніўся?) ці што гэту блізкасць не варта афішыраваць перад маімі роднымі.

— Узаемна, сэр, — адказала я, апусціўшы галаву, як і належала сціплай, добра выхаванай дзяўчыне.

Затым я нанова пазнаёмілася з місіс і міс Грымсвотн, якія відавочна не чакалі сустрэць мяне і разгубіліся, калі Лемюэль стаў знарок урачыстым голасам прадстаўляць нас адну адной. Молі ледзь стрымлівалася, каб не захіхікаць, а місіс Грымсвотн спагадліва ўсміхалася, дазваляючы моладзі ўцягнуць яе ў гэту дзіўную, але бяскрыўдную гульню. Падумаўшы крыху, я перапоўнілася гарачай падзякай да іх усіх. Бо калі б яны выклікнулі: «Ба, Дэйсі, колькі лет, колькі зім!» — давялося б мудрагеліць і маніць, тлумачачы, дзе ж я паспела набыць новых сяброў. Не даваць жа маёй радні такую шыкоўную нагоду для насмешак на ўсё астатняе жыццё: ваша Дэйсі, маўляў, чараўніка шукала, усіх састарэлых цётачак абышла, усе камоды з сакрэтнікамі абшукала…

За абедам я не столькі ела, колькі прыслухоўвалася да гутарак. Я даведалася, што матухна Лемюэля пазнаёмілася з маёй цёткай на дабрачынным кірмашы ў мінулым месяцы, і цяпер, трапіўшы праездам у наш край, сямейства Грымсвотнаў вырашыла зрабіць нам спантанны візіт.

— Я бачу, Аўгуста, што вы ніколькі не перабольшвалі, кажучы пра прыгажосць сваіх дачок, — усміхаючыся, прамовіла матухна Лемюэля, і цётка задаволена кіўнула. — Праўда, вы казалі пра дзвюх дачок, а іх, аказваецца, тры, — працягнула місіс Грымсвотн, і самаздаволеная ўсмешка павольна спаўзла з цётчынага твару, саступаючы месца збянтэжанасці.

Так, цётка Аўгуста часцяком рэкамендавалася выпадковым знаёмым як маладая маці дзвюх цудоўных дачушак. Не тое каб яна наўмысна выкрэслівала мяне са складу сям'і, не. Яна проста забывалася. Людзі ж часта забываюць розныя дробязі — пальчаткі, кашалькі, парасоны. А што ўжо казаць пра нябачную падчарку, на яе забыцца прасцей простага.

Матухна Лемюэля, як я са здзіўленнем зразумела, таксама была далёка не анёл і ўмела кпіць. Аднак, як добра выхаваная асоба, яна тут жа здала назад:

— Ах, гэта так уласціва маці, ад усіх хаваць сваіх мілых дзяўчынак, баючыся хуткага расстання. Калі я думаю, што Молі аднойчы выйдзе замуж і выпырхне з гнязда, мне хочацца замкнуць яе на сто замкоў і паведамляць усім, што ў мяне ёсць толькі сын, толькі адзін сын, — яна ласкава ўсміхнулася Лемюэлю і спытала:

— Якую ж з дочак вы так рупліва ад нас хавалі, Аўгуста?

Лепшы спосаб пазбегнуць нязручных пытанняў — не даваць да іх нагоды. Але мая цётка не імкнецца пазбягаць няёмкасцей. Яна іх ігнаруе, хоць парой яе праўдзівыя эмоцыі і мільгаюць на твары, перш чым іх месца зойме заўсёдная цётачкіна міна «я лепш за ўсіх і не дазволю нікому ўсумніцца ў гэтым».

Калі цётка Аўгуста загаварыла, яе голас гучаў па-заступніцку і мякка, з чаго я зрабіла выснову, што яна чамусьці лічыць Грымсвотнаў беднякамі і думае, што аказвае вялікі гонар, прымаючы іх.

— Мае дочкі — гэта скарб! — сказала яна сціпла. — Эма ўлетку выходзіць замуж, у Алісы няма адбою ад паклоннікаў, сярод іх маюцца нават тытулаваныя асобы. А Дэйсі, — яна паглядзела на мяне, — Дэйсі чулы чалавечак, душа нашага дома…

— Дэйсі выдатна вяжа, — уставіла Эма.

Такім чынам яны абедзве намякалі на тое, што калі Грымсвотны вырашаць сватацца, то на Эму з Алісай хай не зазіраюцца, а вось з Дэйсі шансы ёсць. Мне стала няёмка. Я заўсёды вельмі бянтэжуся, калі мае сваякі пачынаюць паводзіць сябе бестактоўна. Хоць бы пацікавіліся, ці трэба іх госцю тое, у чым яны ўжо загадзя яму адмаўляюць.

— Вязанне — выдатны навык для маладой дзяўчыны, — кіўнула місіс Грымсвотн.

— І якая эканомія для сямейнага бюджэту, — падтакнуў ёй Лемюэль. — Мая жонка абавязкова будзе вязаць, шыць, а яшчэ мыць вокны, крухмаліць бялізну і варыць ажынавы джэм, — тут яго, мабыць, штурхнулі пад сталом, бо ён замоўк і па-змоўніцку паглядзеў на мяне.

— Дэйсі выдатна варыць варэнне, — сказала Аліса, каб таксама што-небудзь сказаць. — А як яна марынуе слівы!

У гэты момант увайшла бабуля і ўнесла гарачую, выдатную смажаніну са слівавым соусам, і на некаторы час за сталом запанавала цішыня. А потым цётка Аўгуста падавілася.

Не, я дакладна ведаю, што выняла ўсе слівавыя костачкі. І смажаніна атрымалася на славу, мяса было далікатнае і сакавітае. Кавалак не пайшоў цётцы ў горла пасля таго, як місіс Грымсвотн паведаміла між іншым, што яе сыночак атрымаў у спадчыну велізарны дом свайго прадзеда і ўжо ўступіў у правы.

— Колькі-колькі пакояў, вы кажаце? — перапытала цётка Аўгуста і закашлялася, не здолеўшы годна праглынуць пачутую лічбу. Дом з дваццаццю з лішнім пакоямі! Гэта ж колькі накідак на крэслы і саміх крэслаў змесціцца! Б'юся аб заклад, жаніх Эмы трохі збляк у вачах яго будучай цешчы…

— Вядома, такі дом патрабуе значных расходаў на ўтрыманне, — самавіта сказаў Лем. — Садоўнік, пакаёўкі, кухарка… Няня для будучых дзяцей… Нам трэба будзе вельмі эканоміць. Шыццё і вязанне тут будуць да месца…

— Аліса таксама вяжа! — паведаміла цётка Аўгуста прыдушана. Зразумела, Аліса не вязала, але калі б маці загадала ёй — навучылася б.

— Не, аднаго вязання мала, — працягваў са скрухай Лем, дакладна капіруючы інтанацыі сваёй састарэлай цёткі Генрыеты. — Вы ж разумееце, аднаго вугля колькі выходзіць, каб прапаліць усе печы ў доме… Адной масцікі, каб нацерці падлогі… А ўжо рахункі за электрычнасць!

— Эма гатуе, пячэ, выдатна кансервуе, — выпіўшы шклянку вады, уступіла ў бой цётка. — Пакаштавалі б вы яе пончыкі — прагналі б сваю кухарку!

— Мой дарагі сын хоча сказаць, што для папраўкі фінансавых спраў ён адшукаў спосаб лепей, — сказала місіс Грымсвотн з усмешкай. — Ведаеце, прадзед Лемюэля быў знакамітым фармацэўтам, за яго рэцэптурай ганяюцца і дагэтуль… І мы вырашылі выдаць збор яго твораў, за іх даюць вельмі вялікую суму, — і яна назвала лічбу, пасля якой закашлялася ўжо Эма, а цётка Аўгуста выпусціла лыжачку і запырскала слівавым соусам свой не самы вытанчаны, але самы дарагі ўбор.

— Якое шчасце, што Лемюэль ужо заручаны, — салодка сказала яго матухна, — а то ж вы ведаеце, колькі знайшлося б паляўнічых на багацце…

Я ўздыхнула. Выходзіць, усе гэтыя намёкі Эмы на сватаўство — лухта. Так, адкуль магла цётка ведаць, калі Грымсвотны не вельмі распаўсюджваюцца пра будучае вяселле.

— І хто ж гэтая шчаслівіца? — кіслым голасам запыталася цётка.

— У свой час вы пра ўсё даведаецеся, — сказаў Лемюэль напышліва. — Аб’ява пра вяселле сэра Лемюэля Грымсвотна-малодшага будзе змешчана ва ўсіх газетах акругі адначасова з паведамленнем пра выхад першага тома твораў сэра Лемюэля Грымсвотна-старэйшага і пра выхад дэбютнага зборніка твораў сэра Лемюэля Грымсвотна-малодшага, — ён збіўся з ролі і збянтэжыўся, злавіўшы мой здзіўлены погляд, але потым дадаў велічна: — Мы выклічам сапраўдны фурор!

— Пайду распараджуся наконт кавы, — сказала цётка Аўгуста холадна. — Эма, галубачка, прасачы, каб цукар быў наколаты не занадта дробна.

Гэта фраза заўсёды гучала ў момант, калі цётцы хацелася хутчэй уцячы ад дакучлівых гасцей ці непрыемнай гутаркі. І абед, і каву гатавала яна сама, разам з Эмай і бабуляй, але пры людзях увесь час падкрэслівала, што выконвае ў гэтым доме выключна ролю гаспадыні, а не кухаркі і, крый божа, прыслугі. Ёй чамусьці заўсёды хацелася здавацца на прыступку ці дзве вышэй, чым яна стаяла насамрэч.

Наогул, мы маглі б дазволіць сабе прыслугу, калі б трохі скарацілі расходы на дамашняе начынне і незлічоныя ўборы, але цётка Аўгуста не раз паўтарала, што не трэба трымаць чужыя вочы і вушы ў доме. Ужо не ведаю, якія шкілеты цётка хавае ў шафе, але калі ёй падабаецца самастойна змятаць з іх пыл, хто ж будзе пярэчыць?

Пакуль на кухні ўяўная прыслуга пад кіраўніцтвам цёткі і Эмы гатавала каву, Аліса, паддаўшыся поклічу муз, пырхнула на гарышча — прашу прабачэння, у сваю майстэрню. У гасцінай засталіся толькі госці і мы з бабуляй.

— Я недачула, ці сапраўды хутка выйдзе ваша кніга? — спытала я ў Лемюэля.

— А хіба ён табе не казаў? — прастадушна спытала Молі. — Ой, я хацела сказаць… Я думала, усяму свету вядома, што наш Лем — пісьменнік…

— Я асцярогся б слова «пісьменнік», мілая сястрыца, — сціпла адказаў Лем. — Вось калі мая кніга будзе мець поспех, тады — але не раней — я заслужу гэта ганаровае званне. Пакуль жа прашу называць мяне няйначай як «пісака», — ён збянтэжана ўсміхнуўся і паглядзеў на мяне.

«А ён жа і сапраўды піша», — падумала я. Яшчэ ў нашу першую сустрэчу я звярнула ўвагу на рукі, выпацканыя чарніламі, і ён казаў штосьці такое пра ночы, праведзеныя за працай, і ўвесь час ухіляўся ад адказу, калі я пытала, чым жа ён быў так заняты… Пісьменнік. Яму падыходзіць. Бо ён выдумшчык, якіх пашукаць.

— І што ж вы пішаце? — пацікавілася я. — Навуковую працу пра гадоўлю нямышаў у няволі? Раман пра нялёгкае жыццё мазгаклюя? Ці, можа быць, дасле-

даванне, прысвечанае таямнічым пыльным слядам на падлозе? «Завяртушкі: міф ці рэальнасць»?

— Ён піша казкі, — усміхнулася спадарыня Грымсвотн і патрапала Лемюэля па галаве, як маленькага. Лем паглядзеў на мяне. «Цяпер і ты ведаеш маю маленькую таямніцу», — казаў яго збянтэжаны погляд. Я ўсміхнулася. І ў каторы раз падзівілася сваёй здольнасці не заўважаць відавочнага. Дэйсі, Дэйсі, калі ж ты навучышся разбірацца ў людзях?

Цётка Аўгуста і Эма прынеслі каву, вяршкі, цукар, талерку з сырамі, арэхавы рулет. Кававы сервіз падалі новы — той самы, набыты да вяселля Эмы. Мабыць, цётка Аўгуста хацела паказаць, што, хоць яе дочкі і не атрымліваюць у спадчыну велізарных дамоў і дарагіх сачыненняў, але таксама не бядуюць. Новыя сурвэткі і сталовае срэбра з Эмінага пасагу таксама былі закліканы рэабілітаваць наш дом у вачах Грымсвотнаў, якія аказаліся — які жаль — зусім не беднымі людзьмі.

За кавай ішла мірная гутарка пра розныя дробязі. Місіс Грымсвотн захоплена адазвалася пра бабуліны белыя гіяцынты, што ўпрыгожвалі стол, а мая бабуля, пры ўсёй сваёй стрыманасці, аказалася вельмі гаваркой асобай, калі размова зайшла пра садоўніцтва. Молі з цікавасцю распытвала Эму і цётку Аўгусту пра хуткае вяселле. Мне нават здалося, што яны ўсе неяк празмерна захоплены, залішне гучныя і знарок не глядзяць у наш з Лемюэлем бок. Безумоўна, тут рыхтавалася нейкая змова. Калі ж гэты напышлівы багаты спадкаемец і вялікі пісьменнік пацішку ўзяў мяне за руку ды пацягнуў у суседні пакой (гэта была нятопленая і даволі цёмная музычная гасціная з засмучаным раялем ды старымі гардзінамі), я пакорліва пайшла за ім.

**Частка 17**

— Дэйсі, нам трэба вельмі сур'ёзна пагаварыць, — сказаў ён, калі дзверы зачыніліся за намі.

— Вы мяне палохаеце, сэр, — адказала я. — Якія могуць быць сур'ёзныя гутаркі паміж людзьмі, толькі сёння прадстаўленымі адно аднаму?

Лем усміхнуўся.

— Так, вельмі ўдала матухна звяла знаёмства з тваёй цёткай…

— Б'юся аб заклад, твая нявеста не ўхваліла б нашай сустрэчы, — сказала я. — Ты хоць давёў гэты факт да яе ведама?

— Ды што ты прывязалася да гэтай нявесты?! — раззлаваўся Лемюэль. — Пытаешся ў мяне і пытаешся кожны раз…

Пэўна, ад яго нечаканай рэзкасці ў мяне зрабіўся вельмі агаломшаны выгляд, таму што Лем з засмучаным тварам схапіў мяне за рукі і прыцягнуў да сябе.

— Перастань пра яе думаць, калі ласка.

Я пакруціла галавой.

— Ну добра, — Лем усё яшчэ трымаў мяне за руку. — Хочаш, я табе адкрыю страшную таямніцу? Дык вось, Дэйсі… Няма ў мяне ніякай нявесты! Слова гонару, няма! — ён паціснуў плячыма і закаціў вочы, як робяць звычайна людзі, калі ім даводзіцца прызнавацца ў чымсьці не вельмі разумным. — Вось бываюць у адзінокіх дзяцей выдуманыя сябры, а ў мяне была выдуманая нявеста. Калі я ўяўляў сабе, што мяне кахае годная дзяўчына, мне станавілася лягчэй жыць, я сам сабе падабаўся…

Тут расчыніліся дзверы і з'явілася рудая галава Молі.

— Ён ужо казаў табе пра выдуманага сябра? — спытала Молі. Тут яе пачалі далікатна цягнуць прэч з пакоя, і Молі, знікаючы, паспела прашаптаць гучна і застрашліва: — Лем, паводзь сабе як дарослы, прызнайся нарэшце! Ты ж бачыш, да чаго прывяла твая бясконцая хлусня!

— Не хлусня, а фантазія! — упарта прамармытаў ён наўздагон.

Я назірала моўчкі гэту мілую сямейную сцэну, разумеючы, што цяпер давядзецца пачуць нешта не вельмі прыемнае. Хацелася ўцячы ў свой пакой і схавацца, адкласці гэту гутарку, пакінуць усё як ёсць. Але мне было так добра побач з Лемам. Вось так бы стаяць ля яго і слухаць, што б ён там ні казаў….

— Дэйсі, прабач, — сказаў Лем. — Я падманваў цябе.

— Значыць, нявеста ўсё-ткі ёсць? — пахаладзеўшы, спытала я.

— Ёсць, — засмучана кіўнуў ён. — Толькі, разумееш… Тут такая справа…

Ён прайшоўся па пакоі, а я сачыла за яго манеўрамі, чакаючы чарговы маналог пра неўзаемнае каханне, строгія правілы ды розныя іншыя складанасці, выдумляць якія Лем быў майстрам.

А ён спыніўся насупраць мяне і сказаў такім тонам, нібы выбачаўся:

— Разумееш, Дэйсі, усе мае сваякі ўпэўнены, што мая нявеста — гэты ты.

Я здзіўлена паглядзела на яго, і ён паспешна працягнуў:

— Мне ж было трэба неяк растлумачыць маці і цётачкам, чаму я з’яўляюся паўсюль з дзяўчынай. Прасцей за ўсё было сказаць, што мы заручаны. Потым я паведаміў бы, што мы пасварыліся, што ты мне адмовіла і ўсё было б забыта. А пакуль яны разглядалі цябе як маю нявесту і ты ўсім страшэнна спадабалася, мне было так прыемна, што я зрабіў — як быццам бы зрабіў — правільны выбар. Я збіраўся расказаць табе пра такі маленькі падман, — ён усміхнуўся вінавата, — але паступова забыўся, што гэта падман, бо мы так паладзілі, нам было весела і лёгка разам. Часам я думаў, што ты ўсё разумееш і падыгрываеш мне, бо ты так спрытна гутарыла з цётачкамі і маёй матухнай пра ўсе гэтыя вясельныя справы!

Ён памаўчаў, напэўна, даючы мне магчымасць уклініцца ў яго маналог. Але ў мяне галава круцілася ад усяго пачутага, я маўчала…

— А потым раптам Падушачка згадала вяселле, — не пачуўшы ад мяне ні гуку, працягнуў Лем. — Ты зразумела ўсё няправільна, стала такой калючай і халоднай, што я ўжо баяўся прызнавацца табе ў чым бы там ні было. А потым ты сказала, што я няварты чалавек, што ты адмовіла б мне. Тады я задумаўся. Моцна задумаўся. І вырашыў, што, напэўна, ты маеш рацыю. Што для такой строгай і прыстойнай дзяўчыны, як ты, легкадумны і бессардэчны Лем Грымсвотн быў бы непадыходзячай парай. І я перастаў навязваць табе маю кампанію. Схаваўся ў лісці лопуху, як кажуць у такіх выпадках нямышы...

Ён раптам засмяяўся, успомніўшы штосьці.

— Як жа я рады, што Молі задумала перапіску з табой. Калі яна прачытала твой апошні ліст, то ўчыніла мне допыт, а потым адлупцавала парасонам. Матухна таксама сердавала. Яны доўга пераконвалі мяне прыехаць да цябе і сур’ёзна пагаварыць, і, нарэшце, сёння я адважыўся. Ведаеш, Дэйсі, я страшэнны баязлівец. У мяне каленкі дрыжаць пры адной думцы пра тое, што ты па-ранейшаму лічыш мяне нявартым… Я не спаў цэлую ноч, прыдумляў прыгожыя словы, нават хацеў запісаць штосьці на паперку, але потым забыўся пра ўсё начыста.

Я моўчкі села на канапу, таму што, шчыра кажучы, і ў мяне дрыжалі каленкі. Я разумела, што трэба ўсміхнуцца, сказаць штосьці, каб падбадзёрыць, але ад хвалявання не магла адкрыць рот. А небарака Лем, ізноў не дачакаўшыся ад мяне ні

паўслова, толькі ўздыхнуў. Напэўна, падумаў, што я цяпер таксама адлупцую яго парасонам і праганю прочкі.

— У нямышаў прынята распушваць хвасты і скакаць адзін перад адным на задніх лапках. Мазгаклюй прыносіць сваёй даме сэрца спелыя вішанькі і саломінкі для гнязда. Ужо не ведаю, як там спраўляюцца завяртушкі, яны самыя малавывучаныя навукай істоты… А ў нас, у людзей, у такіх выпадках прынята казаць… прынята казаць пра каханне… — ён збянтэжыўся і змоўк на імгненне. — Я разумею, якім паўстаю ў тваіх вачах: бесталковы мамчын сынок, лайдак, пажыццёва забяспечаны грашыма, выдумшчык дурных гісторый пра ўяўных істот. Да таго ж я малодшы за цябе і ты цалкам справядліва лічыш мяне несур'ёзным… Але калі закахаешся, то не бярэш у разлік ніякіх довадаў розуму. Гэта атрымліваецца неяк раптоўна, зняна цку, як быццам на цябе падае з дрэва саспелая груша: шлёп — і гатова. Прабач, я ўпершыню прызнаюся ў каханні і кажу ўсялякія глупствы. Але гэтыя глупствы — ад самага чыстага сэрца, Дэйсі. Ты цудоўная. Ведала б ты, як дзякаваў я нябёсам за тое, што табе прыйшло ў галаву прыехаць у Млынавы Раўчук. Як баяўся ніколі больш не ўбачыць цябе, калі пошукі «таго, не ведаю, чаго» зайшлі ў тупік… І як баюся гэтага цяпер, калі наша прыгода скончылася… Я не ведаю, што будзе далей, Дэйсі, але не жадаю, каб у гэтым маім «далей» не было цябе!

«Я таксама гэтага не жадаю», — ледзь была не адказала я, але Лем не даў мне такой магчымасці.

— Прабач мне мімавольны падман, — сказаў ён прачула, а потым нахабна дадаў: — І потым, гэта быў зусім не падман! Я ведаў, быў упэўнены, што ты рана ці позна станеш маёй нявестай.

— Гэта яшчэ чаму? — раззлавалася я. — Думаеш, не змагу табе, такому абаяльнаму, адмовіць?

— Не, што ты! — Лем пакруціў галавой. — Толькі таму, што ты мне страшэнна спадабалася з першага дня нашага знаёмства, калі прыехала растрывожаная і збянтэжаная, з велізарным саквояжам, набітым смешнымі рэчамі, і я зразумеў, што абсалютна не жадаю цябе нікуды адпускаць. Я адразу вырашыў прыкласці ўсе сілы, каб ты не здолела і не захацела мне адмаўляць… І калі я ўсім казаў, што пазнаёмлю з нявестай, чамусьці быў упэўнены, што не хлушу. Што ўсё так і ёсць. Дэйсі, я і цяпер у гэтым упэўнены. І, нягледзячы на біты носік падарункавага сервіза цётачкі, можа, ты ўсё-ткі выйдзеш за мяне замуж?

— Ну, я ўжо не ведаю, — сказала я няўпэўнена. — Усё-ткі ў сервізе пяці прадметаў бракуе…

Ён падняў на мяне вочы, і я засмяялася, такі разгублены быў у яго выгляд.

— Дэйсі, маё пачуццё гумару мне адмовіла, — прызнаўся ён. — Пашкадуй мяне, калі ласка, проста скажы «так» ці «не», але лепш, вядома, «так».

— Я падумаю, — прамовіла я. Не, ну а што ж, я павінна была пагадзіцца адразу і пазбавіць сябе ўсіх належных задавальненняў?

Рэштку таго знамянальнага вечара я правяла як у сне. Не можа быць, што гэта мяне толькі што папрасілі выйсці замуж. Не можа быць, што гэта ў мяне так даўно і моцна закаханы такі цудоўны малады чалавек. Не можа быць, не можа — ці можа? Жытнёвы блінчык у сярэдзіне мяне не здаваўся і спрабаваў па старой звычцы падвяргаць усё сумневу, але штосьці новае, незнаёмае квітнела ўнутры. Здаецца, я, нарэшце, паверыла, што годная кахання. Здаецца, я пачынала калі не любіць сябе, то, прынамсі, прыглядацца з цікавасцю: трэба ж, калі яны ўсе штосьці ўва мне знайшлі, то, можа, і мне самой варта гэта штосьці пашукаць?

Вярнуўшыся з музычнай гасцінай, мы па-майстэрску рабілі выгляд, што нічога не адбылося, але Молі раз-пораз усміхалася мне, а місіс Грымсвотн пацiскала руку Лемюэлю і ўся свяцілася. Цётка ж і сёстры выглядалі збянтэжана, і гэта мяне нямала павесяліла.

А бабуля, калі госці з'ехалі, сказала: «Не такія ўжо яны і дрэнныя, гэтыя твае Грымсвотны». І ў яе вуснах гэта была найвышэйшая хвала.

**Частка 18**

Я дапамагла бабулі вымыць посуд і легла спаць.

На ноч я заўсёды думаю пра што-небудзь добрае. Гэта першае правіла для такіх нервовых і недаверлівых асоб, як я: засынаючы, ніколі не перабіраць крыўды, благія думкі, страхі і трывогі. З чым заснеш, з тым і прачнешся. Таму я ўспамінаю ўдала звязаны складаны ўзор на капялюшыку для Алісы, вялікі куст белых руж, што квітнее ля садовай альтанкі, альбо думаю гультаявата пра тое, якія дзесяць падарункаў папрасіла б у добрай феі, быццам тая фея выпадкова пралятала міма і вырашыла за што-небудзь мяне ўзнагародзіць.

Звычайна я засынаю, не дабраўшыся і да чацвёртага падарунка, але сёння сон зусім не ішоў да мяне, і я пачала думаць пра «вязальнае ўпарадкаванне сусвету», як я гэта называю. Бо ўсе, усе падзеі так цесна і так хораша звязаны паміж сабой. Як добра, што ў нашым доме ўсяго дванаццаць пакояў і таму Аліса вырашыла ўладкаваць «майстэрню» на гарышчы. Як добра, што прабабуля любіла намотваць ніткі на розныя штучкі. Як добра, што я люблю вязаць і што мне трапіўся на вочы абрывак загадкавага ліста. Апошняй, ужо соннай і няспрытнай, была думка пра тое, якія ж усё-ткі чары, накладзеныя на мяне, стары Грымсвотн меў на ўвазе…

І калі з гэтай думкай я заснула, мне прыснілася прабабуля. На ёй па-над блакітнай сукенкай у ружачкі быў павязаны вышыты кухонны фартух.

«Вось дурніца, — сказала яна мне. — Я захавала гэты абрывак ліста зусім не з-за цябе! Там на звароце выдатны рэцэпт засолкі агуркоў! Астатні ліст у пліце спаліла, здаецца… А можа, і забылася… Агуркоў тым летам было — процьма…»

Раніцай я прачнулася раней за астатніх. Доўга ляжала ў ложку, успамінаючы сон. Потым пракралася на кухню, дзе яшчэ не топлена была пліта і не расхінуты фіранкі на вокнах. Вышыты фартух прабабкі вісеў там, дзе калісьці для прыгажосці павесіла яго Эма. З заміраннем сэрца я апусціла руку ў кішэньку. Ён павінны быць там! Павінны!

І ліст апынуўся на месцы. З неакуратнай дзюркай ад выдранага кавалка. Я прыклала фрагмент, што адсутнічаў, і прачытала: «…а што да тваёй праўнучкі Дэйсі, на жаль, дарагая сяброўка, мая магія тут бяссільная, на яе накладзены чары значна мацнейшыя за мае. Чары гэтыя — чары матухны-прыроды: сонечнае святло і пігмент меланін, якія і выклікаюць чароўныя вяснушкі, супраць якіх ты так пратэстуеш».

Вось што пісаў пра мяне сэр Лемюэль Грымсвотн-старэйшы шмат гадоў назад.

Якое шчасце, падумала я.

Якое шчасце, што я прачытала ліст цалкам толькі цяпер.



*Наталля КАНДРАШУК*

# НЕДЗЕ Ў ЗАЛЮСТРОЎІ



***Наталля Кандрашук нарадзілася 3 кастрычніка 1973 года ў вёсцы Камянюкі Камянецкага раёна. Па адукацыі педагог-псіхолаг, але, як паказала жыццё, насамрэч журналіст. Узяла інтэрв'ю ў «набеліста» Тумаса Транстрёмера. Лічыць, што людзям даюцца аднолькавыя магчымасці, але не ўсе іх выкарыстоўваюць. Ні пры якіх абставінах не можа адмовіць сабе ў салодкім.***

## СВЯТЛО ПЕРАМОЖА

Бязлітаснасць ночы
Маю захапіла свядомасць.
Я цемраю крочу
Далёка ад роднага дома.

Блукаю ў імжышчы,
Спяваю жалобныя песні.
Жыцця папялішча
Мяне сустракае ля весніц.

Але з небакраю
Заззяе надзеі праменьчык.
Цярпліва чакаю,
А сэрца скуголіць і енчыць.

Святло пераможа,
І зноў напаткаю я шчасце.
Даруй, Святы Божа,
Грахі, беражы, каб не ўпасці.

## НЕ МАРНУЙ ЛЁС

Калі зноў да цябе няўмольны час
Сугуччам успамінаў дакранецца,
І змрочна затрымціць на ветры сэрца,
І пахіснецца ўстойлівы абцас,

То не шкадуй таго, што ўжо прайшло.
Мінулым жыць — лёс марнаваць знямогай.
За даляглядам новае святло
Абвесціць спадзявання перамогу.

## НЕ БУДУ ПРЫДУМВАЦЬ

Я не буду цябе прыдумваць,
Лепш згаджуся з такім, як ёсць.
Рэчаіснасці перакульваць
Не жадаю. Зноў маладосць

У вачах веснавых квітнее,
Срэбрам звонкім пяе абшар.
Горыч вуснаў тваіх мацнее,
Долу хіліць зямны цяжар.

Не магу я спрачацца з лёсам,
Не такім маляваўся свет.
У далёкіх тваіх нябёсах
Па-за планамі наш дуэт.

## СПАТКАННЕ

Наша дзіўнае спатканне
У гэтай кволай цішыні,
І нябёс замілаванне
Грэе сэрца з вышыні.

Мноства зорак незгасаных
Заблудзілfся ўначы.
Выйшлі двое закаханых.
О прырода, памаўчы!

Сціхні, вецер несупынны,
Загубіся ў лясах,
У вачах азёр блакітных,
У жытнёвых каласах.

Не было ні слоў прызнання,
Ні разгубленых вачэй.
Толькі птушак шчабятанне,
Безліч восеньскіх начэй.

## ЛЮСТЭРКА

У сваім люстэрку
Я не бачу мар.
У тваім люстэрку
Ужо мяне няма.

Іншая жанчына
У вочы зазірне.
Сумнай аблачынай
Шчасце прамільгне.
Недзе ў залюстроўі
Спыніць час хаду,
І з табою зноў я
Па жыцці пайду.

## СНЯЖЫНКА НА ДАЛОНІ

Я крыштальную казку ў далоні бяру.
Толькі бляск мільгатне і — знікае.
І астылай слязой у вянку завірух
Маю белую радасць жыццё пакідае.

Цеплынёю надзей агарнуць не змагу,
Бо да сцюжы прывыкла сняжынка.
Яе позірк халодны навее тугу,
Дакранецца да сэрца празрыстай
іскрынкай.

## ГОЛАС СУМЛЕННЯ

Я падманула. Ёсць такі грашок.
Здавалася б, шмат хто тым шляхам
ходзіць.
Ды толькі ў сэрцы сумны галасок
Мелодыю трывожную выводзіць.

Жадаю адагнаць — і не магу.
Набатам цяжкім рэха загучала.
Як зняць з душы сумленнасці тугу?
Бо я сама сябе расчаравала.

Сон збег далёка, з ім — і супакой.
Маім жыццём кіруе хваляванне.
Цяжар з душы не знімецца рукой.
Я ведаю: патрэбна пакаянне.

Схілю калены: «Божа мой, прабач».
І раптам бура ў сэрцы заціхае.
Нябесны Лекар суцішае плач.
Душу сумленне зноў абараняе.

Валерый ГАПЕЕЎ

# ПРА МАРУ, ХЛОПЧЫКА І СТРЭМКУ



***Валерый Гапееў нарадзіўся 6 лютага 1963 года ў вёсцы Восава на Рагачоўшчыне. «Напісаў шэсць кніг, а ўсё адно адчуваю сябе, быццам толькі пачынаю... І яшчэ многа хочацца напісаць, не задаючы сабе пытанняў: каму, навошта? Пасля разбяромся. А пакуль ёсць магчымасць, жаданне і здольнасць — трэба пісаць...»***

*Маёй былой аднакласніцы*
*Надзеі Вярбіцкай — з удзячнасцю*

Даўно тое было. А можа, і нядаўна. Бо для некага год — уга, як доўга, а каму і дзесяцігоддзі бы дзень адзін. Ды нам жа галоўнае, што тое было насамрэч.

Дык вось, жыў-быў хлопчык. Разумны і кемлівы. Любіў ён кнігі чытаць. Самыя розныя — патрапіцца яму кніжка якая, ён аж закалоціцца, так яму карціць пад вокладку хутчэй зазірнуць, даведацца, што ў гэтай кнізе схавана, што раскажуць маленькія чорныя літары... А зазвычай жа як бывае: калі хто многа чытае ды словы любіць, з тым словы шчыра сябруюць, і можа тады той чалавек, ці дарослы, ці малы, словамі самыя розныя свае думкі ды пачуцці выказваць. Вось і наш хлопчык атрымаў у сябры мову: навучыўся ён вершы пісаць.

І прыйшла да хлопчыка Мара. Цёплымі летнімі вечарамі, калі ў лісці клёнаў ціха гудуць хрушчы, прыйшла. Апавядала Мара хлопчыку пра далёкія краіны, пра вялікія гарады, пра сапраўдных паэтаў. Пра новыя сапраўдныя кніжкі, якія можа напісаць хлопчык, пра цікавае-цікавае жыццё.

Добра было жыць хлопчыку з Марай. Толькі ёй адной і паказваў ён свае вершы. А аднойчы гулялі яны разам далекавата ад дому, якраз на тым лужку, што пачынаўся за хатай. Збягаў лужок да вялікай і глыбокай канавы, з вадой халоднай, цёмнай, а берагі канавы калючым дзядоўнікам і джгаючай крапівой густа параслі.

А дзень тады быў такі цёплы, сонечна-зыркі, з белымі прыгожымі воблакамі на небе, з мяккім ветрыкам.

І пабачыў хлопчык на другім беразе канавы дзяўчынку. Яна была такая цікавая! Гэткая хуткая, увішная, быццам верабейчык. А як смяялася яна хораша, як весела ўсміхалася і пры гэтым так смешна мружылася!

Адважыўся хлопчык і дзяўчынцы — ёй самай першай! — свае вершы пачытаў. Вой, як запаважала яго дзяўчынка, як глядзела на яго сваімі зялёнымі вачыма з цеплынёй і захапленнем! І сказала, каб абавязкова свае вершы паказаў дарослым людзям, што ў часопісах розных працуюць, бо такія вершы ўсім трэба, таму што яны — добрыя, светлыя і таленавітыя!

Пагаманілі яны шчыра і даверліва, ды развіталіся неўзабаве. Памахала яму дзяўчынка рукой, запрасіла: «Прыходзь, я чакаць буду!» — і пайшла.

А жыла тая дзяўчынка не так і блізка. За гэтай канавай, праз дзікі луг расквечаны, за невялікім лесам стаяла яе хата.

Вярнуўся хлопчык з Марай дамоў акрылены, а Мара яму і кажа: «Так ты дзяўчынцы спадабаўся, і яна табе глянулася. Сапраўднай яна сяброўкай будзе, не смяялася з тваіх вершаў, а бачыў, як слухала?»

Эх, думаў хлопчык, каб жа бліжэй трошкі жыла дзяўчынка! Схадзіў бы да яе, і яны б разам… Яны б разам пайшлі па тым стракатым ад самых розных кветак лузе і трымалі б адно аднаго за руку… Хіба ж больш чаго трэба? А пакуль свае найлепшыя вершы сабраў ды адправіў у самавіты часопіс літаратурны. І надрукавалі там вершы ды яшчэ сказалі, каб болей дасылаў. Хлопчыка ўсе пазнаваць сталі, глядзелі на яго з павагай, хвалілі ды самыя добрыя словы казалі, дзякавалі за вершы.

Так усцешыўся хлопчык, так яму захацелася з той дзяўчынкай радасцю падзяліцца, а болей — пабачыць гарэзлівы агеньчык у яе вачах! Выходзіў ён на лужок, узіраўся, ды не з'яўлялася яна. Трэба, значыць, самому да дзяўчынкі ісці. Ды ніяк асмеліцца не можа — далёкая ж дарога. Дзень мінуў і другі, а Мара усё хлопчыку пра дзяўчынку нагадвае: луг і адцвіце хутка!

Адважыўся хлопчык аднойчы, сабраўся раніцай і пайшоў. Вось і канава тая. А дзядоўнік, ледзь хлопчык да берага бліжэй стаў, як выпусціць свае калючкі, а крапіва як зашыпіць пагрозліва сваімі лістамі!

Напужаўся хлопчык. «Ого, — з жалем падумаў ён. — Якія ж яны страшныя ды вялікія. Малы я зусім, не перайсці мне цераз крапіву і дзядоўнік. А як і перайду, там вады глыбока, і халодная яна, і п'яўкі там чорныя, слізкія…»

Так ён сябе суцяшаў, назад паварочваючы. І раптам адчуў, як у грудзях нешта кальнула ледзь-ледзь. Бы калючка якая з таго дзядоўніку патрапіла ў самае сэрца. Замёр ад неспадзяванкі хлопчык і на месцы стаў. Сцішыўся боль, аднак адчувалася, што засталася калючка стрэмкай. Ну, нічога, можа, больш не будзе калоць…

Вярнуўся дадому хлопчык і стаў чакаць, пакуль падрасце. Сонца ўстане і зойдзе — вышэйшым і дужэйшым ён робіцца. Верш новы напішацца — шырэйшы ў плячах хлопчык. І колькі там ці то дзён, ці то гадоў мінула, адчуў хлопчык, што ён і не хлопчык ужо, а юнак хвацкі. І ўсё як быццам бы добра, ды часам паколвае нешта ў грудзях незразумелае. Паглядзелі юнака дактары, рознымі апаратамі праверылі, не знайшлі нічога небяспечнага. Тут у палату да юнака Мара прыйшла: «Самы час, — кажа, — збірацца ў дарогу. Чакае яна цябе…»

Вой, неяк і забыўся юнак з-за розных падзей на тую канаву. Ну што ж, калі чакае — дык трэба! Схапіў юнак у рукі палку вялікую — дзе цяпер яго спыніць нейкай крапіве з дзядоўнікам! Як раз махне, дык… Прыйшоў, рашучы, на бераг канавы, а там і махаць не трэба — пасох дзядоўнік і паламаў яго вецер, легла на зямлю старая рудая крапіва. Абселі берагі канавы, і знікла ў ёй вада… «От як добра, — думаў юнак. — Хутка і без праблем усё будзе. Адно што пачакалі мы трошкі…»

Луг дзікі з пажоўклай травой перабег юнак, вось і той лясок перад ім.

Ага! Калі рос хлопчык, моцы набіраўся, дык жа і дрэвы ўвысь цягнуліся і таўсцелі! Не лясок — лес сапраўдны, гушчар непралазны перад юнаком. І чуваць у тым лесе нейкія галасы страшныя, пагрозлівыя. Няйначай, бандыты адзіную сцежку сцерагуць, кожнага, хто асмельваецца лес перайсці, ловяць, катуюць…

Не, аднаму цераз лес ісці — сабе смерці шукаць. Трэба назад вяртацца! І нешта больш сур'ёзнае замест простай палкі браць у рукі, калі ўжо намерышся зноў… Хіба ж не разумна так паступіць? Развярнуўся юнак дадому, і тут зноў, як некалі

даўно, кальнула яго ў грудзях, ды ўжо мацней. Вось жа, куды тыя дактары глядзелі! Ды нічога, цярпець можна… Перабаліць.

А Мара, засмучаная, пляцецца ззаду, усё пра той дзень далёкі летні згадвае ды летуценна кажа, як можна ім было б цяпер не толькі за рукі ўзяўшыся, лугам прайсці, але і пасядзець на лавачцы пад язмінавым кустом ды пачуць, як у тым дзікім лузе драч дранку дзярэ… Можа, там і не разбойнікі ў лесе крычаць, а толькі совы гукаюць, казадой спявае…

— Пачакаем крышку, — звярнуўся юнак да Мары. — Ты ж бачыш, вось пачакалі — і адну перашкоду лёгка прайшлі. А цяпер яшчэ цярпення трохі — і лес той нястрашным будзе. І надта мне не апавядай, як яно там далей можа быць… Пераначуем дык пачуем… Трэба вершаў яшчэ напісаць, пакуль пішуцца, на кнігу збіраць…

Ноч за ноччу мінае, расце юнак. Ужо і вусы пад носам прабіліся, і голас змяніўся. А Мара яму штораніцы на лес паказвае: можа, сёння нястрашны ён? Можа, час лес перайсці?

— Вось тыдзень-другі яшчэ пачакаем і пойдзем, — абяцае юнак, на сябе ў люстэрка дзівячыся — сапраўдны мужчына стаў! Адно крыху непакоіць: часам паколвае стрэмка ў грудзях, не балюча, а быццам нагадвае пра сябе — я ёсць…

Вось наступіў той дзень, калі вырашыў мужчына: у наступны панядзелак пойдзе! Ды тут неспадзяванка выйшла ў суботу — быў на гулянцы і сустрэў маладзіцу. Гаваркая ды вясёлая. Здзівілася з яго маладзіца: як можна аднаму жыць? А есці табе хто варыць? А хто ў хаце прыбірае? Задумаўся мужчына: і праўда, можа, яно лацвей будзе? Сумнавата аднаму, а з тае Мары які таварыш — есці-піць штодзень хочацца, а што яна можа? Вось прыйшла маладзіца ў дом, утульнасць навяла, вячэру згатавала. Ого, як сябе хвайна мужчына адчуў! Выйшаў кавы пасёрбаць вечарам пад клён. У лісці хрушчы бзумкаюць… Нешта такое знаёмае… Падняўся мужчына, зірнуў за плот, на далёкі дзікі луг і чорны лес. Падышла да яго Мара, паклала тонкія рукі на плечы.

— А помніш, як той луг цвіў? А можна…

Успомніў мужчына… Падумаў: луг цяпер росны, раса халодная… А на ім — чаравікі модныя, сёння купленыя. Пра лес і думаць вусцішна. Як сцежку ў цемрадзі знайсці? Дый зарос той лес, маліннікам пераплёўся, ядлоўцам загарадзіўся… І сам ён стаміўся. А тут у цёплай хаце — ложак мяккі, а раніцай яешня на патэльні сквірчэць будзе, цябе пабудзіць… І чаравікі цэлыя застануцца. Уся зарплата на іх пайшла… Ды і як пройдзе ён праз той лес, а ці чакае яго хто? Ці ёсць яшчэ тая хата?

— Ты, Мара, ідзі сабе… куды-небудзь, — уздыхнуў мужчына. — Мы з табой у згодзе пажылі, нечага дасягнулі. Вершаў шмат напісалі, кніжку выдалі. Дык і хопіць. Чаго мне яшчэ жадаць? Дзетак мне маладзіца, а не ты нараджаць будзеш, і абеды гатаваць ты не ўмееш, і падлогу ні разочку не памыла…

Ох, як укалола ў грудзях мужчыну пры гэтых словах тая стрэмка! Ажно руку да сэрца прыклаў, пачакаў… Прайшоў боль. Павярнуўся мужчына і пайшоў у хату — спытаць у маладзіцы якую пігулку ад болю.

А Мара пайшла ў цёмную ноч. Ці доўга брыла, ці не — таго ніхто не ведае. Мара ж гадоў не лічыць. Вось бачыць яна — стаіць дом вялікі на ўскрайку сяла. Свецяцца жоўтым цяплом вокны, пахне смачным. Пастукалася Мара. Пусціў яе ў дом гаспадар.

— О, — агледзелася Мара, — мабыць, я вам якраз і трэба. Вы — на зямлі сваёй гаспадары, працай сваёй жывяце, дзетак у вас — ажно трое…

— Тое ты праўду гаворыш, — кажа гаспадар. — З зямлі мы жывём. З поту свайго.

— І няма нам зусім часу пра нешта вялікае думаць, — дадала гаспадыня. — Мы аб простым клапоцімся, зямным клопатам жывём. І дзецям нашым няма калі ды і няма чаго трызніць пра цуды. Іх дні наперад распісаны: калі вучыцца, калі праца-

ваць, калі жаніцца, калі гуляць. Мы — працаўнікі шчырыя, а летуценнікі вунь, пад магазінам стаяць, мараць ад ранку, хто б пахмяліцца даў.

— Так-так, — пагадзіўся з жонкай гаспадар. — Мне цябе шкада, канешне, жанчына ты мяккая, добрая, але ж…

— Салодка і мякка спіцца з Марай, ды горка часам прачынацца! — уздыхнула гаспадыня. — Меней марыш — меней баліць, калі пустымі тыя мары выяўляюцца.

— Ты ўжо выбачай, можам мы табе дазволіць пагрэцца, але ж нават на час кароткі жыцьмець не пусцім — сама сваю натуру ведаеш… — пачаў апраўдвацца гаспадар.

— Я ў душах адаграюся, у сэрцах жыву, — сумна ўсміхнулася Мара. — Добра начаваць вам!

Павінілася Мара за пературбацыю перад гаспадарамі ды пайшла далей па Зямлі блукаць. Ідзе сабе ды разважае: можа, і правільна гэта — трэба не марыць пра вялікае нешта, што далёка за аблокамі, а за малое хапацца? І ці да мараў чалавеку, калі не жыве — выжывае, дзень ад дня не розніць, з-за поту салёнага далей за межы свайго поля не бачыць? «Мабыць, толькі перашкаджала б я такім людзям, — думала Мара. — Трэба да тых ісці, хто ўсяго дасягнуў…»

Доўга хадзіла Мара, шукала. Нарэшце, натрапіла на хату. Не хата — амаль што палац, высачэзным плотам агароджаны, ля варот ахоўнік стаіць.

— Я — Мара, — павіталася з ім Мара.

— Хто-хто? — пагрозліва перапытаў ахоўнік. — Што за мара? Ты на прыём запісвалася? Што табе трэба?

— Мне нічога не трэба, — адказала Мара. — Гэта я твайму гаспадару трэба.

Вочы вылупіў ахоўнік, але ж справу сваю ведае — далажыў па сувязі:

— Бос, тут нейкая дзеўка… Не ведаю, кажа, што яна — мара. І кажа, што вам трэба. Маладая. Ну так, але абадраная нейкая. Ага, чакаю…

Тут дзверы ў плоце адчыніліся, выходзіць бос. Вялікі, тоўсты. Вылупіў вочы, глядзіць.

— Дык ты — Мара?

— Я.

— Чакай, чакай, штосьці ўспамінаю… Во, мне бабуля ў дзяцінстве нешта такое пра цябе казала. Што ёсць ты. Цікава як, глядзі — сама прыйшла… Дык, кажаш, ты мне трэба. А нашто?

— Я — Мара, — разгубілася Мара. — Я людзям трэба, каб жыць па-сапраўднаму…

— Во! Успомніў! — аж засвяціўся ад радасці бос. — Бабуля мне шаптала, што трэба марыць стаць генералам, дык тады дакладна дарасцеш да палкоўніка. Аха-ха-ха! А сама ў адной спадніцы жыццё пражыла і ў ёй жа ў труну паклалі… Слухай, дзеўка, мне марыць не трэба. Мне вось каб адно не згубіць — жаданне. Разумееш ты? Бо я чаго ні пажадаю, тое маю. У мяне гэтулькі грошай — на любое жаданне. Здаецца, усё паспрабаваў. Дык і баюся, каб жаданні не зніклі. От так…

Павярнулася Мара, каб пайсці, тут бос адумаўся:

— Стой! Во! Ты мне дакладна трэба! Да мяне сёння сябрукі прыедуць, ты зараз памыешся добра, апранем мы цябе па-сучаснаму, будзеш нам танчыць! На цябе, як у цырк, будуць ехаць дзівіцца. Яшчэ і зараблю… Так, заходзь!

— Не, я так не згодна, — сумна адказала Мара. — Пайду я…

— Куды? Хапай яе! — закрычаў бос ахоўніку.

А як ты яе ўхопіш? Мару рукамі не ўтрымаеш, сілком хіба можна чалавека марыць прымусіць?

І не ведала Мара, куды далей ісці. Каго сустракала — да тых і падыходзіла. І да маладых закаханых яна звярталася, але ж у тых не мары — планы амбіцыйныя,

наперад распісаны, фінансава пралічаны. І да палітыкаў Мара на сход завітала, але ў тых праграмы на дзесяць гадоў распрацаваны, а тыя праграмы зацверджаны, пад іх гранты атрыманы, людзі на пасадах размеркаваны.

Адчай у душы Мары пасяліўся, прысела яна аднойчы на беразе невялікай рэчкі. Задумалася пра сваё становішча горкае. Што рабіць? Ёй жа наканавана лёсам з людзьмі жыць, а цяпер — які сэнс?

Тут чуе крокі. Азірнулася гаротніца, бачыць, стаіць жанчына. Незнаёмая і быццам знаёмая.

— Што ж ты ў адзіноце? Чаму да мяне не прыходзіш? — з усмешкай спагадлівай пытаецца жанчына, а ў вачах такія іскрынкі знаёмыя, што аж падхапілася Мара.

— Гэта ж ты? Ты — тая дзяўчынка?

— Не тая ўжо я дзяўчынка, — кажа са смуткам цёплым жанчына. — Але хадзем да мяне.

— Навошта ж я табе цяпер? Жыццё тваё амаль пражыта… — здзівілася Мара.

— І тое праўда, — без суму згадзілася жанчына. — І дзеці мае выраслі, і сама я састарэла амаль… Хадзем…

Прывяла жанчына Мару ў свой дом. Ходзіць Мара па пакоях, дзівіцца, узрушаная, супакоіцца не можа.

— Не ведаю я, чаму так атрымліваецца, — разгублена прызналася яна жанчыне. — Але ж вось такое ў мяне адчуванне, што мой гэта дом, што я тут увесь час знаходзілася, і было мне добра і светла…

— Ты тут і была, — з усмешкай адказала жанчына.

— Дык не жыла ж я з табой…

— Так. З некім жыве Мара, а нехта з Марай жыве. Ты са мной не жыла, а я з табой ніколі не развітвалася.

— І луг той помніш? І вершы тыя дзіцячыя? І хлопчыка таго са смешным чубам?

— Помню. Усё помню… Ты ведаеш што-небудзь пра яго? Раскажы, як ён жыве, ці шчаслівы?

— Няма больш таго хлопчыка… І юнака таго няма. Няма паэта. Мужчына вырас, важны і мажны. На пасадзе адказнай. Хатняй утульнасцю выпеставаны, прысмакамі ўкормлены. Мабыць, шчаслівы.

— Няхай у яго будзе ўсё добра…

— Нядобра яму, — ціха запярэчыла Мара. — Ён свайго самага галоўнага ў жыцці не зрабіў, што павінен быў зрабіць — праз лес не прайшоў. Не можа быць ён шчаслівым, бо ведае, хай і адзін ведае, які ў душы баязлівы. Стрэмка ў яго сэрцы сядзіць, і не меншае, баліць яна яму. Усіх дактароў ён прайшоў, на самых сучасных апаратах грудзі яго прасвяцілі, нічога не пабачылі, але не мінаецца боль…

Нічога не прамовіла ў адказ жанчына, уздыхнула са скрухай, гарбатай салодкай Мару пачаставала. Пераначавала Мара ў жанчыны, а назаўтра, ледзь памытае расой сонца ўзнялося над лугам, пайшла ў зваротны шлях — да колішняга хлапчука.

І насамрэч, жыў той мужчына без злыбедаў і гора, хлеб меў і іншае, каб на хлеб намазаць. Але ж і тое праўда, што ў самым дальнім куточку душы ніяк не сціхаў боль ад стрэмкі. То садніла, то калола, і чым далей час бег, тым часцей ды больш балюча.

Успомніў аднойчы мужчына, як пад клёнам каву піў, і так яму захацелася зноў шолах хрушчоў у лістоце пачуць і салодкім пахам квецені кляновай падыхаць, цыгарэтным дымком пыхнуць. Ды нельга ўжо яму каву і цыгарэты нельга — сказалі пра здароўе дбаць, сцерагчыся. Узяў мужчына кубак з нейкай травой лекавай, кіпенем залітай, выйшаў… А клёну няма — спілавалі.

Так горка стала яму, так няўтульна на свеце. І прыхінуцца няма да чаго. Вось каб клён той быў са ствалом шурпатым…

Тут Мара да яго падышла і гаворыць наўпрост:

— Дастань стрэмку з сэрца — прайдзі шлях.

Зірнуў на Мару мужчына, пасля — на чаравікі свае чыстыя, дарагія, на касцюм, нядаўна за мяжой набыты…

— А яна чакае? — нясмела спытаў ён у Мары.

— Чакае. Ад таго дня, — уздыхнула Мара.

Вярнуўся мужчына ў дом, пакорпаўся ў сваіх схованках, рашуча дастаў пачак цыгарэт. Выйшаў, запаліў — і пайшоў хутка, наўпрост праз лужок да старой канавы.

А замест той канавы — балаціна гразкая, дзе правальваўся па калені, выпаўзаў, хапаючыся рукамі за купіны з вострай, што лязо, асакой. Замест дзікага прыгожага лугу — поле ўзаранае, дзёран грувасціцца, не прайсці, скачы з горкі на горку бы заяц. А ў вялікім лесе — буралом… Праз усё прайшоў мужчына, і ніводнага разу ні пра чаравікі свае не згадаў, ні пра касцюм новы.

Пабачыў дом, пабачыў, што выйшла з таго дома яму насустрач жанчына. Сказаў ён:

— Вось, я прыйшоў…

— Я ведала, што ты прыйдзеш, — усміхнулася з любоўю жанчына.

Папрасіў мужчына ў жанчыны кубачак гарачай кавы. Сядзелі яны на лавачцы пад старым кустом язміну, а мужчына піў па глыточку каву і паліў. Маўчалі абое, дзівіліся на недалёкі лес. А там…

Раптам з’явілася там нешта святочна-белае, быццам аднекуль з глыбінь зямлі ўзнімалася светлае цёплае полымя, ды нічога не паліла, а толькі свяціла.

— Хадзем паглядзім?

І яны пайшлі. І неяк так атрымалася, што крануўся мужчына рукі жанчыны, прытрымаў яе цёплыя пальцы, сціснуў іх лёгенька і пачуў зваротны поціск. І ішлі яны далей, трымаючы за руку адно аднаго. Падышлі — ажно гэта груша! Дзікая груша аднекуль з’явілася на ўскрайку лесу, і вось раптоўна распусціла ўсе свае кветкі, апранулася ў бялюткае ўбранне.

— Дзіва якое! — вохкнула жанчына.

— Не дзіва, — мякка запярэчыў з усмешкай мужчына. — Калі аднойчы зярнятка было кінута, то яно прарасце…

— Праўда? — раптам схіліла галаву набок жанчына, прымружылася і ўсміхнулася ў адказ так пакутліва-знаёма.

— Праўда, — ціха прамовіў мужчына, заваражаны гэтым мілым позіркам. Ён углядаўся, нібыта піў з вачэй жанчыны чароўны напой, і бачыў, бачыў у зрэнках яе, як робіцца сам усё меншым і маладзейшым, вось яшчэ трошкі — і юнак ён той самы, а вось і хлопчык…

Страсянуў галавой — а перад ім стаіць тая самая ўвішная дзяўчынка-верабейчык і ўсміхаецца яму весела і цёпла.

Не згаворваючыся, трымаючыся за рукі, яна пайшлі да лесу. І маладзеў увачавідкі лес, знікаў буралом і зараснікі, святлелі ствалы дрэў. А на дзікім лузе варочаўся, укладваючыся на свае месцы, дзёран, зажывалі раны ад плугоў, прабіваліся з зямлі кветкі. Хлопчык з дзяўчынкай ішлі, ішлі і ішлі па гэтым лузе, а яму не было канца — ажно да самага сонца, што хілілася цяпер на заход, сцяліўся зялёны аксаміт травы, і залатыя промні запальвалі на гэтым аксаміце новыя і новыя кветкі.

А за спінамі хлопчыка і дзяўчынкі з грушы на ўскрайку лесу ападалі павольна пялёсткі кветак, усцілаючы дол трапяткой беллю. Мара, якая стала грушай, не памірала, не.

Так бывае з кожнай марай, якая збываецца — яна пяшчотным лёгкім дыванам засцілае месцы, дзе мы па-сапраўднаму былі самымі шчаслівымі.

Штогод, праверце гэта самі.

# ПРЫЧЫНАЙ, МУСІЦЬ, ГЭТА ВОСЕНЬ

*Мікола АНТАНОЎСКІ*




*Ілюстрацыя Алесі ГАЛОТА.*

* * *

Любім спасылацца мы на сэрца,
Спачувальна ляпаць па плячы...
Бацька мой мяне сваёю смерцю
Не баяцца смерці навучыў.

Мо таму і сум мой светлы сёння,
Як над полем ветах малады,
І не прагну кінуцца ў пагоню,
Каб вярнуць мінулыя гады.

Паўтараецца, відаць, бясконца
Аднастайны захад і ўсход —
Для жывых і ўмёрлых адно сонца,
Шумных крыгаломаў хрэсны ход.

Для жывых і ўмёрлых адзін вецер
І адзін знак шчасця і бяды:
Асыпаецца спачатку квецень,
А пасля на дол ляцяць плады...

**СЯРОД ЛІСТОЎ**

І з ценем смутку, нейкага папроку
Сябе спытаю: «Хто ты на зямлі?»
Няўжо, як ліст самотна-адзінокі
Сярод лістоў, што сыплюцца з галін?

Хаджу ў задуме ціха між бярозаў
І, ап'янелы, можа, упершыню
Так разважаю аб жыцці цвяроза
І так высока сэнс яго цаню.

Таму прычынай, мусіць, гэта восень —
Нібы ў яе патрапіў неспадзеў,
Калі шукаюць вочы ў небе просінь,
А бачаць шэрыя шкілеты дрэў.

І, хоць я знаю, што пасля завеяў
У прадчуванні з выраю гракоў
Вішшо бяроз ізноў заружавее,
Сумніў гняце з упартасцю грахоў.

А мо сумніў мой —
толькі бура ў шклянцы,
Калі душа так прагне цеплаты?..
Ах, як зайздросна у паўсонным танцы
Ляцяць з бяроз спакойныя лісты!

* * *

Над высокім жытам — жаваронак,
А ў высокім жыце — васілёк,
І сузор'ем гаркаватых гронак
Арабіны свецяцца здалёк.

Капялюш зрывае пругкі вецер:
Выкінь, братка, гарадскі убор.
Тут цябе па-простаму прывецяць
Жаваронак, колас, светлы бор.

Капялюш здаўна тут не ў пашане,
Паважае поле картузы,
Бо чынілі полю пакаранні
Капялюш ды зрэдку маразы...

Патаемны зноў праб'ецца голас,
Славячы душэўную красу,
І — грашней знячэўку спляжыць
колас,
І радней па ім журлівы сум.

Капялюш без жалю, без праклёнаў
Паляціць у жыта незнарок...
Над высокім жытам — жаваронак,
А ў высокім жыце — васілёк.

## ТЫ, Я І ЛУГ

Падавіўся коласам салоўка,
А яму б спяваць яшчэ, спяваць!..
Згоркла вянуць травы ці салодка,
Плакаць сёння дню ці баляваць?

Луг ад сонца ачмурэў і пахаў,
І басіць, і звоніць, і пяе.
Ахінаюць, быццам крылы птаха,
Стан твой рукі цёплыя мае.

Толькі выплыў, як дакор, адзіны
На ўсё неба воблак малады —
За якія гэткія правіны
Ты караеш словам нематы?

Адкажы, пакуль не лёг пракосам
З лёгкім жалем малады наіў.
У вачах, журлівых і раскосых,
Ні папроку і ні цеплыні.

Згоркла травы вянуць — не салодка,
Пэўна, ў лузе дню не баляваць...
Падавіўся коласам салоўка,
А яму б спяваць яшчэ, спяваць.

*Алесь ГІБОК-ГІБКОЎСКІ*

## ПЕСНЯ З ПАДНЯБЕСЯ

Быў самы цёплы вечар гэтым летам,
а сэрца зноў самотаю разбіта,
я ўбачыў раптам, што твая планета
змяніла сваю звыклую арбіту.

Яна, як напалоханая птушка,
ад небяспекі новай, нечаканай
хіснулася… І ўсё было так слушна!..
І так несправядліва і заганна!..

Прыціхла песня, з паднябесся чутая,
што лекавала раненае сэрца,
і зразумеў празрыста і пакутна я,
што мы не роўня ні ў жыцці,
ні ў смерці.

І праз прастор нямераных сусветаў
паслаў табе сігнал я ва ўтрапенні,
бо тваю песню, так і недапетую,
вярнуць хацеў хоць на адно імгненне.

І атрымаў адказ я хуткаплынна,
як лёд халодны — адпаведна з часам!..
Ён кропкай быў — мяне ў маёй пустыні
бязлітасна кідаў ізноў сам-насам!

Мне не спасцігнуць — ды і не хачу! —
наканаванне строгае нябеснае…
І ўсё ж малітву ўдзячнасці шапчу
за ўчутую аднойчы тую песню я!..

## ЛЮТЫ

Я йшоў па жыцці, бы ў путах,
хісталася лёсу канва...
Бо мне нарадзіцца ў лютым
Гасподзь Бог наканаваў.

Пасыл даў люты пэўны:
ў віхурах жыць — як у сне!
І на бальшак патрэбны
каб і не выйсці мне!

Ён хоць абяцаў, нібыта,
удачу раскладам планет,
а сам шляхі мае блытаў
і захінаў мне свет.

Адсюль атрымаў я ўласны
характар, нібы віхор,
закідваў мяне ён часта
да самых найдальніх зор!

Пад неба жыццёвыя буры
ўздымалі мяне, як дым,
і свет не такім пахмурым
здаваўся адтуль тады...

Як вынік маіх палётаў —
суседка цяпер мая
адна — глухая самота...
Халодная... Як зіма!

## ПРЫСУД

Ён для мяне стаў сімвалам бяды,
стаў землятрусам, скалынуўшым стоды,
прысуд з адтэрміноўкай ў два гады —
«Расстацца нам!.. Расстацца назаўсёды!»

Прысуд той стаў мяжою адмысловай,
тым Рубіконам, што бы ў лоб страляў,
разбіўшы мне жыццё на дзве паловы —
адну — што «да», другую —
што «пасля»!..

І ў гэтай, што «пасля», яшчэ я ёсць,
як горкі напамін пра час той дзіўны,
калі няўзнак мы паяднали лёс,
каб шлюб стварыць пад Богам
неразрыўны.

А сёння я за ўсе свае грахі
плачу без меры, без якіх умоваў,
за тое, што ў нядобры час ліхі,
ты мне чамусьці не змагла адмовіць…

## БАЛАДА ПРА РАБІНКУ

*Г. Г. Маркес*
*«Палкоўніку ніхто не піша...»*

Палкоўніку даўно ніхто не піша,
і тэлефон заснуў працяглым сном,
і толькі вецер роздумна калыша
танклявую рабінку за акном.

Яна штодня галінкамі ківае,
нібыта хоча з ім загаварыць,
як быццам стан ягоны адчувае,
што на разломе — «Быць
альбо не быць?!»

Нікуды не схавацца ад самоты,
хоць крычма на ўвесь горад закрычы!
Ваякаў бравых зніклі недзе роты,
што гучна шанавалі яго чын.

Сябры кудысь разбегліся імгненна,
як з карабля ўцякаюць пацукі,
калі ён, мусіць, патануць напэўна
ад гневу цяжкай Боскае рукі...

Сышла жанчына, што была адданай
здавалася б, да скону... І цяпер
застаўся ён адзін, з нязгойнай ранай,
нібы стары, бядой загнаны звер.

Усё сплыло — улада, слава, вернасць,
і памутнеў жыццёвы небасхіл!
І ён адчуў у скрусе невымернай,
што вось яна — расплата за грахі!..

Ранейшага цяпер не перайначыць —
быў надта пакручастым ззаду след!..

Цяпер адно рабінку мусіў бачыць,
як бачыць крыж манах-анахарэт.

І нейк аднойчы, быццам, зазірнула
ў акно рабінка, і пачуў ён шэпт:
«Ты не сумуй, брат, моцна па мінулым,
павер, не збегся клінам на ім свет...

Ты трапіў сёння ў горкую самоту,
як падае зярнятка ў раллю,
ды ведама — заўжды пасля палёту
даводзіцца вяртацца на зямлю!..

Вось і вярнуўся ты... Ды толькі крылы,
так звыклыя ў вышынях зорных плыць,
баляць табе — з таго і свет пастылы,
з таго і выбар — жыць альбо не жыць!..

Ды ў лёсе ў тваім яшчэ не вечар,
і боль твой — адно кропелька ў вяках,
і хутка ў цябе здарыцца сустрэча,
якую ты ніколі не чакаў!

Між тым дзеля яе на свет ты гэты
прыйшоў, каб прабудзіцца ўсё ж
ад сну!..
Яна пакуль што дальняю каметай
ляціць к табе праз зорак мітусню!..

Ды ты чакай, адно не падай духам,
і калі зможаш вытрымаць свой боль,
пераадолець урэшце смерці скруху,
ва ўзнагароду мецьмеш ты любоў!»

Рабіна замаўчала разам з ветрам,
што за акном ужо страчаў зару,
адчуў палкоўнік, што ў душэўных
нетрах
стаў адбывацца нейкі дзіўны зрух!

Свет навакольны раптам сціх нязвыкла,
і ўспыхнуў водбліск дзіўнага святла...
Рабінка пад акном кудысьці знікла,
як быццам там ніколі не расла!

А па сцяжынцы, што вяла да тыну,
плыла жанчына — сонейкам з нябёс!
І зразумеў палкоўнік, што рабіна
ягоны слушна прадказала лёс!..

Ён прыгажуні той насустрач выйшаў,
падаў ёй рукі — і без слоў абняў…
А над зямлёй у светлай Боскай цішы
кахання песні голас залунаў…

*Галіна БАБАРЫКА*

**САЛАЎІНЫ РАНАК**

Па срабрыстай расе
На лугі ў дзьмухаўцах
Ранак промні нясе
У агністых снапах.
Парадзелы туман
Уцякае ў раку,
Варажбітка падман
Раздае: «Ку-ку-ку».

Праганяючы сон,
Салавей далучыў
Прыгажосці ў палон
Пераліўны матыў.

У такія часы
Вера ў шчасце мацней:
Сярод дзіўнай красы
Заспяваў салавей.

* * *

Здарожыўся дзень. Надвячорак
Упаў на зямлю цішынёй.
Сусвет мірыядамі зорак
Расшыў парасон над зямлёй.

Усё, што за дзень пражыта
Пясчынкамі радасці, слёз,
Здаецца, не стала нябытам —
Лягло на прасторы нябёс.

Ляжаць каля праўды і веры
Крупінкі сумненняў, маны,
І здрады, і злосці без меры,
Дабра, што не мае цаны.

Світанак пастукае ў дзверы
З надзеяй, што мудрасць нясе…

Асыплюцца зоркі… І шэрасць
Атуліць зноў свет пакрысе.

**У ПАЛОНЕ ВОСЕНІ**

Бабіна лета
Шчодрай рукою
Лье на палетак
Сонца ракою.
Неба блакітам
Свеціцца ў кроне.
Восень адкрыта
Душы палоніць:
Ніткай бялюткай
Позіркі вяжа,
Яркія хутка
Творыць пейзажы.
Цёплыя фарбы
Дрэвам-букетам
Дорыць, як скарбы,
Бабіна лета…
Кідае жораў
Сумную ноту
Родным азёрам,
Рэкам, балотам…

**МУЗЫКА**

Яблыкам малінавым даспелым
Сонцаападае за сады,
Вёску ахінаючы нясмела,
Цягнуцца туману невады.

Сілы не хапае любавацца,
Ночы прыгажосць без гледача,
Стомленая восеньскаю працай,
Вёска замірае на вачах.

Рукі адпачылі каб да ранку...
Раптам, разарваўшы цішыню,
Найгрышам музыка каля ганка
Стому выклікае на вайну.

Музыка ўзлятае пад аблокі,
Зоркамі трымціць у вышыні,
Грай жа, беларускі Завалокін,
Душы ад знямогі барані.

Месяц серабрыстыя нябёсы
Бляклым асвятляе ліхтаром,
З яблыкамі падаюць у росы
Ноты залатыя за акном.

*Анатоль ШУШКО*

**ПІНСКАЯ БУСЛІНАЯ БАЛАДА**

***Таццяне Аркадзьеўне Хвагінай***
***як суаўтару ахвярую***

**Размова з аднакурсніцай**

— Пра белыя крылы хачу распачаць,
Пра тое, што стогне ў гневе.
Мінулае, чую, патрэбна згадаць,
Бо блудзяць нашчадкі ў сумневе.
Паверыш, я казку-быліну знайшла
Таму, хто забыўся на зерне…
— Мая ты! Вядзі ж, калі ўжо ўсчала.
Сапраўднае, дзейснае вернеш…

**2**

— Ой, ты, Толіку-свет!
Гамані, гамані!
Уцінайся ў Слова,
Пражыся!
Біся,
лісся,
цурчы,
Грэйся,
грайся,
цані
Разам з тою,
З якою здружыўся.
Гэта — праўдай было.
Перад самай вайной
Растрывожана
Доля кружляла…
Ды ўсё ж верыцца мне,
Што цалюткай віной
Жэўжыць верш у табе
Ад Купалы…
— Таня,
Меней лячы!

— Не сярдуй…
Не крычы…
— Мне сягоння
Дарэчы ўсялякасць…
— Зараз сэрца гучыць?
— Як мага ад прычын…
— Уцячы б ад каторых
Паплакаць?..

**3**

Бачыш гэну буслянку,
Сябрук Анатоль!?
Даражэнечкі мой
Аднакурснік!
Не да прымхаў больш мне,
Лепш душу напатоль:
Аб мінулым паслухай,
Хаўруснік!
Байку-быль
Мне вядоміла
Бабця адна:
— …Тое, Танечка,
Мела я ўчора,
З цесляром-спадаром
Дзень за год пражыла,
А няўзнак
Дачакалася гора.
За Пальшчызнай было.
Нейкі прышч Рабінтроп,
Шчэ ж Молатаў,
Ды распісаліс…
Мой тады дзежкі
Кіпцем-скабэлкам аскроб,
А буслы,
Бы набат,
Клекаталі.
Так вясновіўся дзень —
Не хаваў нават цень.
Нават кветкі,
Як промні,
Зіхцелі.
І, задавалася,
Кожны
Зрыўголаў ляцеў
Да жаданай
Любові-надзеі.
Бо буслы прыляцелі,
Бо іхне крыло —
Заўжды
Людскае долі
Прычасце —
Між стагоддзяў
Дзяцінства для ўсіх
Берагло
Аб бядовасці
І ад напасцяў.
Ды няможна было
Зразумець іх
Тады.
Цар, бач, іхні
да Пінска прылецеў…
Ведай, мілка,
Гады —
Ні туды, ні сюды,
Як святло
Заманулася ў свеце.
Як даведаўся цар,
Што ягона
Кубло
Тратны труцень
Знаяў і (пляскоча),
Не стрываў ён,
Дачушка, жытло ёсць жытло.
Дурань толькі
У руінах рагоча.
Мова
Мова,
Народ-мастак цябе выканаў:
Бачу,
Мова,
Народ-каваль цябе выкаваў:
Чую,
Слова
Не перайначыш —
Выткана.
Русая,
І ў сны мае перш глядзіш
Беларускаю.

*«ПАДЛЯШША ПРЭЗЕНТУЕ» — пад такім ярлыком выходзяць сёлета традыцыйныя для кастрычніцкіх нумароў «М» польскія старонкі.*

# ПРАСТАТА ЯК ВІД ШЧАСЦЯ



***Ізабэла ТОНКЕЛЬ** — выпускніца агульнаадукацыйнага ліцэя ім. Ю. І. Крашэўскага ў Бяла-Падлясцы, Дзяржаўнай Вышэйшай Школы ім. Яна Паўла ІІ у Бяла-Падлясцы, а таксама Акадэміі спецыяльнай педагогікі ім. Марыі Гжэгажэўскай у Варшаве. Жыве і працуе ў польскай сталіцы. Яе вершы — недахоп веры і надзеі: у лепшую будучыню і на пазітыўныя змены. Вартасць вершаў, аднак, не залежыць ад таго, прасякнуты яны шчасцем ці ў меншай або большай ступені нешчаслівыя, нават роспачныя.*

## СОН АМАЛЬ ПРАМІНУЛАЙ ВОСЕНІ

Штучная душа ў сапраўдным целе
Вось чым я памалу станаўлюся
Паміраю так павольна, але так нябачна
Я сыходжу разам з Ценем
Амаль прамінулай восені...

Думкамі толькі вяртаюся назад
За пахаванні даўніх успамінаў
І не запальваю зніч
Бо рана ці позна полымя і так згасне...

Паміраю як ліст
Паволі страчваю колер
Памалу ссыхаю
Такая вельмі пасіўная і бездапаможная
І настолькі замкнутая ў сабе
Са сваім смуткам і крыкам нямым
Сам-насам...

і так сябе страчваю
Верачы, што гэта з любові,
Даць вольнасць, даць жыццё, даць любоў
Прысвяціць сябе без рэшты
найкаханейшаму
І дабравольна памерці, не супраціўляючыся
смерці...

Надышоў мой час апошняга сну...

## У ПАДРЫХТОЎЦЫ ДА ПАЛЁТУ

*Славэку Чэрніку*
*для падрыхтоўкі да палёту*
*над Прорвай*

Абарочваюся вакол уласнай восі
Штораз хутчэй і хутчэй
Вакол маіх адзіных 180 градусаў
Аж галава мая закруціцца

І зноўку пачну круціцца
Не ўзбагачаная ані на адзін градус больш
Назаўсёды застаючыся толькі паловай 360
галодная без дабаўкі

У маім свеце
толькі дзве
сінусоідныя парабалы
такія неідэальныя
Усклікаю да Цябе лічбамі літар
Бязгучных

Мы зразумеем адзін аднаго
ўжо толькі бінарна
Толькі на плоскасці
Тваіх «так» і маіх «не»

Выкрэсліваючы страх з майго ўраўнення
Дай мне крылы

Напрыканцы палічы іх
І скажы мне,
які ў іх размах

**СА СМЕРЦЮ НА ЛАВАЧЦЫ**

Мілая Смерць, сядзь ля мяне на лавачцы
Пачакай церпяліва яшчэ хвілінку
Дазволь развязаць яшчэ некалькі
Драбязовых для Цябе нашых людскіх спраў

Мілая Смерць, адпачні ля мяне збоку
На лавачцы, тут у парку,
Дай яшчэ хвіліну паўглядацца ў свет

Мілая Смерць, адпачні хвіліну пры мне
Тут — на лавачцы
Некалькі апошніх уздыхаў жыцця
Каб адысці без тугі, з чыстым сумленнем

Мілая Смерць, устаючы з лавачкі,
Перакінемся яшчэ некалькімі словамі па дарозе,
Пазнаёмімся яшчэ крыху
Каб у апошняе падарожжа
не адыходзіць з кімсьці
цалкам чужым



*Ілюстрацыя Аркадыуша САЎЧУКА.*

**ШПІЛЬКІ НА ДЭМАНАЎ**

Вершы...
Вершы як шпількі
Каб утаймаваць дэманаў
Штодзённасці

***Пераклад з польскай Аксаны ЮЧКАВІЧ***



***Марэк ПЕТШЭЛЯ** — журналіст, які працуе на шматлікія «штодзённікі» і «тыднёвікі». Яго апавяданні і вершы атрымлівалі ўзнагароды на прэстыжных літконкурсах. Сам ён — уражлівы эстэт, які выбірае прыроду, чуллівы не толькі да колераў і святла, але і да гукаў, музыкі.*

**ВОЧЫ МАЦІ**

На нашым краі сусвету, дзе Падляшша курчыцца ад болю пад спарахнелым крыжам, назаўсёды застаўся журботны погляд маці. Застыў як прамень святла над пясчаным пагоркам. З-за плеценага гародчыка выглядае дзяцей, якія адляцелі як чародка вераб'ёў. На лепшыя хлябы. Пусцюсенька. Як цішынёй засеяў. У вачах чорная, бяздонная студня. Дзеці не вяртаюцца. Не засталося нават кроплі надзеі. Тут так ціха на світанку, на змярканні і ў вечнасці. Сапраўдны санаторый пад Панам Богам. Нават ноч маўчыць з павагі перад бязмежным смуткам маці. А яна надалей трымаецца вачамі толькі зорак. У капліцы сваёй ціхай малітвы сумная назаўсёды.

### БУГ, СТОЕНЫ Ў КІДКУ

Напінаецца лук Буга над нашым Падляшшам. Як змяя, насычаная праглынутай ахвярай. Як кацішча, які прагне пяшчоты. Выносіць поўсць хмызоў. Вуркоча хуткім булькатаннем. Лыпае сваім вялікім вокам. Падступны, падкрадваецца да кідку ў старыцу. Спрытны, углядаецца ў даліну, у якую, набрынялы паводкай, можа рынуцца як захопнік. Шэпча свае дзіўныя заклёны. Таямнічы. Імклівы… з украінскім напевам.

### НАЧНЫЯ ШПАЦЫРЫ КРАШЭЎСКАГА

Начамі Крашэўскі размінае косці. Яны трашчаць, як трысцёг у суседніх камянічках. Класік устае з лавачкі і пералічвае зоркі. Таксама ён прагне паэзіі. Празорца прадказаў свабоду Польшчы. Землякі пра гэта забыліся. Пісьменнік шпацыруе па сваёй вуліцы. Здзіўляе закаханых. Каля кустоў магноліі прымружвае каменныя вочы. Здаецца, што дрэсіруе вецер, туманам разгладжвае краявід. Вяртаецца на лавачку і, як быццам нічога не было, зноў назірае за магістратам. Усё ў яго навідавоку.

### ПТАХА-НОЧ

З-за алешніку налятае птаха-ноч. З-за памежнай ракі яна насоўвае гіганцкі, штораз цямнейшы каптур прыцемкаў. Раскідвае над намі размашыстыя, як чорны лес, крылы. Дакранаецца вільгаццю з жабінага крэкату і атласу пушыстай савы. Гэта не толькі ноч, гэта прадвесце хаўтур. Бо кожны вечар — гэта спроба загадкавай смерці. Малая прэлюдыя да вялікай таямніцы. Птаха-ноч меціць у нас вялікай змрочнай дзюбай. Дзесьці мільгае яе цень. На шчасце, зноў не трапляе. Аднак штосьці таямнічае пульсуе ў цемры, яшчэ не поўнай. Тасуюцца адценні сутоння. Ці гэта б'ецца касматае сэрца поўначы? Ці гэта толькі пранізлівы піск кажана? Дзякуй Богу, чарговы раз забываемся пра цьмяную ілюмінацыю. Да пары.

***Пераклад з польскай Вольгі СЕВЯРЫНЕЦ***



## *Людвік ЯНЁН*

***як літаратурны рэдактар моладзевых часопісаў Victor і Cogito папулярызуе творчасць маладых. Сам мае паэзію «прыгожую, мудрую, саспелую», якую можна «доўга перажываць і яшчэ даўжэй памятаць».***

### ЗМЯРКАННЕ

Кладка ў вадзе ўгінаецца
Перад ёй дзіцём зноў і зноў я ляту
За ёй старым у цішы я тану
У вадзе парэшткі і костачкі

Я на кладцы, мы на кладцы
Перад ёй маладосць і мараў з'яўленне
За ёй недахоп і аслупяненне
У вадзе дрэйдлы і кубачкі

Буг за намі, Буг перад намі
Дзень за намі, мост перад намі
Гарызонт і зман

Нам атрымалася з нараджэннем
можа, і са смерцю ўдасца

* * *

Толькі вольны чалавек можа прыгожа ілгаць
Як птушка спявае без болю
не стрымліваць абяцанняў і веры

толькі вольны чалавек можа хваліць злыдняў
паходні і знічы ім паліць
і пляваць на кроў невінаватых

Толькі вольны чалавек можа забіць са смехам
Словам, учынкам, годнасць украсці
са смерці чужой цешыцца

але аднак паклапаціся аб тым,
каб след чалавека,
які другі чалавек будзе цалаваць,
не быў ступнёй вялікага хама

толькі чалавек вольны
можа пра гэта паклапаціцца



*Ілюстрацыя Аркадыуша САЎЧУКА.*

**У КОЖНАЙ...**

У кожнай крышынцы увесь свет паўстае, кажа
рабін з Коцка, а можа з Суража

За кожнай іскрынкай бяжыць час стварэння
казаў рабін з Луцка, а можа з Зваленя

Не шукай ні кары, ні меры ў Бога
казаў рабін з Пінска, а можа з Астрога

Злое станецца прахам, дабро ж не загіне
казаў рабін з Бэўза, а можа са Стрыя

Дамы раскрадзеныя, збураны бажніцы
Забраны камяні, стаптаны кніг паліцы

Богу ж будзе мілая апошняя авечка — такое слоўца
было рабіна з Ліды, а можа з Сасноўца

***Пераклад з польскай Аксаны ЮЧКАВІЧ***



***Элігіуш ДЫМОЎСКІ —***
***аўтар шматлікіх публікацый у вобласці тэалогіі і літаратуры, у тым ліку некалькіх дзясяткаў паэтычных зборнікаў. Яго паэзія характарызуецца як простасцю, так і глыбокай рэфлексіяй над зямным, а можа, і вечным лёсам чалавека. Яна вартая таго, каб з ёй пазнаёміцца.***

## НЕ ВЕДАЮ

не ведаю
колькі гадзін у штодзённай вандроўцы
трэба выплакаць

не ведаю
як трэба раскінуць рукі
каб хапіла крыжа

не ведаю
ці сапраўды найбольшае цярпенне
мае камень

не ведаю
навошта так неразлучныя
каханне і смерць

не ведаю
калі згасне сонца
а зямля запалымнее

не ведаю
я — Тамаш няверны
дзіўлюся
хоць чую
Тваю далонь працягнутую да сляпца

*Пераклад з польскай*
*Святланы ДЗЯНІСАВАЙ*
**maladost@zviazda.by**

## КАЛІ ПАМІРАЕ ПАЭТ

*памяці ксяндза Яна Твардоўскага*

Калі памірае паэт
не шыбуйце ў жалобным картэжы
панурыя
бо неба раскрывае абдымкі
Калі памірае паэт
Біце ў барабаны
хай надзея абудзіцца
закутая ў маленнях
аб Шчасці
Калі памірае паэт
толькі тады па-сапраўднаму
жыццё абуджаецца
ў вершах

## * * *

Пішаш, што на Падляшшы
восень,
што залачоныя дрэвы
як палаты сядзібаў,
мы штораз маладзеем,
хаця дні скараціліся,
а туманы пасівелі
ад лішку ўражанняў,
толькі дождж усё часцей
галаву студзіць ад мараў.

## РАНІШНІ ШПАЦЫР ПА ПЛЯЖЫ

сціш мяне мора
мелодыяй ранішняй хваляў
калі дзень працірае вочы
вызваляючы сонца
з-за мглы

на пустым пляжы
закаханыя кірлі
у рытуальным танцы
трапечуць крыламі
не бачачы лодак рыбацкіх
што ляніва з уловаў вяртаюцца

быццам пах духмяны кадзіла
разносіцца водар ёду
адбіваю на хвілю самоту
у люстры вады
зацягваючыся паветрам

думаючы пра цябе
з камянёў каляровых
на пяску складаю
ружанец
у гонар згубленых ракавінак

*Пераклад з польскай*
*Арцёма КАВАЛЕЎСКАГА*
**maladost@zviazda.by**



## *Пётр КАВЕСКІ*

***піша незвычайна эмацыйна. Гэта звязана з яго мастацкай творчасцю — музычнай і выяўленчай. У вершах дамінуюць далікатныя адносіны да жонкі Барбары. У іх таксама шмат фантазій, унікальных прыдумак.***

### СОН

засынаю
ў рытме на два
чорны аксаміт

начная уверцюра
сінкапіраваныя ўдары сэрца

ў рытме на два

мелодыя ўдыхаў
рэха выдыхаў

начная музыка
сонны акампанемент падарожжа
на другі бок



*Ілюстрацыя Аркадыуша САЎЧУКА.*

пульс з басовым гучаннем
у рытме на два

бязмежныя лугі авечак
што пасвяцца
далёкі гук саксафона

ў рытме на два
на два

### НАШ КОД

хацеў бы я ведаць
што ты думаеш пра мяне
калі моршчыш бровы
і прычэсваеш рукой валасы

і дрыжыць кончык рота твайго
калі ты заціскаеш вусны
тады хвіля доўжыцца вечнасць
і стаецца пакутаю

мне вядомы ўжо думкі твае
я дасылаю сігналы
нашым кодам брайля
і трасу душу
без слоў

навошта словы
ў маўклівасці — ты мне блізкая й так

а ціша грыміць барабанамі
ты мусіш мяне зразумець

### КОШЫК З ЛАЗЫ

ты маўчыш
а я гару
у далоні сціскаючы немач
як гігіенічную хустку

для цябе
пару хвілінаў таму
у цемрадзі поўнай
зоры збіраў я ў кошык з лазы

калі ты маўчыш
я баюся
за кошык з лазы
за нас за сына за сабакаў
і трошкі за зоры

але ты ўсё маўчыш
я ж гару
у далоні сціскаючы немач
як гігіенічную хустку

**БЛЯСК**

вечнасць зіхацела на мне
металічнаю накрыўкай
калі падымаўся з каленаў
з крыкам воронаў

усё неба
адлюстравана ў кавалку шкла
учора субота была
і вецер лісце круціў на тры чвэрці

з крыкам воронаў

згушчаныя гукі
аўтамабільнага бум-бокса
бум бум бум
змяшаныя з пахам блізкай піцэрыі

і крык воронаў

я заўважыў яго
калі падымаўся з каленаў

***Пераклад з польскай***
***Арцёма КАВАЛЕЎСКАГА***
**maladost@zviazda.by**



***Ольга ЛАЛІЧ-КРАВІЦКА***
***нарадзілася ў Харватыі, у сербска-польскай сям'і. Жыве ў Польшчы. Вядзе міжнародны інтэрнэт-партал славянскіх літаратур і мастацтваў (poezija.com.pl). Творы перакладаліся на англійскую, балгарскую, літоўскую, македонскую, славацкую, румынскую, албанскую і іспанскую мовы. У іх — уражлівасць ад рэчаў, над якімі мы, спрацаваныя і забеганыя, не задумваемся.***

**ЛІСТ З НЕБА**

Гммм, цмока, ну не, бо спаліць ён воўну белі
Ільва, таксама не, бо згрызе ён пухнатасць дня
А слоніка, якога ловіць кот дужы
Ааа, то небяспечна,
бо кот зловіць яго перад тым, як той дойдзе,
і што тады?
Ну, то русалку славянскую, глядзі, яна распусціла валоссе,
Так цудоўна грае на флейце
Не, бо яна пачне граць так гучна, што забаляць табе вушы.
Ну, тады што даслаць табе?
Аааааа, хмурынку з усмешкі.

**ДВА ХВОРЫХ**

ляжыць ён на вуліцы ў лужы крыві
са зламанай нагой
дапамагаюць усе
выклікаюць хуткую

побач ляжыць такі ж самы хворы
смяецца хмарам
і хмары смяюцца з яго
але не дапамогуць

даб'юць яго мозг
людскім молатам

**РАМАНТЫЧНЫ СНАРАД, ШТО НЕ ВЫБУХНУЎ**

некалькі месяцаў я вышукваю
суперсловы
якія выб'юць з мяне
твой такі ідэальны вобраз
з рамантычнага слоўніка:
што ты такі гожы
а можа цудоўны
а можа прыўкрасны
я не ведаю
што пасуе табе?
як думаеш,
калі б я пра цябе напісала эратычны верш
ты б пачырванеў?

**ЦЁПЛЫ ВЕРШ**

Ён стукае да Яе
Ноч згінае крылы
Іду спаць — Ноч сцвярджае
Ля каго — пытаецца Ён
Каля дня бо ён хоча заснуць акурат ува мне
Прытулю яго так як кветка матылька
Усміхаецца Жонка Мужу

**МУЖЫКІ НЕ ЎМЕЮЦЬ ГРУКАЦЬ У ДЗВЕРЫ**

а калі грукаеш то грукай як мужык
не ўваходзь як пясчанка
я павінна мець час каб настроіцца
на глынанне цярпення замест малака
на з'ядзенне самой сябе
замест паўнавартаснага сняданку

***Пераклад з польскай Арцёма КАВАЛЕЎСКАГА***
**maladost@zviazda.by**



***Катажына СМЫК***
***вывучае германістыку ў Ягелонскім універсітэце. Лаўрэатка 30-га Агульнапольскага літаратурнага конкурсу ім. Ю. І. Крашэўскага. У яе творчасці пераважае матыў падарожжа да сямейных каранёў і «малой Радзімы». Вандроўка гэтая пераплятаецца з пачуццямі любові, самоты і з успамінамі.***

**ПРАСТАТА ЯК ВІД ШЧАСЦЯ**

Зямля была яшчэ вільготнай, я адчувала яе мяккасць пад нагамі. На маладым дубовым галлі віселі кроплі дажджу. Яны ззялі як дыяменты — чыстыя і цяжкія. Буслы падскоквалі, як вялікія белыя анёлы.

У маі я не вывешваю вымытую бялізну звонку — калі б я так рабіла, то яна некалькі раз за дзень спачатку б высыхала, пасля пачаўся б дождж, а потым зноў прыйшлі цёплы вецер і сонца — бялізна б яшчэ раз змокла. Апранулася я цёпла. Здаецца, што, калі выходжу

з дома, сабакі страшэнна радуюцца. Я шапчу: «Здароў, малыя, хадзем на доўгую прагулку». Тады бягу трошкі хутчэй, каб іх разварушыць. Люблю радасць гэтага месца, прыгожую парцэляну і абрусы, духмянае дрэва, спакой абразоў, сабак, што цягаюць мяне за штаніны, квітнеючыя яблыні, голас бацькі, які вяртаецца дадому. Сёння раніцай, калі я яшчэ ляжала, ён падышоў да ложка з гарбатай і расхінуў фіранкі: «Паглядзі, колькі сонца, дзень добры». У такіх сем'ях, як мая, нягледзячы на шматлікія турботы, звычайна я пачынала дзень, адчуваючы цяпло свайго атачэння. Падумалася, што сёння будзе выключна прыгожы дзень. «Можаш уяўляць сябе прынцэсай», — казаў бацька, калі я была маленькай. Кожную дзяўчыну ў гэтай сям'і сустракалі выключна. Вышытыя кашулі, уменне пісаць лісты. Ва ўзросце шасці год я рабіла гэта ўжо на дзвюх мовах. Трэцюю я нашу ў сабе — гэта нямая мова захаплення светам.

Пасля дажджу свет празрысты. Няма месца для фальшу, прырода ачышчаная, безабаронная і аголеная. Святло, аблокі і дрэвы прымушаюць мяне ўздыхнуць — як хараша, як тут хараша. Неба здзіўляе мяне кожны дзень. З глыбокага граната лёгка пераходзіць у бледна-ружовы, светла-ласасёвы колер на гарызонце; і гэта так, быццам, граючы на фартэпіяна выключна журботную мелодыю, пад канец запаволіць хаду, робячы доўгія паўзы паміж тонамі, дадаць яшчэ больш высокія ноты, каб нарэшце змоўкнуць. Добрае надвор'е пасля буры. Выздараўленне пасля хваробы. А пасля ўжо толькі яснасць. Ля мяне з часам пачаў апускацца туман. Я тады стаяла каля магіл дзеда і бабулі. Падумала, што добра, калі ў гэтай смузе над вашымі магіламі будзе святло. Вы былі такім шчасцем і цяплом у маім жыцці, што я не дазволю, каб вас апанавалі туманы, вецер і дождж.

Столькі цікавых рэчаў у апошні час чую пра сваіх продкаў — тыя, самыя далёкія, што прыехалі ў маёнтак каля Тамашова-Любельскага — размаўлялі па-немецку. Ратавалі людзей, вандравалі па свеце, працавалі на зямлі. Дактары, грэкакаталіцкія святары, настаўнікі. Імі былі вывучаны прынцыпы пакорлівасці, ахвяравання ўсім дзеля сям'і, выбачэння памылак. Я заўважыла, што вырас ужо белы бэз, зацвілі лілії з цвёрдымі сцяблінамі і моцнымі белымі цвёрдымі кветкамі. У галаву прыйшла смешная думка, што яны падобны да бакалаў для шампанскага.

Смуга стварала выдатны від заходзячага сонца і гранатавага неба на фоне дрэў. Дома мяне чакалі бліны з чарніцамі. Прастата як від шчасця.

*Пераклад з польскай Яны КАЛТОВІЧ*



***Марыянна ПАЎЛОЎСКА***

***прэзентуе ў сваіх вершах моцную прывязанасць да бацькоўскай хаты і надбугскай прыроды. Яе лірычныя творы перапоўнены цяплом, настальгічным назіраннем акаляючага свету.***

**ПЕРАЕМНАСЦЬ**

Дрэвы сярод поля
Малы лясок
Усяго пара бяроз і сосен
Лапік поля ад дарогі да дарогі
Мяжу крэсляць
Рады палявых груш

Пасадзіў Казімеж парэчкі
Юзаф садок яблынь
Састарыліся памерлі

А лес рушыў

Закраўся паміж загонаў
Яблыні ў садзе заглушыў
Захапіў прыстанак Францішкі
Ён васьміногам паўзе
Папары саступаюць яму дарогу
Курчацца лугі змярцвелыя
Кідаюць наготкі пад ногі
І пучкі незабудак

А лес далей пашыраецца

Абрастае зялёнай прыгажосцю
Усё яшчэ жыва ў ім б’ецца
Першаснай пушчы пульс

## ВІРТУОЗ

Кажан
Ластаўка ночы
Ляціць як бумеранг у змрок
Ледзь здолееш
Напружыць зрок
Вяртаецца

Раптам
Высокі піск
Як быццам скрыпку з філармоніі
Перацягнуў смычком
Па зорным небе
Практыкуючыся ў эцюдах
Перад вечаровым
Канцэртам

## ШЧАСЦЕ

Усё маё шчасце
Гэта падкінутая
ў працягнутыя далоні
Жменька каляровых каменьчыкаў
слоў
Усмешкі дзяцей
Дыяментавыя крышталікі лёду
Некалькі рэфлексаў сэрца
Прысягае, што ніколі
Што назаўсёды
— Гэта задоўга

Расціскаю пальцы
Крышталікі лёду
Скаціліся салёнай кропляй слёз
Засталіся
Драбінкі шчасця
Крохкага як сцябло
Чатырохлістай канюшыны
Накрытай белым абрусам
І як пры дзяленні аплаткай
Хвіліны светлых узрушанняў
І надзея
Як сярод начной цішы

## БАЦЬКОЎСКІ ДОМ

Дом майго дзяцінства
Дом над лугамі
Дзе гарызонтам быў лес
Дом над шасцю порамі года
Які пахне малінавым сокам
Мятай і сушанымі грыбамі
Дом поўны звычайных
Магічных рэчаў
Са светлым кругам нафтавай лямпы
Яшчэ стаіць у памяці
Не знік, не прайшоў

Вэлюм з павуціння
Вецер даўно
Закінуў на страху
Няма дзяжы
У якой рашчынялі хлеб
Згас агонь у кафлянай печы

Пад купалам ліпы
Трывае вечнае дзынканне
Мёд збіраюць пчолы
Чую рыпенне жураўля
І рэха
Апошняй кроплі вады
Якая сплывае
Па замшэлым зрубе
У бяздонную пашчу
Студні

***Пераклад з польскай***
***Настассі САЛДАЦЕНКІ***
**maladost@zviazda.by**



# Гжэгаж МІХАЛОЎСКІ: «НАЗВЫ МЯНЯЮЦЦА, Я ЗАСТАЮСЯ»

***З галоўным рэдактарам часопіса Podlaski Kwartalnik Kulturalny і кіраўніком аддзела краязнаўства гарадской публічнай бібліятэкі ў Бяла-Падлясцы Гжэгажам Міхалоўскім для польскага штомесячніка Pryzmat размаўляў Радаслаў Пландоўскі. Пераклад размовы на беларускую мову для «Маладосці» зроблены Святланай Дзянісавай.***

**Гжэгаж Міхалоўскі няспынна прадзіраецца праз нязведанае. Пра сваю працу гаворыць, што яна «стварае яму прыемнасць». Не абмяжоўваецца даверанымі абавязкамі, увесь час знаходзіцца ў пошуку новых ідэй. Падтрымлівае бяльскія таленты, распаўсюджвае іх творчасць і за ўсходняй мяжой (у прыватнасці, у Мінску), і за акіянам.**

**— 45 гадоў на адным месцы працы. Хіба гэта не вялікае пакліканне?**

— Назвы мяняліся, я заставаўся. Пачаў працаваць у лістападзе 1968 года, але ўжо раней супрацоўнічаў з бібліятэкай у Янове Падляскім. Мушу, аднак, падкрэсліць, што праца не была ўвесь час аднастайнай. Быў інструктарам, намеснікам дырэктара, кіраўніком аддзела, а паміж тым даходзіла і да абавязкаў пазабібліятэчных. У 1982 годзе ўзяўся за арганізацыю аддзела, праца якога павінна была прысвячацца гісторыі. Такі аддзел стаў у агульнапольскай культурнай прасторы ці не першым у сваім родзе. Функцыянуе больш за 30 гадоў. Дапамагло мне веданне рускай мовы, бо з часам з'явіліся перспектывы супрацоўніцтва з абласной бібліятэкай у Брэсце і з Мінскам. Набытыя кантакты і сёння застаюцца актуальнымі. Самая далёкая наша карэспандэнцыя дасягнула кітайскай мяжы.

**— З часам дадаўся элемент рэдакцыйнай дзейнасці…**

— Так, у 1987 годзе мы распачалі выданне «Квартальніка», а з 1995 года я з'яўляюся яго галоўным рэдактарам. Дастаткова параўнаць «Квартальнік» першапачатковы з сённяшнім, каб заўважыць, якія этапы развіцця мы прайшлі. Трэба было ўвесь час вучыцца нечаму новаму. Я пачынаў працаваць тады, калі бібліятэкі мала чым адрозніваліся ад пасляваенных. Адна друкарская машынка на ўсю ўстанову, астатняя праца выконвалася ўручную. Цяпер надышоў этап інтэрнэту, электронных баз, электроннай пошты і актыўнай карэспандэнцыі з вялікім мноствам людзей. Без новых тэхналогій камунікацыі не была б наша праца такой зручнай і хуткай. Хоць аддзел удасканаліў сваё функцыянаванне толькі самымі патрэбнымі элементамі, без асаблівых, рэвалюцыйных змен.

**— Займаешся таксама перакладамі…**

— Так, дзякуючы веданню рускай мовы стала магчымым супрацоўніцтва з аўтарамі

з-за нашай усходняй мяжы. Пры дапамозе спецыяльнай клавіятуры з рускім алфавітам магу без праблем з імі кантактаваць. Уласна, шмат якія артыкулы ў «Квартальніку» з'яўляюцца перакладамі.

**— Як змяніўся карыстальнік бібліятэкі за гады тваёй працы?**

— Карыстальнікі былі некалі больш саліднымі, ахвотней прыкладаліся да напісання прац. Цяпер усе шукаюць патрэбнае ў інтэрнэце, капіруюць і кампілююць. Свет вельмі змяніўся, таму і карыстальнік мусіць быць іншым. Кола наведвальнікаў нашага аддзела вельмі шырокае, пачынаецца ад навучэнцаў-пачаткоўцаў, якія атрымалі заданне падрыхтаваць маленькае даследаванне пра свой край. Ёсць асобы, якія шукаюць матэрыялы для ліцэйскіх рэфератаў і нават дысертацый — магістарскіх і доктарскіх. Нашымі зборамі карыстаюцца таксама шматлікія краязнаўцы. Сталым заўсёднікам з'яўляецца, сярод іншых, Шчэпан Каліноўскі. Апроч таго, журналісты і даследчыкі-аматары, якія збіраюць матэрыялы пра свае сем'і і мясцовасці.

**— Што маеце ў зборах?**

— Ад 1982 года база павялічылася ў некалькі разоў. Самыя старыя кнігі паходзяць з першай паловы XIX стагоддзя. Імкнёмся, тым часам, актуалізаваць базу — сістэматычна і своечасова здабываць самыя розныя найноўшыя выданні. Гэта не заўсёды адбываецца хутка і лёгка, бо шэраг публікацый рэгіянальнага характару распаўсюджаны па-за структурамі кнігарняў. Маем таксама выданні, якія распавядаюць пра наш рэгіён на замежных мовах, выдадзеныя ў Лондане, Канадзе, ЗША, Рыме. Нават на мове ідыш, бо ў апошні час дайшлі да нас успаміны яўрэйкі, што жыла некалі ў Лосіцах.

**— Ці здараюцца выпадкі нетыповых запытаў і просьбаў?**

— Мяркую, да такіх можна аднесці «мэйл», які я атрымаў з Сібіры. Пісаў праправнук паўстанца, удзельніка падзей 1863 года з нашага рэгіёна. Прапрадзед быў, як аказалася, арыштаваны і сасланы на катаргу. Там і застаўся, а яго патомак Павел Афанасьеў папрасіў матэрыялы, датычныя дзеда. Атрымалася нават знайсці пацверджанне, што прапрадзед той быў арыштаваны ў Седльцах. З сабраных матэрыялаў выйшаў артыкул для «Квартальніка», пад назвай «Першае і другое жыццё Юліяна Манько».



*З паэтам Элігіушам Дымоўскім і... Юзафам Ігнацыем Крашэўскім. Кастрычнік 2012-га.*

**— Мабыць, гэта найлепшы доказ сэнсу існавання часопіса?**

— Ёсць у нашым выданні цікавы раздзел успамінаў, і ў кожным нумары з'яўляецца адзін або два такія тэксты. Увогуле, падобных матэрыялаў набралася ўжо больш за сотню. Шмат якія аўтары былі заахвочаны спецыяльна, пісалі такія рэчы ўпершыню ў жыцці. Найстарэйшая з аўтарак мела 93 гады. Акрамя таго, «Квартальнік» друкуе навуковыя артыкулы, скарочаныя магістарскія працы, навейшыя напрацоўкі, датычныя рэгіёна. Ёсць, нарэшце, раздзел літаратурных прэзентацый.

**— Здаецца, што менавіта літаратура і ёсць найбольш актуальны, дамінуючы абшар тваіх зацікаўленасцей.**

— Відавочна, што раней гэты раздзел быў не такі багаты, але ўсё гаворыць пра тое, што мы маем выдатны літаратурны асяродак. Адна асоба з Познані, якая працуе ў інстытуце літаратурных даследаванняў, нават сцвярджала, што наш рэгіён з'яўляецца сучасным літаратурным цэнтрам. У такім разе трэба гэта выкарыстоўваць. Гэтаму служыць, сярод іншага, і абвешчаны намі Бяльскі літаратурны конкурс, які прызваны вылучаць літаратурныя таленты рэгіёна. Спецыяльная камісія ацэньвае празаічныя і паэтычныя працы школьнікаў. Лепшае, безумоўна, друкуем.

**— Як бы ты ацаніў літаратурны асяродак у перспектыве 30-годдзя Падляскіх літаратурных сустрэч і Агульнапольскага літаратурнага конкурсу імя Крашэўскага, членам журы якога з'яўляешся ўжо некалькі гадоў?**

— Пра папулярнасць гэтага конкурсу сведчыць хаця б апошні год, які падвоіў колькасць прадстаўленых прац. Між тым некалькі гадоў запар з'яўляюцца ў спісе ўдзельнікаў асобы з Падляшша, і не толькі прадстаўнікі старэйшага пакалення. Узнагароды ў гэтым конкурсе здабывалі сабе нават падлеткі. Найлепшымі прыкладамі з'яўляюцца Оля Пенькаш, Кася Саўчук, Яанна Савіцка (друкаваліся ў пазалеташнім нумары «берасцейскай» «Маладосці». — **Заўвага рэдактара**). Лаўрэаткам былі выдадзены томікі, кожная судакранулася з вельмі прыхільнымі меркаваннямі рэцэнзентаў.

**— Выданне такіх томікаў сёння, відаць, не належыць да лёгкіх задач.**

— Квартальнік ці томік, выдадзены лакальна, ніколі не будзе самадастатковым. Трэба, каб за гэтым стаяла дапамога самаўпраўлення, таварыстваў і заснавальнікаў.

**— Калі нехта мае жаданне выступіць з творчым дэбютам, адчувае ў сабе літаратурную моц, ці можа ён разлічваць на тваю дапамогу?**

— Можна прыйсці да нас з творам або прыслаць яго па электроннай пошце (regionalia@mbp.org.pl). Галоўным чынам, мы прымаем паэзію і кароткія празаічныя формы, бо пакуль што не ў стане выдаваць большыя кніжкі, хоць і пажадана было б, напрыклад, выдаць аповесць лаўрэаткі конкурсу імя Крашэўскага Агнешкі Панасюк. Выдаём таксама каталогі мастацкіх прац, напрыклад, Арка Саўчука, Сільвіі Каліноўскай (працы гэтых мастакоў друкаваліся ў леташнім і пазалеташнім нумарах «берасцейскай» «Маладосці». — **Заўвага рэдактара**). Ёсць у нас кантакт з Людвікам Янёнам (яго творы друкуюцца ў гэтым нумары «Маладосці». — **Заўвага рэдактара**), які працуе ў канцылярыі прэзідэнта Рэспублікі Польшча і публікуе вершы маладых літаратараў у часопісе Cogito. Абяцаў надрукаваць творы некаторых нашых асоб.

***«Маладосць» выказвае падзяку Гжэгажу Міхалоўскаму за дапамогу ў падрыхтоўцы гэтага нумара, і друкуе тут не змешчаны ў часопісе Pryzmat верш-прысвячэнне, наўмысна яго не пераклаўшы.***

*Niejakiemu Grzegorzowi M.*

**NA OKOLICZNOŚĆ JUBILEUSZU**

kiedy Grześ dziewczę
zdolne nad wyraz spotyka
obietnicami pannę omami
i ją porywa do «Kwartalnika»

ona mu wierzy
a ta ohyda
jak złapie w łapy
to zaraz wyda

a przy tym talent
ma raczej rzadki
potrafi wydać
nawet mężatki

nie beemwicą, nie citroenem
on je zdobywa i-es-be-enem
a potem jeszcze wciska im gadkę
— pod kolor oczu zrobię okładkę!

lecz gdy poetka nieurodziwa
zapał ma wtedy niewielki
jakimś «Gościńcem»
biedaczkę zbywa
o ile dożyje kolejki

***Sebastian WIECZERZA***

Валянціна
ГАРБАЧЭЎСКАЯ



# НЕ ГОНЯЧЫСЯ БЯЗДУМНА ЗА СЛАВАЙ

## *Пра жыццё і творчасць пінскага мастака Рыгора Ясінскага (15.11.1887—13.01.1964)*

*На старонках часопіса Podlaski Kwartalnik Kulturalny рэгулярна публікуюцца матэрыялы Валянціны Гарбачэўскай, загадчыцы інфармацыйна-бібліяграфічнага аддзела Брэсцкай абласной бібліятэкі імя М. Горкага. Актыўнае супрацоўніцтва аўтара з рэдакцыямі часопісаў і газет Беларусі і замежжа спрыяе дыялогам паміж культурамі, прынамсі, Беларусі і Польшчы. Змешчаны тут артыкул запазычаны са свежага нумара падляскага «Квартальніка», але прысвечаны чалавеку з нашага Пінска.*

Прозвішча гэтага чалавека вы не знойдзеце ў падручніках, энцыклапедыях, слоўніках, аднак яно з'яўляецца ў польскіх кнігах[1], артыкулах (Ясінскі Рыгор — каменныя вырабы)[2], застаецца таксама ў памяці землякоў і ўсіх тых, хто яго ведаў.

Доўгі час у нас на Беларусі ставіліся да мастацтва вырабу помнікаў несур'ёзна; пісаць пра аўтараў надмагільных скульптур не было прынята. Толькі ў апошні час людзі пачалі разумець, што гэта за род творчасці і што за ім стаіць — сакральнае праяўленне глыбокіх пачуццяў да Радзімы, аўтэнтычная сувязь часоў і пакаленняў, якія ў іх жывуць. Магільныя помнікі могуць шмат распавесці не толькі пра памерлых, але і пра жывых.

Працы пінскага майстра-каменшчыка Рыгора Ясінскага, пра якога пойдзе гаворка ў гэтым артыкуле, можна пабачыць на каталіцкіх могілках у Пінску на вуліцы Спакойнай. У 1993 годзе ім нададзены статус гістарычнага пахавання. Фотаздымкі помнікаў з гэтых могілак можна таксама знайсці ў альбоме Марыуша Праскені і ў некалькіх іншых крыніцах. Аказваецца, нават у гэтай «сумнай» вобласці мастацкай творчасці Рыгор Ясінскі змог стварыць з простых і пляскатых пліт сапраўдныя шэдэўры. Кожны выраб майстра яднаў у сабе элементы працы дызайнера, скульптара, гравёра і каменшчыка.

Да нашых часоў захавалася 66 цудоўных выкананых алоўкам малюнкаў, якія

[1] Пінск — могілкі, выбранае з кнігі Anna Lewkowska, Jacek Lewkowski, Wojciech Walczak; *Zabytkowe cmentarze na kresach wschodnich Drugiej Rzeczypospolitej — województwo poleskie,* Warszawa 2000.

[2] Andrzej Łomanowski, *Atlantyda Polesia*: Артыкул узяты з гістарычнага дадатку да «Rzeczpospolitej» — «Księga Kresów Wschodnich» //www.historia.uwa-zamrze.pl/artykul/1019670.html?

ў сваім каталозе прапаноўваў замоўцам Рыгор Ясінскі. Выразна заўважная яго дзівосная мастацкая ўсебаковасць, у тым ліку ў малавядомай вобласці рэлігійнага мастацтва.

Малюнкі, нягледзячы на вайну і пераезды, а таксама смерць мастака, захаваліся. Большасць жа каменных помнікаў была ў 90 гады XX стагоддзя знішчана мясцовымі вандаламі. Таму яны беспаваротна страчаны, астатнім жа наканавана разбурацца натуральным чынам. Што зробіш, пасля вайны настала эпоха ваяўнічага атэізму — са святынь падалі крыжы, свядома знішчаліся сакральныя будовы. Што ўжо казаць пра надмагільныя помнікі! Можа, прыйдзе час збіраць камяні, а знішчаныя раней помнікі, як і асобныя святыні, будуць адноўлены, у тым ліку дзякуючы малюнкам і фотаздымкам.

Са знойдзенай у сямейным архіве метрыкі вядома, што Рыгор Ясінскі нарадзіўся 15 лістапада 1887 года ў Кіеве, у сям'і Цімафея і Марыі Ясінскіх. Пасля рэвалюцыі, а менавіта ў 1922 годзе, пераехаў у Пінск. 20 красавіка1937 года ажаніўся з Зоф'яй Гарбачэўскай (1908—1970). У гэтым месцы пражыў рэшту жыцця, ажно да смерці ў 1964 годзе. Сям'я спачатку жыла на вуліцы Запольнай. Па прычыне няправільнай легалізацыі дакументаў мусілі пасля вайны гэты дом вызваліць і пераехаць у будынак на Спакойным Завулку, 8 (каля могілак).

У сямейным архіве захаваліся шматлікія фотаздымкі. На самым раннім, з аўтографам «Рыгор Ясінскі», стаіць дата: 1925 год. На адваротным баку пададзена назва нямецкай фірмы «Леонар», паўсюдна вядомай на пачатку 1920-х сваёй фотапрадукцыяй. Рыгор Ясінскі быў чалавекам творчым. Гэтая рыса праяўляецца ва ўсім, што ён рабіў, за што б ні браўся. На здымку мы бачым яго за мальбертам, падчас малявання фурмана і нейкага чалавека ў санях. На жаль, тая карціна не захавалася. На другім здымку Рыгор Ясінскі знаходзіцца ў сямейным коле са скрыпкай у руцэ. Вядома, што ён граў таксама на іншых інструментах.

Лідзія Самойлік, якая жыла па суседстве з Ясінскімі, успамінала, што ў выхадныя дні ад самай раніцы выстройвалася на лузе (каля дома на вуліцы Простай) чарга да Рыгора Ясінскага. Некаторыя прыходзілі пешкі, прыязджалі з суседніх вуліц на роварах, а з далёкіх вёсак дабіраліся на запрэжаных коньмі вазах. У простых людзей тады не было машын. Але і рэклама не была патрэбна ў той час, паколькі лепш за ўсё дзейнічалі звесткі, якія распаўсюджвалі людзі. Таму да яго прыязджалі і прыходзілі са сваімі бедамі і болем. Бо ён быў не толькі выдатным мастрам-каменшчыкам, але і лячыў травамі, замовамі і іншымі народнымі спосабамі. Ён быў аўтэнтычным знахарам, варажыў на картах. Часта прыязджалі таксама маладыя дзяўчаты, каб ён прадказаў ім далейшы лёс. Некаторым патрэбны быў партрэт, напісаны алейнымі фарбамі, або намаляваны алоўкам, часам дапамагала зайграная на скрыпцы вясёлая мелодыя. Мог і рабіў усё, што толькі людзям было патрэбна.

Рыгор Ясінскі прымаў актыўны ўдзел у культурным жыцці перадваеннага Пінска, у тым ліку рыхтаваў накіды дэкарацыі для мясцовага народнага тэатра. Горад цаніў яго ўдзел у працы; праўда, медалёў у той час не давалі, але адзін з дакументаў захаваўся: 31 верасня 1936 года Камітэт выставы «Палескай ярмаркі» (Пінск, 15—31 верасня 1936 года) выдаў Пахвальны Ліст Рыгору Ясінскаму за каменныя вырабы.

Рыгор Ясінскі быў цікавай асобай перадусім з-за створаных ім арыгінальных надмагільных помнікаў на пінскіх каталіцкіх могілках. Яны ўнікальныя таксама таму, што знаходзяцца на адзіных гістарычных могілках у гэтым горадзе. Тут ёсць магілы палякаў і габрэяў, якія памерлі ў міжваенны перыяд, рускіх і немцаў, палеглых у гады абедзвюх сусветных войнаў. Людзі розных нацыянальнасцей, веравызнанняў і грамадскіх слаёў знайшлі спачын за адной агароджай.

На кожным з 66 малюнкаў (фотаздымкаў) помнікаў — лагатып майстра, напісаны па-польску: «Майстэрня па вырабе помнікаў Рыгора Ясінскага. Пінск, вул. Цментарная, 21». Асобныя працы Рыгор Ясінскі пераносіў на паштоўкі. Захаваліся яны ў добрым стане да сёння, таму мы можам прачытаць прозвішчы на помніках: Franciszka Sala (1897—1939), Kazimierz Szimborski

(1895—1938), Franciszek Nurżyński (1868—1936), Kazimierz Toruński (1898—1938), Alina Zakrzewska (żyłalat 18, zm. 30 maja 1920 r.), Helena Zakrzewska (żyłalat 27, zm. 15 lutego 1919 r.), Stanisława z Gierłachowskich Jabłońska (1915—1936). На фотаздымках адлюстраваны таксама радавыя некропалі (сямейныя пахаванні). Іх культурнае і мастацкае значэнне не выклікае пытанняў. Гэта таксама бясцэнныя хронікі родаў, якія пакінулі свой след у гісторыі горада. Сярод сямейных помнікаў захаваліся ў тым ліку пахаванні Грабоўскіх і Куркаў.

Адкуль жа ён, чалавек неатлетычнага целаскладу, браў сілы і натхненне, і як яму на ўсё хапала часу? Мяркуючы па кнігах з яго хатняй бібліятэкі, якая захавалася, шмат часу ён прысвячаў самаадукацыі. Мне не ўдалося ўсталяваць, якую адукацыю ён атрымаў у Кіеве, бо не захавалася ані даведак, ані пасведчанняў. Аднак, жывучы ў Пінску, ён вельмі шмат чытаў, самастойна паглыбляў веды. Пад рукой заўсёды знаходзіліся арфаграфічны ды фразеалагічны слоўнікі і «ілюстраваны лексікон»[1]. Падручнік граматыкі польскай мовы 1930 года захаваўся да сёння[2]. Прыступаючы да працы над накідамі надмагільных помнікаў, знаёміўся з літаратурай, якая датычылася сусветнай гісторыі архітэктуры і скульптуры. На стале заўсёды меў кнігу «Каталіцкі свет у малюнках»[3].

У 1930-х збіраўся распачаць будаўніцтва дома, аднак павінен быў адкласці гэта на некалькі дзясяткаў гадоў. Хіба тады і набыў кнігу з малюнкамі, табліцамі і фотаздымкамі пра будаўніцтва дома «крок за крокам», з якой і сёння можна ўзяць шмат цікавых рэчаў[4]. Праз 60 гадоў яна спатрэбілася, паколькі ў 1990 годзе яго нашчадкі вырашылі скончыць распачатае Рыгорам Ясінскім будаўніцтва.

У 1928—1929-х, не адрываючыся ад працоўных абавязкаў, Рыгор Ясінскі вучыўся. Гэта былі гандлёвыя курсы ім. Ігнацыя Секуловіча ў Варшаве (па пошце). Захаваліся нават праспект і праграма тых курсаў. Арганізаваны яны былі Ігнацыем Секуловічам у 1908 годзе як курсы вывучэння асобных гандлёвых прадметаў. Усе тыя, хто па розных прычынах не скончыў агульнаадукацыйную школу і не меў магчымасці наведваць спецыяльную школу, маглі запоўніць прабелы ў адукацыі ў вобласці гандлёвых навук шляхам ліставання.

У бібліятэцы Рыгора Ясінскага знаходзілася таксама мастацкая літаратура. Гэта былі кнігі выключна на польскай мове, выдадзеныя на пачатку XX стагоддзя, у серыі «Biblioteka Dzieł Wyborowych». Яе рэдактарам і выдаўцом быў Францішак Граноўскі.

О іронія лёсу! Рыгор Ясінскі рабіў помнікі для многіх людзей, увекавечваючы іх прозвішчы ў камені, але яго магіла доўгія гады заставалася безыменнай. І дом, распачаты майстрам, зарастае. Праз трыццаць гадоў пасля смерці, створаны калісьці ў яго марах дом пачаў напаўняцца жыццём. А на магіле з'явіўся сціплы помнік. Праўда, ён не падобны на тыя, якія ствараў майстар, але і час цяпер іншы. Чалавек жывы да той пары, пакуль жывая памяць пра яго.

*Пераклад з польскай*
*Тамары МІНЮТКА*
**maladost@zviazda.by**

---

[1] Trzaski, Everta i Michalskiego leksykon ilustrowany opracowany pod redakcją Stanisława Lama. A—Z. 4200 ilustracyj, 68 map, 27 planów i 17 tablic jedno i wie-lobarwnych. — Warszawa: Nakładem księgarni Trzaski, Everta i Michalskiego, 1931. — 2652 s.

[2] Szober Stanisław (1879—1938), Gramatyka języka polskiego w ćwiczeniach pod-ręcznik dla szkół powszechnych i klas niższych szkół średnich. Zeszyt pierwszy / Stanisław Szober. — Wydanie osiemnaste, bez zmiany. — Warszawa: Wydawnictwo M. Arcta, 1930. — 69 s. : il.

[3] Wszechświat katolicki w obrazach: Widoki świątyń i innych pomników budow-nictwa religijnego..., Wilno: Nakładem Księgarni Józefa Zawadzkiego, 1898.

[4] Niewierowicz Mikołaj, Poradnik wiejskiego budownictwa ogniotrwałego z gliny i drzewa lub betonu i drzewa / Mikołaj Niewierowicz; z rosyjskiego przetłumaczył Wł. Reychman. — Wilno: ZakładygraficzneZnicz, 1930. — 116 s.:il., tab., fot.

Арцём КАВАЛЕЎСКІ
maladost@zvyazda.by

# ПЫТАННІ КЕСЛЁЎСКАГА

## *Памяці рэжысёра*



*Гаварыць пра Кеслёўскага неверагодна складана... Пра яго кінематограф і пагатоў... Ну, бо заўжды складана казаць пра любімага мастака, творчасць якога з'яўляецца для цябе безумоўнай, глыбока прачуленай і не патрабуючай шырокіх вытлумачэнняў і расшыфроўкі... А яшчэ вельмі цяжка паверыць у тое, што гэты вялікі майстар, які пакінуў нам свае фільмы, да канца яшчэ не разгаданыя і не зразумелыя, шчыра не любіў сваю прафесію.*

Да рэжысуры Кеслёўскі ставіўся досыць холадна і нават іранічна. У гэтым яго стаўленні мы наўрад ці знойдзем адценне хітрыкаў. Тут прысутнічае нешта іншае: адмова ад сваёй прафесійнай выключнасці ў імя выключнасці жыцця наогул, у імя абвяшчэння сваёй роўнасці перад супярэчлівай і неверагодна дарагой для майстра супольнасцю, імя якой чалавецтва... Ён заўжды падкрэсліваў, што займаецца кіно толькі з прычыны няўмення рабіць нешта іншае. І нават сваё паступленне ў Кінашколу ў Лодзі (а трапіў туды ён толькі з трэцяга разу) Кеслёўскі не звязваў з непераадольным жаданнем, як гэта было ў многіх, рабіць кіно. Першапачаткова Кеслёўскі хацеў прысвяціць сябе тэатральнай рэжысуры. Больш за тое, ён лічыў кінематограф як від мастацтва надта недасканалым і абмежаваным у сваіх мастацкіх магчымасцях, ставячы літаратуру і музыку значна вышэй. Паводле меркаванняў Кеслёўскага кіно не здольнае ў поўнай ступені адлюстраваць унутраны стан чалавека з прычыны сваёй парадаксальнай дыхатаміі: яно занадта адназначнае і шматзначнае адначасова. І, тым не менш, ён рабіў кіно. Рабіў самааддана, скрупулёзна і надзвычай шчыра. Ён заўсёды імкнуўся быць шчырым... Перад самім сабой і блізкімі яму людзьмі, перад кожным чалавекам наогул. Ён быў шчырым і тады, калі без аніякага какецтва заяўляў, што шчасцем у жыцці для яго з'яўляюцца зусім звычайныя, немудрагелістыя рэчы: драўляны дом на маляўнічых Мазурах, веранда, крэсла, кава і цыгарэты.

Кеслёўскі любіў чалавека. Чалавек быў яму цікавы. Згадваюцца знешне простыя, але такія важныя словы майстра, што з'яўляюцца ключом да разгадкі ўсёй яго кінематаграфічнай спадчыны: *«Я глыбока спавядаю нямодную веру ў чалавека як чалавека. У яго патрэбы, у яго таемныя, глыбока прыхаваныя недахопы, у яго падвойнасць і разлучанасць, у яго прагу знайсці штосьці, што каштавала б жыцця. Бо ў жыцці найважнейшым з'яўляецца само жыццё».*

Кеслёўскага часта называюць метафізікам кіно. Ён не любіў такога вызначэння ў адносінах да сябе, хоць, па сутнасці, яно і выяўляе асноўны напрамак і канцэпцыю яго творчасці. Прынцыпова важным для рэжысёра і ў жыцці, і ў кіно было задаванне пытанняў, здавалася б, трывіяльных і паўсядзённых, адказы на якія, тым не менш, прысутнічаюць, але не яўна, у нашай свядомасці. *«Навошта гэта ўсё? Навошта прачынацца ранкам? Навошта ўвечары класціся спаць? Навошта зноў прачынацца? Як прабавіць час паміж адным і другім абуджэннем, каб спакойна галіцца раніцай, калі ты мужчына, ці накладаць макіяж, калі ты жанчына»*. Для каго, урэшце, мы ўсё гэта робім? Якім чынам суадносяцца нашы ірацыянальныя, на першы погляд, учынкі? Метафізічныя карані творчасці Кеслёўскага трэба шукаць, відаць, менавіта ў гэтых «простых» пытаннях, якія ён не пераставаў задаваць сабе ўсё жыццё. Сам ён казаў пра сябе: *«Я чалавек, які не ведае...»* **Няведанне** як метафізічную катэгорыю Кеслёўскі заўсёды імкнуўся рэалізаваць у сваіх карцінах: **няведанне** як імкненне да пошуку, **няведанне** як прычына адзіноты, **няведанне** як спосаб пазбегнуць адзіноты… Урэшце, калі задумацца, менавіта **няведанне** рухае намі штогадзінна, стымулюе, падштурхоўвае да тых ці іншых дзеянняў. Мы думаем, часам нават упэўнены, што нам вядома, як варта сябе павесці, каб пазбегнуць непрыемнасцей, паразы. Але ўрэшце мы прыходзім да ўсведамлення таго, што некаторыя пытанні так і застаюцца (павінны застацца) без адказу… І раптам высвятляецца, што жыць трэба не для таго, каб абавязкова, чаго б гэта ні каштавала, атрымліваць адказы на нашы пытанні, але толькі для таго, каб гэтыя пытанні ўмець задаваць. Уся спадчына Кеслёўскага пранізана такімі пытаннямі.

Вельмі часта шмат што ў нашым жыцці падаецца нам банальным, і мы наўрад ці ўсведамляем, што банальнасць — гэта тая **сучаснасць**, пра якую мы баімся думаць, казаць уголас. Кеслёўскі не баяўся адкрыта гаварыць пра рэчы «банальныя», лапідарныя. Дыялогі герояў яго фільмаў ператвараюцца ў шчыры маналог аўтара аб выключнасці і сапраўдным драматызме чалавечага жыцця як найвышэйшага дару, унікальнасць якога заключана ў свет паўсядзённасці. Як жыць? Задаючыся гэтым пытаннем на працягу ўсяго жыцця, Кеслёўскі абраў менавіта **паўсядзённасць** ва ўсёй яе шматаблічнай разнастайнасці за аб’ект дэталёвага мастацкага вывучэння і засваення. Як жыць і здымаць кіно, адлюстроўваючы на плёнцы гэту паўсядзённасць, — стасункі людзей на адлегласці выцягнутай рукі і нават бліжэй — блізкасць цялесную і блізкасць псіхалагічную? Яшчэ ў самым пачатку свайго творчага шляху, працуючы над дыпломным дакументальным фільмам «З горада Лодзі», Кеслёўскі заўважыў, што ён хоча: *«...шукаць негазетную праўду і супрацьпастаўляць яе праўдзе паўсядзённай... Тут не будзе экзотыкі — злачынцаў, няўдачнікаў, прытонаў. Паўсядзённасць і будзённасць самі дастаткова экзатычныя...»*

Кеслёўскі ўмеў вельмі шчыльна наблізіцца да чалавека. Ён надта пранікнёна адчуваў субтыльную матэрыю чалавечай душы, ён наогул вельмі моцна і востра адчуваў і таму не задавальняўся плоскім, адназначным, франтальным дэклараваннем таго, што такое добра і што такое дрэнна. Нездарма ён пачынаў як дакументаліст. Шчырае перажыванне са сваімі героямі рэальных жыццёвых сітуацый было для рэжысёра чымсьці накшталт аксіёмы творчасці, тым, без чаго кіно становіцца бессэнсоўным атракцыёнам, забавай дзеля забавы, назаўсёды патухлым ліхтаром. Аднак настаў момант, калі рэжысёр зразумеў, што дакументалістыка як жанр мае свае межы, што праўдзівае адлюстраванне факта можа быць у пэўнай ступені амаральным з прычыны абсалютнай сапраўднасці, непадробнасці таго, што фіксуецца ў кадры. Амаральна, напрыклад, паставіць камеру ў спальні двух людзей і здымаць сцэну кахання… Альбо здымаць сцэну рэальнай смерці чалавека… *«Мы, дакументалісты, лічылі, што маем права ўмешвацца ў жыццё іншых людзей. Сёння я ведаю, што ў нас не было такога права»,* — прызнаўся рэжысёр, калі назаўсёды пакінуў дакументальнае кіно.

Дакументаванне жыцця як спосаб яго адлюстравання з’явілася для Кеслёўскага той кінематаграфічнай пасткай, якая абумо-

віла яго пераход у іграваое аўтарскае кіно, што дазволіла майстру камунікаваць з гледачом на мове метафар і сімвалаў. Менавіта іграваое кіно прынесла Кеслёўскаму сусветную славу і прызнанне. Адыход з дакументалістыкі быў свядомым выбарам ужо сфарміраванага мастака, выбарам, што вызваліў яго ад пэўнай адказнасці за жыццё сваіх рэальных герояў, якую рэжысёр заўсёды перажываў абвострана і неяк нават хваравіта. Адыход у новы жанр, іншую кінапрастору дазволіў яму выключна глыбока засяродзіцца на патаемных пытаннях чалавечага быцця.

Кеслёўскі не шукаў лёгкіх шляхоў і рашэнняў у кінематографе, для яго было важна зразумець і засвоіць пры дапамозе свайго майстэрства, ці здольны фільм скіраваць чалавека да самапазнання, рэфлексіі над уласнымі паводзінамі, суназірання і наступнага аналізу мазаікі «незаўважных выпадковасцей», якія з’яўляюцца прычынай нашых глыбінных праблем, канфліктаў з самімі сабой і, як вынік, фрустрацыі.

Так ужо атрымалася, што нават у сябе на радзіме, у Польшчы, Кеслёўскі не быў пры жыцці зразумелы, ацэнены да канца… Напэўна, ён, як і кожны вялікі мастак, апераджаў свой час. Дакладней, не хацеў залежаць ад яго. Ён не імкнуўся быць модным. У апошнія гады жыцця, прыняўшы рашэнне не здымаць больш кіно, Кеслёўскі сфармуляваў сваё стаўленне да мастацкай творчасці: *«У мастацтве не трэба шукаць новага — трэба знаходзіць старое і абнаўляць яго»*. Ванда Якубоўская, выкладчык Кінашколы ў Лодзі, аднойчы заўважыла: *«Кеслёўскі так шмат дасягнуў, бо не думаў пра грошы і славу, але таму толькі, што страсна любіў кіно»*.

**Раптам высвятляецца, што жыць трэба не для таго, каб абавязкова, чаго б гэта ні каштавала, атрымліваць адказы на нашы пытанні, але толькі для таго, каб гэтыя пытанні ўмець задаваць. Уся спадчына Кеслёўскага пранізана такімі пытаннямі**

У гады савецкага пратэктарату палітыка ў Польшчы мела агромністы ўплыў на мастацкую творчасць, асабліва на кінематограф. Супрацьстаянне ўлады і па-дысідэнцку настроенай інтэлігенцыі з’явілася той субстанцыяй, якой польская культура жывілася многія дзесяцігоддзі. У нейкай ступені гэта канфрантацыя стала яе «жыццёвай» прасторай. У Кеслёўскага было інакш. Нават у тых яго фільмах, сюжэт якіх апасродкавана звязаны з тым ці іншым палітычным здарэннем, сама палітыка з’яўляецца другаснай, бо, паводле меркавання рэжысёра, прырода чалавека ва ўсе часы застаецца аднолькавай незалежна ад таго, пры якім палітычным ладзе, рэжыме мы жывём. Важна тое, **як** і **для каго** мы жывём. Жыццё самакаштоўнае, і ў ім ёсць некалькі фундаментальных паняццяў, якія дэтэрмінуюць наша існаванне: перш за ўсё, гэта — **любоў**, **надзея** і **вера**. Згадваецца сцэна з першага фільма «Дэкалогу», дзе гераіня Маі Камароўскай, абдымаючы пляменніка, пытаецца: «Што ты адчуваеш?» Хлопчык адказвае: «Любоў». «І ў гэтым ёсць Бог», — заключае цётка…

У сваёй апошняй кнізе «Важна не спыняцца…», прысвечанай жыццю і творчасці «рэжысёра душы», вядомы польскі публіцыст Станіслаў Завісліньскі адзначае, што «для Кеслёўскага свет каштоўнасцей быў светам надзеі». Амаль усе героі фільмаў Кеслёўскага маюць індывідуальнае (як і ўсе мы), матываванае комплексам глыбока асабістых перажыванняў і «невырашальных» пытанняў права на **надзею**, якая ў сістэме маральных поглядаў Кеслёўскага выступае як адна з найвышэйшых гуманістычных каштоўнасцей, што дазваляе чалавеку не зламацца, не ўпасці духам.

Ці можна назваць Кеслёўскага апалагетам хрысціянскай маралі? Так — у самым шырокім сэнсе — нягледзячы на тое, што гэты чалавек не быў практыкуючым каталікам і меў неадназначныя адносіны з Царквою (фільм «Без канца», які папярэднічаў «Дэкалогу», быў адкрыта асуджаны польскім Касцёлам з прычыны трагічнага рашэння Кеслёўскім лёсу галоўнай гераіні, якая скончыла жыццё самагубствам, пакінуўшы ў фінале карціны маленькае дзіця).

Але ўсё ж бясспрэчна тое, што Кеслёўскі шукаў Бога. Часам рэжысёр ішоў навобмацак, інтуітыўна (але ўсвядомлена), задаючыся пытаннямі пра месцазнаходжанне ісціны і сапраўднага чалавечага прызначэння ў гэтым свеце. Пошук адказаў не быў лёгкім, але ён, безумоўна, быў. Пра гэта сведчаць усе карціны майстра, у якіх чалавек пастаўлены на тонкую небяспечную мяжу, дзе судакранаюцца дабро і зло, грэх і дабрачыннасць. І чалавек абавязаны зрабіць выбар… Героі Кеслёўскага — гэта людзі, для якіх пакута не ёсць атаясамліваннем гора. Перажываючы няпросты перыяд дэпрэсіі, яны вучацца цярплівасці, трываласці, любові… Пакута часта вядзе да спачування, спагады — маральных катэгорый, якія тлумачаць сутнасць Хрысціянства.



Кеслёўскі аднойчы прызнаўся, што мог бы пражыць без кіно, але жыцця без літаратуры ён сабе не ўяўляе. У чымсьці ён, рэжысёр-мараліст, блізкі Дастаеўскаму, у чымсьці — Камю (аднаму з улюбёных пісьменнікаў кінематаграфіста), аўтарам, паміж якімі, з аднаго боку, безумоўна, прысутнічае блізкасць маральна-этычных поглядаў, а з іншага — відавочная розніца ў спосабах іх практычнага ажыццяўлення. Творчасць Кеслёўскага нібы ўраўноўвае, прымірае філасофскія пазіцыі Дастаеўскага і Камю, часткова здымаючы супярэчнасці паміж палюсамі іх светапоглядаў. Рэжысёр сцвярджае, што чалавек ніколі не застаецца адзін, нават калі вакол нікога няма. Прычынай адзіноты часта становіцца наша самаізаляцыя, нежаданне агледзецца вакол і ўбачыць, што мы насамрэч не самотныя. Парадокс жыцця заключаецца ў тым, што заўсёды ёсць хтосьці, дзеля каго варта жыць, ёсць нехта, каму можна і трэба дарыць любоў, і, нарэшце, ёсць той, хто нябачна заўжды побач, заўжды з табой. Бог. А яшчэ ёсць голас сумлення, маральныя нормы, якія непазбежна дыктуюць стыль і манеру паводзін і з якімі чалавеку часам так складана мірыцца. Як навучыцца жыць у згодзе з самім сабой? Гэта пытанне таксама блізкае Кеслёўскаму.

Марыён Дзюрынг — Генеральны сакратар Еўрапейскай кінаакадэміі — аднойчы заўважыла, што фільмы Кеслёўскага ўяўляюць сабой своеасаблівы алфавіт, з дапамогай якога мы вучымся чытаць жыццё і прачытваць саміх сябе ў гэтым жыцці. Якое трапнае, яскравае параўнанне!

Хацелася б звярнуць увагу яшчэ на адзін факт — прыкмету творчай манеры Кеслёўскага, яго кінематаграфічны почырк. Нягледзячы на знешнюю змрочнасць аповеду, халоднасць і аскетычнасць кадра, стрыманую строгасць і выключную лаканічнасць кампазіцыі, работы майстра выпраменьваюць асаблівае, вельмі мяккае і ледзь улоўнае святло, якое саграе душу… Гэта святло шчырай, усёпранікальнай любові да чалавека, веры ў чалавека, даверу да яго. Знешняя абагульненасць карцін Кеслёўскага хавае ў сабе адлюстраванне складанай структуры чалавечага перажывання. У жыцці няма нічога, што не быў бы здольны пераадолець чалавек. Заўсёды ёсць тое, што можа адрадзіць нас да спачування, а значыць, да любові, да жыцця…

Рэжысёр «чалавечай душы», як часта называюць Кеслёўскага, пакінуў нам разгорнутую кнігу сваіх работ. Мне здаецца, гэта кніга прачытана пакуль толькі напалову, і нам трэба яшчэ шмат папрацаваць, каб успрыняць, зразумець і засвоіць «простыя» і мудрыя пытанні, пастаўленыя вялікім рэжысёрам сучаснасці…

*Аўтар выказвае ўдзячнасць супрацоўнікам кінастудыі TOR (Варшава) і асабіста асістэнту прадзюсара Борысу Славіку за ласкава дасланыя матэрыялы аб жыцці і творчасці Кшыштафа Кеслёўскага.*

*Маргарыта ДЗЯХЦЯР*
**maladost@zvyazda.by**

# СУСВЕТНАЯ ВАЙНА

«Можна сфатаграфаваць твае вочы?» — з гэтага пытання пачынаецца гісторыя. Нельга сказаць, што гэты фільм прэтэндуе на нейкія неверагодныя прызы ці прызнанне геніяльным, але ён атрымаў адну з узнагарод на прэстыжным амерыканскім кінафестывалі «Сандэнс», пра яго пісалі вядучыя сусветныя СМІ. Навукова-фантастычная стужка Майка Кэхіла «Я — пачатак» — гэта кіно, пра якое трэба гаварыць; гэта кіно, якое трэба глядзець.

Іэн Грэй — малекулярны біёлаг. Ён яшчэ вельмі малады, але таленавіты. Таленавіты да такой ступені, што можа працягваць навуковую працу нават пасля бяссоннай ночы на тусоўках. Менавіта там, калі свядомасць затуманена, ён сустракае дзяўчыну з неверагоднымі вачыма, якія адразу ж фатаграфуе. Іэн калекцыянуе вочы, здымкі вачэй, але гэтыя — не проста здымак, не проста ўзор. Гэта вочы, якія ён хутка будзе шукаць паўсюль і аднойчы скажа, што яны «змянілі свет».

Да прагляду гэтага фільма мне здавалася, што рамантыка даўно памёрла. Але не, яна жыве. Іэн знаходзіць знакі, якія прыводзяць яго да тых самых вачэй. Гэта вочы Софі — яна супрацьлегласць Іэна. Нічога новага, кажуць жа, што супрацьлегласці прыцягваюцца.

Софі — бесклапотная, жывая, наіўная. Яна паводзіць сябе як дзіцё, увесь час хацела перасцерагчы Іэна, што яму прыйдзецца выконваць ролю бацькі, але дзяўчына адкрыла сябе і з іншага боку. Яе духоўнасць спаборнічае з яго навукай. Яго навука не хоча верыць у Бога, яе ж духоўнасць не шукае доказаў Яго існавання; яго навука хоча прагрэсу любымі шляхамі — яе духоўнасць супраць такіх эксперыментаў; яго навука заўсёды на першым месцы, а для яе на першым месцы Ён. Такая вось вайна сусветаў — сусветная вайна Іэна і Софі.

Гэтыя салодкія гісторыі пра каханне ўжо сапраўды надакучылі. Колькі гэта можа працягвацца? Чаму няма жыццёвага кіно з няўдачамі і расчараваннямі? Чаму заўсёды хэпі-энды? Але прайшла яшчэ толькі палова фільма. У навукова-фанстастычным фільме павінна быць месца і такой навуцы як геаметрыя. І яна тут будзе. У выглядзе трохкутніка.

Трэці кут — практыкантка Іэна, студэнтка Карэн. Яна дапамагае яму даследаваць эвалюцыю вока, разам яны шукаюць пачатак. Шмат часу праходзіць, а вынікаў няма. Вось яна, праца навукоўцаў — яны амаль жывуць у лабараторыях і толькі ў вельмі рэдкіх выпадках робяць адкрыцці:

— Мы можам вечна шукаць і нічога не знайсці.

— Зазіраць пад камяні і нічога не знаходзіць — ужо прагрэс.

Кажуць, што каханне — гэта хімія. Калі так, то ў ім ёсць штосьці ад навукі. Тады Софі таксама навуковец у нейкай ступені. На жаль, не сапраўдны. Будзь яна вучоным, Іэну не спатрэбілася б Карэн. Але толькі Карэн можа знайсці і раствор, каб вылечыць вока Іэна, і ДНК для даследавання.

Софі ж любіць Іэна і асуджае яго працу, бо не разумее, навошта сляпому чарвяку патрэбен зрок. Бо калі зараз нам даць пачуццё, якога ў нас няма, як будзем адчуваць сябе мы? Хутчэй за ўсё разгублена, нам будзе, напэўна, страшна, незразумела. І тут пачынаеш разумець Софі, але каб грамадства развівалася, каб прагрэс існаваў, каб свет не стаяў на месцы — трэба чымсьці ахвяраваць. Напрыклад, тым, у што верыш.

Гісторыя працягваецца, Софі гаворыць пра сваю смерць, а Іэн прызнаецца ёй у каханні: «У момант вялікага выбуху мы распадзёмся на драбнюткія часціцы. Але мае атамы будуць заўсёды кахаць твае атамы». Хутка пасля гэтага Софі нестае.

На самай справе гэта толькі пачатак стужкі. Здаецца, расказана ўжо ўсё, зразумела, што будзе далей, можна прадказаць сюжэт. Але не так усё і проста. Фільм гэты — мазаіка. Яе яшчэ трэба сабраць. А каб сабраць — падумаць. Адчуйце сябе дзецьмі, збірайце мазаіку. У пачатку фільма Іэн кажа: «Я раскажу гісторыю пра вочы, якія змянілі свет». А як яны яго змянілі? Адказ у сабранай мазаіцы.

Паўтаруся, пра стужку пісалі шмат, нават негатыўнае. Пісалі, што фільм павярхоўны, што няма ў ім глыбіні. Глыбіня тут якраз ёсць, проста не тая, якую ўсе патрабуюць. Тут не будзе Нобелеўскіх прэмій і рэпартажаў з лабараторый, дзе ставяць жорсткія вопыты. Тут будуць размовы, вочы, пошукі. Гэта фільм-інтрыга, ён не павінен даваць адказы на ўсе пытанні. Глядач, які атрымаў адказы — не заўсёды задаволены. Таму адказаў тут не шукайце. Гэтая стужка для людзей з другой планеты. Для тых, хто будзе глядзець, пытацца, пераварваць убачанае, а пасля, ужо нават забыўшыся на стужку, штосьці зразумее. Прынамсі, спадзяюся на гэта.

*Паліна ЛІСОЎСКАЯ*
**maladost@zvyazda.by**

# НЕТЭАТРАЛЬНЫ ТЭАТР

*Здаецца, што наша мастацтва сёння як ніколі прагне новай прасторы. Шпацыруеш спакойна сабе каля Камсамольскага возера, разважаеш пра высокае ці загіпнатызавана ўбіраеш у сябе прыгажосць наваколля — і... Бачыш нешта неверагоднае. Вялікія вуллі склалі сапраўдную вежу, а вось і вялікае крэсла, якое так вабіць малых. Дзікунскіх памераў прышчэпка і шмат чаго яшчэ дзіўнага... Упершыню беларускае сучаснае мастацтва прадстаўлена пад аткрытым небам. Але размова не пра гэта. Гісторыя інсталяцый на прыродзе — толькі пралог, маленькае звяно вялікага ланцуга site-specific.*

Дарэчы, вялікі ён толькі ў сусветных памерах, а вось на Беларусі мастацтва, якое руйнуе свае звычайныя рамкі і пераходзіць межы музеяў ды іншых традыцыйных прастораў, — рэдкасць. Але ж калі інсталяцыі на Камсамольскім возеры змогуць пабачыць мільёны, то другі праект у жанры site-specific прайшоў для большасці беларусаў амаль што бясследна. Стаў прыгожай птушкай у клетцы. Гаворка пра тэатральны праект Цэнтра сучасных мастацтваў і Цэнтра беларускай драматургіі «Драма Live», у рамках якога на працягу трох месяцаў чыткі беларусіх п’ес праходзілі ў нетэатральных прасторах.

Толькі ўявіце, чыткі п’ес маладых беларускіх драматургаў праходзілі ў Музеі МУС, ва ўнутраным дворыку Цэнтра сучасных мастацтваў і ў інтэрнэт-клубе… Безумоўна, першае пытанне, якое ўзнікае, — навошта? Навошта шукаць нейкія прасторы, калі ёсць тэатр? Бо ў ім і рэжысёру, і акцёрам працаваць значна прасцей (свае сцены грэюць). Калі ж пайсці па шляху site-specific, то адразу сутыкаешся з мноствам цяжкасцей. Па-першае, трэба адшукаць прастору для дзейства і (што ў тысячу разоў больш складана!) дамовіцца з уласнікам аб правядзенні незвычайнага тэатральнага мерапрыемства. Па-другое, выразна прачытаць тэкст па ролях у Музеі Міністэрства ўнутраных спраў — яшчэ не site-specific. Прастора павінна граць, стаць падтэкстам, эмацыянальным фонам, уздзейнічаць на гледачоў свядома або падсвядома. Па-трэцяе, што рабіць з гледачамі? На звычайны спектакль яны і так прыйдуць, можа, не паўнюткая зала набярэцца, але ўласныя назіранні паказваюць, што людзей у нашых тэатрах заўсёды дастаткова. Тут і прафсаюзы дапамагаюць, і парады знаёмых, і афішы па ўсім горадзе. Таму бачым, што пытанняў шмат. Ці справіўся з імі праект? Як сказаць…

**ПРАСТОРА, АУУУУ!**

З першай чыткай праблем не ўзнікла, бо дырэктарка Музея Міністэрства ўнутраных спраў, дзе і ладзілася мерапрыемства, — аднакурсніца драматурга Віталія Каралёва. Яго п’еса «Участковыя» была першай у чарзе праекта, ён жа і прапанаваў прастору. Але нават нягледзячы на сувязі, якія сапраўды ў нашым жыцці могуць усё, некаторыя цяжкасці ўзнікалі нават падчас рэпетыцый. Рэжысёрка Алена Сілуціна потым дзялілася неадназначнымі ўражаннямі. Супрацоўнікаў музея тэатр на месцы іх працы вельмі цікавіў, яны ўдзельнічалі ў працэсе, дапамагалі, чым маглі. Але многія правілы ўстановы былі не зразумелымі для рэжысёра. Справа звычайная — свабодная творчая асоба сутыкнулася з адміністрацыйным апаратам, дзе пытанні вырашаюцца праз паперы і ўсё павінна быць «як трэба». Але чытка прайшла выдатна!

З чыткай п’есы «Стыд» Аляксея Макейчыка ўзніклі складанасці. Сама п’еса (вельмі чулая, лірычная) пра ўзаемаадносіны,

драмы школьнікаў. Таму рэжысёр Аляксандр Марчанка спачатку хацеў рабіць чытку ў школе. Але адміністрацыя адмовіла арганізатарам праекта. Таму «Стыд» чыталі ў дворыку Цэнтра сучасных мастацтваў. Каб захаваць школьную атмасферу, гледачоў пасадзілі за школьныя парты. Такі рэжысёрскі ход усіх зацікавіў і, галоўнае, дапамог увайсці ў п'есу. Але як чытка выглядала б у школе, мы ужо наўрад ці пабачым.

Чытка п'есы Андрэя Іванова «Гэта ўсё яна» праходзіла ў інтэрнэт-кафэ. Мяркуючы па добразычлівай рэакцыі супрацоўнікаў, яны былі зусім не супраць такой актыўнасці ў сваёй прасторы. А вось апошняя запланаваная чытка п'есы «Карына і Дрон» так і не прайшла: арганізатарам адмовілі ў лакацыях.

Чаму адмаўлюць — пытанне рытарычнае. Мабыць, замінае наш у большасці закрыты беларускі менталітэт. Тут ужо трэба змяняць мысленне, а гэта — самае складанае. А можа, справа і ў ляноце, нежаданні браць на сябе клопаты, якія ніякіх грошай не прынясуць? Адзінае, што могуць арганізатары, далей і далей праводзіць чыткі ў незвычайных прасторах. Мо тады і баязлівыя ўладальнікі вылезуць са сваіх норак, а гультаяватыя зацікавяцца — пазнаёмяцца з маладым мастацтвам?

Тры з чатырох запланаваных п'ес усё ж такі прайшлі, а значыць, нейкая частка грамадства ўжо гатовая да новых форм выяўлення мастацтва.

## СЭНС, ТЫ ЁСЦЬ?

Як ужо адзначалася, звычайнае выразнае чытанне п'есы ў музеі ці дворыку — гэта яшчэ не site-specific. Вельмі ўзрадавала, што такога звычайнага і не было. Усе чыткі ў большай ці меншай ступені выкарыстоўвалі прастору. Але тут мы сутыкаемся з двума рознымі варыянтамі выкарыстання лакацый.

Адзін з іх характэрны для першых дзвюх чытак. Назавём такі варыянт актыўным. Рэжысёры ў ім непасрэдна выкарыстоўваюць прастору. У гэтым плане вельмі цікавая п'еса «Участковыя». Падчас яе здавалася, што не так ужо і моцна выкарыстоўвалася прастора Музея Міністэрства ўнутраных спраў, але ж потым адчувалася, наколькі моцна музей уздзейнічаў на гледачоў падсвядома. П'еса распавядае пра гісторыю двух сяброў-участковых. Адзін з іх здрадзіў другому, таму што гэтага патрабаваў доўг. Мы, гледачы, назіралі за гэтай здрадай, а са сцен музея на нас пазіралі ўчастковыя мінулага, і іх каменныя, цвёрдыя твары крычалі: «Мы таксама абралі б доўг: праца такая!» Таму музей дапамог увайсці ў прафесію міліцыянераў і аналізаваць учынкі герояў не толькі з агульначалавечага боку, але і з боку іх прафесіі. Да таго ж падчас усёй чыткі мы не толькі назіралі за дзеяй, але і былі яе часткай. Ішлі ўслед за героямі, як і яны, баяліся ўвайсці ў пакой, дзе адбылося злачынства, як і яны, здрыгануліся ад убачанага. Карацей, былі ўсе адным цэлым. Прастора была не толькі фонам, але і тлумачэннем, яшчэ адным героем.

А вось варыянт фонавага выкарыстання прасторы мы ўбачылі на прыкладзе п'есы «Гэта ўсё яна» Андрэя Іванова ў інтэрнэт-кафэ. Дарэчы, сам драматург выступаў і ў ролі рэжысёра. П'еса распавядае пра складаныя ўзаемаадносіны маці і сына. Агульнае непаразуменне, нават — нежаданне зразумець адзін аднаго. Але пры гэтым — і вялікая любоў. Менавіта яна падштурхоўвае маці да падману, ды яшчэ якога. Паколькі сын нічога не распавядае ёй пра сваё жыццё (а яна, безумоўна, турбуецца), жанчына вырашае стварыць у сацыяльнай сетцы акаўнт на імя неіснуючай дзяўчынкі Тофі. Пад маскай якой яна наноў знаёміцца са сваім сынам. Але адкрыццё падману апускае сям'ю ў поўную цемру.

Зразумела рашэнне прачытаць п'есу ў інтэрнэт-кафэ. У інтэрнэт збягаюць ад рэальнасці і яе праблем маці ды сын. Ён і лечыць іх, і калечыць… Камп'ютары абступаюць акцёраў, сын увогуле сядзіць за маніторам. Да таго ж мы ўвесь час чуем жудасную ненарматыўную лексіку — мову сына і яго пакалення. Але ж яна ідзе нават не столькі ад сына, колькі ад наведвальнікаў інтэрнэт-кафэ. Яны сядзяць, граюць у Танчыкі і лаюцца матам. Так ствараецца фон для п'есы — нервовая, напружаная, злая абстаноўка.

Але ж гэта толькі фон, акцёры ж з ім, здаецца, і не вельмі жадаюць узаемадзейнічаць. Камп'ютар для Дзмітрыя Давідовіча (Сына) — толькі дэкарацыя. На экране — застаўка, ён не грае сваю ролю, проста стаіць.

Тое ж датычыцца і навушнікаў. А як яны маглі б зайграць…

Потым ад інтэлігентнай Людмілы Сідаркевіч (Маці) мы пачулі прызнанне — яе душыла прастора, для яе тонкай натуры гэта інтэрнэт-кафэ занадта чужое. Гэтая адчужанасць адчувалася ў яе ігры і перадавалася гледачам.

Такая чытка ў лакацыі-фоне стала пазнавальным эксперыментам і для акцёраў, і для гледачоў, але ж эмацыянальна была слабейшая за астатнія. Таму ёсць яшчэ над чым разважаць рэжысёрам у жанры site-specific. Творчы пошук у гэтым кірунку толькі пачаўся і абяцае быць вельмі цікавым.

**ГЛЕДАЧЫ, ВЫ ДЗЕ?**

На мой погляд, галоўная праблема гэтага праекта — гледачы, дакладней, іх адсутнасць. Іх было вельмі, жахліва мала. На першых дзвюх чытках — каля трыццаці чалавек. На апошняй з-за абмежаванай прасторы — і таго меней. Падаецца, што трыццаць чалавек — гэта яшчэ і няблага. Але ж палова з іх — гэта сталая тэатральная тусоўка. Рэжысёры, драматургі, крытыкі, акцёры, працаўнікі тэатраў. Праглядаеш фотаздымкі — адны і тыя ж твары! Без сумневу, прафесійная публіка павінна быць, бо тады і абмеркаванні будуць прафесійныя, з аналізам дасягненняў і недахопаў. Тэатр будзе разумець, куды ён рухаецца і навошта яму ўвогуле site-specific. Але ж развіццё беларускага тэатра — толькі адна з мэт «Драма Live». Другая ж, не меней значная — знаёмства звычайных гледачоў, якія не ўваходзяць у ззяючае кола тэатральнай эліты, з крэатыўнымі тэхналогіямі. Маўляй, глядзіце — тэатр можа быць і такім, незвычайным, блізкім (бо site-specific руйнуе чацвёртую сцяну!), без крыналінаў.

Што ж мы маем? Звычайныя гледачы, як маленькія каштоўныя каменьчыкі, толькі зрэдку зіхацелі на чытках, абдавалі ўсіх сваімі свежымі непрафесійнымі каментарыямі. Так, непрафесійнымі, але ж якімі праўдзівымі. На абмеркаванні чыткі «Гэта ўсё яна» адна жанчына, да прыкладу, ніяк не магла зразумець, навошта ў тэксце так шмат мата. І добра, што было гэтае меркаванне! Паважаная незнаёмая жанчына, вялікі вам дзякуй! Бо вы ўзнялі важнае для беларускага тэатра пытанне: ці патрэбен у сучасных п'есах мат і ў якой колькасці?

Вядома, можна зразумець, чаму гледачоў было так няшмат. Не, рэклама, здаецца, тут ні пры чым. Так, я не сустракала яскравых афіш у горадзе — на аўтобусных прыпынках, рэкламных слупах, у метро. Але яны былі і непатрэбныя: каштуюць дорага (а праект жа некамерцыйны, створаны па ініцыятыве заўзятых тэатралаў), накіраваны на шырокае кола спажыўцоў. Праект жа, па сутнасці, можа быць цікавым далёка не ўсім. Цяжка ўявіць, што бабулька з гароднінай у кошыку, чакаючы аўтобус, зацікавіцца такімі словамі, як «Драма Live», site-specific. Затое арганізатары зрабілі масіраваную атаку на інтэрнэт-прастору — і не пралічыліся. Там, у інтэрнэце, лётае па сайтах у пошуках цікавага, актуальнага, сучаснага маладая аўдыторыя «Драмы Live». Прычым маладая — гэта ў шырокім, духоўным сэнсе. Таму неабыякавыя да праекта сайты з ахвотай публікавалі анонсы, фотарэпартажы. Дый і сацыяльныя сеткі арганізатары выкарыстоўвалі з вялікім майстэрствам. Канешне, можна было б зрабіць і больш сур'ёзную рэкламную кампанію, але гэта другасна. Паўтаруся, не ў рэкламе справа.

Праблема ў прасторах чытак, якія фізічна не могуць змяшчаць вялікую колькасць гледачоў. Нават калі б дзякуючы моцнай рэкламе на чыткі прыйшлі 100—200 чалавек, яны б натуральна не ўлезлі б у маленечкае памяшканне інтэрнэт-кафэ ці ў музей, з вузкімі калідорамі і невялікімі заламі. Мабыць, толькі дворык Цэнтра мог бы размясціць больш людзей. Я хілю не да таго, каб шукаць іншыя прасторы. Навошта, калі па рэжысёрскай задуме яны павінны быць менавіта такімі інтымна-невялічкімі, з патрэбнай атмасферай. Я да таго, каб павялічыць колькасць чытак адной і той жа п'есы. Не абавязкова кожны дзень на тыдні чытаць адзіны толькі «Стыд». На такое наўрад ці пагодзяцца ўладальнікі лакацый. А вось некалькі разоў на месяц — падаецца магчымым.

Для гледачоў робіцца тэатр, на гэта не трэба забывацца. А то будуць нашыя паважаныя тэатралы варыцца ў сваім катле і ўсё далей і далей адыходзіць ад рэчаіснасці. Бо што такое рэчаіснасць, як не людзі? Звычайныя людзі. Кожны з нас.

# ВОБРАЗЫ ЗАФІКСАВАНАГА ЧАСУ

***Вы задумваліся, чаму лепшымі падарункамі лічацца кніга, карціна, дыск з песнямі, музыкай, цікавым фільмам? Усё проста. У творах мастацтва фіксуецца час.***
***Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў напярэдадні свайго сямідзесяцігоддзя сама робіць нам падарункі. Адзін з самых-самых — вялікая выстава ў Палацы мастацтваў. На гэтых старонках студэнты Інстытута журналістыкі БДУ і будучыя мастацтвазнаўцы з акадэміі дзеляцца сваімі вобразнымі адкрыццямі, да якіх падштурхнулі творы той выставы. Учытайцеся. Вось ён, аказалася, які — наш час.***

*Вольга РОПАТ*

## МЯККІ СОН

**«Сон» Алеся Багданава** тоіць у сабе той загадкавы, таемны свет, у які мы трапляем толькі ноччу. У час, калі думкі адпачываюць, яны бясклапотна блукаюць па невядомых або забытых месцах. Ёсць у рабоце Алеся Багданава лёгкі вэлюм інтымнасці, схаванасці. Карціна «Сон» «размаўляе» на ўсіх мовах свету — яна заўсёды будзе зразумелая кожнаму. Героі — жанчына і маленькае пухнатае кацяня. Яны ўвайшлі ў царства сну і кожны апынуўся ў сваім свеце. Ім хораша, яны задаволеныя…

Пяшчотны, прыемны, лёгкі
Наш сон. У ім
Усё ажывае.
Быццам вітраж апынуўся
У сне…
Усё адпачывае...

* * *

Тут «вітраж» — гэта яркія кавалачкі нашых блуканняў у сне. Маленькія, яскравыя адрэзкі сну.

*А. Багданаў. «Сон».*



*Вераніка ШАПАШНІКАВА*

# ХТО-ХТО? ЖАК-ІЎ КУСТО

На адкрыцці выставы было так шмат людзей, што я была ўпэўнена: па-за маёю ўвагай засталося нешта важнае. І я наведала Палац мастацтваў яшчэ раз. Хаджу, атрымліваю эстэтычнае задавальненне і раптам адчуваю: хтосьці глядзіць на мяне са сцяны. Дакладней, вызірае з люка. З люка падводнай лодкі. Вось так, сціпла, сярод жывапісных палотнаў на сцяне «размясціўся» люк падводнай лодкі. Які-небудзь няўважлівы глядач мог прайсці паўз яго нават не заўважыўшы. Але мне пашанцавала. Я сустрэлася поглядам з гэтым незвычайным героем. І хто ж глядзіць на мяне? Чый гэта хітры прыжмур мільгануў з-пад шкельцаў акуляраў? Нават калі б не было тлумачальнага подпісу, яго проста немагчыма было не пазнаць. Жак-Іў Кусто ўласнай персонай. Кусто — вядомы французскі даследчык Сусветнага акіяна, фатограф, вынаходнік, рэжысёр і аўтар шматлікіх кніг, вядомы многім як Капітан Кусто. Ён глядзіць на мяне хвіліну-другую, а пасля ўся ягоная ўвага аказваецца раптам звернута на рыбак, што праплываюць паўз яго. А як жа іначай!

Работа так і называецца — «Жак-Іў Кусто». Невялікая (дыяметр — 68 см), яна выканана ў тэхніцы мазаікі з натуральнага каменя і ракавінак студэнткай 4 курса БДАМ Юліяй Пакінай пад кіраўніцтвам Юрыя Каралевіча. Выкладзена на гіпсавай аснове, акаймавана рамкай, што нагадвае люк падводнай лодкі. Розныя па фактуры каменьчыкі і ракавінкі ствараюць шматузроўневы рэльеф, пэўны аб'ём і цёплую вохрыста-шэрую колеравую палітру. Уражанне незвычайнае! Рыбкі, быццам жывыя, праплываюць паўз героя твора, гулліва віляючы хвосцікамі. А з самім героем, Кусто, у гледача наладжваецца «маўклівы дыялог». Проста немагчыма адарваць погляд ад гэтага хітраватага прыжмуру, хочацца затрымацца каля «чароўнага люка» і паразважаць пра тое, што ж такога цікавага разглядае Кусто ў марскіх глыбінях. Пра што ён можа расказаць нам у сваёй наступнай захапляючай кнізе… Мы наўмысна не будзем зважаць на тое, што Кусто ўжо няма сярод нас. Ягонае доўгае дзіўнае жыццё пакінула значны след



*Ю. Пакіна. «Жак-Іў Кусто».*

у літаратуры, кінематографе і нашых сэрцах. А дзякуючы працы Юліі Пакінай вобраз Кусто застанецца ў нашай памяці. Гэты твор быццам працягвае Капітану Кусто жыццё.

Мне пашчасціла сустрэцца з аўтарам твора. Юлія Пакіна расказала, як ім, студэнтам, далі тэму «Партрэт-вобраз» і ёй захацелася не столькі дасягнуць партрэтнага падабенства, колькі праз вобраз Капітана Кусто выявіць свае ўражанні ад мора і настальгію па ім. «Хацелася стварыць вобраз, які б запамінаўся, а позірк Кусто паказаць так, каб герой глядзеў проста на гледача, паспрабаваць зрабіць пагляд няўлоўным». І, мне здаецца, аўтарка здолела рэалізаваць сваю задуму.

Шмат пробных эскізаў зрабіла Юлія, перш чым дасягнула патрэбнага эфекту ва ўвасабленні рыбак. Яна паказвала, як яны плывуць за героем, перад ім, і ўсё дзеля таго, каб стварыць уражанне, быццам Кусто разглядае рыбак з падводнай лодкі. І ў выніку ў гледача ствараецца адчуванне, быццам ён разам з рыбкамі знаходзіцца ў марской бездані. Вобразы дзіўным чынам пачынаюць спрачацца з рэальнай прасторай, прэтэндуючы на суседства з наведвальнікамі выставы.

Цікава, што твор экспанаваўся не разам з іншымі мазаікамі, якіх на выстаўцы было нямала, а сярод твораў станковага жывапісу. І дзякуй выпадку, што я не прабегла паўз гэты твор і змагла падзяліцца з вамі сваімі ўражаннямі.

*Ксенія КУНІЦА*

# СУБЛІМАЦЫЯ ТАЛЕНТУ

Выстаўка ў Палацы мастацтваў уражвала нястрымнай шматстайнасцю відаў і жанраў: ад візантыйскай мазаікі да мастацкай фатаграфіі, ад выразных узораў керамікі і шкла да манументальных скульптур… І ўсё дзеля адзінай мэты — прадставіць Альма-матар у найлепшым свеце, як кузню талентаў, як іх непасрэдную стваральніцу і ахоўніцу…

У жывапіснай рабоце Алесі Скарабагатай «Ноч» (120 на 180 см, палатно, алей) увасоблены алегарычны вобраз чарадзея, які ўплятае ў начны змрок залатыя карункі. Дзівосным падаецца каларыстычнае рашэнне: у халоднай колеравай палітры праступаюць элементы магічнай залатой ніці, з дапамогаю якой быццам ствараецца матэрыя быцця. Арыгінальнасць кампазіцыйнай пабудовы і нетрывіяльная фантазія аўтара фіксуюць увагу на карціне, правакуюць да яе вярнуцца. Усе кампаненты працэсу прагляду падначалены аўтарскай задуме. Ты спыніўся, углядаешся ў карцінную плоскасць, дзе ў кожным нюансе, кожнай дэталі прыхавана загадка, і табе адчайна хочацца яе дэшыфраваць: хто гэты містычны філосаф-алхімік з тварам біблейскага прарока, што тчэ магічнае палатно, у якім ледзь заўважна чытаюцца сілуэты сабораў, што лунаюць, дрыжаць, з’яўляюцца непасрэднымі актамі «вялікага тварэння»? Рэалістычны сімвалізм — калі стыль і манера пісьма прытрымліваюцца акадэмічных прыёмаў увасаблення, але сэнс увасобленага не паддаецца фармальнаму тлумачэнню. У гэтым і заключаецца складанасць прачытання, пранікнення ў сутнасць задумы мастака, калі ты адчуваеш сябе далучаным да акту стварэння, нараджэння мастацкага твора. «Ноч» — адзін з двух твораў (другі называецца «Дзень»), які быў напісаны для інтэр’ера пасольства Рэспублікі Беларусь у Азербайджане.

*А. Скарабагатая. «Ноч».*






*В. Нямцоў. Трыпціх «Спадчына».*
*«Вадзяны млын. в. Волма, Дзяржынскі раён».*

*Марына БАБКО*

# СПАДЧЫНА

Віктар Нямцоў выкладае ў Акадэміі не адзін дзясятак гадоў, і ягоныя творы, аб'яднаныя ў трыпціх пад назваю «Спадчына», вылучаліся нейкай асаблівай шчырасцю, дабрынёй і душэўнасцю. На самай справе гэта толькі невялікі фрагмент цэлай серыі карцін «Млыны Беларусі», над якою мастак працуе ўжо шмат гадоў. Ад гэтых палотнаў зыходзіць вялікая любоў да народнай культуры, духоўнага багацця. Яны нясуць і незвычайную самоту — ад таго, што паступова адыходзіць у нябыт, разбураецца, забываецца. Мастак расшуквае звесткі пра млыны, якія існавалі на тэрыторыі Беларусі, па чарцяжах і старых фатаграфіях стварае іх жывапісныя рэканструкцыі. Але гэта не проста аднаўленне вобраза млына. Мастак хоча, каб, апроч гістарычнай праўды, работа давала эмацыянальны зарад. І стварэнне вобраза для яго з'яўляецца галоўным!

З трох работ, што былі прадстаўлены на выстаўцы, асабліва ўразіла карціна «Прылукі. Вадзяны млын графа Чапскага». Рух задаюць горныя схілы, конь імчыць з санкамі, пара падымаецца над ракою, плыні вады на плаціне… Відаць, што на млыне кіпіць работа — у яго вокнах гараць агні. Ён увесь ахутаны вэлюмам таямніцы і загадкавасці: касыя нияркія промні асвятляюць яго зверху незвычайным нябесным святлом. Нават на фоне велічнага графскага палаца ён глядзіцца не менш значна.

Каларыстычнае рашэнне палатна заснавана на гарманічным спалучэнні шэрых, блакітных, бледна-ружовых і вохрыстых таноў. Іх лёгкая нюансіроўка, мяккія пераходы ствараюць вытанчаны жывапісны эфект. І, што дзіўна, у халодным зімовым пейзажы



*В. Нямцоў. Трыпціх «Спадчына».*
*«Прылукі. Вадзяны млын графа Чапскага».*



*В. Нямцоў. Трыпціх «Спадчына».*
*«Вадзяны млын. Смалявіцкі раён».*



пераважаюць цёплыя адценні, якія надаюць яму светлы настрой.

Работа напісана шырока і лаканічна, мастак нешта дэтальна прапісвае, а нешта абагульняе. Аб'екты на заднім плане страчваюць яснасць і дакладнасць абрысаў, набываюць лёгкую размытасць, а кантрасты святла і ценю знікаюць. За кошт гэтага з'яўляецца глыбіня, адчуванне ўсеабдымнай прасторы.

Пейзаж вымушае спыніцца, прыгледзецца, убачыць прыгажосць у звычайных рэчах, схапіць сэнс увасобленага. Задумацца, ці маем мы права страціць тое, што пакінулі нам продкі… Бо без мінулага няма будучыні!



*Р. Сустаў. «Начная варажба».*

*Ганна БЫКАВА*

# ФАНТАЗІЙНЫ І ФАНТАСТЫЧНЫ СВЕТ РАМАНА СУСТАВА

Кожны, хто знаёмы з творчасцю Рамана Сустава, адразу ж узгадае свет ягоных дзівосных вобразаў, касмічных абшараў, аўтарскіх інтэрпрэтацый міфалагічных сюжэтаў. Аднак гэта не зусім тыя характарыстыкі, якія адрозніваюць маладога таленавітага графіка ад іншых творцаў. Увасабленне ірацыянальнай, містычнай прасторы, населенай загадкавымі істотамі, уласціва многім сучасным мастакам Беларусі. Але менавіта ў графіцы Рамана Сустава адлюстраванне нечага звышнатуральнага, сюррэалістычнага адбываецца ў формах, манументальных па сваёй пластыцы, з дамінаваннем выразных сілуэтаў.

На выставе, прысвечанай 70-годдзю заснавання Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, была прадстаўлена яго дыпломная работа «Начная варажба» (2001). Яна выканана ў тэхніцы лінагравюры, якой графік захапіўся са студэнцтва, калі пачаў вывучаць яе мастацкія магчымасці. Разам з гэтым адбывалася і распрацоўка ўласнага стылю творцы.

Варажбой чалавек спрабуе змяніць лагічны ход падзей, дакрануўшыся да нязведанага, свету, які не спасцігнуць. Яго таямнічасць мастак раскрывае перад гледачом. Карыстаючыся магутным эфектам лінагравюры — кантрастам чорных і белых плям, ён утварае адпаведную начную атмасферу з серабрыстым мігценнем месяца, які, хоць і нябачны, але адчувальны, дзякуючы святлу, што выхоплівае з цемры месца неверагоднага дзеяння. Гэта нейкі незвычайны горад з казачнымі персанажамі, міфічнымі птушкамі і жывёламі, якія жывуць у сваім магічным адзінстве. Сустрэча з імі выклікае вострыя эмацыянальныя пачуцці, акунае наяве ў вычварны сон.

Гладкім штрыхам, плаўнымі, гнуткімі лініямі мастак стварае мяккую прастору, дзе суіснуюць стыхійнасць і мернасць чарадзейнага жыцця. Якія прыгоды напаткаюць выяўленых у ёй герояў падчас начной варажбы, вырашыць ужо сам глядач.

*Таццяна МАЛЯЎКА,*
*загадчык аддзела*
*бібліятэчнага маркетынгу*
*Ганцавіцкай РЦБС*

# НАРЫС



*Гэты год для Тамары Валуевіч, былога дырэктара Ганцавіцкай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы, юбілейны: спаўняецца 65 гадоў з яе дня нараджэння і 45 гадоў з таго часу, калі яна ўпершыню прыехала на Ганцавіччыну.*

### НАСУСТРАЧ ЛЁСУ

Дарога да Ганцавіч падалася бясконца доўгай. Думкі, думкі, думкі… Яны мільгаюць адна за адной, як тыя незвычайныя краявіды, крыху падобныя да родных Раваніч. Павольна заплюшчваюцца вочы і толькі стук колаў вяртае ў родную вёску, бацькоўскую светлую хату, дзе сустракае прыветліва-ўстрывожаны позірк матуліных вачэй, дзе ўсё зразумела і проста.

Дзяцінства дзяўчынкі не адрознівалася ад дзяцінства яе равеснікаў. Гэта было нялёгкае пасляваеннае дзесяцігоддзе, калі ўсе жылі небагата, стол накрывалі няхітра, а калі весяліліся, дык цэлай вуліцай! А школа… Гэта была самая прыгожая школа, якую ёй даводзілася бачыць на сваім вяку! Размяшчалася яна ў маёнтку паноў Слатвінскіх. Тамара памятае кожную прыступку на лесвіцах, адна з якіх выходзіла на парадны пад'езд і браму, а другая — у супрацьлеглы бок, да вадаёма. Палацавы комплекс займаў каля 10 гектараў. Але асабліва вабіў дзятву густы парк, дзе было мноства цікавых дрэў. Як даведалася Тамара пазней, у старэйшых класах, тут раслі адзіныя ў Беларусі белыя дубы і дзіўныя для нашага клімату блакітная ды ўсходняя елкі і рэдкая разнавіднасць апошняй — блакітная ніцая елка. У парку налічвалася каля 60 відаў дрэў! З такою прыгажосцю дзяўчынка сутыкалася штодзённа. З радасцю наведвала школу, шмат чытала, асвойвала веды. Паэзію беларускіх класікаў вучыла на памяць. Марыла пасля школы вывучыцца на настаўніцу. Але паступіць у ВНУ не атрымалася, давялося працаваць у калгасе. А калі ў суседняй вёсцы бібліятэкар пайшла ў дэкрэтны адпачынак, Тамары прапанавалі працаваць у бібліятэцы. За паўгода дзяўчына зразумела, дзе яе пакліканне, і пазней, ужо не вагаючыся, падала дакументы ў Магілёўскі бібліятэчны тэхнікум…

### ЗНАЁМСТВА

Тук-тук, тук-тук — размерана пераклікаюцца колы… Тук-тук, тук-тук — у такт ім стукае сэрца… Нарэшце доўгачаканая станцыя.

У аддзеле культуры маладому спецыялісту прапанавалі працу ў Раздзялавіцкай сельскай бібліятэцы. Вёска Раздзялавічы — адзін з самых аддаленых населеных пунктаў Ганцавіччыны. Дарога пралягала праз балоты і лясныя абшары. Але што гэта? Чым далей Тамара аддалялася ад райцэнтра да невядомай палескай вёскі, тым спакайней станавілася дзяўчыне.

Заклапочаная вёска сустрэла водарам сена, перамешаным з пахам сырадою. Запомнілася, што вуліцы былі нешматлюднымі. І не дзіўна, бо для вясковага чалавека лета — самая гарачая пара: сенакос, праца ў полі і вабноты лесу, дзе паспелі чарніцы, следам — брусніцы, а пасля цёплага дождджыку высыпалі грыбы. Раздзялавічы нічым дзяўчыну не здзівілі, бо малюнак гэты быў добра знаёмы з дзяцінства, і нават вышыванкі ў гаспадыні, да якой яе накіравалі кватараваць, былі такія самыя, як у матчынай хаце ў родных Раванічах.

Першае працоўнае месца… Як яна марыла пра гэта! Уяўляла, як будзе сустракаць чытачоў, прапаноўваць ім кнігі, якіх сама прачытала ці не палову бібліятэкі, акуратна запісваць у фармуляр узятую літаратуру, афармляць кніжныя выставы і праводзіць інфармацыйныя гадзіны! І вось яна — гаспадыня гэтага светлага, у 11 квадратных метраў памяшкання з немудрагелістай мэбляй — невялічкаю шафаю, сталом і крэслам. Чытачоў на той час налічвалася 200 чалавек, асабліва часта бегалі ў бібліятэку дзеці. Яны палюбілі новую бібліятэкарку за ветлівасць і тактоўнасць, уменне бачыць у кожным асобу. За вочы з павагай называлі «наша ізба́чка». Але як тут распазнаць, хто ёсць хто, калі на вёсцы ўсяго некалькі прозвішчаў — Рабцэвічы, Валуевічы, Шапялевічы, Кісялевічы і Варвашэвічы? Спачатку столькі было блытаніны! У адным класе можна было сустрэць пяць-шэсць вучняў, у якіх прозвішча, імя і імя пабацьку — аднолькавыя. Крыху асвоіўшыся, на зваротным баку фармуляра бібліятэкарка пісала мянушкі, якімі ў паўсядзённым жыцці карысталіся вяскоўцы. І дзеці прывыклі: перад тым, як здаць кнігі ў бібліятэку, прадстаўляліся: я — Антолін, я — Казакоў… Чыталі дзеці шмат, таму літаратуры не хапала. Паступова кніжны фонд павялічваўся — пастаўкі праз Брэсцкі бібліятэчны калектар часам налічвалі да 70 адзінак экзэмпляраў на месяц.

Дзяўчыне было цікава ўсё: пазнаваць палескую культуру і быт, знаёміцца з мясцовай інтэлігенцыяй. Вечары запомніліся ашаламляльнымі танцамі, дзе адначасова маглі граць ажно пяць гармонікаў. Вось гэта весялосць! Ніхто не сумаваў, ногі самі прасіліся ў скокі! Зграбную прыгажуню Тамару з добрымі, глыбокімі карымі вачыма ўпадабаў Міхась. Паміж імі загарэўся кволенькі агеньчык раней нязведанага пачуцця, які перарос у полымя шчырага і глыбокага кахання.

**ПЕРАМЕНЫ ДА ЛЕПШАГА**

Раённаму кіраўніцтву даспадобы прыйшоўся малады спецыяліст: Тамару запрасілі працаваць у раённую дзіцячую, а затым — цэнтральную бібліятэку. Развітвацца з вяскоўцамі, якіх прыняла як родных, нялёгка. І неаднойчы сюды вярталася, але ўжо ў якасці нявесткі Валуевічаў, жонкі Міхася.

У красавіку 1976 года ў бібліятэчных установах Брэстчыны адбылася рэарганізацыя, і рашэннем Ганцавіцкага райвыканкама 28 публічных бібліятэк былі аб’яднаны ў адзіную цэнтралізаваную сістэму.

Такія падзеі не змаглі не прынесці перамены ў жыццё нашай гераіні. Неўзабаве яна стала загадчыкам аддзела абслугоўвання Ганцавіцкай раённай бібліятэкі. І паступова да імені Тамара стала дадавацца імя па бацьку — Аляксандраўна.

Пераход на цэнтралізаваную бібліятэчную сістэму даў магчымасць стварыць адзіны кніжны фонд і даведачна-бібліяграфічны апарат, які ўключаў 28 алфавітных каталогаў. Бібліятэка мела багатую падпіску на перыёдыку. Атрымлівалі каля 20-і літаратурна-мастацкіх часопісаў, мноства грамадскапалітычных, сельскагаспадарчых выданняў, каля 30-і газет. На добрым узроўні вялося камплектаванне кнігамі. Гэта быў час выдання твораў Праскурына і Іванова, Шамякіна і Мележа, класікаў сусветнай літаратуры. Тысячнымі тыражамі выдаваліся беларускія і рускія паэты. Гэта быў перыяд росквіту і актыўнага развіцця бібліятэчных устаноў раёна, усёй Брэстчыны і рэспублікі наогул.

За восем год кіраўніцтва аддзелам жанчына паспела павысіць сваю кваліфікацыю — закончыла Інстытут культуры. У асабістым жыцці таксама адбываліся перамены: падрасталі гарэзы-дачушкі, сям’я атрымала шыкоўную кватэру ў цэнтры горада. Што яшчэ патрэбна, каб жанчына пачувалася шчаслівай? Нечакана ёй прапанавалі пасаду дырэктара ЦБС. Ці марыла яна, простая дзяўчына з Чэрвеньшчыны, што ёй

давядзецца быць не проста бібліятэкарам, займацца любімай справай, але і весці за сабою людзей, стаць арыенцірам і прыкладам. Быць лідарам так няпроста, асабліва калі ты жанчына.

## БУДНІ І СВЯТЫ ДЫРЭКТАРА

Нават дома не пакідалі думкі, як вырашыць тое ці іншае пытанне.

Заўтра павінен адбыцца раённы Пленум РК КПБ, будуць слухаць і яе даклад пра стан бібліятэчнай сістэмы. Як данесці да чыноўнікаў, што пры добрым камплектаванні бібліятэчных фондаў многім установам патрэбна дапамога — патрабуюць рамонту памяшканні. А яшчэ лепей было б, калі б бібліятэкі ўсяліліся ў новыя будынкі. Ці зразумеюць яе правільна? Як супрацьстаяць аргументам, што краіне ў першую чаргу патрэбны хлеб і мяса, а не кнігі. З хваляваннем стала за трыбуну і пачала гаварыць… Пасля выступлення пачула: «Ну што, таварышы партыйцы, трэба дапамагчы. Не павінны нашы кнігі прападаць, дзяржава за іх грошы плаціла». Дзяржава сапраўды ўкладала вялікія сродкі ў культуру і трэба было гэтыя затраты апраўдаць.

Паступова новыя будынкі набылі сельскія бібліятэкі ў вёсках Кукава, Малькавічы, Ганцавічы, а разам з сельскімі клубамі пад новымі дахамі сталі працаваць бібліятэкі ў Начы, В. Круговічах, Лактышах і Агарэвічах. Цэнтральная раённая бібліятэка атрымала цудоўнае памяшканне ў цэнтры горада, раённая дзіцячая бібліятэка размясцілася ў асобным будынку, дзе некалі знаходзіўся дзіцячы садок.

Бібліятэчная сістэма Ганцавіччыны пад кіраўніцтвам Тамары Валуевіч лічылася адной з лепшых на Брэстчыне. Поспех адлюстроўвалі не толькі кантрольныя паказчыкі, але і неаднаразовыя перамогі ў абласных і рэспубліканскіх конкурсах. Бібліятэкі раёна станавіліся базай абласных семінараў. Сюды ехалі бібліятэчныя спецыялісты, каб пераняць вопыт. Ні адзін абласны семінар не абыходзіўся без выступлення Тамары Аляксандраўны. Карысталася яна аўтарытэтам і сярод калег, дырэктараў бібліятэчных сістэм вобласці. Неаднойчы станавілася ініцыятарам розных праектаў. Дзякуючы менавіта яе намаганням раённая бібліятэка стала месцам літаратурных сустрэч. Жыхарам Ганцавіччыны былі адкрыты новыя імёны, а ўстанове з гонарам прысвоена імя журналіста і публіцыста В. Ф. Праскурава.

Менавіта ў дырэктара нарадзілася ідэя стварыць на базе ЦБС установу новага тыпу. Так Малькавіцкая сельская бібліятэка атрымала статус бібліятэкі-музея. Але колькі папярэднічала гэтаму працы! Былі дадзены шматлікія запыты ў Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, па крупінках збіраліся звесткі і краязнаўчыя матэрыялы ў жыхароў вёскі Малькавічы.

Бібліятэка размяшчалася ў памяшканні, дзе ў пасляваенны час знаходзіўся дзіцячы дом. Выхаванцамі прытулку былі дзеткі з усяго былога СССР. Будынак асаблівы...

Першую экскурсію для жыхароў вёскі і раённага кіраўніцтва яна правяла сама. Гэта была значная падзея не толькі ў жыцці раёна, але і ўсёй Брэстчыны: устаноў такога тыпу ў рэгіёне налічваліся адзінкі.

## Я БУДУЮ КНІЖНЫ ХРАМ

Шмат што змянілася за 23 гады не толькі ў бібліятэчнай сістэме, але і ў краіне. Па-першае, засталася ў мінулым дзяржава СССР. Перажылі перабудову і ад атэізму перайшлі да духоўнасці. З году ў год скарачалася бібліятэчная сетка: з 28 устаноў засталося толькі 20. Між тым умацоўвалася матэрыяльна-тэхнічная база ўстаноў, укараняліся сучасныя тэхналогіі. А патрабаванні дырэктара былі нязменнымі — быць лепшымі, ствараць камфортныя ўмовы для чытача і ў рабочым калектыве, працаваць на добры вынік. Творчы падыход да працы, дасканалае веданне бібліятэчнай справы, пастаянны пошук і ўкараненне інавацый — усё гэта ўдала спалучалася.

Існуе прытча пра трох людзей, якія нешта будавалі. Займаліся яны адным і тым жа, але калі іх спыталі, што яны робяць, адказы былі розныя. Адзін сказаў: «Я драблю камяні», другі сказаў: «Я зарабляю сабе на жыццё», трэці адказаў: «Я будую храм». Я думаю, што калі б такое пытанне задалі Тамары Аляксандраўне, яна высакародна адказала б, што будуе кніжны храм. 

*Таццяна КАВЕНЬКА,*
*загадчык аддзела краязнаўчай літаратуры і бібліяграфіі Брэсцкай абласной бібліятэкі імя М. Горкага*



# ІНТЭРВ'Ю

**Якое месца займаюць бібліятэкі ў інфармацыйнай прасторы?**

— Бібліятэкі існуюць ва ўсім свеце і займаюць у інфармацыйнай прасторы месца, па сутнасці, унікальных установаў — толькі там збіраецца, захоўваецца, арганізоўваецца, ствараецца і прадастаўляецца ў бясплатнае карыстанне патрэбная інфармацыя на розных носьбітах, разлічаная на самых розных карыстальнікаў. Трэба адзначыць і прысутнасць у гэтых установах прыемных і добразычлівых памочнікаў — бібліятэкараў. Інтэрнэт у найлепшых сваіх праяўленнях — гэта таксама бібліятэчная структура, толькі, на жаль, без бібліятэкараў. Альтэрнатывы бібліятэкам, выходзіць, няма. І не будзе. Такая мая думка.

**Бібліятэкі — сховішча культурных каштоўнасцей. Як можна аргументаваць гэтае выказванне?**

— Можна на асабістым прыкладзе. У аддзеле краязнаўчай літаратуры і бібліяграфіі сабрана больш за 40 тысяч кніг на беларускай, рускай, польскай, украінскай і іншых мовах. Большасць з іх — краязнаўчыя па змесце ці месцы выдання. Самая старая кніга нашага фонду: Шпілеўскі П. «Путешествие по Полесью и белорусскому краю» (СПб, 1858), ёсць прыжыццёвыя выданні Якуба Коласа і Янкі Купалы. Захоўваем і многія іншыя рарытэты. У аддзел паступае абавязковы абласны друкаваны экзэмпляр, у тым ліку малых форм (плакаты, буклеты, паштоўкі, запрашэнні і іншае захоўваюцца ў аддзеле з 1960-х), а таксама больш за 100 назваў перыядычных выданняў. Абласная газета «Заря» ёсць у бібліятэцы з 1946 года, раённыя газеты — з 1964 года (некаторыя — з 1944-га). У аддзеле створана калекцыя кніг з аўтографамі. Тут прадстаўлены аўтографы Івана Мележа і Сяргея Смірнова, Рыгора Барадуліна і Ніла Гілевіча, Міхася Рудкоўскага і Уладзіміра Калесніка. «У аддзел беларускай літаратуры і краязнаўства Брэсцкай абласной бібліятэкі, у якой правялося столькі шчаслівых гадзін», — напісаў вядомы беларускі паэт Алесь Разанаў у 1982 годзе. А не менш вядомы краязнавец Алесь Зайка на сваёй кнізе «Населеныя пункты Івацэвіччыны» пакінуў наступныя словы: «Аддзелу краязнаўства Брэсцкай абласной бібліятэкі з удзячнасцю за творчае супрацоўніцтва ад аўтара». Калі ў мяне бывае «крытычны» (дрэнны) настрой, я перачытваю прысвячэнні аддзелу, нашай працы — і праз некаторы час магу працаваць далей з вялікім энтузіязмам. Даволі падрабязна прадстаўлены ў нашым фондзе раздзел «Літаратурная Берасцейшчына». Многія з гэтых мастацкіх зборнікаў выйшлі вельмі маленькімі тыражамі, не з'яўляліся ў продажы, а падораны нашай бібліятэцы самімі аўтарамі ці іх сябрамі.

Усю разнастайнасць краязнаўчага фонду адлюстроўвае даведачна-бібліяграфічны апарат аддзела. Традыцыйны краязнаўчы сістэматычны каталог вёўся з пасляваеннага часу, налічвае больш за 400 тысяч запісаў.

Дзякуючы яму можна, напрыклад, знайсці першую публікацыю Леаніда Дранько-Майсюка, які нарадзіўся ў Давыд-Гарадку.

З 2011 года працуе субдамен «Краязнаўства Берасцейшчыны», які змяшчае поўны тэкст кніг «Памяць» усіх раёнаў вобласці. Раздзел «Спадчына» субдамена дае фактаграфічную і бібліяграфічную інфармацыю рэкамендацыйнага характару па гісторыі і сучаснасці Брэсцкай вобласці, яе выдатных ураджэнцах і знакамітых людзях. «Навіны» — гэта і ёсць навіны. Галоўныя бібліёграфы аддзела Ірына Жалянгоўская і Уладзімір Сухапар з'яўляюцца рэдактарамі гэтага віртуальнага набытку пры актыўным удзеле аддзела бібліятэказнаўства нашай бібліятэкі (загадчыца Людміла Кароль), бібліятэк вобласці і намесніка дырэктара Алы Мяснянкінай. Субдамен «Краязнаўства Берасцейшчыны» будзе развівацца і далей.

**Якія ёсць перспектывы ў краязнаўчай працы?**

— Краязнаўства нельга разглядаць як перспектыву ці яе адсутнасць. Стварэнне ведаў пра сваю Радзіму адбываецца ўвесь час, гэта як жыццё — яно ідзе. Інфармацыя ствараецца, фіксуецца, выкарыстоўваецца. Міцкевіч, Мележ і Колас не адбыліся б, калі б не ведалі свой край, яго гісторыю. Гэта датычыцца не толькі літаратуры і мастацтва. Палітыка і эканоміка развіваюцца таксама не ў паветры ці космасе, а на канкрэтнай тэрыторы.

Вельмі доўгатэрміновая перспектыва і глабальная задача ў краязнаўчай дзейнасці бібліятэк — максімальная паўната збору друкаванай, рукапіснай, віртуальнай інфармацыі, — бягучай і рэтраспектыўнай, арганізацыя яе і распаўсюджанне. Гэта стварэнне краязнаўчых інфармацыйных рэсурсаў і прадстаўленне ў інтэрнэце зводных каталогаў краязнаўчых і мясцовых дакументаў з максімальна поўным адлюстраваннем дакументальных краязнаўчых крыніц, паўнатэкставых, камбінаваных і іншых электронных краязнаўчых рэсурсаў, пры ўдзеле бібліятэчных сістэм, бібліятэк ВНУ, краязнаўчых музеяў, архіваў і іншых устаноў.

**Раскажыце пра ўзаемадзеянне аддзела краязнаўчай літаратуры і бібліяграфіі з замежнымі калегамі.**

— З 1989 года вядзецца супрацоўніцтва з Бяла-Падляскай бібліятэкай (Польшча). Ініцыятыва належала загадчыку аддзела інфармацыі, бібліяграфіі і ведаў пра рэгіён Гжэгажу Міхалоўскаму. За гэты час мы неаднаразова абменьваліся дэлегацыямі, вывучалі вытворчыя працэсы адно аднаго, удзельнічалі ў навуковых канферэнцыях, падарожнічалі па гістарычных і памятных мясцінах, ладзілі сумесныя бібліяграфічныя праекты.

Першым прыкладам міжнароднага бібліяграфічнага супрацоўніцтва стаў паказальнік «Юлиан Урсын Немцевич: жизнь и творчество» (2007).

У рамках сумеснага праекта з Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі і Расійскай нацыянальнай бібліятэкай (Санкт-Пецярбург) «Сапегіяна: кнігазбор роду Сапегаў» пад кіраўніцтвам намесніка дырэктара па навуковай рабоце Брэсцкай абласной бібліятэкі імя М. Горкага Алы Мяснянкінай быў створаны бібліяграфічны паказальнік па гісторыі роду Сапегаў (2011) — вызначаны крыніцы бібліяграфічнай інфармацыі, надрукаваны і адрэдагаваны бібліграфічныя запісы на розных мовах (беларускай, рускай, польскай, англійскай, нямецкай і інш.).

2012-ы прысвячаўся 200-годдзю Ю. І. Крашэўскага. Часткай міжнароднага праекта «Віртуальная рэканструкцыя спадчыны Ю. І. Крашэўскага» стаў беларускамоўны бібліяграфічны спіс, прысвечаны жыццю і дзейнасці пісьменніка (2013), створаны разам з калегамі Бяла-Падляскай гарадской публічнай і Ровенскай навуковай абласной бібліятэк. Электронны рэсурс быў прэзентаваны ў 2014 годзе на радзіме пісьменніка падчас свята «Ружанская брама» (Беларусь) і ў Бяла-Палясцы.

Значным набыткам гэтай сумеснай працы можна лічыць больш за 2 тысячы польскамоўных кніг, што датычацца гісторыі Брэсцкай вобласці і Беларусі. Сярод іх ёсць сапраўдныя рарытэты, як «Słownik geograficzny Królewstwa Polskiego…» канца XIX — пачатку XX стагоддзя ў 16-ці тамах альбо пераствораная ў 2003 годзе Брэсцкая Біблія 1563 года. Дзякуючы актыўнай працы Гжэгажа Міхалоўскага ў Брэст трапіла цяпер любімая берасцейцамі кніга Дануты Вашчукуўны-Камянецкай «Брэст — горад

незабыўны», а таксама дакументы пра археалагічныя раскопкі Томаша Жук-Рыбіцкага ў Брэсцкай крэпасці ў канцы 1930-х. Для многіх даследчыкаў цікавы таксама архіў ксеракопій навуковых артыкулаў з польскага перыядычнага друку і зборнікаў. Ён налічвае больш як 500 крыніц, сярод якіх, напрыклад, успаміны аднаго з абаронцаў Брэсцкай крэпасці 1939 года Станіслава Мірэцкага.

**Некалькі слоў пра перашкоды на працоўным шляху і мары**.

— Бібліятэчнае краязнаўства сёння патрабуе вырашэння цэлага шэрагу праблем па ўкараненні механізма каардынацыі і карпаратыўнага ўзаемадзеяння паміж бібліятэчнымі фондасховішчамі краязнаўчых і мясцовых дакументаў, а таксама іншымі ўстановамі і арганізацыямі, што гэтаксама займаюцца краязнаўчай дзейнасцю. Як адна з асноўных паўстае перад намі праблема наяўнасці высокаадукаваных прафесіяналаў-бібліятэкараў, што валодаюць ведамі аб краі, традыцыйнымі і новымі вытворчымі тэхналогіямі, уменнем прадаставіць у карыстанне створаны інфармацыйны прадукт, быць тонкім псіхолагам і прыемным субяседнікам. Падрыхтоўка спецыялістаў такога ўзроўню — працэс працаёмкі і доўгатэрміновы.

У вядомага берасцейскага пісьменніка, майго земляка Леаніда Філатава ёсць кніга «Запіскі качагара». Хочацца, каб была таксама напісана кніга «Запіскі бібліятэкара». Змест яе складаўся б з цікавых выпадкаў бібліятэчнага жыцця, уражанняў ад сустрэч з асаблівымі людзьмі — навукоўцамі пісьменнікамі, краязнаўцамі, успамінаў шматлікіх размоў з чытачамі, што прыходзяць у аддзел, назіранняў за імі і калегамі.

Але гэта не задума і не план, не мара, а нейкія часовыя парывы, якія хутка, на шчасце, праходзяць.

**У чым сёння праяўляецца сістэма камунікавання бібліятэк з асяроддзем і паміж сабой?**

— Перш за ўсё — у вялікай колькасці мерапрыемстваў, праілюстраваных кніжнымі выставамі, якія садзейнічаюць папулярызацыі краязнаўчага фонду бібліятэкі, прыцягваюць увагу да знакамітых імёнаў Берасцейшчыны, дазваляюць знаёміць чытачоў, грамадскасць горада і вобласці з новымі кніжнымі набыткамі рэгіянальнай тэматыкі, новымі творамі пісьменнікаў. Многія з выяздных кніжных выстаў былі прымеркаваны да самых розных падзей. Як прыклад — выстава-прагляд «Брэст — культурная сталіца Беларусі» (2015), якую галоўны бібліятэкар аддзела Ірына Жалянгоўская прэзентавала супрацоўнікам Брэсцкай абласной пракуратуры.

Краязнаўчыя крыніцы, якія захоўваюцца ў бібліятэцы, яе камунікатыўная і даследчая дзейнасць вялі і вядуць да супрацоўніцтва з краязнаўчымі арганізацыямі, навукоўцамі, краязнаўцамі, зацікаўленымі чытачамі. Бібліятэкі заўсёды былі і ёсць даступнымі, дэмакратычнымі, сацыякультурнымі цэнтрамі. Наша бібліятэка і наш аддзел — не выключэнне.

**На якія новыя імёны ў краязнаўстве мае сэнс звярнуць увагу?**

— Я хацела б звярнуць увагу чытачоў «Маладосці» перш за ўсё на краязнаўчую працу маіх калег. Дзякуючы дырэктару Тамары Данілюк у бібліятэцы сабраны матэрыялы навукова-практычнай канферэнцыі, што праводзілася падчас святкавання 975-годдзя Брэста. Намесніца дырэктара Ала Мяснянкіна папоўніла краязнаўчы фонд бібліятэкі шматлікімі рарытэтамі, а таксама зацікавіла навуковую грамадскасць Брэсцкай вобласці тэмай гісторыі кнігі, кнігавыдання і бібліятэк Берасцейшчыны. Бібліёграфы аддзела краязнаўчай літаратуры і бібліяграфіі Ірына Жалянгоўская (у літаратурных кругах Ярына Дашына), Святлана Паўловіч, Наталля Лахміцкая ствараюць краязнаўчыя раздзелы на нашых сайтах, гарбяць над бібліяграфічнай інфармацыяй, займаюцца папулярызацыяй ведаў аб родным краі, ажыўляюць сваёй прысутнасцю нашу бібліятэчную справу. Магчыма, праз некалькі гадоў будзе ўсім аматарам даследчыцкай краязнаўчай працы вядома імя маладой нашай супрацоўніцы Маргарыты Ківачук, якая, нягледзячы на сучасныя вялікія магчымасці ў рэалізацыі прафесійных амбіцый, абрала прафесію бібліятэкара, а ў якасці працоўнага месца — аддзел краязнаўства Брэсцкай абласной бібліятэкі імя Максіма Горкага.

*Размову вяла Юлія ВАЎЧОК*

*Мікалай НАВУМЧЫК,*
*намеснік дырэктара па вучэбна-метадычнай рабоце*
*Маларыцкай раённай гімназіі*

# АРТЫКУЛ
# пра семантыку і функцыі наміткі як часткі Маларыцкага строю



*У народнай культуры Беларусі самай яркай з'явай быў і застаецца традыцыйны народны касцюм, які ствараўся вякамі. Ён прадстаўляе сабой гарманічнае цэлае, у якім кожная дэталь мае свой сэнс і выконвае асаблівую эстэтычную функцыю.*

У маларыцкім касцюме ёсць адметнасці. Амаль кожная вёска раёна мае свой касцюм, таксама як і дыялект, звычаі і традыцыі. Па агульным кампазіцыйна-арнаментальным рашэнні жаночыя касцюмы паўночных вёсак Маларытчыны адносяцца да Кобрынскага строю. А вось на поўдні, у такіх вёсках як Гвозніца, Збураж, Радзеж, Хацiслаў, Ляхаўцы, Макраны, Замшаны жанчыны насілі строй, які этнографы назвалі ўласна «маларыцкім». Яго можна пазнаць па буйным рамбічным арнаменце, насычаным каларыце, багатых кампазіцыях аздаблення, якія запаўняюць верхнія і ніжнія часткі рукавоў, манжэты, фартушкі, паясное адзенне.

Народны касцюм складаўся з наступных дэталей: сарочка, кашуля, спадніца, андарак, бурка, фартух, фартушок, намітка, плат, латуха, крайка, каптур і іншых. У гэтым касцюме выражана такое ж разуменне прыгажосці, што і ў напеўных беларускіх мелодыях, танцах, песнях. Тая ж мэтазгоднасць і ў сціплай утульнасці сялянскай хаты. Па адзенні можна было вызначыць сацыяльнае і сямейнае становішча чалавека, яго ўзрост, род заняткаў, узровень матэрыяльнай забяспечанасці. Характар арнаментаў, кампазіцыя і колер касцюма дазвалялі беспамылкова вызначыць, з якой вёскі родам яго ўладальнік. Маларыцкі строй, нягледзячы на тое, што складаецца з розных частак, адны з якіх тканыя (бурка альбо фартух, пояс), другія — вышываныя (сарочка, фартушок, намітка), утварае цэласны ансамбль, для якога характэрны аднастылёвасць і аднатыпнасць, але не аднолькавасць арнаменту.

Арнамент на Маларыцкім строі нібы ўціснуты ў шырокую чырвоную паласу. Яго не так і багата, але паласа выглядае масіўнай і напружанай па каларыце, да цёмна-чырвонага тут дададзены цёмна-сіні або чорны колер. Спрадвеку на Маларытчыне, як і ў іншых рэгіёнах, шанавалі чырвоны і белы колеры ў спалучэнні з чорным. Чырвоны сімвалізаваў жыццё, белы — чысці-

ню, пераход з аднаго свету ў іншы. Нашы продкі надавалі чырвонаму арнаменту, якім упрыгожвалі рукавы кашуль, магічную сілу. Яны верылі, што гэта засцерагае «ўваходы ў цела» ад злых духаў і дае рукам моцы ў працы. Пераборы на касцюме можна чытаць як кнігу лёсу чалавека, які жыве ў гармоніі з Космасам. Ромбы чырвона-чорнага колеру — не толькі для прыгажосці. Дзве палавінкі фігуры — мужчынскі і жаночы пачаткі. Больш за тое, у прывабным арнаменце зашыфравана абарона ад злых сіл. Пры пільным разглядзе тут можна знайсці малюнак зямлі ці поля. Чорная кропка пасярэдзіне падкажа, засеяная ралля ці не. У паўсядзённым жыцці, вядома, сяляне апраналіся больш сціпла. Як і на ўсёй Белай Русі пераважала ільняное адзенне ручной работы з мінімальнымі ўпрыгожаннямі.

Арнаментыка строга геаметрычная, але ў 1920—1930-я і сюды пранікла вышыўка крыжыкам. Спачатку крыжыкам вышывалі традыцыйны геаметрычны ўзор, пазней на сарочках і фартухах, не толькі палатняных, але і паркалёвых, з’явіліся «бракараўскія ружы». На маларыцкім строі яны маналітныя, шчыльныя па колеры, адпавядаюць мясцоваму стылю.

Урачыстасць святочнага строю замужняй жанчыны падкрэслівалася галаўным уборам ручніковага тыпу — **«платам»**, які меў выгляд падоўжанага кавалка палатніны, адмыслова-мудрагеліста завіваўся, абкручваўся, намотваўся вакол галавы і кампазіцыйна завяршаў увесь комплекс адзення, надаваў «абцякальнасць» верхняй частцы фігуры і надзвычайную годнасць жаночай постаці.

У сівую даўніну намітку паэтычна называлі павоем, нібыта параўноўваючы з павойнай раслінай, якая прутка, далікатна і надта прыгожа абвівае тонкімі квітнеючымі сцяблінкамі ўстойлівае дрэва. Пра павой мінскай князёўны ўзгадваў Іпацьеўскі летапіс. Не патрабуе асобных тлумачэнняў слова «завівацца» альбо «плат», таксама ёмкае, старадаўняе, паходжанне якога ад славянскага слова «платно» непасрэдна ўказвае і на матэрыял, і на форму ўбору.

У розных рэгіёнах наміткі называлі па-рознаму: украінскія — перемітка, намітка, намітец, серпанок, рантух, склендячка; беларускія — намётка, абмётка, павівала, плат; рускія — убрус, полотенце, подширье, фата, гомылька. У старажытнасці намітку насілі ўсе жанчыны незалежна ад іх становішча. Наміткі сустракаюцца на рускіх царкоўных фрэсках XII стагоддзя і старажытных партрэтах. Існуе каля трох дзясяткаў спосабаў павязвання наміткі. У Беларусі яна ўпершыню сустракаецца на партрэце княгіні Кацярыны Алелькавіч-Луцкай першай паловы XVI стагоддзя. Намітка часта ўзгадваецца ў матэрыялах Гродзенскага земскага суда сярэдзіны XVI стагоддзя. Спрадвечна намітку насілі і ў будні, і ў святы. Але паступова з-за дастатковай складанасці завязвання яна стала ўборам асаблівых выпадкаў: святаў, кірмашоў, абрадаў, паходаў у царкву. Наміткі аздабляліся складанай выцінанкай, часта з сімвалічнымі традыцыйнымі ўзорамі. Выцінанка размяшчалася па краі і на канцах наміткі. Выкарыстоўваліся таксама коклюшныя карункі і ўзорнае ткацтва. Вясельная намітка часта захоўвалася жанчынай усё жыццё. У яе ўбіралі жанчыну пры пахаванні. Ткалі намітку з самых тонкіх кужэльных нітак, стараючыся, каб яна была як мага танчэйшай. Каб зрабіць намітку такой, яе мачылі ў вадзе, клалі на камень, а другім цёрлі зверху, пакуль палатно не станавілася падобным да марлі. Затым намітку мылі, жлукцілі і крухмалілі. Такая намітка была вельмі тонкай і ў





той жа час добра трымала форму. Заможныя жанчыны выраблялі сабе наміткі з дарагога тонкага палатна і ўпрыгожвалі карункамі, вышыўкай залатымі і сярэбранымі ніткамі, а бяднейшыя жанчыны выкарыстоўвалі больш танныя тканіны і больш простыя ўпрыгажэнні, пры гэтым разнастайнасць арнаменту, як правіла, захоўвалася.

Часцей за ўсё жанчына ўпершыню ўбіралася ў намітку на ўласным вяселлі. Гэта сімвал замуства, залежнага становішча. Зняць галаўны ўбор значыла амаль што парушыць шлюб. На Маларытчыне маладой пасля вянчання ў царкве павязвалі намітку, і яна насіла яе цэлы дзень. Пасля прыезду нявесты ў хату жаніха свёкар здымаў яе галаўны ўбор, сяброўкі расчэсвалі валасы, закручвалі іх на тканку, надзявалі чапец і хустку.

Платы мелі звычайна даўжыню 320—350 см, шырыню 60—65 см і аздабляліся шырокімі бардзюрамі шчыльнага ромба-геаметрычнага арнаменту, які размяшчаўся на канцах, а ў самых урачыстых платах — і на адным падоўжным баку. Такія платы называлі «акалястымі», «акалестымі». Адзін з ражкоў акалестага плата дадаткова ўпрыгожвалі вышытай зоркай. Цікава, што маларыцкіх жанчын не задавальняў звычайны чырвоны колер купленых нітак. Яны спачатку падфарбоўвалі іх крушынай альбо дубовай карой, каб надаць больш глыбокі, карычнева-чырвоны тон. Пазней сталі выкарыстоўваць фабрычныя польскія фарбавальнікі, якія давалі густое вішнёвае, амаль да фіялетавага, адценне. Насычанасці гамы патрабавала цяжкаватавасць арнаменту і мажнасць жаночай постаці, якую набывала фігура ў гэтым строі.

Мы вывучылі адзінаццаць намітак, якія захоўваюцца ў музеі Маларыцкай раённай гімназіі (дзве) і Раённым цэнтры народнай творчасці (дзевяць). Усе платы належаць да маларыцкага строю, былі набытыя падчас фальклорных экспедыцый у вёскі раёна (Збураж, Гвозніца, Брадзяцін, Перавое, Арэхава).

Аднолькавых па памеры намітак няма. Самая вузкая мае 51 см, самая шырокая — 63 см; даўжыня самай каротай складае 2 м 64 см, самай доўгай — 3 м 7 см.

Акалястыя платы ўпрыгожвалі ў тэхніцы старажытнай вышыўкі наборам («нацягам»). Такі плат на Маларытчыне называўся «нацяганы». У некаторых мясцінах намітку называлі «процяг», «нашыванне», таму што ўзор нашываўся на палатно. Гэта вельмі старажытная тэхніка, калі іголку працягвалі швом уперад праз усю шырыню бардзюра, і кожны такі працяг павялічваў арнамент на міліметр. Вышыўка крыжыкам з'явілася пазней, яна ўжо мела назву «вышыванне», бо ўзор вышываўся.

У трох разгледжаных намі намітках маларыцкага строю на рагу няма разетак-зорак, у пяці — вышыта адна. Носьбіты традыцыі тлумачылі, што «зорку» жанчына нашывала пасля таго як нараджала дзіця. У дзвюх намітках на рагу знаходзяцца дзве разеткі-зоркі, а ў адной — ажно тры (неаднолькавыя памерам, адна — вялікая, дзве — меншыя). Усе зоркі розныя, вышытыя чырвонымі ніткамі. У пяці прысутнічае і чорная нітка. Белы колер — сімвал чысціні, шчырасці, свабоды; чырвоны — сімвал сонца, жыцця, радасці. А паколькі жыццё не вечнае, то і чорнага трошкі дадавалі. Гэта сімвалізавала і пераход з аднаго свету (статусу) у іншы.

Адзін плат чырвонымі ніткамі падзелены на тры часткі (ніткі знаходзяцца на аднолькавай адлегласці ад канцоў; дзве меншыя часткі — аднолькавыя па памеры). Гэта зроблена для зручнасці, каб раўнамерна і прыгожа размеркаваць убор на галаве. Вышыўка заўжды знаходзіцца на краі. Гэта як мяжа асвоенай прасторы. Сімвалічныя арнаменты, складзеныя з рамбічных фігур, — гэта зварот да вышэйшых сіл з просьбаю аб абароне ад нячыстай сілы і няшчасця. Ромб на маларыцкай намітцы — сімвал урадлівасці. Аднак у Збуражы, Гвозніцы і Брадзяціне ён азначаў зямлю, у Перавым — расліну, а ў Арэхаве — жанчыну. На некаторых намітках разеткі вышыты з пяці ромбаў, якія ўтвараюць крыж. Гэта сімвалізуе злучэнне жаночага і мужчынскага пачаткаў.

Плат перш за ўсё — галаўны ўбор з ярка выражанай функцыяй. Павітая намітка, нібы раскрытая кніга, звяртаючыся да якой можна даведацца аб прыналежнасці яе ўласніцы да пэўнага рэгіёна, вёскі. Па ёй таксама можна здагадацца, калі была тая намітка выткана ці пашыта, бо час заўсёды пакідае свае адзнакі.

Магчыма, спосаб завівання платаў жанчын сталага ўзросту адрозніваўся ад спосабу завівання маладых. Напэўна, у першым выпадку і самі платы былі прасцейшымі. Плат таксама мог адлюстроўваць статус жанчыны. Інакш, верагодна, завіваліся ўдовы. Да таго ж, манера завівання магла адрознівацца ў святы і будні. Але ўсё гэта цяпер толькі здагадкі. Быў яшчэ, напрыклад, летні варыянт, калі галава не цалкам закручвалася ў палатно: паверх прычоскі адзяваўся ажурны чапец, а больш кароткая намітка складвалася ў палоску і завязвалася канцамі назад. Пры гэтым у замужняй жанчыны валасы абавязкова хаваліся, а шыя заставалася адкрытай. Каб завіць плат, перш за ўсё жанчыне трэба гладка зачасаць валасы і разабраць на прамы прабор, потым накруціць на адмысловы ільняны абруч — тканку, і ўкласці на макушку. Абруч надаваў прычосцы асаблівую форму. На прычоску жанчыны ў некаторых вёсках маглі надзяваць белы паркалёвы чапец, упрыгожаны спераду нашыўкай з белага гафту і карункамі. Калі на змену намітцы прыйшлі хусткі, то апошнія павязвалі такім чынам, каб упрыгожаная пярэдняя частка чапца, на якую яшчэ павязвалі чырвоную атласную стужачку, была бачная. Чапец замацоўваўся на галаве з дапамогай матузка, што сцягваў яго ніжэй за патыліцу. Валасы спераду заставаліся крыху адкрытымі.

Далей плат у разгорнутым выглядзе накладаўся на галаву такім чынам, што левы яго канец (у акалястых платах ён быў вышыты па падоўжным боку) абрамляў твар, праходзіў пад падбародкам, падымаўся ўверх з правага боку і перакідваўся цераз галаву зноў на левы бок. Пры гэтым яго папярочны край, аздоблены шырокім арнаментальным бардзюрам, а часам яшчэ і разеткай, закрываў левае плячо і ражком спускаўся на спіну. Правы канец плата складваўся ўздоўж напалам, а потым згортваўся яшчэ два разы, у выніку чаго аказваўся складзеным у шэсць столак. У такім выглядзе ён ахопліваў працягнуты пад падбародкам левы канец, падымаўся ўверх, накіроўваўся назад і абручыкам



абыходзіў кругом галавы. Пры гэтым арнаментаваны беражок акалястага плата праходзіў па версе абручыка. Ззаду канец у такім жа складзеным выглядзе падтыкаўся знізу ўверх пад папярэдні слой, утвараў зверху невялікую пятлю, а астатняя яго частка звісала ўздоўж спіны паверх разгорнутага левага канца плата. Уся канструкцыя бездакорная і выразная з усіх бакоў. Яна цалкам мяняе вобраз жанчыны, рысы яе твару, падкрэсліваючы вочы, робячы больш правільным контур. Цёмна-чырвоныя карункавыя бардзюры ўтваралі карону на галаве і зрокава ўцяжарвалі канцы плата. Гэта надавала маларыцкай сялянцы царскі выгляд, дэманстравалі пачуццё ўласнай годнасці. Гэты спосаб завівання даволі просты і рацыянальны, але пры завіванні такім чынам акалястага плата яго падоўжны арнаментальны бардзюр шматразова перакрыжоўваецца, што стварае ўражанне мудрагелістага галаўнога ўбору.

Жыхаркі вёскі Збураж Надзея Алесік і Зінаіда Алексіюк расказалі, што больш кароткія і вузкія платы, вышытыя па адным падоўжаным боку (мясцовая назва — «хустка акалеста»), складвалі ўдаўжыню на шырыню далоні і павязвалі па ілбе вакол галавы, канцамі назад. Пры гэтым заставаліся бачнымі ажурнае донца чапца і вышываны яго край.

З актыўнага ўжытку намітка як галаўны ўбор знікла ў 1920—1930 гады. Аднак тонкае палатно працягвалі выкарыстоўваць у традыцыйных абрадах. Бабку-павітуху абдарвалі платам, пры хрышчэнні на ім трымалі немаўля. На вяселлі намітка была абавязковым падарункам, ёю завівалі маладую. Гэты рытуал адлюстроўваецца ў вясельных песнях. Адну з іх праспявала Марыя Піліпаўна Лямачка (вёска Збураж):

Выцце, людзі, дывытыся,
Йідэ Іванко жынытыся,
Вызэ Ганночку ў возочку,
Сычэ коныка оброткою,
Накрыў Ганночку наміткою.

**ЛІТАРАТУРА**


1. Беларускі народны касцюм / Л. І. Маленка; [маст. Э. Э. Жакевіч]. — Мн.: Ураджай, 2001.
2. Бялявіна, В. М., Ракава, Л. В. Жаночы касцюм на Беларусі — Мн.: Беларусь, 2007.
3. Віннікава, М. М., Богдан, П. А. Скарбы з вясковых куфраў (Ілюстраваны каталог). — Мн.,: Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі, 2009.
4. Дучыц, Л. У. Касцюм жыхароў Беларусі X—XIII стст. — Мн.: Беларуская навука, 2001. — 80 с.
5. Кацар, М. С. Беларускі арнамент: Ткацтва. Вышыўка. — Мн., 1996.
6. Маленко, Л. И. Белорусский костюм XIX—XX вв. — Мн.: Белорусская наука, 2005.
7. Маслова, Г. С. Народная одежда русских, украинцев, белорусов в XIX — нач. XX вв. // Восточно-славянский этнографический сборник. — М., 1956.
8. Маленко, Л. И. Белорусский костюм XIX—XX вв. — Мн.: Белорусская наука, 2006.
9. Раманюк, М. Беларускае народнае адзенне. (Альбом). — Мн.: Беларусь, 1981.
10. БелСЭ, — Мн., 1989. — 575 с.
11. Романюк, М. Ф. Белорусская народная одежда. — Мн., 1981. — 473 с.
12. Сахута, Я. М. Беларускае народнае дэкаратыўна-прыкладное мастацтва. — Мн.: Беларусь, 2001.
13. Фадзеева, В. Я. Беларуская народная вышыўка. — Мн., 1991.
14. Фадзеева, В. Я. Беларускі ручнік. — Мн., 1994. — 327 с.

*Кірыл МЯЦЕЛІЦА*

# БЛУКАЮЧАЯ ЗОРКА ЛУІСА ГРУНБЕРГА

*Лёс распарадзіўся так, што на мяжы XIX—XX стагоддзяў многія з нашых суайчыннікаў вымушаныя былі сарвацца з наседжаных месцаў і разысціся па ўсім свеце ў пошуках лепшай долі. Адны назаўсёды растварыліся ў Еўропе, іншым дала прытулак ветлівая да імігрантаў Аргенціна, а трэція вырашылі пашукаць шчасця ў ЗША. Сярод апошніх была і яўрэйская сям'я з Брэст-Літоўска, якая падарыла сваёй новай радзіме аднаго з самых выбітных кампазітараў у гісторыі амерыканскай музыкі — Луіса Грунберга.*



*Луіс Грунберг.*

Будучы прызнаны класік джаза з'явіўся на свет 3 жніўня 1884 года ў сям'і скрыпача Абрама Грынберга і яго жонкі Клары Кантаровіч. Здарылася гэта нічым не прыкметная для сучаснікаў падзея ў правінцыйным Брэст-Літоўску, які лічыўся ў той час адным з самых «яўрэйскіх» населеных пунктаў у Расійскай імперыі. У горадзе з падобным нацыянальным складам (каля 70% жыхароў Брэст-Літоўска былі яўрэямі) музыкант, які валодае скрыпкай, заўсёды мог разлічваць на невялікі, але стабільны заробак. Нягледзячы на тое, што ігра на музычных інструментах лічылася ў артадаксальных габрэйскіх абшчынах заняткам легкадумным і нявартым, просты люд любіў клезмераў (яўрэйскіх музыкаў). Пакуль Клара займалася дзецьмі і хатняй гаспадаркай, Абрам найграваў немудрагелістыя мелодыі ў кабаках і рэстаранах, што дазволіла яму з часам назапасіць крыху грошай.

Сабраўшы пэўную суму, Грынберг-старэйшы, які не хацеў да канца сваіх дзён гібець у правінцыі, вырашыў звезці блізкіх ад родных мясцін. Да таго ж унутраная абстаноўка ў дзяржаве Раманавых не абяцала яўрэйскай сям'і нічога добрага. На той момант Расія яшчэ не ўзбагаціла англійскую мову страшным словам pogrom, аднак Аляксандр III, які ўзышоў на пасад, ужо пачаў закручваць гайкі, у тым ліку і ў нацыянальным пытанні. У дадатак да ўжо існуючай з часоў Кацярыны II «мяжы аселасці», новы цар прыняў у 1882 годзе так званыя «Майскія правілы», якія яшчэ больш абмежавалі правы яўрэяў. З гэтага моманту і пачынаецца маштабны яўрэйскі сыход з Расійскай імперыі.

Першая хваля эміграцыі забрала з сабой у 1886 годзе і Грынбергаў, якія вырашылі пашукаць шчасця ў далёкай Амерыцы. Не варта, аднак, думаць, што ў канцы XIX стагоддзя можна было так проста сабраць усе свае пажыткі і адправіцца пакараць Новы Свет. Усё было значна складаней. Для пачатку неабходна было аплаціць паслугі адной з мноства існуючых тады камерцыйных фірм, якія займаліся групавымі перавозкамі людзей на «зямлю абетаваную». Тых шчаслівчыкаў, каму ўдалося сабраць неабходную для гэтага суму, адпраўлялі ў таварных вагонах у бліжэйшы партовы горад, дзе эмігрантаў чакаў прыватны параход да Злучаных Штатаў. Далей пачынаўся пакутлівы двухтыднёвы шлях праз Атлантычны акіян. Практычна ўсе ўдзельнікі гэтага падарожжа параўноўвалі яго пасля з плаваннем рабоў на нявольніцкіх



*Карыкатура на Луіса Грунберга, 1911 год.*

караблях: тыя ж бруд, антысанітарыя, грубая ежа і прыступы нязвыклай марской хваробы. Але гэта быў толькі пачатак пакут.

На шляху ў большасці шукальнікаў шчасця вырастаў размешчаны ў вусці ракі Гудзон востраў Эліс, які быў у той час галоўным прыёмным пунктам эмігрантаў у ЗША. Тут патэнцыйных перасяленцаў, якія празвалі гэтае месца «востравам слёз», чакалі работнікі іміграцыйных служб. Яны правяралі кожны факт біяграфіі і ўважліва аглядалі кожны вугор на целе чужаземцаў. У выпадку, калі чыноўнікі знаходзілі, што прыбыўшы з'яўляецца сацыяльна небяспечным элементам або крыніцай якой-небудзь інфекцыі, няшчаснага тут жа адпраўлялі дадому. Аднаму Богу вядома, колькі чалавечых трагедый разыгралася на гэтым нікчэмным лапіку зямлі.

На шчасце, сям'і Абрама Грынберга ўдалося прайсці праз усе гэтыя выпрабаванні і апынуцца ў Нью-Ёрку. Горад, які з-за шматлікіх банд называлі тады «крымінальнай сталіцай Заходняга паўшар'я», пакуль яшчэ не стаў «Вялікім яблыкам», але ўжо з'яўляўся другім Вавілонам. Замест звыклых цяпер хмарачосаў уздоўж забітых латкамі гандляроў вуліц цягнуліся пяціпавярховыя дамы, з вокнаў якіх даносілася італьянская, нямецкая, іспанская і руская гаворка. На Уол-стрыт спрытныя дзялкі ўжо прыдбалі сабе немалое дабро, а па суседстве ў брудных трушчобах Манхэтэна туліліся жабракі-ірландцы, якія прымушалі трапятаць увесь Нью-Ёрк. Дзікенс пасля наведвання ірландскіх кварталаў быў катэгарычны: «Тут жыве мноства свінняў». Але пакінем гэту заяву на сумленні пісьменніка. У рэшце рэшт, многія з ірландцаў і іншых імігрантаў сумленна зараблялі сабе на хлеб. У гэтым вялізным плавільным катле і мільянеры, і беднякі разам стваралі падмурак будучага дабрабыту Амерыкі.

Абрам, які ўпершыню апынуўся ў такім вялікім горадзе, цвёрда вырашыў пачаць новае жыццё. У якасці першага кроку ён змяніў адну літару ў прозвішчы, стаўшы Грунбергам. Як правіла, першаму пакаленню яўрэйскіх вандроўнікаў, якое беражліва адкладала кожны цэнт, рэдка ўдавалася выбіцца ў людзі ў новай краіне. Грунбергу-старэйшаму пашанцавала: ён змог уладкавацца ў мясцовы аркестр, дзе атрымліваў каля 70 долараў за месяц. Для параўнання — пара добрых туфель каштавала каля 98 цэнтаў. Дзякуючы добраму заробку Абрам змог аплачваць урокі гульні на фартэпіяна для Луіса, у якім стаў выяўляцца талент музыканта. Вельмі хутка навучанне стала прыносіць свой плён, і бацька з сынам, які ў 15 гадоў кінуў школу дзеля музыкі, сталі гастраляваць разам. Ранняя музычная кар'ера Луіса выратавала яго ад лёсу большасці аднагодкаў, якім даводзілася падпрацоўваць чысцільшчыкамі абутку і разносчыкамі газет, як, напрыклад, іншы ўраджэнец Беларусі Давід Сарноў, які стаў у выніку ўплывовым радыёмагнатам.

У 20 гадоў Луіс ужо быў вядомы ў Амерыцы як перспектыўны музыкант. Уражаны поспехамі сына, Абрам вырашае адправіць яго ў Еўропу, дзе малады чалавек змог бы працягнуць сваё навучанне. Выбар Луіса спыніўся на Берлінскай Вышэйшай школе музыкі, якая лічылася ў той час ці не самай кансерватыўнай музычнай навучальнай установай Еўропы. На момант паступлення туды Грунберга (1904) дырэктарам гэтай установы цягам ужо 35 гадоў з'яўляўся вядомы ў мінулым скрыпач Ёзэф Іаахім. Гэтаму чалавеку, абсмяянаму ў свой час Вагнерам, належыць гонар адкрыцця для шырокай публікі «скрыпічнага» Баха. Бліскучы знаўца акадэмічнай музыкі, на пасадзе дырэктара музычнай школы ён, аднак, заслужыў рэпутацыю цемрашала і дактрынёра. Пазней Грунберг узгадваў, што шмат у чым менавіта па гэтай прычыне ён, пасля паспяховага заканчэння чатырохгадовых курсаў, вырашыў «давучыцца» ў знакамітай Венскай кансерваторыі, дзе панавалі больш ліберальныя парадкі. Тут, на берагах Дуная, Луіс, якога ўзяў пад сваё крыло знакаміты Феруча Бузоні, працягвае ўдасканальвацца. Таленавітага хлопца заўважаюць і прапануюць яму супрацоўніцтва з Берлінскім філарманічным аркестрам, у складзе якога ён потым аб'ездзіў усю Еўропу.

Васіль ШУР

Рубрыка гістарычных факультэтаў краіны

# АНАМАСТЫКОН МАЗЫРА Ў ЧАСЕ І ПРАСТОРЫ*

З Мазыром і Мазыршчынай цесна звязаны ўнікальныя факты пра шляхецкі род Яленскіх. Напрыклад, пра Мазырскага ўтапіста Іосіфа Яленскага, свабодалюбівыя маніфесты якога дайшлі да расійскай імператрыцы *Кацярыны II.* Прачытаўшы напісанае І. Яленскім, яна з гневам адзначыла: «*…у гэтых бунтарных паперах… па прыкладу французаў ураўноўваюцца ўсе саслоўі, годнасці і чыны знішчаюцца…*» Пра гэтага мазырскага шляхціца цікава пісаў і краязнаўца М. Капач: «…сярод нямногіх вядомых асоб на пераломе XVIII—XIX стагоддзяў захаваліся звесткі пра адзінадумца знакамітага рускага пісьменніка, філосафа і рэвалюцыянера *А. Радзішчава.* Маёнтак Яленскага, як мяркуюць даследчыкі, быў у *Зімовішчах*, што зусім блізка ад Мазыра. Сваімі творамі аб свабодзе чалавечай асобы, барацьбе за справядлівасць, закліках і прызывах да звяржэння самадзяржаўя Яленскі “*дапёк*” цара і самыя розныя ўлады. Яго за крамольныя выступленні асудзілі да павешання, але потым шыбеніцу замянілі высылкай на Салавецкія астравы ў Белым моры. Але і там бунтарны мазырскі шляхціц не зламаўся і не адмовіўся ад сваіх поглядаў і перакананняў. Пасля смерці імператара *Паўла I* у 1801 годзе І. Яленскі, змучаны ссылкамі, беднатою, няўпэўненасцю ў заўтрашнім дні, доўга блукаў па розных мясцінах Расіі і памёр у 1813 годзе». Дарэчы, шляхецкі род *Яленскіх* даволі ўплывовы ў мінулым на Мазыршчыне. Так, з яго паходзіць *Эма Яленская*, якая нарадзілася ў Камаровічах Мазырскага павета ў 1864 годзе. Яна аўтар некалькіх раманаў і драм на польскай мове. У этнаграфічнай працы «*Вёска Камаровічы ў Мазырскім павеце*» (1891) *Э. Яленская* падала апісанне багатай матэрыяльнай і духоўнай культуры насельніцтва Мазыршчыны, пра што падрабязна, прааналізаваўшы гэтую і іншыя працы *Э. Яленскай*, пісаў В. Бандарчык у «*Гісторыі беларускай этнаграфіі*». Маёнткам *Капаткевічы* ў Мазырскім павеце валодаў *Антон Паўлавіч Яленскі* — удзельнік паўстання 1863—1864 гадоў, адзін з кіраўнікоў партыі «*белых*» на Беларусі і ў Літве, за што пасля паражэння паўстання быў арыштаваны і асуджаны на 15 гадоў катаргі ў Сібіры.

* * *

Для вырашэння ўрбананімічных праблем, пазбаўлення тапанімічных дысгармоній, якіх даволі многа і ў Мазыры, вяртання страчаных, забытых назваў, называння новых аб’ектаў даследчыкамі гэтых адзінак на падставе грунтоўнага аналізу ўрбанонімаў у маштабах усёй Беларусі (І. Сацукевіч, І. Капылоў і інш.) вызначана некалькі асноўных метадаў: 1) *метад рэстаўрацыі* — вяртанне першапачатковай назвы аб’екта, у Мазыры, напрыклад, ідэалагічнай назвы *плошча Леніна* → аднаўленне яе ранейшай назвы *плошча Свабоды* (1920-я); вул. *Савецкай* (ад плошчы Леніна да Прымаставой плошчы ) ранейшай назвы → вуліца *Слуцкая;* 2) *геаграфічны метад* — найменаванне вуліцы па назве населенага пункта, на месцы якога яна ўзнікла, напрыклад, вуліца *Баравікоўская* — на месцы былой вёскі *Баравікі,* вуліца *Баброўская* — на месцы зніклай вёскі *Бабры*, вуліца *Салаўёўка* на месцы зніклага ў даваенныя часы хутара *Салаўёўка* і інш.; 3) *метад персаніфікацыі*, які цяпер пачаў актыўней выкарыстоўвацца ва ўрбананіміі горада Мазыра: вуліца *Міхаіла Барысава* — у гонар Героя Савецкага Саюза, ураджэнца вёскі Нараўшчызна Мазырскага раёна. Імёнаў, якія вартыя ўшанавання ў горадзе над Прыпяццю, даволі многа. З Мазыром звязаны лёсы беларускіх пісьменні-

* Працяг. Пачатак у № 8, 9 за 2015 г.

каў *Алеся Гаруна, Усевалада Краўчанкі, Івана Навуменкі, Уладзіміра Верамейчыка*, сусветна вядомых вучоных *Мітрафана Доўнар-Запольскага, Пятра Ракіцкага, Сцяпана Некрашэвіча, Аляксандара Круkоўскага*. У наш час спецыялістамі створана і зацверджана рэспубліканскае «*Палажэнне аб камісіі па перайменаванні вуліц, плошчаў і інш.,*» што павінна садзейнічаць паступоваму пераводу тапаніміі Беларусі на нацыянальную аснову, садзейнічаць выхаванню патрыятызму і эстэтыкі сярод насельніцтва. Гэта важная ідэалагічная праблема.

Дарэчы тут адзначыць, што «*мемарыяльныя*» ўрбанонімы (назвы вуліц), як і айконімы (назвы паселішч), што зацвярджаюцца афіцыйна на дзяржаўным узроўні Указамі для ўшанавання і праслаўлення пэўнай асобы, якая пакінула гэты свет, не з'яўляліся тыповай асаблівасцю ранейшай тапанімічнай сістэмы. Такія адзінкі былі рэдкім выключэннем сярод айконімаў і ўрбанонімаў ва ўсёй царскай Расіі. Вядомы даследчык урбананіміі Масквы і іншых рэгіёнаў Расіі *М. Гарбанеўскі* сярод «мемарыяльных» да падзей 1917 года называе толькі адзінкавыя айконімы, пераважна ў гонар царскай дынастыі: *Екацярынбург, Екацярынадар, Паўлаўск, Нікалаеўск, Александропаль* і некаторыя іншыя, сярод урбанонімаў — метафарычныя тапанімічныя ўтварэнні, што ўзніклі ў выніку сімвалічнай трансанімізацыі: вуліца *Екацярынінская, Скобелеўская*, *Нікалаеўская* і інш. [7, с. 34]. Гэты даследчык гарадской тапаніміі, крытыкуючы традыцыю савецкіх і постсавецкіх часоў, адзначаў, што варта ўсім улічваць адзін вельмі істотны навуковы факт: гарадскі тапонім выконвае перш за ўсё функцыю арыенціра — гэта значыць адрасную функцыю, а не проста гісторыка-культурную (кумуляцыйную функцыю). А таму любая мемарыяльная назва вуліцы ў вусным маўленні хутка «сціраецца» і ставіць імя нават паважанага чалавека, у гонар якога названа вуліца, у няёмкае становішча, а часам прыводзіць да глупства: «*Вы на Крупскай (вуліцы) выходзіце?»*

Вельмі тыповай, масавай і характэрнай прыкметай савецкай пары стала «звышпрадуктыўнасць трансанімізацыйнай метафары ў айканіміі (перш за ўсё адантрапанімнай. — **В. Ш.**) шляхам стварэння дзясяткаў тысяч мемарыяльных тапонімаў, урбанонімаў, назваў-прысвячэнняў, назваў-сімвалаў, а такcама спецыфічных спалучэнняў — пэўнага роду метафар і метанімій (айконімы тыпу *Вароўскі, Дзяржынскі, Леніна, Мендзялеева, Нагінск, Сечанава* і г. д.)». Айконімы, урбанонімы і іншыя наватворы, што з'явіліся на карце тагачаснага СССР, у сукупнасці ўяўляюць вялізныя віртуальныя камуністычныя могілкі — ад вуліц *Карла Лібкнехта* і *Клары Цэткін* да завулкаў тыпу *Паўліка Марозава* і тэрарыста *Сцяпана Халтурына*. Дарэчы, урбанонімаў, падобных да апошніх, даволі многа ў беларускіх паселішчах. Так, у Мінску ёсць вуліца ў гонар эсэра-тэрарыста *Івана Пуліхава*, які ў 1906 годзе ажыццявіў замах на мінскага губернатара *П. Курлава*. Паэт Васіль Зуёнак у вершы «*Жыву на вуліцы Пуліхава…*» выказвае незадавальненне, шкадаванне, што яму прыходзіцца штодзённа бываць у гэтай частцы горада: «*Не знаючы ўсіх імёнаў — / Застрэленых і ўзарваных / Атручаных, закатаваных, — / Калі я іду штодзённа / Па вуліцы тэрарыста / То з Пуліхавым, і з Курловым / І з сонмам ахвяраў новых / Аплаканых урачыста / Ці ўсенароднa праклятых, / без тэрарыста, без ката / Я сотні разоў пакараны — Павешаны і расстраляны*» (Полымя. — 1995. — № 5. — С 64). Нават імёны вельмі вядомых, заслужаных людзей, калі іх прозвішчы выкарыстоўваюць у соцыуме не заўсёды правільна, шаблонна (без уліку тых патрабаванняў, пра якія гаварылася вышэй, напрыклад, у якасці ўрбанонімаў — назваў вуліц) могуць выклікаць у людзей негатыўную, адмоўную рэакцыю. Так, газета «Звязда» (28.04.2015) пісала, што не ўсім жыхарам мінскай вуліцы *Леаніда Бяды* — у гонар праслаўленага савецкага лётчыка, генерала, двойчы Героя Савецкага Саюза — падабаецца яе назва. Прычына незадаволенасці тлумачыцца пэўнай двухсэнсоўнасцю ўрбаноніма на шыльдах і ўказальніках, дзе напісана: «*Вуліца Бяды*», што зусім няправільна, бо паводле афіцыйнага рашэння гарадскіх улад у 1976 годзе яна павіннна іменавацца, як «*Вуліца Леаніда Бяды*». Ініцыятары, якія не былі згодныя з двухсэнсоўнасцю ўрбаноніма, накіравалі пратэст-хадайніцтва ў Камісію па найменаванні і перайменаванні праспектаў, вуліц, плошчаў горада Мінска. Камісія не задаволіла такі зварот і не памяняла назву, растлумачыўшы, што перайменаванне яе ў «*Вуліцу Леаніда Бяды*» выкліча нязгоду ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны, а яшчэ і тым, што на ёй (вуліцы) размешчаны

многакватэрныя жылыя дамы, арганізацыі і ўстановы, якім давядзецца пераафармляць разнастайныя дакументы на права ўласнасці і іншыя юрыдычныя паперы. Былі і іншыя прычыны, напрыклад, блытаніна з адрасамі. Гэта і іншыя культавыя мадэлі, уласцівыя савецкаму перыяду, былі даведзены да абсурду. Напрыклад, вуліцы *Вальтэра Ульбрыхта* не было нават у ГДР, а на карце *Масквы* яна існавала [7, с.4]. Даследчыца беларускай урбананіміі Г.М. Мезенка не падзяляе некаторыя выказванні М. Гарбанеўскага адносна мамерыяльных урбанонімаў, што засведчаны на тэрыторыі Беларусі да 1917 года. У прыватнасці, яна адзначыла, што мадэлі назваў вуліц у гонар тагачасных высокіх чыноўнікаў і дзяржаўных дзеячаў пачалі з'яўляцца на картах беларускіх гарадоў з 1870-х. Так, у Мінску і Гомелі ў той час была *Скобелеўская* вуліца, названая па імені вядомага па тых часах генерала *Скобелева,* былі яшчэ вуліцы ў гонар імператара *Аляксандра I* (Брэст), у іншых гарадах у гонар *Аляксандра Неўскага*, у Барысаве ў канцы XIX стагоддзя зафіксаваны праспект *Генерала Рыхтара.* На пачатку XX стагоддзя ў якасці базы для стварэння назваў-прысвячэнняў у Беларусі, як прасачыла Г. Мезенка, выкарыстоўваліся імёны вядомых пісьменнікаў: у Брэсце і Віцебску з'яўляюцца *Пушкінскія* вуліцы, у Віцебску — вуліца *Графа Талстога*. Нельга лічыць культавую мадэль назваў вуліц толькі ўплывам савецкага перыяду, бо ў Заходняй Беларусі (Брэст, Гродна, Баранавічы, Кобрын), як сведчыць гэта даследчыца, да 1939 года існавалі вуліцы *Баторыя, Сабескага*, *Сянкевіча, Шаптыцкага, Пілсудскага* [11, с.341]. Але гэта, як мы паўтараем, былі рэдкія выпадкі.

Такім чынам, пералік назваў вуліц з улікам традыцый рэгіёна, нацыянальных адметнасцей, у гонар людзей, якія праславілі Беларусь і маюць адносіны да Мазыра і Мазыршчыны, павінен быць павялічаны (часткова замест вышэйзгаданых імёнаў). Павінны быць, на нашу думку, унутрыгарадскія назвы ў гонар:

***Эдуарда Пякарскага,*** які вучыўся ў Мазырскай гімназіі, рэвалюцыянера, пачынальніка якуцкага пісьменства, даследчыка Поўначы, акадэміка дарэвалюцыйнай Расійскай Акадэміі навук. Яго дзіцячыя і юнацкія гады прайшлі ў Мазыры і Барбарове, дзе жыў яго дзед Рамуальд Пякарскі, які быў упраўляючым у маёнтку пана Горвата, вядомага сваім багаццем і раскошай на ўсю Мінскую губерню. Эдуард вучыўся ў *Мазырскай гімназіі*. Пра гэты перыяд у жыцці Э. Пякарскага В. Грыцкевіч піша: «На канікулы Эдуард звычайна ехаў у палескае мястэчка *Барбароў* да стрыечнага дзеда *Рамуальда Пякарскага*. Мястэчка таксама стаяла на беразе Прыпяці. Тут нават прыпыняўся параход з гучнай назвай "Леў", які курсіраваў паміж Кіевам і Мазыром».

У 1873 годзе Мазырскую гімназію рэарганізавалі ў прагімназію: замест васьмі класаў у ёй стала шэсць. Каб атрымаць сярэднюю адукацыю, Эдуарду трэба было ехаць у іншы горад. Лёс склаўся так, што Пякарскі вучыўся ў Мінскай, Таганрогскай, Чарнігаўскай гімназіях. Ён знаёміўся з рэвалюцыйнай літаратурай, распаўсюджваў творы Чарнышэўскага, Пісарава, народніцкую газету «Вперед». Пасяховай рэвалюцыйнай прапагандзе садзейнічала вонкавая прывабнасць, арыгінальны склад мыслення, знаходлівасць.

Затым Э. Пякарскі вучыўся ў Харкаўскім ветэрынарным інстытуце, дзе хутка ўвайшоў у атмасферу грамадскіх інтарэсаў, якімі жыла перадавая моладзь, стаў удзельнічаць у студэнцкіх сходах, абмеркаваннях шляхоў звяржэння царскага самаўладства, узначальваў дэманстрацыі пратэсту супраць самадзяржаўя. Далейшы лёс таленавітага юнака з Палесся склаўся так, што ён быў вымушаны пакінуць вучобу і пайсці па астрогах і этапах. У пакутах і вандраваннях адбываліся сустрэчы і сяброўствы з такімі вядомымі ў гісторыі нашай краіны людзьмі, як пісьменнік *У. Караленка*, прафесійны рэвалюцыянер *П. Аляксееў*. Дарэчы, будучы ў ссылцы разам з Аляксеевым, Пякарскі асабліва сябраваў з ім, а калі *Аляксеева* забілі, то *Пякарскі* ўзначаліў пошукі забойцаў і дапамог раскрыць злачынства.

Не маючы спецыяльнай філалагічнай падрыхтоўкі, Э. Пякарскі самастойна пачаў вывучаць якуцкую мову, запісваць лексіку, песні, прыказкі, прымаўкі, іншыя фальклорныя творы. У даследчыка не было самага неабходнага для працы: лінгвістычныя эксперыменты Пякарскага ствараліся на голым месцы, бо адсутнічалі мовазнаўчыя працы не толькі па якуцкай, а нават і па рускай мовах, не было картатэкі, адсутнічала мастацкая літаратура на якуцкай мове...

Будучы вучоны ў ссылцы вырошчваў збожжа, даглядаў жывёлу, лавіў рыбу, займаўся паляваннем, чым мог, дапамагаў абяз-

доленым якутам, палюбіў гэты самабытны народ, яго мову, пранікся пачуццём павагі да набыткаў яго матэрыяльнай і духоўнай культуры.

У канцы XIX стагоддзя працамі Пякарскага зацікавіліся афіцыйныя ўлады. Яго навуковыя пошукі і эксперыменты заўважылі вядомыя цюрколагі нашай краіны. З ім вялі перапіску вядучыя вучоныя Пецярбурга, Парыжа, Варшавы, Стамбула. У пачатку XX стагоддзя Пякарскаму даручана ўзначальваць экспедыцыі па даследаванні духоўнай культуры эвенкаў, асабліва мовы гэтага народа. Нават у наш час, як зазначаюць даследчыкі, з усіх прац, прысвечаных гэтай групе жыхароў Далёкага Усходу (эвенкам), «самай каштоўнай ва ўсіх адносінах трэба прызнаць работы Э. Пякарскага».

У 1906 годзе па хадайніцтве кіраўніцтва Расійскай Акадэміі навук Пякарскі быў запрошаны ў Пецярбург, каб там паспяхова працаваць у абраным у ссылцы накірунку. За 45 гадоў навуковай дзейнасці ён стварыў сапраўдную энцыклапедыю ўкладу жыцця народаў Поўначы. Сабраны і апрацаваны на працягу дзесяцігоддзяў велізарны матэрыял уяўляе сабой, як пісаў усходазнаўца В. Радлаў, «*карціну разумовага жыцця народа, закінутага лёсам на далёкую поўнач Азіі*».

***Мітрафана Доўнар-Запольскага*** — сусветна вядомага вучонага — «*бацькі беларускай гістарычнай навукі*», этнографа, археолага, фалькларыста (вучыўся ў Мазырскай гімназіі) — яго імя ў адным радзе з такімі выдатнымі постацямі, як *У. Ігнатоўскі, Я. Карскі, У. Пічэта*. Навуковыя набыткі прафесара *М. Доўнар-Запольскага* ў галіне даследавання сацыяльна-эканамічнай гісторыі Беларусі і Літвы, дзяржаўнасці ВКЛ, этнаграфіі і фальклору яшчэ пры жыцці вучонага далі падставы назваць яго першым беларускім гісторыкам. Ён стаяў ля вытокаў беларускай вышэйшай школы, быў ініцыятарам адкрыцця ўніверсітэта, дарэчы, не ў Мінску, а ў Мазыры яшчэ ў дарэвалюцыйныя часы (пра гэта патрэбна гаварыць падрабязна), а яго кандыдатура як рэктара першай ВНУ Беларусі савецкага перыяду была ў ліку тых вучоных, якія маглі ўзначаліць БДУ у першыя гады савецкай улады. *М. Доўнар-Запольскі* ўслед за *З. Даленга-Хадакоўскім* і *Я. Карскім* заклаў падмурак беларускай этналінгвістыкі і ўдакладніў на падставе лінгвістычных і гісторыка-культурных звестак этнаграфічныя межы рассялення беларусаў, вызначыў іх адметныя асаблівасці сярод іншых славянскіх народаў. Як справядліва адзначана даследчыкамі навуковай спадчыны вучонага, «*калі б М. Доўнар-Запольскі не зрабіў у навуцы нічога, апрача ўдакладнення этнаграфічных межаў Беларусі, яго імя і тады назаўсёды захавалася б у нашай гісторыі*». Калі ўзнікла патрэба ўдакладніць размежаванне дзяржаўнай мяжы Беларусі і Украіны, спецыялістамі была выкарыстана выключна багатая на самую розную інфармацыю карта-схема, падрыхтаваная *М. Доўнар-Запольскім*. На жаль, у Мазыры, дзе ён вучыўся ў гімназіі, вялікія заслугі гэтага вучонага і патрыёта ніяк не ўшанаваны. Праўда, у суседняй *Рэчыцы* — радзіме знакамітага вучонага, па ініцыятыве Рэчыцкага выканаўчага камітэта, Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф. Скарыны пачалі праводзіцца навуковыя канферэнцыі, так званыя *Доўнарскія чытанні*, на якіх аналізуюцца дакументы і навуковыя працы, звязаныя з жыццём і вялікай спадчынай вядомага вучонага. У канферэнцыях прымаюць удзел знакамітыя гісторыкі, архівісты, этнографы, лінгвісты, эканамісты з Беларусі, Расіі, Украіны, Германіі, Польшчы і інш.;

***Пятра Ракіцкага*** — сусветна вядомага вучонага, акадэміка АН БССР, аўтара першага ў свеце падручніка па інжынернай генетыцы, ураджэнца Мазырскага раёна; ***Івана Навуменкі*** — народнага пісьменніка Беларусі, акадэміка, ураджэнца суседняга з Мазыром Рэчыцкага раёна, чыя творчая біяграфія пачыналася ў пасляваенным Мазыры — абласным цэнтры, дзе І. Навуменка шэсць гадоў працаваў карэспандэнтам абласной газеты, а гораду над Прыпяццю, яго людзям прысвечаны шматлікія запамінальныя старонкі яго апавяданняў, аповесцей, раманаў, напісаных пераважна на падставе ўласных уражанняў і рэальных падзей; ***Уладзіміра Верамейчыка*** — таленавітага паэта-ардэнаносца, творчасць якога амаль поўнасцю прысвечана Мазырскаму Палессю, малой радзіме, якога яшчэ пры жыцці аўтарытэтна і ўзнёсла-выразна называлі «*лірнік Палесся», «рыцар яе Вялікасці Прыпяці», «адданы сын Палесся», «палескі абраннік*», чый талент быў пазначаны ў маштабах усёй Беларусі; ***Пятра Жукава*** — Героя Савецкага Саюза, ураджэнца Брагіншчыны, які ў свае апошнія гады

жыў у Мазыры; ***Ізраіля Пікмана*** — ураджэнца Мазыра, беларускага кінарэжысёра і аператара, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР, стваральніка фільмаў «*Дзяўчынка шукае бацьку», «Вуліца малодшага сына», «Брэсцкая крэпасць»* і інш.

З Мазыром, Мазырскай гімназіяй звязаны лёс ***Стравінскага Фёдара Ігнатавіча*** (20.06.1843, маёнтак *Новы Двор Рэчыцкага павета* — 04.12.1902), рускага спевака (бас), саліста Марыінскага тэатра ў Пецярбургу. Яркая творчасць *Ф. Стравінскага* — значны этап у развіцці рускага і еўрапейскага рэалістычнага опернага мастацтва. Шляхецкі род *Стравінскіх* герба «*Суліма*» быў вядомы ў Вялікім Княстве Літоўскім з пачатку XVI стагоддзя. У 1861 годзе *Ф. Стравінскі* паступіў у *Мазырскую гімназію* і закончыў яе ў чэрвені 1865 года. Пэўны адбітак на фарміраванне яго поглядаў зрабілі падзеі паўстання 1863 года, у тагачасных выступленнях супраць царскай улады прымала ўдзел частка мазырскай шляхты і вучні *Мазырскай гімназіі.* Вось што пісаў пра мазырскі перыяд у жыцці *Ф. Стравінскага* даследчык яго творчасці *Васіль Кушнер*: «Успамінаючы пра гады вучобы *Фёдара Стравінскага* ў *Мазырскай гімназіі*, адзін з яго былых настаўнікаў у сваім "Развітальным слове майму вучню новапрадстаўленаму Фёдару Ігнатавічу Стравінскаму", якое было надрукавана ў "Виленском вестнике" ў 1902 годзе (№ 292), адзначаў: "Высокі, стройны і прыгожы юнак гэты вылучаўся сваёй добравыхаванасцю. Вучыўся ён у мяне старанна і адказваў урокі не ў зубрэнне, а толкам. Мала таго, ён звяртаўся да мяне з рознымі пытаннямі па літаратуры і ў пазакласны час. Я ахвотна задавальняў яго цікаўнасць". У вучнёўскім хоры *Мазырскай гімназіі* "…*Стравінскі* заняў першае месца і хутка прыцягнуў увагу ўсяго горада"». Такім чынам, старт, першы значны поспех як спевака *Ф. Стравінскі* атрымаў *у Мазыры*. У далейшым ён вучыўся на юрыдычных факультэтах Новарасійскага і Кіеўскага ўніверсітэтаў. Затым пераехаў у Санкт-Пецярбург, дзе адразу быў залічаны стыпендыянтам *Пецярбургскай кансерваторыі*, у якой выявіўся яго шматгранны талент. Ф. Стравінскі быў не толькі выдатным спеваком і акцёрам, але і таленавітым мастаком. Гэтыя выразныя здольнасці ў яго праявіліся яшчэ ў *Мазырскай гімназіі*, пра што падкрэслена пісалі біёграфы. Творчая сталасць і ўнікальнасць Ф. Стравінскага як сусветна вядомага опернага спевака звязана з выступленнямі ў знакамітых оперных тэатрах Расіі і Заходняй Еўропы, дзе ён выконваў складаныя партыі ў операх М. Мусаргскага, Дж. Вердзі, Дж. Расіні, Ш. Гуно, М. Глінкі, П. Чайкоўскага, М. Даргамыжскага і інш. Артыкул, дзе падаецца поўнае апісанне творчай біяграфіі Ф. Стравінскага, змешчаны ў зборніку «Славутыя імёны Бацькаўшчыны», вып. 2., 1998.

Як прасачыў *І. Штэйнер,* у Мазыры 21.12.1921 нарадзіўся ***Вайнберг Іосіф***, рускі крытык і літаратуразнаўца, даследчык жыцця і творчасці М. Горкага, аўтар кнігі «*Старонкі вялікага жыцця: М. Горкі ў дакументах, пісьмах, успамінах сучаснікаў*» (М., 1980). Мазыр — месца нараджэння рускага празаіка ***Анатоля Левандоўскага*** (08.06.1920), аўтара кніг з серыі «*ЖЗЛ*» пра Максімільяна Рабесп'ера, Жанну д'Арк, Дантона.

У Мазыры нарадзіўся ***Міхаіл Радзевіч*** (14.10.1838—1918), рускі публіцыст, супрацоўнік часопіса братоў Дастаеўскіх «Время». Аўтар п'есы «*Новы Мітрафан*». Выхоўваў пасынка Ф. Дастаеўскага. Працуючы ў Віленскай дырэкцыі народных вучылішчаў, публікаваў матэрыялы пра беларускую народную школу ў газеце «Виленский вестник». Валодаў маёнткам Міцькі ў Мазырскім павеце.

З Мазыром і Мазыршчынай цесна звязаны таксама знакаміты шляхецкі род ***Кеневічаў*** (Кіневічаў), родавыя памесці якіх былі ў Мазыры і ў суседнім Петрыкаўскім раёне, у Дарашэвічах, на беразе маляўнічай Прыпяці, дзе, як напамін пра велічны маёнтак Кеневічаў, да нашых дзён захаваўся ўнікальны парк з мноствам экзатычных раслін, а ў *Мазыры* — дом, у якім цяпер знаходзіцца частка былой санаторна-лясной школы, у дарэвалюцыйныя часы — дваранскае вучылішча, з 1859 года — мужчынская гімназія, у якой вучыліся многія вядомыя за межамі Мазыра асобы. Да нашых дзён захавалася і вёсачка на мяжы Мазырскага і Петрыкаўскага раёнаў пад назвай *Гіневічаў (Кеневічаў) Груд*. *Кеневічы* валодалі 35 тысячамі дзесяцін палескай зямлі, велізарнымі лясnымі ўгоддзямі. Іх прадстаўнікі выступалі супраць царскага самадзяржаўя. Так, *Фелікс Кеневіч* быў адным з кіраўнікоў паўстання 1831 года, якое ставіла мэтай аднаўленне Рэчы Паспалітай у межах 1772 года. Сын Фелікса Кеневіча, *Іеранім Кеневіч* удзельнічаў у паўстанні 1863—1864 гадоў пад кіраў-

ніцтвам Кастуся Каліноўскага, быў яго саратнікам. *Іеранім Кеневіч* непасрэдна ажыццяўляў сувязь паўстанцаў з расійскай партыяй «*Народная воля*». Як прасачыў лёс *Фелікса Кеневіча* М. Капач, ён з невялікім атрадам паўстанцаў захапіў паштовыя станцыі на Валынскім тракце, у *Міхалках, Караліне* (Ельску), *Кузьмічах*, раззброіў невялікія армейскія падраздзяленні. Паўстанцы памкнуліся завалодаць і Мазыром, але пацярпелі паразу ў ваколіцах былой вёскі *Міхалкі*, а сам *Фелікс Кеневіч* збег за мяжу. Пасля амністыі Кеневічам, як і іншым паўстанцам, былі вернуты іх землі і маёнткі. Ужо ў наш час газета «Звязда» пісала наступнае: «…яшчэ ў пачатку мінулага стагоддзя ў вёсцы *Брынёў* (Петрыкаўскі раён. — **В. Ш.**) стаяў маёнтак паноў *Кеневічаў*, якія далі гаспадарцы другое жыццё — да месцаў торфаздабычы падвялі чыгуначную ветку, адкрылі цагельню, лесапільны завод і фанерную фабрыку, бровар. Працаваць на прадпрыемствах запрасілі спецыялістаў з усёй Еўропы». Апошні з *Кеневічаў* пасля 1917 года з'ехаў з сям'ёй на Захад, але і там не разгубіўся — быў рэктарам *Варшаўскага ўніверсітэта*, выдаў у Польшчы паводле летапісных звестак кнігі «*Над Прыпяццю*» і «*Дарашэвічы*». Вёску *Дарашэвічы*, між іншым, у кнізе назвалі ні больш ні менш як «*аазісам еўрапейскай культуры*». Адрадзіць яе ў гэтым званні — такая звышзадача, магчыма, будзе вырашана з рэканструкцыяй маёнтка Кеневічаў. Яго аднаўленне і стварэнне цэлага музейнага комплексу ў *Ляскавічах* — цэнтры нацыянальнага парка «Прыпяцкі» — разглядаецца на перспектыву.

***Івана Коласа*** — выпускніка Мазырскага педвучылішча, ураджэнца Мазырскага (цяпер Лельчыцкага раёна), першага з беларусаў Героя Расіі. У газеце «Звязда» ад 23 лютага 2012 года быў змешчаны грунтоўны нарыс «*Беларускі Шцірліц*», дзе падрабязна прасочана ваенная біяграфія І. Коласа. Прывядзём некаторыя фрагменты з гэтай выключна багатай на факты публікацыі, падрыхтаванай *Рыгорам Андрэяўцом*. У дваццаць гадоў ён (І. Колас. — **В. Ш.**) арганізаваў партызанскую брыгаду, рассакрэціў і нейтралізаваў філіял шпіёнскай школы абвера, дзе рыхтавалі агентаў для закідвання ў савецкі тыл і партызанскія зоны. У пачатку 1945 года ён рэзідэнт галоўнага разведупраўлення ў *Саксоніі,* там збіраў звесткі пра нямецкія вайсковыя фарміраванні, а таксама інфармацыю пра бензольны завод, які вырабляў для фронту бензін з мясцовага каменнага вугалю. У сакавіку 1945 года ён у Берліне выконваў спецзаданне Г. К. Жукава па захопе нямецкага генерала, праз якога быў дастаўлены ўльтыматум савецкага камандавання аб безагаворачнай капітуляцыі фашысцкай Германіі. Выдатнай старонкая біяграфіі *І. Коласа* стала яго дзейнасць у Варшаве, куды ён як прадстаўнік савецкага камандавання быў скінуты з самалёта з парашутам для выпрацоўкі і каардынацыі сумесных дзеянняў паўстанцаў, польскай Арміі Краёвай і Чырвонай Арміі па вызваленні ад фашыстаў сталіцы Польшчы. Пра яго вяртанне і здабытыя звесткі было даложана Маршалу Савецкага Саюза Канстанціну Ракасоўскаму, а потым і асабіста Вярхоўнаму Галоўнакамандуючаму І. В. Сталіну. Гэта пісьменнік А. Чакоўскі падрабязна апісаў у рамане «*Перамога*». Здабытыя І. Коласам звесткі па ваенна-палітычным становішчы ў польскай сталіцы мелі важнае значэнне для прыняцця стратэгічных рашэнняў камандаваннем І Беларускага фронту. У пасляваенны час пра гэтыя падзеі І. Колас падрабязна паведаміў у сваёй кнізе «*Варшава ў агні*». Славуты разведчык таксама рассакрэціў фашысцкую аперацыю «*Вінтэр*» па запланаваным знішчэнні беларускіх партызан на Палессі. Ён даведаўся і пра сакрэт *Хожаўскага танкадрома*, дзе гітлераўцы выпрабоўвалі новую гармату, якую хацелі выкарыстаць для паражэння савецкага танка «Т-34»... Пра гэта створаны двухсерыйны мастацкі фільм. Яго жыццё падобнае да захапляльнага серыяла. І нездарма ў пакоі-музеі ГРУ Расіі партрэт *Івана Андрэевіча Коласа* займае месца сярод партрэтаў *Р. Зорге, Р. Абеля, Я. Маневіча*. Пасля вайны *Іван Колас* стаў вядомым пісьменнікам, аўтарам шматлікіх кніг. Яго творчы шлях адзначаны прэміямі імя К. Сіманава, А. Фадзеева, В. Пікуля. Праз пяцьдзясят гадоў пасля заканчэння вайны ён удастоены звання *Героя Расіі*. Прэзідэнт Беларусі ўзнагародзіў яго ордэнам Францыска Скарыны. Так атрымалася, што пра гераізм І. Коласа доўгі час больш ведалі ў Англіі, ЗША, Польшчы, чым у СССР і на радзіме, у Лельчыцкім раёне. У школах замежных разведак да нашых дзён вывучаецца вопыт савецкага разведчыка «*Алега*». Сведчаннем такой вядомасці з'яўляецца тэлеграма на імя І. Коласа

праз пяцьдзясят гадоў пасля вайны, у якой тагачасны Дзяржаўны сакратар ЗША піша: «Расія. Коласу. Найцудоўнейшага з мужчын, майго Героя — віншую і цалую. Твая Кандаліза Райс» («Звязда», 23 лютага 2012).

У кнізе «*Памяць. Мазыр. Мазырскі раён*» ёсць лаканічная інфармацыя пад назвай «*Дастойны звання Героя…*», у якой паведамляецца: *Град Сяргей Іванавіч* з першых дзён вайны на фронце — намеснік палітрука, быў камісарам, камандзірам батальёна. Удзельнік бітвы на Арлоўска-Курскай дузе, быў паранены. Узнагароджаны двума ордэнамі Аляксандра Неўскага. Лічыўся без вестак прапаўшым. У выніку пошукаў следапытаў стала вядома, што капітан *С. І. Град* загінуў 25 ліпеня 1944 года каля вёскі *Ямніца Івана-Франкоўскай вобласці*. Пры стварэнні кнігі «Памяць. Мазыр» намі былі дакладна вывучаны архіўныя дакументы, якія раскрылі невядомыя да нашых дзён старонкі гераічнай біяграфіі мужнага мазыраніна. У Мазыр прыязджала сястра капітана С. І. Града, якая паведаміла, што пасля ранення ён на некалькі дзён прыязджаў у вызвалены Мазыр, а потым вярнуўся ў свой батальён і праз некалькі месяцаў загінуў без вестак, пра што мы доўга не ведалі.

Вось вытрымкі з яго граднога ліста, атрыманыя ў архіве горада Падольска: «Капитан Град Сергей Иванович — командир 3-го стрелкового батальона 256-го полка 30-й стрелковой дивизии 1-й гвардейской армии 1-го Украинского фронта, 1915 г. рождения, г. Мозырь.

Представляется к званию Героя Советского Союза.

Южный фронт — март-июль 1942 г.

Северо-Кавказский фронт — июль 1943 г. — по настоящее время.

В армии с 1939 г.

Капитан Град Сергей Иванович с первых дней формирования полка показал высокие организаторские способности. Принимал участие в боевых действиях в составе полка. Личный состав роты показал образцы стойкости, выносливости и мужества, смело вступал с противником в рукопашные схватки.

Град С.И. бесстрашный боевой командир, всегда находился в боевых порядках. Командуя ротой ПТР, капитан Град неоднократно выполнял ответственные задания по организации управления, когда нарушалась связь.

При форсировании р. Псел был ранен, возвратившись из госпиталя, назначен на должность командира стрелкового батальона...

Тов. Град С.И. принял ответственный участок обороны — высоту 223,8, ее северо-западную часть, что севернее с. Студенец Каневского района.

Он сумел быстро и правильно организовать прочный узел обороны, которым противник в течение нескольких суток пытался овладеть. 17.10.1943 г. противник в составе двух стрелковых рот, поддерживаемый 8 тяжелыми танками типа “Тигр”, предпринимал яростные атаки на высоту. Благодаря стойкой и прочной обороне, умелой и правильной расстановке огневых средств, личному управлению боем, атаки противника отбиты с большими потерями. Было подбито и сожжено 3 танка.

За проявленный героизм, стойкость, отвагу, правильную организацию управления боем т. Град Сергей Иванович достоин высшей правительственной награды — присвоения звания Герой Советского Союза.

20.10.43 г. Командир полка подполковник Евтушенко:

“*Достоин звания Героя Советского Союза”*

27.10.43 г. Командир 30-й стрелковой дивизии полковник Янковский:

*“Достоин звания Героя Советского Союза”*

30.11.43 г. Командир 23-го стрелкового корпуса генерал-майор Чуваков:

*“Наградить орденом Александра Невского”*.

30.6.44 г.

Командующий 47-й Армии».

Пасля фарсіравання Дняпра 6 лістапада 1943 года і авалодання Чырвонай Армія сталіцай Украіны дывізія, у якой ваяваў капітан С. І. Град, атрымала ганаровую назву «Кіеўская». Праз некаторы час вяла баі за Жытомір і стала Кіеўска-Жытомірскай. За два дні баёў за гэты горад воіны батальёна капітана С. І. Града адбілі дзевяць танкавых атак, падбілі 12 танкаў і 3 бронемашыны, знішчылі дзве роты нямецкай пяхоты. Потым былі баі ў *Карпатах*, фарсіраванне ракі *Днестр*, выхад дывізіі да горада *Станіслава* (цяпер Івана-Франкоўска). Гітлераўцы атакавалі нашыя войскі. Батальён *С. І. Града* апынуўся на вастрыні іх контратак і вымушаны быў адступіць. Баі ішлі ноччу. Байцы не заўважылі, як загінуў іх камандзір. Да 1990 года капітан *С. І. Град* лічыўся прапаўшым без

вестак. Толькі дзякуючы намаганням чырвоных следапытаў *Івана-Франкоўска* і старшыні савета народнага музея баявой славы СШ № 14 Івана-Франкоўска *С. Грыгор'ева* ўдалося ўстанавіць час гібелі *С. І. Града* — 25 ліпеня 1944 года. Ён пахаваны ў брацкай магіле каля вёскі *Ямніца* Івана-Франкоўскага раёна. Можна сцвярджаць, што *Указ* аб прысваенні звання *Героя Савецкага Саюза* капітану *С. І. Граду* быў не зацверджаны Прэзідыумам Вярхоўнага Савета СССР толькі таму, што лёс *С. І. Града* быў у 1944 годзе невядомы. У той перыяд такія дакументы не зацвярджалі па некалькіх прычынах, калі, напрыклад, прадстаўленая да ўзнагароды асоба трапляла ў палон, або, яшчэ горш, прымусова ці па сваёй волі пераходзіла ў стан ворага, трапляла, напрыклад, у рады РОА (Рускай вызваленчай арміі, якой кіраваў генерал Уласаў). Сярод такіх людзей, як сведчаць публікацыі, сустракалася нават некалькі генералаў. Так, сумна вядомы генерал-лейтэнант Уласаў, узнагароджаны ў 1941 годзе ордэнам Леніна, быў у ліку самых праслаўленых абаронцаў Масквы, пра што пісалі цэнтральныя газеты і часопісы ў той час.

Уславілі Мазыр, як пісаў М. Капач, 10 генералаў і адміралаў, вучоны-генетык *П. Ракіцкі*, акадэмік *Міхаіл Мацапура*, а таксама больш за 10 пісьменнікаў і кампазітараў, сярод якіх кампазітар і галоўны дырыжор дзяржаўнага сімфанічнага канцэртнага аркестра Беларусі *Міхаіл Фінберг*, аўтар знакамітых «Рушнікоў», кампазітар *Міхаіл Пятрэнка*. Тут нарадзіліся пісьменнікі *Мікола Капыловіч, Анатоль Бароўскі, Андрэй Федарэнка, Васіль Андрыеўскі*.

Сотні карцін культавага мастака *Аляксандра Ісачова* (1955—1987) упрыгожваюць модныя салоны, карцінныя галерэі і прыватныя калекцыі ў Галандыі, ЗША, Францыі, Швецыі, Германіі. Родам з Калінкавіцкага раёна, ён да пятага класа выхоўваўся ў Мазырскай школе-інтэрнаце. Распісаў адну з мазырскіх цэркваў.

Імёны даследчыкаў Мазыршчыны *А. Сержпутоўскага, Ч. Пяткевіча, К. Машынькскага, М. Доўнар-Запольскага, М. Талстога* вядомы ва ўсім славянскім свеце, а іх працы — запісы фальклору, манаграфіі, артыкулы з'яўляюцца класічнымі ўзорамі для вывучэння духоўнай і матэрыяльнай культуры ўсіх славян.

Мазыршчына як унікальны рэгіён, які знаходзіцца на стыку трох усходнеславянскіх народаў — беларусаў, рускіх і ўкраінцаў, акумулявала ў сабе рысы не толькі ўсходніх славян, але і элементы духоўнай і матэрыяльнай спадчыны іншых этнасаў — польскага, яўрэйскага, нямецкага, татарскага, а таму ўвага даследчыкаў самых розных профіляў да Мазыршчыны вельмі высокая. Рэгіён некалькі апошніх дзесяцігоддзяў знаходзіцца ў цэнтры ўвагі не толькі фальклардыстаў, гісторыкаў, лінгвістаў, археолагаў, але і даследчыкаў прыкладных навук — геолагаў, меліяратараў, эколагаў.

Імёнамі некаторых мазыран, якія, на жаль, мала вядомыя ў Мазыры, названы вуліцы ў суседніх або далёкіх ад Беларусі краінах. У ліку такіх, напрыклад, *Леасевіч Раман Іосіфавіч*, які пасля заканчэння тэхнікума працаваў у Мазыры. З пачатку Вялікай Айчыннай вайны ўдзельнічаў у баях з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, быў паранены і трапіў у палон. Уцёк з канцэнтрацыйнага лагера, вярнуўся ў родную вёску. Са студзеня 1944 года зноў на фронце. У пачатку ліпеня 1944 года з катараў Дняпроўскай ваеннай флатыліі каля вёскі *Кудрычы* Пінскага раёна быў высаджаны разведдэсант, які ўступіў у няроўны бой з ворагам. Разведчыкі Р. Леасевіч, М. Катко, А. Кахановіч, Г. Стаўцоў змагаліся да апошняга патрона. Імем Р.І. Леасевіча названа вуліца ў вёсцы Астравічы Пінскага раёна, дзе пахаваны герой. Імем Э. Пякарскага, згаданага ўжо акадэміка дарэвалюцыйнай расійскай імперыі, заснавальніка якуцкага пісьменства, у Якуціі (цяпер *Рэспубліка Саха*) названы вуліцы, горны хрыбет, заснаваны стыпендыі яго імя.

Не менш важнае патрабаванне да назваў вуліц — іх моўны лаканізм, натуральнасць і зручнасць у вымаўленні людзьмі розных інтэлектаў і ўзростаў. Не адпавядаюць такім крытэрыям наступныя ўрбанонімы: *Стракаціцкі бульвар* (пачуўшы гэта незвычайнае словазлучэнне ў моўным патоку, якое некаторымі людзьмі скажаецца, асобныя здзіўлена пераглядваюцца; назва бульвару дадзена ў савецкія часы ў гонар чэшскага горада *Страконіцэ* — пабраціма Мазыра); вуліца *Інтэрнацыянальная* (не ва ўсіх хапае ўмення вымавіць доўгае запазычанае слова з 18 гукаў без скажэння); уносяць блытаніну аднастайныя найменні тыпу: вуліца *Партовая, Першы Партовы завулак*, *Другі Партовы завулак, Трэці Партовы завулак*. Такіх моўных парадоксаў многа ў розных паселішчах Беларусі. Так, у Віцебску ёсць

некалькі *Лучоскіх, Гарадоцкіх* і *Полацкіх* вуліц («Звязда», 12.02.2014, с 6).

Не прыжыліся, хоць і прайшлі дзесяцігоддзі, безаблічныя, з вылушчанай рэгіянальнай спецыфікай афіцыйныя назвы сучасных мазырскіх мікрараёнаў — *Усходні, Маладзёжны, Зарэчны, Студэнцкі* (такія назвы паўтараюцца ў кожным другім не толькі беларускім горадзе, што часам прыводзіць да кур'ёзаў, адзін з якіх арыгінальна быў абыграны ў кінакамедыі Э. Разанава «*З лёгкай парай»).* Многія гараджане і госці горада выкарыстоўваюць традыцыйныя назвы для асобных частак Мазыра: *паехаў у Бабры, быў на Салаўёўцы*, *хадзіў на Кімбараўку*, *ездзіў на Пхоў*, *купіў каля Рымашовага рова*, *спяшаўся на Калінік*. Пра гэта ж пісаў і Віталь Вольскі ў грунтоўнай кнізе нарысаў «Палессе», дзе значнае месца адведзена апісанню Мазыра: «*Тут усе гавораць — "жыву на Пхове*", "*працую на Пхове*", "*паехалі на Пхоў*". *Можа, гэта таму, што Пхоў уяўляецца кожнаму мазыраніну як востраў пасярод разліву Прыпяці*» [5, с. 144]. Цяпер гэту частку горада афіцыйна называюць мікраараён *Зарэчны.* Чамусьці зніклі ў 1930—1950-я назвы вуліц, якія ўказвалі на цесныя нацыянальныя і эканамічныя сувязі Мазыршчыны з украінскімі, расійскімі і суседнімі беларускімі рэгіёнамі. Няма ў сучасным Мазыры былых назваў вуліц *Кіеўская, Слуцкая, Оўруцкая, Жытомірская,* што было натуральна для мясцовай урбананіміі. Зразумела гучалі некалі на агульным фоне ўрбанонімаў і такія зніклыя цяпер назвы як *Пецярбургска-Кіеўскі (Ленінградска-Кіеўскі) гасцінец, Кацярынінскі шлях*, *Валынскі шлях*, *Кіеўская набярэжная*, *Капітанская горка, плошча Свабоды*, некаторыя з іх існавалі ў Мазыры да канца 1930-х. Вярнуцца да такіх натуральных назваў заклікаюць вядомыя вучоныя, краязнаўцы, мясцовыя жыхары, якія гэтыя назвы, дарэчы, ужываюць і цяпер. Так, В. Вольскі, яшчэ ў 1960-я адзначаў, што ў Мазыры захоўваюць старыя назвы, якія прыжыліся сярод мазыран і натуральна выконваюць адрасную, асноўную іх функцыю: «*Камсамольская вуліца, былая Замкавая, прывяла на вяршыню гары, дзе знаходзіўся калісьці замак. З цікавасцю гляджу я на гэтыя рамантычныя мясціны. Мазыр — горад старажытны, і нямала тут адбылося розных падзей у даўно мінулыя часы*» [5, с. 136].

А былі ж і ёсць неафіцыйныя назвы вуліц, равоў, узвышшаў, якія зразумела і натуральна выконваюць у горадзе адрасную функцыю, — перадаюць асаблівасці мясцовага ландшафту, гістарычныя падзеі і маглі б натуральна ўпісвацца ў сістэму традыцыйнай урбананіміі. На нашу думку, гэта не толькі імёны сусветна вядомых мазыран, а неафіцыйныя назвы самых розных унутрыгарадскіх аб'ектаў і тэрыторый: *Сядзельніцкі роў, Салаўёўка, Рымашоў роў, Кіслякоў або Пятніцкі роў, Рыгораў роў, Курганскі роў, Дзямешкаў роў, Глыбокі роў, Мікалайчыкаў роў, Кальварыя, Кацярынінскі шлях, Ясная гара, Жучка, Капітанская горка, Сярэдняя гара, Буслава гара, Бярозавы гай, Баравіцкае возера, Востраў, Уюнцова возера, Кіеўскі гасцінец, Гусінае возера, Каменныя валы, Каршакова гара, Ксяндзоўка, Лебядзінае возера, Мазыраўшчына, Пляц Свабоды, Маложаўская крыніца, Мярлявіца, Млінава гара, Алесевы дубы, Патэльня, Празораўшчына, Прыпяцкі завулак, Святое (возера), Снежаўка (вуліца), Стрэлка (ручай), Хведарава даліна, Хранкава даліна* і інш., якія засведчаны ў слоўніку Г. Івановай «Микротопонимия Мозырского Полесья», а таксама ў працах У. Лякіна «Мозырь в 1812 г.», А. Бобра «Мой Мозырь» і інш. Значная частка такіх урбанонімаў архаізавалася і вядомая толькі некаторым старажылам і краязнаўцам. Дакладная ідэнтыфікацыя, размяшчэнне ў межах сучаснага Мазыра некаторых забытых тапааб'ектаў з'яўляецца спрэчным. Напрыклад, у розных даследчыкаў можна атрымаць супярэчлівую інфармацыю пра *Ясную гару*: адны сцвярджаюць, што гэты аронім знаходзіцца побач з *Прымастовой плошчай*, а дакладней, на ўзвышшы, дзе размешчаны будынкі Мазырскага педагагічнага ўніверсітэта імя І.П. Шамякіна, другія лічаць, што *Ясная гара* — гэта ўзвышша ў заходняй частцы Мазыра над Прыпяццю, у раёне мэблевай фабрыкі. Пра зніклыя ўрбанонімы Мазыра — вуліцу *Слуцкую, Кіслякоўскі роў*, праваслаўную царкву святой Праскавеі падрабязна пісаў У. Лякін: «*Ад праезджай часткі сучаснай Савецкай, што насупраць помніка Леніну ў паўночна-ўсходнім накірунку, у пачатку XIX ст. працягвалася вуліца Слуцкая. Яна была вузейшая за сучасную Савецкую, цягнулася паралельна ёй метраў на 10 і заканчвалася каля драўлянага мосціка праз ручай, што працякаў па дне Пятніцкага яра (другая яго назва Кіслякоўскі роў). У наш час на гэтым месцы Прымаставая*

*плошча. Па другі бок мастка пачыналася вуліца Пятніцкая, якая атрымала назву ад пабудаванай там праваслаўнай прыхадской царквы святой Праскавеі*» [10, с. 17].

Для абазначэння значных гарадскіх частак, як сведчыць вопыт іншых гарадоў і краін, трэба карыстацца не прыдуманымі ў чыноўніцкіх кабінетах назвамі, як гэта часта рабілася раней, а выкарыстоўваюць найменні, даўно створаныя народам і апрабаваныя моўнай практыкай. Гэта могуць быць шматлікія мікратапонімы, назвы зніклых суседніх паселішчаў, урочышчаў, якія «праглынуў» горад, дзе цяпер раскінуліся гарадскія мікрараёны. Параўнайце, як прыгожа і натуральна па-беларуску гучаць у Мінску назвы жылых кварталаў: *Зялёны Луг, Серабранка, Старажоўка, Кальварыя, Чыжоўка, Шабаны, Курасоўшчына, Доўгі Брод*. Мноства такіх назваў у Маскве — *Чаромушкі, Барадзіно, Мнеўнікі, Астанкіна*. Заклікі, прапановы і нават патрабаванні вяртання да традыцыйнай нацыянальнай анамастыкі гучаць у самых розных сродках масавай інфармацыі, у навуковых часопісах. Адчулі і адрэагавалі на такія прапановы ў некаторых гарадах Беларусі. Так, газета «Звязда» ад 4 ліпеня 2007 года паведаміла, што дэпутаты Мінскага гарадскога Савета зацвердзілі новыя назвы жылых мікрараёнаў і вуліц сталіцы. Улічаны былі ў пераважнай большасці тыя патрабаванні, пра якія гаварылася вышэй: новы мікрараён атрымаў назву *Брылевічы*, бо так называўся фальварак, які размяшчаўся ў гэтай мясцовасці ў XVI стагоддзі. А жылы мікрараён *Масюкоўшчына-3* будзе называцца *Дамброўка-3*. Дэпутаты падтрымалі ідэю аб ушанаванні ў назвах вуліц, якія праектуюцца, імёнаў знакамітых пісьменнікаў, вучоных, кампазітараў, грамадскіх дзеячаў, чый творчы лёс звязаны з Беларуссю і Мінскам. У сталіцы з'явіліся вуліцы ў гонар паэта і фальклярыста *Яна Чачота*, кампазітара і мастака *Напалеона Орды*, культурнага дзеяча *Ежы Гедройца,* заснавальніка беларускага нацыянальнага тэатра *Уладзіслава Галубка*, кампазітара і педагога, прафесара *Іосіфа Жыновіча*, першага прэзідэнта Акадэміі навук БССР *Усевалада Ігнатоўскага*, паэта *Алеся Гаруна,* вучонага-лінгвіста і пісьменніка Фёдара Янкоўскага.

Пачаўся гэты працэс і ў Мазыры. Гарадскі выканаўчы камітэт у чэрвені 2007 года прыняў рашэнне прысвоіць імёны праектуемым вуліцам у мікрараёне *Дразды* ў гонар:

***Кірылы Тураўскага*** — вядомага на ўвесь славянскі свет хрысціянскага прапаведніка і асветніка XII стагоддзя. Яго надзвычай высока цанілі ў Кіеўскай Русі — некалі магутнай дзяржаве — за выключную начытанасць, незвычайны прамоўніцкі і паэтычны талент, строгі, аскетычны лад жыцця. Вяршынь духоўнага майстэрства Кірыла Тураўскі дасягнуў у сваім родным горадзе, дзе атрымаў высокую на той час адукацыю, вывучаючы лепшыя ўзоры візантыйскай духоўнай і свецкай культуры. Бясспрэчна ягонымі лічацца 8 «*Слоў*» або павучэнняў, 3 прытчы («*Прытча пра душу і цела*», «*Аповесць пра бяспечнага цара і яго мудрага саветніка*», «*Казанне пра чарнарызкі чын*»), каля 30 малітваў і некалькі канонаў. Як сведчаць гісторыкі, Кірыла Тураўскі не меў сабе роўных сярод прамоўцаў-сучаснікаў. Яго «*Словы*» былі састаўной часткай найбольш папулярных на ўсім праваслаўна-хрысціянскім свеце зборнікаў пропаведзей. За гэта яго называлі «*другим Златоустом*», «*воссияющим паче всех*», у чым адлюстравалася высокая ацэнка ўсёй літаратуры Кіеўскай Русі. Мітрапаліт Філарэт адзначаў ролю Кірылы Тураўскага для нашчадкаў: «Свяціцель Кірыла Тураўскі вылучаецца сярод іншых услаўленых святых шматграннасцю сваёй асобы і багаццем здольнасцей. Ён — настаўнік набожнасці і арганізатар адукацыі. Ён — выдатны прапаведнік і аўтар багаслоўскіх твораў. Ён — выдатны паэт і строгі аскет. Свяціцеля Кірылу завуць *Златавустам*, работы і подзвігі яго адыгралі выключную ролю ў станаўленні адукацыі і асветы на нашых землях. Сваім жыццём святы Кірыла Тураўскі паказаў, што душы, якія здабылі адзінства з Хрыстом і Яго Царквой, могуць гарманічна спалучаць веру і розум, глыбокую рэлігійнасць і рознабаковую адукаванасць». Адзначым самае істотнае: Кірыла Тураўскі быў кананізаваны рускай праваслаўнай царквой і ўзведзены ў Сабор беларускіх святых. Майстэрства твораў яго настолькі высокае, што, па сутнасці, ён з'яўляецца першым пісьменнікам еўрапейскага ўзроўню, які жыў на тэрыторыі сучаснай Беларусі. І менавіта *Златавуст з Турава* больш верагодны аўтар знакамітага «*Слова пра паход Ігаравы*». Асобныя раздзелы манаграфіі А. Мельнікава, маладога дасслед-

чыка, — гэта зусім новае слова пра нашага знакамітага земляка. Назавём некаторыя самыя арыгінальныя: «*Тураўскае княства і Тураўская епархія да пачатку XII стагоддзя», «Стоўпніцтва», «Епіскапства», «Апошнія гады жыцця і скон Кірылы Тураўскага*» (Полымя. — 1998. — № 8 — С. 316);

***Міхаіла Уладзіміравіча Барысава***, які нарадзіўся ў вёсцы Нараўшчызна Мазырскага раёна, Героя Савецкага Саюза, лётчыка марской авіяцыі, які знішчыў тарпеднай атакай самы вялікі карабель фашысцкай Германіі;

***Івана Мележа*** — народнага пісьменніка Беларусі, чыя «малая» радзіма — вёска Глінішчы недалёка ад Мазыра;

***Георгія Жукава*** — чатыры разы Героя Савецкага Саюза, Маршала Савецкага Саюза, вялікага палкаводца, які ўнёс значны ўклад у перамогу над фашысцкай Германіяй. Біяграфія гэтай легендарнай асобы мае прамыя адносіны да Мазыра. У 1922 годзе ён камандаваў эскадронам у 37-м кавалерыйскім палку 7-й Самарскай кавалерыйскай дывізіі, асобныя палкі якой дыслацыраваліся каля Калінкавічаў, што побач з Мазыром. Потым будучы праслаўлены палкаводзец камандаваў вайсковымі злучэннямі ў Слуцку і Мінску. На завяршальным этапе Вялікай Айчыннай вайны маршал узначальваў войскі І Беларускага фронту, дывізіі якога штурмам авалодалі Берлінам і ўзнялі сцяг Перамогі над Рэйхстагам.

***Канстанціна Канстанцінавіча Ракасоўскага***, камандуючага войскамі І Беларускага фронту, воіны якога 14.01.1944 вызвалілі Мазыр. Вось што пісала пра яго мазыранка А.У. Кошаль: «*Ноччу 13.01.1944 г. войскі беларускага фронту вызвалілі вёску Міхалкі Мазырскага раёна. Праз некалькі дзён у нашым доме пасяліўся генерал К.К. Ракасоўскі… Ён быў вельмі ўважлівы і спагадлівы да гаспадароў. Кожны ранак ён пакідаў Міхалкі, выязджаючы ў розныя прыфрантавыя рэгіёны і паселішчы Мазыршчыны, і вяртаўся позна вечарам на кароткі адпачынак… Наша маці і мы, сёстры, ганарыліся тым, што ў нас цэлы тыдзень жыў такі чалавек — будучы Маршал Перамогі, двойчы Герой Савецкага Саюза Канстанцін Канстанцінавіч Ракасоўкі»* («Жыццё Палесся», 07.04.2015 г.);

***Канстанціна Фёдаравіча Захарава*** — Героя Савецкага Саюза, камандзіра авіяэскадрыллі, які ў раёне Мазыра ў 1944 годзе, ахвяруючы сабою, паўтарыў подзвіг М. Гастэлы;

***Казіміра Францавіча Вікенцьева*** — ураджэнца і ганаровага грамадзяніна Мазыра, палкоўніка Савецкай Арміі і Войска Польскага, узнагароджанага ордэнам Леніна і чатырма ордэнамі Чырвонага Сцяга, двума ордэнамі Айчыннай вайны, ордэнам Аляксандра Неўскага і двума польскімі ордэнамі;

***Івана Мікалаевіча Смоляра*** — былога таленавітага сакратара Мазырскага гаркама КПБ і Гомельскага абкама КПБ, дэпутата і старшыні камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па праблемах ліквідацыі вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС;

***Рыгора Пятровіча Коблава*** — генерал-маёра, камандзіра 14-й гвардзейскай кавалерыйскай дывізіі, ганаровага грамадзяніна Мазыра; яго салдаты першымі з захаду ўварваліся ў акупаваны фашыстамі Мазыр, а да гэтага, прарваўшы фронт на стыку дзвюх нямецкіх армій і вызваліўшы каля сотні населеных пунктаў, разграмілі штаб тылу 3-й нямецкай арміі ў *Прудку*, што побач з Мазыром, захапілі велізарныя трафеі: 13 армейскіх складаў, 2 500 палонных фашыстаў, 500 грузавых аўтамабіляў, больш за 2 000 коней. На складах у *Прудку* захоўваліся трохмесячныя запасы снарадаў, узбраення, харчавання для 100-тысячнай нямецкай групоўкі. Паэт Л. Ашанін і кампазітар А. Новікаў, якія наведалі вызваленыя паселішчы Палесся, гэтаму рэйду кавалерыстаў Р. Коблава прысвяцілі песню, якая была папулярнай не толькі ў Мазыры ў першыя пасляваенныя гады.

Рака *Прыпяць* як буйнейшая водная артэрыя *Палесся,* на берагах якой узнік Мазыр, яго незвычайны ландшафт далі пачатак некаторым унутрыгарадскім і прыгарадным аб’ектам, як старажытным, так і сучасным. Напрыклад, *Мярлявіца* — старарэчышча, *Пхоў* — мікрараён *Зарэчны* і інш. У час паводак (сакавік-май) рака *Прыпяць* у межах горада разліваецца ў шырыню да 5, а ў некаторых мясцінах аж да 10 км — да Калінкавічаў. *Прыпяць* з-за рыбных запасаў называлі «залатой». У падобнае цяжка паверыць. У свой час вядомы беларускі шляхціц *Міхалон Літвін* у дыдактычным трактаце «*Аб норавах татараў*, *ліцвінаў* і *масквіцян*» (1550 год) пісаў: «*У рэках тут (на Мазыршчыне.* — **В. Ш.**)

*мноства асятроў і іншых вялікіх рыб, якія ўзнімаюцца ўверх па рэках, у прэсную ваду. Па гэтай прычыне многія рэкі называюцца залатымі, асабліва Прыпяць, якая ў адным месцы, паблізу Мазыра, пры ўпадзенні ракі Тур, калі ў пачатку сакавіка штогод набіраецца з крыніц свежая вада, напаўняецца такой колькасцю рыбы, што кінутае ў яе кап'ё затрымліваецца і стаіць старчаком, нібы ўторкнутае ў зямлю — так густа збіраецца там рыба. Я не паверыў бы гэтаму, калі б сам часта не бачыў, як адтуль чэрпалі рыбу і за адзін дзень напаўнялі ёю тысячы вазоў, што належалі купцам, якія штогод прыязджаюць на гэты час*». *П. Шпілеўскі* ў запісках пра Мазыршчыну ўпамінае мясцовага краяведа *Г. Франкоўскага*, які яму прачытаў паэму «*Прыпеіда*», прысвечаную магутнай *Прыпяці*, дзе ўпершыню даецца яе мастацкае апісанне. Паэму напісаў, як мяркуецца, таленавіты мясцовы аўтар *І. Неслухоўскі*. На яе 50 старонках паведамляецца пра гераічныя ўчынкі *Сайкера* — татарскага воіна, які пакінуў свой лагер і перайшоў на бок мазырскага апалчэння. У тэксце многа экзатычных малюнкаў Прыпяці, мясцовых краявідаў, асабліва каля хутара *Іпагора*, бой казакоў на вяршынях мазырскіх гор і каханне *Сайкера* ды адной прыгожай мазыранкі. Паэма напоўнена апісаннем нораваў мазыран, іх гасціннасці, а таксама рознымі паданнямі і павер'ямі. На жаль, тэкст гэтай паэмы згублены, і мы не маем магчымасці ўзнавіць яго ў натуральным варыянце.

Калі вада спадае ў пойме Прыпяці, на яе левым беразе застаецца мноства азярын самай рознай формы і велічыні, выцягнутых пераважна ў кірунку цячэння ракі і некалькіх яе рукавоў. Адметнасць Мазыру, яго сучасным мікрараёнам надаюць таксама тэрасы.

У верасні 2011 года недалёка ад вёскі *Дразды*, што ў адным кіламетры ад *Мазыра,* быў выяўлены *камень-валун* вагою болей за 90 тон. Ён быў прынесены на Мазыршчыну апошнім ледавіком 12—15 тысяч гадоў таму. Каб яго вылушчыць з зямлі, спатрэбіўся спецыяльны кран магутнасцю 500 тон. *Мазырскі камень* атрымаў прызнанне спецыялістаў як самы буйны і цяжкі ў Рэспубліцы Беларусь. Архітэктары дамовіліся, як найбольш правільна ўладкаваць гэты ўнікальны помнік прыроды: перавезці ў новы мікрараён № 4, размясціць памятныя дошкі з найбольш важнымі вызначальнымі датамі з гісторыі *Мазыра* і *Мазыршчыны.*

Прыпяць была аб'ектам апісання розных даследчыкаў і пісьменнікаў. У новай беларускай літаратуры класічнае апісанне Прыпяці, яе берагоў можна выявіць у творах Я. Коласа, напрыклад, у аповесці «Дрыгва», у тэкстах В. Вольскага, У Верамейчыка, У. Дубоўкі, І. Мележа, І. Навуменкі, А. Бароўскага, А. Федарэнкі. Так, навуковыя даведнікі кваліфікуюць яе як найбуйнейшы па велічыні і воднасці прыток Дняпра, даўжынёю ў 761 км (на тэрыторыі беларускага Палесся яе працягласць больш за 500 км), цячэ з захаду на ўсход па тэрыторыях Украіны і Беларусі, плошча водазабору — 121 тыс. км$^2$ .

Прыпяць злучана праз р. *Піну* — *Дняпроўска-Бугскі канал* — *Мухавец* з р. *Заходні Буг* (Брэсцкая вобласць), праз *Ясельду* — *Агінскі канал* — возера *Выганашчанскае* — р. *Шчара* з *Нёманам* (не дзейнічае). У сувязі з распрацоўкай граніту *Мікашэвіцкага* радовішча (Брэсцкая вобласць), праведзены канал да Прыпяці. Галоўны рачны шлях па Прыпяці (*Мазыр* — *Петрыкаў* — *Тураў* — *Пінск* (р. Піна) — *Брэст* — на захад і *Мазыр* — *Нароўля* — *Чарнобыль* — на ўсход і на поўдзень Украіны па Дняпры) меў вялікае значэнне для асваення Беларускага Палесся. Рака выкарыстоўваецца для перавозкі грузаў і пасажыраў, з'ўлялася да пабудовы чыгунак найлепшым шляхам у вяснова-асенні перыяд. Рачны порт «Мазыр» — адзін з буйнейшых у Беларусі.

З пабудовай чыгункі *Санкт-Пецярбург* — *Адэса* (1915 год) Мазыр займеў яшчэ больш выгаднае геаграфічнае становішча. У мінулыя часы гэтай новай магістралі адпавядаў *Валынскі (Царградскі) шлях*, пабудаваны па загадзе імператрыцы *Кацярыны І,* палепшаная паштовая ваенна-транспартная дарога з Санкт-Пецярбурга ў Кіеў і Адэсу, якая была пракладзена праз шматлікія забалочаныя мясціны Палесся, абсаджаная бярозамі, з мноствам мастоў і грэбляў. У народзе яе часцей называлі *Кацярынінскім шляхам*. Гэтай дарогай-гасцінцам, як пісалі М. Капач і М. Герасімаў, у 1828 годзе праз Мазыр на поўдзень праязджаў з сям'ёй і шматлікай світай расійскі імператар *Мікалай І*. Для павятовага правінцыйнага Мазыра гэта была значная падзея.

У 10 км ад Мазыра буйны чыгуначны вузел Палесся — *Калінкавічы* — мае накірункі чыгункі на *Гомель, Брэст, Мінск,*

праз *Жлобін,* і на *Украіну.* Вялікае значэнне для геаграфічнага становішча Мазыршчыны маюць і аўтадарогі, якія пралягаюць на тэрыторыі раёна ў накірунках *Бабруйск — Мінск, Калінкавічы — Гомель, Мазыр — Лельчыцы — Глушкавічы, Мазыр — Нароўля — Украіна, Мазыр — Хойнікі — Брагін — Камарын* і інш. Праз тэрыторыю раёна праходзіць нафтаправод «*Дружба*», які разгаліноўваецца на захад (Польша) і на тэрыторыю Украіны. Гэта спрыяла будаўніцтву Мазырскага НПЗ.

Назва *Прыпяць* раней пашыралася не на ўсю раку. У розных яе частках, ад вытокаў да вусця, як вывучана, яна іменавалася па рознаму: *Прыпяццю* — толькі ў сярэдняй яе частцы — ад Пцічы да ўпадзення ў яе *Ясельды,* а ў вярхоўях іншыя назвы — *Пірок, Стаход, Струмень*. Яшчэ ў канцы 70-х гадоў XIX стагоддзя, як сведчаць матэрыялы «*Геаграфічнага слоўніка Каралеўства Польскага*», на Мазыршчыне былі раскінуты 101 рачулка і больш за 30 азёр. Прывядзём некаторыя з назваў рэк басейна Прыпяці: *Бобрык, Балотная, Беражніца, Бычок, Белка, Батыўля, Балотніца, Чорная, Чэрцень, Чарцежын, Яма, Глухая Лань, Галаваха, Гарынь, Іпа, Ясянец, Каросцінка, Лохніца, Морач, Лань, Лова, Лоша, Мышанка, Мостboard, Мутвіца, Ненач, Нараўлянка, Нерастная, Альшаніца, Арэса, Пціч, Пажога, Прудок, Плотніца, Ручэй, Русла, Рэчыца, Роў, Радуніца, Смерць, Старуха, Случ, Сцвіга, Славечна* (выключна рыбная), *Славяшынка, Скрыпніца, Свінавод, Сунічка, Салакуча, Свідоўка, Такавішча, Трэмля, Тура Ітвяха, Убарць, Убарць-малая, Усечна, Вольга, Валора, Ветліца, Вінніца, Удава, Воспін, Замардвінка, Жмурня, Жабінка, Жэрнола, Жалонь* і інш. Азёры: *Белае, Дворышча, Глушавіцкае, Гусінае, Глінніцкае, Глушыца, Глухіца, Гарчынь, Князь або Жыд, Каструб'я, Лешына, Мутнае, Арэхава, Плешаніца, Плёса, Пупаў, Прыбалаўскае, Рудня або Славяшнічна, Рэхаў, Рэчышча, Скалодзін, Струк, Торкла, Уркі, Вежыцкае, Вялікае, Вільжа, Засоліна* і інш. Н. Багамольнікава ў басейне ракі *Прыпяць* выявіла і зрабіла спробу апісаць на лексіка-семантычным і структурна-граматычным узроўнях звыш 5 000 гідрааб'ектаў. Гэта не толькі назвы рэк, азёр, але і ўласныя назвы балот (гелонімы), мікрагідронімы — уласныя назвы невялікіх водных аб'ектаў (копанак, сажалак, канаў, каналаў, крыніц, ручаёў, калодзежаў і інш.). На жаль, многія зафіксаваныя ў названых працах водныя аб'екты Мазыршчыны страчаны. Гэта вынікі татальнай, часам агулам праведзенай і непрадуманай меліярацыі, наступстваў Чарнобыльскай трагедыі, а таксама няўважлівых, варварскіх адносін да аб'ектаў прыроды некаторых кіраўнікоў дзяржаўных устаноў, прадпрыемстваў, калгасаў і, безумоўна, раўнадушша многіх з нас да праблем экалогіі роднай зямлі. Яшчэ адна з прыкмет гэтай паўнаводнай артэрыі ўсходняй Еўропы — вялікая забалочанасць і залесенасць яе басейна. Між іншым, у Еўропе «*Прыпяцкія балоты*» выразна называюць «*лёгкімі Еўропы*», яны акумулюць шкодныя прымесі ў атмасферы ўсяго кантынента і выпрацоўваюць кісларод. Захаванне балот Палесся — гэта глабальная еўрапейская праблема, якая з кожным годам ускладняецца і вырашэнне якой залежыць не толькі ад нас.

У гістарычным плане ступень і характар выкарыстання рэк басейна *Прыпяці,* як сведчаць абагульненні вучоных розных профіляў, змяніліся. Вядома, што сама *Прыпяць*, яе прытокі шырока выкарыстоўваліся славянамі ў IV—X стагоддзях пры перамяшчэнні з поўдня на поўнач. Рачная сістэма *Прыпяці,* як самая значная частка ўсёй рачной сістэмы *Дняпра,* звязвала на той перыяд усе славянскія плямёны, што займалі гэты самы буйны рачны басейн Еўропы. Рэкі на той час былі асноўнымі камунікацыямі, што значна ўплывалі на міжэтнічныя кантакты, тагачасную эканоміку, яны шырока выкарыстоўваліся для лесасплаву, што спрыяла таксама развіццю лясных промыслаў і першаснай перапрацоўцы драўніны. Будаўніцтва ў XVII—XVIII стагоддзях *Днепра-Бугскага* і *Агінскага* каналаў паўплывала на яшчэ большае выкарыстанне *Прыпяці* як важнейшай транспартнай артэрыі з усходу на захад і ў іншых напрамках, гэта таксама прывяло да стварэння ў *Мазыр*ы і *Пінску* цэнтраў рачнога суднабудавання, а з 1850 года паміж *Пінскам* і *Крэменчугом* (на *Дняпры*) пачаў рэгулярна курсіраваць пасажырскі цеплаход «*Вісла*» з прыпынкамі ў *Мазыры, Петрыкаве, Тураве, Нароўлі*. Роля воднага транспарту на *Прыпяці* і яе прытоках не зменшылася і пасля будаўніцтва *Палескай чыгункі*, праведзенай паралельна *Прыпяці* ад *Гомеля* да *Брэста* ў 1884—1888 гадах. Развіццю мясцовага воднага і чыгуначнага транспарту садзейнічалі таксама комплексныя работы, што ажыццяўляліся *Заходняй*

*экспедыцыяй* па асушэнні балот *Палесся* ў 1873—1898 гадах пад кіраўніцтвам генерала І. Жылінскага.

Асобна патрэбна сказаць пра будаўніцтва *Канала Агінскага*, названага ў імя вядомай асобы ў гісторыі ВКЛ і Рэчы Паспалітай. *Міхал Казімір Агінскі* ў свой час — ваявода Віленскі, гетман вялікі Літоўскі, а таксама адзін з кандыдатаў на трон у Рэчы Паспалітай. Справай яго жыцця пасля амністыі 1775 года становіцца будаўніцтва канала, які павінен быў злучыць рэкі *Шчару* і *Ясельду*, а таксама *Прыпяць* з *Нёманам,* а ў выніку моры *Чорнае* з *Балтыйскім.* Гэтым *Маіхаіл Казімір Агінскі* ажыццявіў даўнюю мару, якой жыў другі вядомы ў гісторыі Беларусі магнат *Багуслаў Радзівіл*. Будаўніцтва канала абышлося *Агінскаму* ў 12 мільёнаў злотых. Канал стаў фактарам эканамічнага пад'ёму ўсяго *Палесся*, асабліва ў гэтым пашанцавала мястэчку *Целяханы,* якое было размешчана на вялізным востраве сярод непраходных балот.

У гэтым кантэксце варта таксама адзначыць, што яшчэ ў 1735 годзе была выказана ідэя будаўніцтва канала, які злучыў бы басейн *Чорнага* і *Балтыйскага* мораў, аднак толькі ў 1776 годзе ў *Гарадзеі Кобрынскай* эканоміі адбылася знамянальная падзея — адкрыццё *Каралеўскага канала (Дняпроўска-Бугскага канала*). Судна на борце з каралём Рэчы Паспалітай *Станіславам Аўгустам* ўрачыста праплыло да наступнага шлюза («Звязда», 5 снежня 2012 г.).

Адносна паходжання назвы Прыпяць існуюць самыя розныя меркаванні, выказаныя знакамітымі вучонымі, пісьменнікамі, аматарамі-краязнаўцамі. Паводле некаторых меркаванняў *Прыпяць* — гэта абрэвіятура, утвораная ад словазлучэння *прытокаў пяць → пры пяць → Прыпяць,* г.зн. *тройчы па пяць*. Сапраўды, рака мае 15 асноўных прытокаў (9 — з левага боку, 6 — з правага). В. Жучкевіч назву *Прыпяць* звязвае з тэрмінам *припечь* — пясчаны бераг ракі, што не зарастае травой, кустамі, прыкладна тое, што і сучасны *пляж*. А. Рогалеў мяркуе інакш. Ён тлумачэнне гэтай назвы звязвае з назвай *Пціч* — прыток Прыпяці, выдзяляючы ў ёй старажытныя кампаненты *пц, пьт* і прыстаўку *пры*. Такім чынам, паводле яго меркавання, *Прыпяць* — тая, што знаходзіцца побач з ракой *Пет,* пры *Пцічы*. Н. Багамольнікава — даследчыца гідраніміі басейна Прыпяці, у цэлым падтрымліваючы думку А. Рогалева, выказвае і пэўнае сумненне адносна гэтай гіпотэзы, улічваючы, відаць, той факт, што *Пціч* аж да XVI стагоддзя мела назву — *Бчичь*, а назву *Пціч* некаторыя лінгвісты суадносяць са словам *птица* ці з балтыйскім *putytis* — птушаня [1, с. 10 — 11]. Частка даследчыкаў храналагічна ўзводзіць назву да індаеўрапейскага. *pet* — хутка рухацца, аднак такое тлумачэнне, «*супярэчыць асноўным фізічным прыкметам Прыпяці, яе дынаміцы*». Успомнім хаця б класічныя Коласавы радкі пра палескую раку: «*Спакойна і павольна, як у зачараваным сне, утуліўшыся ў балоты, нясе Прыпяць сухадоламу Дняпру сваю багатую даніну. Не спяшаецца яна выносіць дабро палескіх балот*». Дарэчы тут зазначыць, што да злучэння з Прыпяццю *Дняпро*, як піша В. Вольскі ў кнізе «Палессе», не такая ўжо і вялікая рака. Узбагачаны вадамі *Прыпяці, Дняпро* робіцца ў два разы шырэйшым. Гэты пісьменнік у названай кнізе дае самае markdown розная апісанне гэтай самай вялікай палескай воднай артэрыі. «*Цяпер, у кастрычніку, глыбіня Прыпяці каля Мазыра невялікая — у асноўным два метры, як сказалі мне воднікі на прыстані, але вясною, у час паводкі, узровень вады ў рацэ паднімаецца метры на чатыры. Прыпяць залівае ўсю сваю бязмежную пойму. Тады шырыня Прыпяці дасягае дваццаці-трыццаці кіламетраў. Рака паглынае нізоўі прытокаў. А іх нямала. Піна, Ясельда, Бобрык, Цна, Смердзь, Лань, Случ, Пціч, Іпа і Брагінка — з левага боку; Стыр, Гарынь, Ствіга, Убарць, Славечна — з правага. Далёкім мінулым вее ад гэтых старадаўніх, язычаскіх назваў! Разам з прытокамі, разам з безліччу малых рэчак, ручаёў, азёр і лужын Прыпяць месяцы на два ператварае сярэднюю частку палескай нізіны ў адно вялікае прэснае мора.*

*Славутая рака спрадвеку мела і мае вялікае значэнне ў эканамічным жыцці не толькі Палесся, але і ўсёй нашай краіны. У старажытныя часы сплаўлялі па Прыпяці ў Кіеў плыты з карабельным і будаўнічым лесам, везлі на невялікіх суднах смалу і дзёгаць. У Мазыр прывозілі з Кіева соль і розныя тавары, патрэбныя для насельніцтва Палесся. Прыпяць была ў тыя часы адзіным надзейным шляхам, які звязваў Мазыр, Тураў, Пінск і іншыя палескія гарады з поўднем.*

*Мазырскія плытагоны гналі лес па Прыпяці і Дняпры ў Адэсу, Нікалаеў, Херсон і іншыя парты Чорнага мора — усяго на*

*3 млн. рублёў у год. Для адгрузкі лесу на Прыпяці было пабудавана 10 прыстаней — каля вёсак Балажэвічы, Скрыгалаў, Касцюковічы, Загорыны, Лучажэвічы, Кімбараўка, Сядзельнікі, Барбароў і інш. Ад прыстані Балажэвічы праз вёску Асавец, Крушнікі і далей на Махнавічы для вывазу леса была пабудавана і дзейнічала некалькі дзесяцігоддзяў вузкакалейная чыгунка (конка)»* [5, с. 162].

У XVI—XIX стагоддзях Мазыршчына ўяўляла тэрыторыю, якая характарызавалася надзвычай прымітыўнымі дарожнымі камунікацыямі. Паміж нешматлікімі паселішчамі існавалі вузкія пясчаныя або моцна забалочаныя з граззю і вадой «*дарогі*», па якіх у суправаджэнні цэлых раёў аваднёў, сляпнёў, камароў маглі рухацца толькі ўпрэжкі валоў, коней праз мноства брадоў, грэбляў, пясчаных выспаў. У вадзе, пяску, гразі калёсы хаваліся па самыя восі. З Лельчыц да Мазыра (75 км), напрыклад, у 1950—1960 можна было дабрацца за 7-8 гадзін. З розных крыніц вядома, што павет перасякалі дзве дзяржаўныя дарогі. Адна — *Царградская*, або *Кацярынаўскі* шлях, *Кацярынаўскі г*асцінец, абсаджаны бярозамі, пачынаўся ад *Санкт-Пецярбурга* ў напрамку да *Стамбула*. На Мазыршчыне былі яго паштовыя станцыі ў *Мазыры, Міхалках, Ельску, Кузьмічах, Скародным.* Другая дарога перасякала павет з *Усходу* на *Захад* — з *Мазыра* ў бок *Брэста* паралельна рацэ Прыпяць з паштовымі станцыямі ў *Слабадзе, Петрыкаве, Брынёве, Жыткавічах, Тураве, Давыд-Гарадку.*

Між іншым, бедныя пясчаныя і забалочаныя землі Мазыршчыны не раз агулам прадаваліся памешчыкамі, рознага роду купцамі, гандлярамі. Нават класічны сюжэт пра выдуманых М. Гогалем *Чычыкава, Сабакевіча, Наздрова, Плюшкіна, Каробачку* з сусветна вядомых «Мёртвых душ», як прасочана даследчыкамі яго творчасці, быў запазычаны з фактаў і рэалій Мазыршчыны. Як пацвярджаюць пошукі літаратуразнаўцаў, краязнаўцаў (С. Букчын, М. Капач, М. Сузько), М. Гогаль, прачытаўшы газету *«Санкт-Петербургские ведомости»,* № 66 за 1848 год, быў уражаны судовым працэсам над памешчыкамі і чыноўнікамі Мазырскага павета, якія бязмерна нажываліся за кошт продажу і спекуляцыі зямлёю, падтасоўваючы і фабрыкуючы зямельныя планы і статыстычныя звесткі пра наяўнасць існуючых і неіснуючых зямельных уладанняў. Газета была афіцыйным урадавым органам, дзе друкаваліся замежная і ўнутраная хроніка, розныя камерцыйныя звесткі. У газеце паведамлялася, што абвінавачваліся вядомыя па тых часах на Мазырскім Палессі землеўладальнікі *Артур* і *Аляксандр Фурсы, Леў Красінскі, Аляксандр Наркускі, Іван* і *Восіп Рудзіеўскія*, службовыя асобы: адстаўны калежскі рэгістратар *Мікалай Чыж*, надворны саветнік *Семянкевіч,* тытулярны саветнік *Хаецкі*, мазырскі прадвадзіцель дваранства *Лянкевіч*, павятовыя землямеры *Матушкевіч* і *Задольскі*. На думку пісьменніка С.В. Букчына, гэта была публікацыя аб судзе ў Бабруйску «Высочайшая конформированная сентенция военного суда над помещиками Минской губернии Мозырского уезда за злоупотребление и неправильные действия при составлении в 1845 году планов и статистических описаний незаселенных земель, отданных в долги по питейным откупам и другим подрядам с казною».

Як сведчылі матэрыялы суда, былі выяўлены ў вялікай колькасці прыпіскі неіснуючых зямельных надзелаў у маёнтках *Скароднае, Буйнавічы, Лельчыцы, Стадолічы, Баравое, Карма* і інш. У гэтай масавай і арыгінальнай па тым часе афёры ўдзельнічалі самыя знакамітыя ў павеце памешчыкі і чыноўнікі. Імператар *Мікалай І* зацвердзіў прысуд 26 ліпеня 1848 года. Ёсць дакументы, якія сведчаць, што была накладзена забарона на ўсе маёнткі і капіталы, якія належалі былому мазырскаму прадвадзіцелю дваранства, калежскаму рэгістратару Ігнацію Лянкевічу і інш. Рашэннем суда названыя вышэй памешчыкі былі пазбаўлены чыноў і пасаджаны ў Бабруйскую крэпасць. Пазбавіўся пасады нават Мінскі губернатар. Такім чынам, пад пяром М. Гогаля такія прадпрымальніцкія захады «дзеячаў» павятовых маштабаў былі ўвасоблены і па-мастацку апісаны ва ўчынках і дзеяннях усім цяпер вядомых персанажаў «*Мёртвых душ*».

Своеасаблівай гарадской дамінантай Мазыра ў наш час з'яўляецца аўтамабільны мост праз Прыпяць і вядомая ўсяму насельніцтву горада *Прымаставая плошча*, ад якой ва ўсе мікраараёны горада адпраўляюцца рэйсавыя аўтобусы, маршрутныя таксі, а крыху ўбаку на бетонным слупе — *буслоўка* — сімвал Мазыра і ўсяго Палесся. Пра мазырскі мост паэт У. Верамейчык пісаў: *З Калінкавіч еду ў славуты Мазыр / І прыпяцкі мост не міную / Націсні, браток, тут*

*на ўсе тармазы — / Я пешшу праз мост пашыбую / Бетонным Атлантам раскінуўся мост, / Плюскоча над фермамі Прыпяць / Над Прыпяццю крочу я ў горад наўпрост / Паветра гаючага выпіць / ...*

*Грыміць крыгалом / ці вызвольвае плынь — / Над Прыпяццю коцяцца годы… / Жыццё! / Забяры ўсё, / а гэта пакінь — / Вось так хваляваецца заўсёд («Прыпяцкі мост»).*

У наш час Мазыр мае тры масты: адзін чыгуначны праз *Прыпяць* на магістралі *Санкт-Пецярбург—Адэса* і два аўтамабільныя. Гэта абумоўлена тым, што горад знаходзіцца на стыку некалькіх транспартных магістраляў: апрача чыгункі праз Мазыр праходзяць аўтамабільныя дарогі *Мазыр—Оўруч, Мазыр—Нароўля, Мазыр—Лельчыцы—Тураў, Мазыр—Петрыкаў*. Інтэнсіўным было суднаходства па Прыпяці. Фактычна рака да будаўніцтва мастоў абмяжоўвала вялікі рэгіён поўдня Беларусі ад астатніх яе частак, што адмоўна ўплывала не толькі на эканоміку, але і на іншыя сферы — культуру, адукацыю ў гэтым рэгіёне. Неабходнасць пабудовы першага маста ў Мазыры была асабліва актуальнай у перыяд вайны 1812 года. Вядома, што Напалеон летам 1812 года намерваўся павярнуць частку сваёй *вялікай арміі* на поўдзень, каб захапіць *Украіну*. Роля Мазыра ў той перыяд была выключнай, бо горад знаходзіўся ў стратэгічна важным месцы, у ім таксама дыслацыраваўся Другі рэзервовы корпус расійскіх войск пад кіраўніцтвам генерала Ф. Эртэля, які закрываў ключавы напрамак на Украіну. Прыводзім вытрымкі з рапартаў і распараджэнняў камандуючага 2-й Заходняй арміяй генерала Пятра Іванавіча Баграціёна сваім падначаленым аб умацаванні подступаў да Мазыра, якія прыводзіць У. Лякін у сваёй кнізе «*Мозырь в 1812 г.*»: «*…предписываю Вашему превосходительству (генералу А. В. Запольскому. —* **В. Ш.***) защищать Мозырь, яко важнейший, в нынешнее время, пункт, который служит прикрытием отступления к Киеву 3-й Резервной армии»; генералу А. П. Тармасаву: «…я не имею сведений, чтобы неприятельские силы обратились к Мозырю… И поскольку Мозырь довольно силен местоположением и столь же силен соделался войсками, то Ваше Высокопревосходительство надеяться можете самых блистательных успехов»; генерал-маёру А. В. Запольскому: «Вашему превосходительству найстрожайше предписываю непременно держаться в Мозыре с теперешним вашим отрядом, который для сего совершенно достаточен, и к которому прибавлено будет 6 орудий под прикрытием 2-х батальонов»; «…хотя от меня был послан офицер водяной коммуникации для учинения моста напротив Мозыря из находящихся на реке Припяти судов, но с переменой обстоятельств, мост сей уже не нужен, и вы прикажите оного уже не строить. Для сохранения же коммуникации с берегом Припяти извольте вы иметь до самого последнего времени паром, удобный для переправы транспортов и прочего*» [10, с. 77—78]. Да 1918 года, як сведчаць самыя розныя крыніцы, праз *Прыпяць* існавала паромная пераправа, якая знаходзілася каля сучаснага рачнога вакзала, а ў 1915 годзе ў сувязі з падзеямі Першай сусветнай вайны былі пабудаваны чыгуначны мост, а побач з сучаснай *Прымаставой плошчай* — разводны драўляны, які рэгуляваўся спачатку ўручную (існаваў цэлы калектыў рабочых, якія забяспечвалі пераправу), а затым, ужо ў савецкі час, разводзіўся пры выкарыстанні двух катараў, якія перыядычна размыкалі яго, каб прапусціць рачныя судны і ў вялікай колькасці доўгія плыты, якія сплаўлялі пераважна на Украіну, што было характэрна для палескай ракі-працаўніцы амаль да трагічных падзей, звязаных з *Чарнобыльскай катастрофай*. У 1953 годзе ў сувязі з будаўніцтвам у *Мазыры* значных нават для ўсёй Беларусі прамысловых прадпрыемстваў — *кабельнага завода* і *завода меліярацыйных машын* на тэрыторыі прыгараднага *Пхова,* размешчанага на пясчаных дзюнах на левабярэжжы Прыпяці, узнікла неабходнасць паляпшэння дарожных зносін.

Так пачалося доўгае будаўніцтва ў Мазыры першага бетоннага аўтамабільнага моста, увод у эксплуатацыю якога супаў з пачаткам работы кабельнага завода (1958 год) і адкрыццём новай аўтадарогі (бетонкі) ў напрамку прыгараднай тады вёскі *Бабры* па сучаснай вуліцы *Рыжкова*. Пра доўгае будаўніцтва мазырскага моста існаваў нават анекдот, які па радыё гучаў з вуснаў вядомых у той час *Штэпселя* і *Тарапунькі*. *Штэпсель* пытае ў *Тарапунькі*: «*Скажы, якая самая шырокая рака ў Савецкім Саюзе?» Тарапунька: «Мабыць, Амур, можа, Лена, Енісей». «Не ведаеш ты геаграфіі! Самая шырокая рака Прыпяць каля Мазыра ў Беларусі, а там і самы доўгі*

*мост. Яго будуюць каля дзесяці гадоў, а канца яшчэ і не відаць»*. З уводам у эксплуатацыю гэтага моста мазыране атрымалі магчымасць лёгкага доступу на процілеглы бераг Прыпяці: на пясчаных выспах *Пхова* хутка пачалі ўзводзіцца прадпрыемствы, жылыя дамы, школа, дзіцячыя сады. *Пхоўскі порт* цяпер самы буйны ў Беларусі. Унікальным, даступным для ўсіх гараджан стаў і гарадскі пляж — пясчаны левы бераг Прыпяці і шматлікія прырэчныя старыцы і азярыны для аматараў купацца, загараць, займацца спортам, лавіць рыбу, збіраць ягады і грыбы, проста адпачываць. У 1960—1990-х да Мазыра былі далучаны прыгарадныя пасяленні — вёскі *Бабры, Баравікі*, *Навікі,* яшчэ раней *Целепуны*.

Адзін са сваіх зборнікаў У. Верамейчык назваў «*Прыпяць»,* у ім 36 паэтычных твораў, у большасці з якіх ён звяртаецца да ракі як да жывой істоты, без якой не ўяўляе сябе асобай і паэтам: «*Прыплыві, падхапі і нясі мяне, Прыпяць, / Калі зноў я прыду да тваіх берагоў, / Дай з далоняў гаючай вады тваёй выпіць, / І мне хопіць здароўя на сотні гадоў»*. [4, с. 5]. «*І прыходзіла Прыпяць да стомленых ног / І мяне на ўлонні гайдала… Сярод соцень дарог, сярод тысяч трывог / Беларуская мова гучала»* [3, с. 131]. Паэт адчувае, «*як па кропельцы малой / Упадае Прыпяць мне ў сэрца»* [3, с. 26]. Гэтую магутную раку ён, выкарыстоўваючы перыфразы, называе «*каралевай Палесся»*, а сябе — «*часткай Прыпяці*». «*Я Прыпяці выток і вусце / Яе пачатак і працяг… / Раўнуюць к Прыпяці нас жонкі, / Мы ж ёю трызнім па начах*» [4, с. 7]. У розных вершах галоўную раку Палесся паэт называе *Прыпяць*, *Прыпяць-рака, Прыпяць-краса, Прыпяць уладарная, Прыпяць мая, Прыпяць вольная, Прыпяць шырокая, Прыпяць марозная, Прыпяць залатабруйная, Прыпяць мілая, …да склону любімая Прыпяць, новая Прыпяць, незгасальная Прыпяць, няўрымслівая Прыпяць, Прыпяць як Радзіма, Прыпяць — мая калыска вечная, Прыпятуха, Прыпяцень, шчабятуха, пяюха, каралева Палесся, велічная княгіня Палесся, Палесся каралева, вечна напятая струна, спрацаваная стомленая жанчына, мая рака, вірыстая рака, звышмагутны бяссонны насос, Прыпяць — маладая жанчына* і інш. Усе гэтыя варыянты онімаў і азначэнні-эпітэты, перыфразы на фоне шырокага кантэксту і мастацкіх апісанняў ствараюць разнастайнасць канатацый, у выніку чаго онім успрымаецца семантычна ўзбагачаным, з насычэннем эмацыйных ацэнак і характарыстык. Антрапамарфічныя метафары да гідроніма *Прыпяць* тыпу *«пяюха», «шчабятуха», «Каралева Палесся», «спрацаваная стомленая жанчына*» — адны з самых старажытных разнавіднасцей персаніфікацыі. Надзяленне чалавечымі рысамі і якасцямі прадметаў жывой і нежывой прыроды мае доўгую гісторыю і сваімі вытокамі ўзыходзіць да старажытных рэлігійных уяўленняў, традыцый тагачасных людзей, іх веры ў магічную сілу слова. Гэты тып метафар, як піша В. Старычонак, шырока выкарыстоўваецца ў розных жанрах фальклору, байках, а таксама паэтычных творах [15, с. 18]. Інфармацыйная насычанасць вершаваных радкоў анамастычнымі адзінкамі знаходзіць сваё мастацкае праяўленне і ў звязнасці, якая выяўляецца на лексіка-семантычным узроўні ў частым паўтарэнні аднародных элементаў. У вершах У. Верамейчыка, напрыклад, яна характарызуецца частым ужываннем рэальных гідронімаў і айконімаў Палесся, «адны з якіх выражаюць галоўны сэнс, а другія ўзмацняюць і мадыфікуюць іх, выступаючы ў ролі своеасаблівых рэгістраў, … высокая канцэнтрацыя і паўтаральнасць падобных элементаў садзейнічае ўзрастанню іх значымасці, перамяшчае іх у фокус эстэтычнага ўспрыняцця» [14, с. 41]. Берагі *«каралевы Палесся»*, яе *«дочкі-прытокі»* — *Славечна, Сцвіга, Батыўля, Пціч, Убарць, Случ, Брагінка,* прырэчныя духмяныя лугі, спрадвечныя бары і гаі — гэта «*Парнас паэта*». У вершы «Мой Парнас» У. Верамейчык, пераўвасобіўшыся ў антычнага аўтара, піша: *«Я Пегаса на прыпяцкіх травах выпасваў... / Ты, Мазыр, — мой Парнас каля Прыпяці мілай / Тут калісьці я першае слова знайшоў*» [4, с. 13]. Індывідуальна-аўтарскай перыфразай *Мой Парнас* — (пра Мазыр), якая з'яўляецца эстэтычнай дамінантай усяго паэтычнага выказвання і дасканалым сродкам моўнай экспрэсіі, паэт перадае ўласнае адчуванне ўнутранай гармоніі і задавальнення, а таксама звяртае ўвагу на спецыфічную метафарызацыю вядомых паэтонімаў, якія комплексна ўзмацняюць выяўленчыя магчымасці выказвання. Выраз з гэтага верша: *«Ты, Мазыр, — мой Парнас»* набыў глыбокі сімвалічны сэнс, стаў крылатым. У ім перадаецца выключна трапная і ёмкая мастацкая алюзія, дзе онім *Парнас* — лексема-актуалізатар,

якой падкрэслена выяўляецца канатацыйны прасторава-асацыятыўны аспект айконіма *Мазыр*: на незвычайных для навакольнага Палесся мазырскіх гарах-даляглядах, як на антычным Парнасе, асабліва лёгка пісалася не толькі паэту-рамантыку Верамейчыку, але і ўсім творчым асобам, хто быў на Мазыршчыне, натхняўся і далучаўся да багацця яго ўнікальнага фальклору, гістарычнага мінулага, каго зачароўвалі непаўторныя экзатычныя краявіды Прыпяці з яе шматлікімі прытокамі, старыцамі, заліўнымі бязмежнымі лугамі, акаймаванымі лозамі і дрымучымі лясамі са шматлікімі вуллямі-борцямі на старадрэвінах, выспамі-астравамі, парослымі магутнымі дубамі, хвоямі з буслянкамі сярод лугоў, усіх, каго здзіўляла самабытная непасрэднасць і шчырасць палешукоў. Мабыць, невыпадкова, што на мазырскі Парнас, на разнатраўе прыпяцкіх лугоў выводзілі выпасваць сваіх Пегасаў не толькі ўраджэнцы гэтага краю, але і ўсе, хто хоць раз дакранаўся да набыткаў багацейшай і непаўторнейшай матэрыяльнай і духоўнай спадчыны палешукоў.

Спецыфічнымі помнікамі, якімі ўшаноўваецца мінулае Мазыра, яго знакамітых жыхароў, з’яўляюцца помнікі, мемарыяльныя дошкі ў розных частках горада і Мазыршчыны. Так, толькі з падзеямі Вялякай Айчыннай вайны ў Мазыры і навокал налічваецца 65 помнікаў, самым велічным з якіх з’яўляецца *Курган Славы*, дзе пахаваны 252 воіны і 2 партызаны, што ўдзельнічалі ў вызваленні Мазыра і Палесся, сярод іх сем *Герояў Савецкага Саюза*: *Захараў Канстанцін Фёдаравіч* (н.1919 г. у г. Іванава), *Калдыкараеў Джумугалы* (н. 28.03.1922 г. у Каракалпакіі), *Катаеў Міхаіл Максімавіч* (н. 05.12.1903 г. у Паўладарскай воб.), *Няжноў Валянцін Сцяпанавіч* (н. 31.05.1915 г. у Ленінградзе), *Рыжкоў Антон Андрэевіч* (н. 05.03.1920 г у Варонежскай вобл.), *Ціханаў Рыгор Мацвеевіч* (н. 10.04.1012 г. у Какчатаўскай вобл.), *Шмаргун Мікалай Іванавіч* (н.19.02.1913 г. у Луганскай вобл.). На папялішчах спаленых вёсак Мазырскага раёна, на месцах масавага знішчэння савецкіх грамадзян у гады вайны — на тэрыторыі былога гета, на беразе ракі Прыпяць, у рове каля былой вёскі Бабры ўстаноўлены памятныя знакі як напамін аб тым, што нельга забываць аб злачынствах, якія былі зроблены нацыстамі [16.с.71].

**ЛІТАРАТУРА**


1. Багамольнікава, Н.А. Гідронімы басейна ракі Прыпяць: структурна-семантычныя тыпы матывацыі / Н. А. Багамольнікава. — Гомель: ГДУ. — 2004. — с. 10—11.
2. Бобр, А. Г. Мой Мозырь: Ист. очерк, ч.1 — Мн.: Форт, 1996. — 162 с.
3. Верамейчык, У. Клянуся Прыпяццю / У. Верамейчык. — Мінск: Маст. літ., 1988. — 191 с.
4. Верамейчык, У. Прыпяць / У. Верамейчык. — Мінск: Маст літ., 1973. — 48 с.
5. Вольскі, В. Палессе / Віталь Вольскі. — Мінск: Мастацкая літаратура, 1974. — 322 с.
6. Герасімаў, В. Мазыр — цэнтр Палесся. / В. Герасімаў // Полымя. — 2005. — № 9.
7. Горбаневский, М. В. О феномене мемориальной топонимии в России XX—XXI веков (в контексте научных идей академика Д. С. Лихачева) / М. В. Горбаневский // Имя. Социум. Культура: материалы II Байкальской международной ономастической конференции 4—6 сентября 2008 г. — Улан-Удэ: Издательство Бурятского госуниверситета, 2008. — 209 с.
8. Кошман, П. Р. Ідэйна-мастацкая трактоўка вобраза Мазыршчыны ў творчасці Паўла Шпілеўскага / П. Р. Кошман // Літаратурнае Палессе ў постацях і лёсах: Зборнік матэрыялаў Міжнароднай навук. канферэнцыі. — Мазыр: УА МДПУ імя І. П. Шамякіна, 2005. — 145 с.
9. Крукоўскі, А. Я. Горад Мазыр і яго ваколіцы / А. Я. Крукоўскі // Наш край. — 1927. — № 3. — С. 17—29.
10. Лякин, Владимир. Мозырь в 1812 году: историческая хроника / Владимир Лякин. — Минск: Бел СоЭС «Чернобыль», 2005. — 210 с.
11. Мезенка, Г. М. Адантрапанімныя ўрбанонімы: праблемы матывацыі (на прыкладзе ўрбананімікона г. Барысава // Надзённыя праблемы лексікалогіі і анамастыкі славянскіх моў: матэрыялы II Міжнароднай навуковай канферэнцыі, г. Мазыр, 22—23 красавіка 2010 г. / рэдкал.: В.В. Шур. — Мазыр: УА МДПУ імя І. П. Шамякіна, 2010. — с. 341.
12. Мезенка, Ганна. Назаві, каб не ржавела / Г. Мезенка // Звязда, 16 лістапада 1991. — с. 3.
13. Поспелов, Е.М. Туристу о географических названиях / Е.М. Поспелов. — М.: Наука, 1988. — 196 с.
14. Ревуцкий, О. И. Филологический анализ художественного текста / О. И. Ревуцкий. — Минск: РИВШ, 2006. — 319 с.
15. Старычонак, В. І Птушкі, і хмары, і дрэвы, як людзі / В. Старычонак // Роднае слова. — 2007. — № 9. — С. 18—21.
16. Нікіціна Т. А. Мазыршчына ў гады Вялікай Айчыннай вайны / Т. А. Нікіціна, А. Р. Бобр, С. А. Напрэенка. — Мазыр: Калор, 2015. — 80 с.

Аляксей ПАЛАЧАНСКІ

# Прывіды летніх начэй

## Апавяданне-канстатацыя

Ненадзейныя летнія ночы — толькі сонца знікне за лясамі, за ўзбярэжным хмызняком, за рэдкім гаем на пагорку, ды лінецца густая смуга на паплавы, як абмалююцца сузор'і ў блакітным небе ды ўзмацніцца паўсюднае шчоўканне: цк-цк-цк-цк… Толькі гэта амаль і ўсё: неба канчаткова не счарнее, а будзе сінець ды сінець, пакуль на ўзыходзе не пачне світаць ужо гадзіны ў тры ці нават раней. А калі патрапіць на поўню, то ўвогуле нічога не дачакаешся — яна будзе сачыць за табой, як недаверлівая бабуля. І толькі, здаецца, шугаў заход, а вось ужо крычыць певень. І трэба быццам бы прачынацца, але ж яшчэ і не клаўся, у чарговы раз атлумлены шматабяцальнымі пахамі летняй ночы.

Выходзіш ў самоце на поплаў, хутаючыся ў нейкі дзедаў жупан. Павольна супакойваешся: шапочуць цвыркуны, булькаюць начныя птушкі, хістаецца пустазелле пад ветрам. Здаецца, што паветра тут надта канцэнтраванае, і хочацца ўдыхнуць шмат, і не дае… Паветра пахне глебай, здаецца, сцісні яго — і атрымаеш мокры камяк у руцэ.

Жоўтая поўня над старой яблыняй. Яшчэ адзін вялікі пагрызены яблык. Здаўна асуджаная на самоту, глядзіць на нас звысоку, спачувальна нахіліўшы галаву, на нашае жаласнае каханне, паэзію — канвульсіўныя спробы беспрытульных душ захаваць каштоўнасць імгнення — і тут усё сабе ды сабе... Вядзе сваю гаротную песню, плыве паміж садовых дрэў, над паплавамі, над ракой і ў цёмным лесе. І супакойвае запыханую душу, спыняе яе і бярэ на сябе частку прывіднай самоты, залівае свядомасць п'яным месячным віном.

А конікі, цвыркуны сакочуць, нібыта сыплецца нейкая каштоўная крупа ў прасторы, манна нябесная. Падстаўляй сваю душу, і, каб захаваць і назаўтра, напаўняй дарэшты.

Устань ноччу, прабяжыся да самага лесу, праз поле, потым у іншы бок, праз усю вёску, аж да ракі,



*Няхай, няхай пясок*
*у валасах,*
*няхай будзеш дрыжаць*
*ад холаду і шчасця —*
*толькі так можна,*
*толькі так трэба*
*і толькі так*
*і варта жыць.*



*«Ён жа не б'ецца,*
*не ўпадае ў запой,*
*прыносіць грошы».*
*Толькі твары чамусьці*
*хранічна каменна-*
*стомлена-сумныя,*
*а ва ўсмешках*
*так мала жыцця…*


*Малюнак Алесі ГАЛОТА.*

не спыняючыся, з размаху сігай у ваду, лаві паветра мокрым целам на беразе і апранайся, не выціраючыся. Вяртайся павольна, толькі не запальвай, бо не пачуеш як пахнуць зоркі, як у сузор'і, якія бачыў у дзяцінстве, складаецца наваколле, як пасвяцца пад месяцам колішнія страхі — зараз лепшыя сябры, і як захлынаецца сэрца ад паху аеру.

Падай у траву, запускай пальцы ў яе, не саромейся, цалуй зямлю, цалуй і набівай кішэні, рот, вочы мокрай глебай. Няхай, няхай пясок у валасах, няхай будзеш дрыжаць ад холаду і шчасця — толькі так можна, толькі так трэба і толькі так і варта жыць. Шчасце, такое шчасце, як пячорны, жывёльны жах, якое немагчыма трываць. Адчуваеш як цябе разрывае знутры, як рассыпаешся зоркамі на ўвесь свет і ўжо не прадчуванне шчасця, само шчасце, вось яно, цяпер... Так што можна ўжо і паміраць.

Скачы сваю малітву, крычы — пад месяцам — да крыві, не ўсё табе гібець у кабінетах, кватэрах ці, у лепшым выпадку, у парку пад мостам. Разрэж уздоўж калючы рыпучы агурок і пасып соллю, але можна і без солі, слязьмі запраў сваю вячэру!

У суседняй вёсцы агні — там таксама людзі, і можна пачуць сабачы брэх альбо адчуць ледзь не на сваёй скуры, як раніцой будзе падаць трава пад шырокай касой, а калі стане горача, чалавек спыніцца, увойдзе ў халодныя сенцы і зачэрпне бляшанай кружкай хлебны квас.

Спаць кладзіся тут жа, на дварэ, — вялікі грэх спаць пад коўдрай! Або не кладзіся ўвогуле — прапусціш світанне і ранішняе неба. Ночы кароткія, і не паспееш адкрыць кнігу — як ужо можна гасіць святло. Ужо можна і самому намянціць касу ды пайсці па расе, крэкчучы з кожным крокам і маўкліва пасміхаючыся. Калі стомішся праз паўгадзіны і азірнешся на пракос, то раптам зусім нечакана зразумееш, што ўсё ўжо мінула, самае страшнае засталося ззаду, і адчуеш сябе такім вольным, якім не быў ужо доўгія-доўгія гады.

Але часам, калі выйсці да крыжа і пайсці далей па начной дарозе ў глухой цішы, можна ўбачыць сябе быццам ззаду і зразумець, што ты ўсё роўна не тут. Прасякнуты пахамі і ўспамінамі да слёз, ты бачыш, як нічога не змянілася, і камяк падступае да горла. Цяпер ты толькі назіральнік; пайшоўшы ў іншы бок ад святой праўды свайго дзяцінства, ты страціў права на шчасце тут.

«Што мы згубілі? Што мы ўсе згубілі?» Ты стаіш дубам пасярод дарогі і нічога не адчуваеш. Ты бярэш камень у руку, датыкаешся ім да скроні, каб даказаць сабе сваю прысутнасць, абапіраешся на плот, глядзіш у неба. Урэшце запальваеш, з уздыхам выпускаеш струмень у месяц і сплёўваеш на дарогу.

Ты ведаеш, што ніколі не вернешся і адно можаш госцем пасядзець на лаўцы пад зоркамі, усхліпваючы душой па незваротным, а потым пайсці спаць у свой чысты, нагрэты ўжо кімсьці ложак. Ты ведаеш, што правядзеш сваё жыццё зусім з іншымі людзьмі, зусім у іншым месцы, і што чым менш будзеш вяртацца сюды, чым менш прывідаў будуць цябе пераследваць, тым лягчэй табе будзе дыхаць. І ты ведаеш, што адзіны, каго можна ва ўсім вінаваціць — гэта ты, толькі ты, які сам зрабіў свой выбар і выдатна ведаў, як за яго прыйдзецца заплаціць. 

*Іераманах АГАПІЙ (ГОЛУБ)*

# Калі няма рэсурсаў на любоў

*Часта сваруся з мужам.*

*Не магу даць рады крыўдзе на бацькоў.*

*Не магу выйсці замуж.*

*Не магу перарваць сувязь з жанатым мужчынам.*

*Муж п'е, дзеці хварэюць, жыць няма дзе.*

*Не ўмею любіць, жыццё поўніцца смуткам.*

*Наш род сурочылі.*

*На мяне ў калектыве навешваюць усе праблемы.*

*Не хапае часу на малітоўнае правіла, моцна стамляюся і з-за гэтай прычыны выліваю раздражненне на сям'ю.*

**Вышэйпералічанае — даволі распаўсюджаныя фразы на споведзях. Часам гэта простая канстатацыя недасканаласці нашага жыцця. Але калі ў наяўнасці хаця б два-тры пункты, мяне гэта насцярожвае. Калі ж перада мною невыразны стомлены твар з сумам у вачах — у дыягназе я перакананы на 90 працэнтаў. Таму, калі «тырада» завяршаецца, пытаюся: «Якія праблемы мела сям'я вашых бацькоў?»**

**У большасці выпадкаў трапляю ў «дзясятачку»: перада мною — прадстаўніца Дарослых Дзяцей Дысфункцыянальных Сем'яў (ДДДС).**

Хрысціянскі псіхолаг Чэпмен піша, што «ў кожным дзіцяці хаваецца "эмацыянальны сасуд", які чакае таго, каб яго напоўнілі любоўю. Калі дзіця адчувае, што яго сапраўды любяць, то развіццё будзе ісці нармальна, калі ж сасуд любові пусты, у дзіцяці ўзнікаюць парушэнні ў паводзінах. Дрэнныя ўчынкі — гэта толькі пошук любові, якой яны не адчулі. Яны шукаюць любоў паўсюль, дзе і не трэба, і так, як не трэба».

Я ж сказаў бы так. Дзіцяці важна атрымаць безумоўную любоў абодвух бацькоў, а затым, калі сасуд любові напоўнены, — вучыцца яе аддаваць. Пры наяўнасці сямейных дысфункцый гэты сасуд не проста пусты, а дэфармаваны, з трэшчынамі. Чалавек расце з голадам на любоў, без умення яе атрымліваць, накопліваць, а тым больш — перадаваць далей. Яму нават невядома, што гэта такое — сапраўдная любоў. У такой сям'і дзеці робяцца дарослымі фізіялагічна, паводле пашпарта, атрыманай адукацыі, але эмацыянальна застаюцца не саспелымі.

Прыкметы дысфункцыянальнай сям'і наступныя: алкагольная і іншыя залежнасці, здрада, развод, адкрытыя хранічныя канфлікты або ўнутраная аддаленасць бацькоў адно ад аднаго, схаваная за «фасадам прыстойнасці», эмацыянальная халоднасць да дзяцей, гіперапека, завышаныя патрабаванні да дзяцей і імкненне праз іх рэалізаваць бацькоўскія чаканні і амбіцыі, непрыняцце дзіцяці ў яго памылках, наяўнасць «цэнтра ўвагі» (напрыклад, аднаго з аўтарытарных бацькоў, вакол якога варочаецца ўсё), нежаданае дзіця.

Як відаць з гэтага спісу, дэталі розныя. Але сутнасць — адна. У што гэта ўсё можа «выліцца» ў дарослым жыцці?

Контрзалежнасць. Стаміўшыся ад аўтарытарнасці ў сям'і, ДДДС могуць прыкласці ўсе намаганні, каб стаць незалежнымі. А ненатоленая прага любові пераараджаецца ў імкненне заняць месца «цэнтра ўвагі» пры дапамозе поспехаў у сацыяльным жыцці. Яны могуць стаць вядомымі асобамі — банкірамі, менеджарамі, бізнес-лэдзі. Пра іх будуць пісаць СМІ, імі будуць захапляцца, зайздросціць, яны будуць уваходзіць у элітныя колы грамадства. Але глыбока ўнутры іх будзе працягваць жыць маленькае безабароннае дзіця. Ім вельмі цяжка будаваць блізкія стасункі. За «маскай» бізнес-лэдзі апынецца



спалоханае дзяўчо, якое вельмі баіцца, што нехта ўбачыць гэты страх, што нехта можа зноў прынесці гэтаму ўнутранаму дзіцяці боль. Таму контрзалежныя пры сваёй знешняй паспяховасці — адзінокія людзі. Але пра гэта ніхто не павінен ведаць. Ім таксама цяжка адкрыцца Богу — гэта ў іх разуменні азначае прызнаць сваю залежнасць ад Яго. Тое, што менавіта ў Ім адкрываецца сапраўдная свабода, іх свядомасці недаступна.

Залежнасць ад псіхаактыўных рэчываў. Прычым, яшчэ ў гадоў чатырнаццаць ДДДС могуць ненавідзець алкаголь. Але вось аднойчы ў кампаніі паспрабавалі піва — і страхі, крыўды, боль, злосць раптам зніклі. Яны змаглі эмацыйна адкрыцца. Яны адчулі, што тут, у кампаніі, ім добра, што тут усе блізкія адно аднаму. Што ўвогуле алкаголь (наркотык) — гэта класна. Гэта добры анестэтык, гэта вясёлка сярод шэрага змроку жыцця. Цяпер наркатычныя рэчывы будуць займаць у іх свядомасці больш важнае месца.

Іграваяя і інтэрнэт-залежнасць. Так можна збегчы ад сваёй непаўнавартаснасці, няўменне прыняць сябе самога, які ёсць, узяць на сябе адказнасць за асабістае развіццё.

Схільнасць да залежнасці ад кахання. Дарослым Дзецям важна «быць патрэбнымі» некаму, таму іх так лёгка выкарыстоўваць. Скажам, пры сужыцельстве: мужчына будзе атрымліваць усе даброты сям'і, не несучы пры гэтым ніякай адказнасці. Яны могуць усведамляць ненармальнасць такіх стасункаў, але вырвацца з лавушкі сваімі сіламі не могуць. А калі і атрымаецца — «уляпваюцца» зноў. Але ж іх абраннікі самі рвуць такія стасункі, тады «каханне і ахвярнасць» ператвараюцца ў паталагічную рэўнасць, адчай ажно да спробы суіцыду. Залежнасць ад кахання можа ўзнікаць у дачыненні да аўтарытарных асоб. У такім выпадку сексуальны падтэкст можа ўяўна і не назірацца. На першым месцы стаіць эмацыянальная прывязанасць. Гэта адчуваюць на сабе некаторыя святары, на якіх жанчыны, не атрымаўшы кахання, праецыруюць вобраз ідэальнага мужчыны, бацькі. Яны нават могуць спаборнічаць між сабой за авалодванне яго ўвагай. Дарослыя Дзеці лёгка блытаюць каханне з жаласцю — і выходзяць замуж за схільных да алкагалізму. Ледзь толькі атрымалі ад некага болей увагі — і гатовыя прыняць яе за каханне. І выйсці замуж, каб толькі не пакутаваць ад адсутнасці кахання.

Псіхалагічны і фізічны гвалт з боку прадстаўніка бацькоў супрацьлеглага полу можа прывесці да складанасцей (страх, недавер) у пабудове стасункаў з гэтым полам — і тады ДДДС пакутуюць ад няздольнасці стварыць сям'ю, бо эмацыянальная адкрытасць прадстаўніка супрацьлеглага полу выклікае эфект адштурхоўвання. Або, наадварот, прыцягальныя тыя прадстаўнікі супрацьлеглага полу, якія нагадваюць гвалтаўніка з сям'і. Або ўзнікае прыцягненне, у тым ліку і сексуальнае, да прадстаўнікоў свайго полу (з імі — больш бяспечна).

Паўтор ва ўласнай сям'і мадэлей дысфункцыянальных стасункаў бацькоў (гэтак званых *патэрных паводзін*). У жыцці з «другой паловай» (як правіла, таксама з ДС) будзе задавольвацца ўнутраная неўсвядомленая патрэба жыць не сваім жыццём (бо ўнутры — пустэча), быць «ахвярай», «ратавальнікам», «органам апекі» — і будзе каго вінаваціць у сваіх няшчасцях. Праўда ж у тым, што такія людзі не ўмеюць быць шчаслівымі. У гэтым прычына таго, што і ў сям'і, і ў соцыуме яны ўступаюць у дэструктыўныя стасункі — з сябрамі, суседзямі, калегамі, падначаленымі, працадаўцамі.

Пры гэтым ДДДС умела трымаюць «фасад прыстойнасці». Яны з дзяцінства засвоілі запавет: «смецце з хаты не выносіць». І ні калегі, ні блізкія людзі часта не ўяўляюць, у якой атмасферы жыве чалавек. З-за гэтага табу на раскрыццё сямейных сакрэтаў

развод або зварот па дапамогу да спецыялістаў адбываецца далёка не адразу пасля ўсведамлення праблем у сваёй сям'і.

Найбольш трывалыя дысфункцыянальныя стасункі ў сем'ях, створаных ДДДС, фарміруюцца там, дзе няма ярка выяўленага гвалту або алкагалізму. Ёсць — кпіны, высмейванне недахопаў, няўвага да эмацыянальных і матэрыяльных патрэб бліжняга. «Ён жа не б'ецца, не ўпадае ў запой, прыносіць грошы». Толькі твары чамусьці хранічна каменна-стомлена-сумныя, а ва ўсмешках так мала жыцця…

Дарослыя Дзеці могуць расці ў ізаляцыі, практычна не бываючы ў «здаровых» сем'ях. У выніку ім і ў галаву не прыйдзе, што можна паводзіць сябе інакш. Таму, калі мама ўсё жыццё была «хатняй гаспадыняй і служкай», то Дарослае Дзіця будзе актыўна «ламаць» пад гэты стэрэатып сваю жонку — «Ты павінна падпарадкоўвацца!». А калі тая сыдзе — будзе шукаць «нармальную», падобную да мамы. Хутчэй за ўсё, знойдзе.

**Рысы, якія ў рознай ступені і ў розных спалучэннях характэрныя для ДДДС:**

✦ «Замарожаныя» пачуцці: няўменне іх чуць і выказваць. Безумоўна, такому чалавеку цяжка разумець пачуцці іншых.

✦ Няўменне разбірацца ў сабе, матывах сваіх дзеянняў і сапраўдных прычынах пачуццяў.

✦ Страх перад адказнасцю за сябе, неабходнасцю выбару. Пры гэтым ДДДС часта схільныя браць на сябе адказнасць за іншых і іх выбар.

✦ Перфекцыянізм, павышаная патрабавальнасць да сябе і іншых.

✦ Недавер і падазронасць, няўменне ўзаемадзейнічаць і працаваць у камандзе.

✦ Эмацыянальная закрытасць, якая вынікае з папярэдніх пунктаў.

✦ «Тунэльнае» мысленне — бачанне людзей у чорна-белых колерах.

✦ Адумванне за іншых («я ведаю, што яму трэба, пра што ён думае, што адчувае»).

✦ Залежнасць ад меркаванняў іншых людзей. Як адваротная рэакцыя — імкненне падкрэсліць поўную незалежнасць ад крытыкі, нават здаровай, узнясенне сябе «вышэй грамадскага меркавання».

✦ Жыццё страхамі, трывогамі за будучыню, няўменне давяраць Богу.

✦ Перакананне, што каханне і любоў трэба заслужыць (у тым ліку і ад Бога, бо Ён для ДДДС перш за ўсё патрабавальны Суддзя, Пракурор).

✦ Заўсёдны страх «не апраўдаць давер бацькоў» («бацькамі» могуць быць і кіраўніцтва, і Бог).

✦ Гатоўнасць «дапамагаць» на шкоду ўласнаму здароўю і патрэбам, няздольнасць сказаць «не» ў адказ на павышаныя патрабаванні.

✦ Гіпертрафіраванае пачуццё віны за дробныя памылкі і недахопы.

✦ Няўменне гаварыць пра свае патрэбы, прымаць клопат аб сабе ад іншых.

✦ Страх апынуцца для некага абузай, некаму перашкодзіць, некага патурбаваць сваімі просьбамі, прынесці некаму нязручнасць сваімі элементарнымі патрэбамі.

✦ Імкненне быць «непрыкметным», страх апынуцца ў цэнтры нечай увагі, дрэнна развітая камунікабельнасць.

✦ Залежнасць самаацэнкі ад «патрэбнасці» і «карыснасці» для іншых.

✦ Пачуццё «нявартасці», якое ідзе ад няўмення прыняць сябе (у тым ліку свае таленты, здольнасці, бо ДДДС з дзяцінства чуў толькі крытыку і абвінавачванні).

✦ Схільнасць да назапашвання крыўд.

✦ Схільнасць да пошуку «на кім сарвацца».

✦ Імкненне дамініраваць, падпарадкоўваць сабе падзеі і атачэнне.

✦ Падманная «ахвярнасць», якая разбурае і «ахвяру», і тых, хто апынецца ў межах яе ўплыву.

✦ «Замарожанасць» роляў і межаў у сям'і.

✦ Жыццё са схаванымі ў сабе, а часам і падаўленымі да поўнага адмаўлення наяўнасці («я ж хрысціянін») крыўд на аднаго з бацькоў.

*Працяг тэмы ў наступным нумары.*




АДРАС РЭДАКЦЫІ
Юрыдычны адрас: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а. info@zvyazda.minsk.by

Паштовы адрас: 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39.
Тэл.: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72. maladost@zviazda.by

*ПАДПІСНЫЯ ІНДЭКСЫ:*

*00592 — індывідуальны льготны для настаўнікаў*

*74957 — індывідуальны*

*749572 — ведамасны*

*00731 — ведамасны льготны
для ўстаноў Міністэрства культуры
і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь*

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 16 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка: *С. І. СТАРАВЕРАВА*

Стыльрэдактар *К. С. ГОЛУБ*

Падпісана ў друк 12.10.2015. Фармат 84×108 $^1/_{16}$. Папера газетная. Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 16,80.
Ул.-выд. арк. 16,13. Тыраж 1748 экз. Заказ
Кошт нумара ў розніцу 21 000 руб.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск

*Рэдакцыя не ўступае ў перапіску з чытачамі, не рэцэнзуе і не вяртае дасланыя рукапісы.
Пры передруку спасылка на «Маладосць» абавязковая.*